# ПОЛЫМЯ
# РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ

4

1938

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА*
*ЧАЦВЕРТАЯ*









МЕНСК—1938

## ПАСТАНОВА VIII СЕСІІ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА БССР XI СКЛІКАННЯ

### *АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ „ПАЛАЖЭННЯ АБ ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БССР“*

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР *пастанаўляе:*

Зацвердзіць „Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі“.

**Вык. аб. старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР Н. НАТАЛЕВІЧ.**

**Вык. аб. сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР А. ЕРМАК.**

27 лютага 1938 г.
г. Менск.

# ПАЛАЖЭННЕ АБ ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БССР

## РАЗДЗЕЛ I

## ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

АРТЫКУЛ 1. На падставе артыкула 109 Канстытуцыі Беларускай ССР выбары дэпутатаў у Вярхоўны Совет Беларускай ССР праводзяцца выбаршчыкамі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

АРТЫКУЛ 2. На падставе артыкула 110 Канстытуцыі Беларускай ССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца ўсеагульнымі: усе грамадзяне Беларускай ССР, дасягнуўшыя 18 год, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, адукацыйнага цэнза, аседласці, сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі ў Вярхоўны Совет Беларускай ССР, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых праваў.

АРТЫКУЛ 3. На падставе артыкула 111 Канстытуцыі Беларускай ССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі: кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне прымаюць удзел у выбарах на роўных падставах.

АРТЫКУЛ 4. На падставе артыкула 112 Канстытуцыі Беларускай ССР жанчыны карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з мужчынамі.

АРТЫКУЛ 5. На падставе артыкула 113 Канстытуцыі Беларускай ССР грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай Арміі, карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з усімі грамадзянамі.

АРТЫКУЛ 6. На падставе артыкула 116 Канстытуцыі Беларускай ССР кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

## РАЗДЗЕЛ II

## СПІСЫ ВЫБАРШЧЫКАЎ

АРТЫКУЛ 7. Спісы выбаршчыкаў складаюцца ў гарадах гарадскім Советам дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённым Советам; у сельскіх мясцовасцях—сельскім (сяла, вёскі, мястэчка, пасёлка) Советам дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 8. У спісы выбаршчыкаў уключаюцца ўсе грамадзяне, якія маюць выбарчае права і пражываюць (пастаянна ці часова) к моманту складання спісаў на тэрыторыі даннага Совета, дасягнуўшыя к дню выбараў 18 год.

АРТЫКУЛ 9. Не ўносяцца ў спісы выбаршчыкаў асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў па судовых прыгаворах на працягу ўсяго ўстаноўленага ў прыгаворы тэрміну пазбаўлення выбарчых правоў, а таксама асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку страціўшымі розум.

АРТЫКУЛ 10. Спісы выбаршчыкаў складаюцца па кожнаму выбарчаму ўчастку ў алфавітным парадку з указаннем прозвішча, імя, імя па бацьку, узросту і места жыхарства выбаршчыка і падпісваюцца старшынёю і сакратаром Совета дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 11. Ніхто з выбаршчыкаў не можа быць унесен больш, чым у адзін выбарчы спіс.

АРТЫКУЛ 12. Спісы выбаршчыкаў, якія знаходзяцца ў воінскіх часцях і вайсковых злучэннях, складаюцца камандаваннем за подпісамі камандзіра і ваеннага камісара. Усе іншыя ваеннаслужачыя ўносяцца ў спісы выбаршчыкаў па месцу жыхарства адпаведнымі Советамі дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 13. Спісы выбаршчыкаў выбарчых участкаў, ствараемых пры бальніцах, радзільных дамах, санаторыях і іншых лячэбных установах, складаюцца як на хворых грамадзян, так і на медыцынскі персанал, які знаходзіцца на дзяжурстве ў дзень выбараў.

У выбарах не могуць прымаць удзелу хворыя, якія знаходзяцца ў скарлатынозных і дыфтэрыйных аддзяленнях.

АРТЫКУЛ 14. За 30 дзён да выбараў Совет дэпутатаў працоўных вывешвае спісы выбаршчыкаў для ўсеагульнага агляду або забяспечвае выбаршчыкам магчымасць азнаямляцца з гэтымі спісамі ў памяшканні Совета.

АРТЫКУЛ 15. Арыгінал спісаў выбаршчыкаў захоўваецца адпаведна ў Совеце дэпутатаў працоўных і ў воінскай часці ці ў вайсковым злучэнні.

АРТЫКУЛ 16. Пры перамене выбаршчыкам месца свайго прабывання ў тэрмін паміж апублікаваннем спісу выбаршчыкаў і днём выбараў адпаведны Совет дэпутатаў працоўных выдае яму па форме, устаноўленай Цэнтральнай выбарчай камісіяй, „пасведчанне на права галасавання“ і адзначае ў спісе выбаршчыкаў—„выбыў“; у пункце новага месцажыхарства—пастаяннага ці часовага—выбаршчык уносіцца ў спіс выбаршчыкаў пры прад'яўленні пасведчання асобы, а таксама „пасведчання на права галасавання“.

АРТЫКУЛ 17. Заява аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў (неўключэнне ў спіс, выключэнне са спісу, скажэнне прозвішча

імя, імя па бацьку, няправільнае ўключэнне ў спіс асоб, пазбаўленых выбарчых правоў) падаецца ў Совет дэпутатаў працоўных, які апублікаваў спіс.

АРТЫКУЛ 18. Выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных абавязан разгледзець кожную заяву аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў у трохдзённы тэрмін.

АРТЫКУЛ 19. Пасля разгляду заявы аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў, выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных абавязан або унесці неабходныя выпраўленні ў спіс выбаршчыкаў, або выдаць заявіцелю пісьмовую даведку аб матывах адхілення яго заявы; пры нязгодзе з рашэннем Совета дэпутатаў працоўных заявіцель можа падаць скаргу ў народны суд.

АРТЫКУЛ 20. Народны суд на працягу трох дзён абавязан у адкрытым судовым паседжанні з выклікам заявіцеля і прадстаўніка Совета разгледзець скаргу на няправільнасць у спісе і сваё рашэнне неадкладна паведаміць як заявіцелю, так і Совету. Рашэнне народнага суда канчатковае.

## РАЗДЗЕЛ III

## ВЫБАРЧЫЯ ЎЧАСТКІ ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БССР

АРТЫКУЛ 21. На падставе артыкула 21 Канстытуцыі БССР Вярхоўны Совет БССР выбіраецца грамадзянамі БССР па выбарчых акругах.

АРТЫКУЛ 22. Выбарчая акруга па выбарах у Вярхоўны Совет БССР складаецца па прынцыпу: 20.000 насельніцтва—на акругу. Кожная выбарчая акруга па выбарах у Вярхоўны Совет БССР пасылае аднаго дэпутата.

АРТЫКУЛ 23. Утварэнне выбарчых акруг па выбарах у Вярхоўны Совет БССР праводзіцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР.

АРТЫКУЛ 24. Спіс выбарчых акруг па выбарах у Вяхоўны Совет БССР апублікоўваецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР адначасова з назначэннем дня выбараў.

## РАЗДЗЕЛ IV

## ВЫБАРЧЫЯ ЎЧАСТКІ

АРТЫКУЛ 25. Для прыёму выбарчых бюлетэняў і падліку галасоў тэрыторыя гарадоў і раёнаў, што ўваходзяць у выбарчыя акругі па выбарах у Вярхоўны Совет БССР, падзяляецца на выбарчыя ўчасткі.

АРТЫКУЛ 26. Утварэнне выбарчых участкаў праводзіцца ў гарадах гарадскімі Советамі дэпутатаў працоўных, у гарадах з раённым падзелам—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 27. Утварэнне выбарчых участкаў праводзіцца не пазней, чым за 45 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 28. Тэрыторыя сельсовета, які налічвае не больш 2.000 насельніцтва, складае, як правіла, адзін выбарчы ўчастак; у кожным сяле, вёсцы, пасёлку, мястэчку, якое налічвае ад 500, але не больш 2.000 насельніцтва, арганізуецца асобны выбарчы ўчастак.

У паселішчах або групе паселішчаў з насельніцтвам менш 500 чалавек, але не ніжэй 300 чалавек, у тых выпадках, калі адлегласць такіх паселішчаў да цэнтра выбарчага ўчастка перавышае 10 кілометраў, могуць быць утвораны асобныя выбарчыя ўчасткі.

АРТЫКУЛ 29. У паасобных раёнах Палескай вобласці, дзе пераважаюць дробныя паселішчы, дапускаецца з дазволу Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР арганізацыя выбарчых участкаў з колькасцю не менш 100 чалавек насельніцтва.

АРТЫКУЛ 30. Гарады, рабочыя пасёлкі, а таксама сёлы і тэрыторыя сельсовета, якія налічваюць больш 2.000 насельніцтва, падзяляюцца на выбарчыя ўчасткі з разліку адзін выбарчы ўчастак на 1.500—2.500 чалавек насельніцтва.

АРТЫКУЛ 31. Воінскія часці і вайсковыя злучэнні складаюць асобныя выбарчыя ўчасткі з колькасцю не менш 50 і не больш 1.500 выбаршчыкаў, якія ўваходзяць у выбарчую акругу па месцу знаходжання часці або вайсковага злучэння.

АРТЫКУЛ 32. Пры больніцах, радзільных дамах, санаторыях, дамах інвалідаў з колькасцю выбаршчыкаў не менш 50 утвараюцца асобныя выбарчыя ўчасткі.

У больніцах з некалькімі карпусамі дапускаецца ўтварэнне выбарчых участкаў пры асобных карпусах пры наяўнасці ў кожным з іх не менш 50 выбаршчыкаў.

У больніцах і іншых лячэбных установах, дзе асобныя выбарчыя ўчасткі не арганізуюцца, дапускаецца прыём выбарчых бюлетэняў у саміх больніцах і лячэбных установах вылучанымі членамі выбарчых камісій. У гэтых выпадках больніцы снабжаюцца асобнымі выбарчымі скрынкамі.

АРТЫКУЛ 33. Судны, з колькасцю выбаршчыкаў не менш 25, якія знаходзяцца ў плаванні ў дзень выбараў, могуць скласці асобныя выбарчыя ўчасткі, уваходзячыя ў выбарчыя акругі па месцу прыпіскі судна.

## РАЗДЗЕЛ V

## ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ.

АРТЫКУЛ 34. Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах у Вярхоўны Совет БССР складаецца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаецца Прэзіды-

умам Вярхоўнага Совета БССР адначасова з апублікаваннем дня выбараў.

АРТЫКУЛ 35. Цэнтральная выбарчая камісія ўтвараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 10 членаў.

АРТЫКУЛ 36. Цэнтральная выбарчая камісія:

а) наглядае на ўсёй тэрыторыі БССР за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР";

б) разглядае скаргі на няправільныя дзеянні выбарчых камісій і выносіць па скаргах канчатковыя рашэнні;

в) устанаўляе ўзоры пячатак, выбарчых скрынак, форму „пасведчання на права галасавання", форму і колер выбарчых бюлетэняў і канвертаў для іх, форму спісу выбаршчыкаў, форму пратаколаў па падліку галасоў, форму пасведчання аб выбранні;

г) рэгіструе выбраных дэпутатаў у Вярхоўны Совет БССР;

д) здае мандатнай камісіі Вярхоўнага Совета БССР справаводства па выбарах.

АРТЫКУЛ 37. У кожнай выбарчай акрузе па выбарах у Вярхоўны Совет БССР утвараецца Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія.

АРТЫКУЛ 38. Акруговыя па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчыя камісіі складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца абласнымі Советамі дэпутатаў працоўных не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 39. Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія ўтвараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 6 членаў.

АРТЫКУЛ 40. Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія:

а) наглядае за своечасовай арганізацыяй выбарчых участкаў адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі Советаў дэпутатаў працоўных;

б) устанаўляе парадкавыя нумары выбарчых участкаў;

в) наглядае за своечасовым складаннем і давядзеннем да ўсеагульнага ведама спісаў выбаршчыкаў;

г) рэгіструе выстаўленых з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР" кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР;

д) снабжае Участковыя выбарчыя камісіі выбарчымі бюлетэнямі і канвертамі па ўстаноўленай форме;

е) робіць падлік галасоў і ўстанаўляе рэзультаты выбараў па акрузе;

ж) прадстаўляе ў Цэнтральную выбарчую камісію справаводства па выбарах;

з) выдае выбранаму дэпутату пасведчанне аб выбранні.

АРТЫКУЛ 41. Участковыя выбарчыя камісіі складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца ў гарадах гарадскімі Советамі дэпутатаў пра-

цоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных—не пазней, чым за 40 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 42. Участковая выбарчая камісія ўтвараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 2—6 членаў.

АРТЫКУЛ 43. Участковая выбарчая камісія:

а) робіць па выбарчаму ўчастку прыём выбарчых бюлетэняў;

б) робіць падлік галасоў па кожнаму кандыдату ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР;

в) перадае справаводства па выбарах у Акруговую выбарчую камісію.

АРТЫКУЛ 44. Пасяджэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі, Акруговых і Участковых выбарчых камісій лічацца сапраўднымі, калі на іх прымае ўдзел больш палавіны агульнага складу камісій.

АРТЫКУЛ 45. Усе пытанні ў выбарчых камісіях вырашаюцца простай большасцю галасоў; пры роўнасці галасоў—голас старшыні дае перавагу.

АРТЫКУЛ 46. Расходы, звязаныя з правядзеннем выбараў у Вярхоўны Совет БССР, робяцца за кошт дзяржавы.

АРТЫКУЛ 47. Цэнтральная выбарчая камісія, Акруговыя і Участковыя выбарчыя камісіі маюць сваю пячатку па ўзору, устаноўленаму Цэнтральнай выбарчай камісіяй.

## РАЗДЗЕЛ VI

## ПАРАДАК ВЫСТАЎЛЕННЯ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР

АРТЫКУЛ 48. Права выстаўлення кандыдатаў у Вярхоўны Совет БССР забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных—на падставе артыкула 116 Канстытуцыі БССР: за комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, каапératывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі і іншымі арганізацыямі, зарэгістраванымі ва ўстаноўленым законам парадку.

АРТЫКУЛ 49. Права выстаўлення кандыдатаў ажыццяўляюць як рэспубліканскія органы грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, так і іх абласныя і раённыя органы, таксама як агульныя сходы рабочых і служачых па прадпрыемствах, чырвонаармейцаў—па воінскіх часцях, а таксама агульныя сходы сялян—па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах.

АРТЫКУЛ 50. Кандыдаты ў дэпутаты не могуць быць членамі Акруговых па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчых камісій, а таксама Участковых выбарчых камісій той акругі, дзе яны выстаўлены кандыдатамі ў дэпутаты.

АРТЫКУЛ 51. Не пазней, чым за 30 дзён да выбараў, усе грамадскія арганізацыі або таварыствы працоўных, якія высоўваюць кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, абавязаны зарэгістраваць кандыдатаў у дэпутаты ў адпаведнай Акруговай па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчай камісіі.

АРТЫКУЛ 52. Акруговыя па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчыя камісіі абавязаны зарэгістраваць усіх кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, выстаўленых грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных, з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР".

АРТЫКУЛ 53. Грамадская арганізацыя ці таварыства працоўных, якія высоўваюць кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, абавязаны прадставіць у Акруговую выбарчую камісію наступныя дакументы:

а) пратакол схода ці пасяджэння, высунуўшага кандыдата ў дэпутаты, падпісаны членамі Прэзідыума, з указаннем іх узросту, месцажыхарства, назвы арганізацыі, высунуўшай кандыдата, указання аб месцы, часе і колькасці ўдзельнікаў схода ці пасяджэння, высунуўшага кандыдата ў дэпутаты, прычым у протаколе павінны быць указаны прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдата ў дэпутаты, яго ўзрост, месцажыхарства, партыйнасць, заняткі;

б) заяву кандыдата ў дэпутаты аб яго згодзе балатыравацца па данай выбарчай акрузе ад выставіўшай яго арганізацыі.

АРТЫКУЛ 54. Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР можа галасавацца толькі ў адной акрузе.

АРТЫКУЛ 55. Адмаўленне Акруговай па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчай камісіі ў рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты можа быць абскарджана ў двухдзённы тэрмін у Цэнтральную выбарчую камісію, рашэнне якой з'яўляецца канчатковым.

АРТЫКУЛ 56. Прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост, заняткі, партыйнасць кожнага зарэгістраванага кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР і назва грамадскай арганізацыі, высунуўшай кандыдата, апублікоўваюцца Акруговай выбарчай камісіяй не пазней, чым за 25 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 57. Усе зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР падлягаюць абавязковаму ўключэнню ў выбарчы бюлетэнь.

АРТЫКУЛ 58. Акруговыя па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчыя камісіі абавязаны не пазней, чым за 15 дзён да выбараў у Вярхоўны Совет БССР, надрукаваць і разаслаць усім Участковым выбарчым камісіям выбарчыя бюлетэні.

АРТЫКУЛ 59. Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на мовах насельніцтва адпаведнай выбарчай акругі.

АРТЫКУЛ 60. Выбарчыя бюлетэні друкуюцца па форме, устаноўленай Цэнтральнай выбарчай камісіяй, і ў колькасці, якая забяспечвае снабжэнне ўсіх выбаршчыкаў выбарчымі бюлетэнямі.

АРТЫКУЛ 61. Кожнай арганізацыі, выставіўшай кандыдата, зарэгістраванага ў Акруговай выбарчай камісіі, таксама як кожнаму грамадзяніну БССР, забяспечваецца права бесперашкоднай агітацыі за гэтага кандыдата на сходах, у друку і іншымі спосабамі, згодна артыкула 100 Канстытуцыі БССР.

## РАЗДЗЕЛ VII

## ПАРАДАК ГАЛАСАВАННЯ

АРТЫКУЛ 62. Выбары ў Вярхоўны Совет БССР праводзяцца на працягу аднаго дня—агульнага для БССР.

АРТЫКУЛ 63. Дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР устанаўляецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР не пазней, чым за 2 месяцы да тэрміну выбараў. Выбары праводзяцца ў нерабочы дзень.

АРТЫКУЛ 64. Штодзённа на працягу апошніх 20 дзён перад выбарамі Участковая выбарчая камісія апублікоўвае ці шырока паведамляе выбаршчыкаў якім-небудзь іншым спосабам аб дні выбараў і месцы выбараў.

АРТЫКУЛ 65. Падача галасоў выбаршчыкамі робіцца ў дзень выбараў ад 6 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы па мясцоваму часу.

АРТЫКУЛ 66. У 6 гадзін раніцы ў дзень выбараў старшыня Участковай выбарчай камісіі ў прысутнасці яе членаў правярае выбарчыя скрынкі і наяўнасць складзенага па ўстаноўленай форме спісу выбаршчыкаў, пасля чаго закрывае і апячатвае скрынкі пячаткаю камісіі і запрашае выбаршчыкаў прыступіць да падачы галасоў.

АРТЫКУЛ 67. Кожны выбаршчык галасуе асабіста, з'яўляючыся для гэтага ў памяшканне для галасавання, прычым падача галасоў выбаршчыкамі робіцца шляхам апускання ў выбарчую скрынку выбарчага бюлетэня, запячатанага ў канверт.

АРТЫКУЛ 68. У памяшканні для выбараў выдзяляецца для запаўнення бюлетэняў асобны пакой, у якім у часе галасавання забараняецца прысутнасць каго-б то ні было, у тым ліку і членаў Участковай выбарчай камісіі, апрача галасуючых; пры допуску ў пакой для запаўнення бюлетэняў адначасова некалькіх выбаршчыкаў, ён павінен быць абсталяван перагародкамі ці шырмамі па ліку дапускаемых адначасова выбаршчыкаў.

АРТЫКУЛ 69. Выбаршчык, які з'явіўся ў выбарчае памяшканне, прад'яўляе сакратару ці члену Участковай выбарчай камісіі або пашпарт, або калгасную кніжку, або профсаюзны білет, або іншае пасведчанне асобы і пасля праверкі па спісу выбаршчыкаў і адзнакі ў спісе выбаршчыкаў атрымлівае выбарчы бюлетэнь і канверт устаноўленага ўзору.

АРТЫКУЛ 70. На асоб, якія з'явіліся ў памяшканне для выбараў з „пасведчаннем на права галасавання", згодна артыкула 16 гэтага „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР", Участковая выбарчая камісія вядзе асобны спіс, які прыкладаецца да спісу выбаршчыкаў.

АРТЫКУЛ 71. Выбаршчык у пакоі, адведзеным для запаўнення выбарчых бюлетэняў, астаўляе ў выбарчым бюлетэні прозвішча таго кандыдата, за якога ён галасуе, выкрэсліваючы астатніх; улажыўшы бюлетэнь у канверт і заклеіўшы яго, выбаршчык пераходзіць у пакой, дзе змяшчаецца Участковая выбарчая камісія, і апускае канверт з выбарчым бюлетэнем у выбарчую скрынку.

АРТЫКУЛ 72. Выбаршчыкі, якія не маюць магчымасці з прычыны непісьменнасці ці якога-небудзь фізічнага недахопу самастойна запоўніць выбарчы бюлетэнь, маюць права запрасіць у пакой, дзе запаўняюцца выбарчыя бюлетэні, любога іншага выбаршчыка для запаўнення выбарчага бюлетэня.

АРТЫКУЛ 73. Выбарная агітацыя ў выбарчым памяшканні ў часе падачы галасоў не дапускаецца.

АРТЫКУЛ 74. Адказнасць за парадак у выбарчым памяшканні нясе старшыня камісіі, і яго распараджэнні для ўсіх прысутных абавязковы.

АРТЫКУЛ 75. У 12 гадзін ночы дня выбараў старшыня Участковай выбарчай камісіі аб'яўляе падачу галасоў закончанай, і камісія приступае да ўскрыцця выбарчых скрынак.

## РАЗДЗЕЛ VIII

## ВЫЗНАЧЭННЕ РЭЗУЛЬТАТАЎ ВЫБАРАЎ

АРТЫКУЛ 76. У памяшканні, дзе Участковая выбарчая камісія робіць падлік галасоў, пры падліку галасоў маюць права прысутнічаць спецыяльна на тое ўпаўнаважаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

АРТЫКУЛ 77. Участковая выбарчая камісія, ускрыўшы скрынкі, звярае колькасць паданых канвертаў з колькасцю асоб, якія прымалі ўдзел у галасаванні, і рэзультаты зверкі заносіць у пратакол.

АРТЫКУЛ 78. Старшыня Участковай выбарчай камісіі ўскрывае канверты і абвяшчае ў прысутнасці ўсіх членаў Участковай выбарчай камісіі рэзультаты галасавання па кожнаму бюлетэню.

АРТЫКУЛ 79. На кожнага кандыдата ў дэпутаты вядзецца падліковы ліст у 2-х экземплярах сакратаром камісіі і ўпаўнаважанымі на тое членамі Участковай выбарчай камісіі.

АРТЫКУЛ 80. Прызнаюцца несапраўднымі бюлетэні:

а) неўстаноўленага ўзору і колеру;

б) паданыя без канверта ці ў канверце неўстаноўленага ўзору;

в) з колькасцю кандыдатаў, перавышаючай лік выбіраемых дэпутатаў.

АРТЫКУЛ 81. Пры ўзнікненні сумненняў у сапраўднасці выбарчага бюлетэня пытанне вырашаецца Участковай выбарчай камісіяй шляхам галасавання, што адзначаецца ў пратаколе.

АРТЫКУЛ 82. Участковая выбарчая камісія складае па устаноўленай форме пратакол галасавання ў двух экземплярах, падпісваемых усімі членамі Участковай выбарчай камісіі, у тым ліку абавязкова старшынёю і сакратаром.

АРТЫКУЛ 83. У пратаколе галасавання Участковай выбарчай камісіі павінна быць указана:

а) час пачатку і сканчэння падачы галасоў;

б) лік выбаршчыкаў, падаўшых галасы па спісу выбаршчыкаў;

в) лік выбаршчыкаў, падаўшых галасы па „пасведчаннях на права галасавання";

г) лік паданых канвертаў;

д) кароткі выклад заяў і скарг, паданых ва Участковую выбарчую камісію, і прынятыя Участковай выбарчай камісіяй рашэнні;

е) рэзультаты падліку галасоў па кожнаму кандыдату.

АРТЫКУЛ 84. Пасля сканчэння падліку галасоў і складання пратакола, старшыня камісіі абвяшчае рэзультаты галасавання ў прысутнасці ўсіх членаў камісіі.

АРТЫКУЛ 85. Адзін экземпляр пратакола галасавання, складзенага Участковай выбарчай камісіяй, з абодвума экземплярамі падліковых лістоў на кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР накіроўваецца з нарачным на працягу 24 гадзін у Акруговую па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчую камісію.

АРТЫКУЛ 86. Усе выбарчыя бюлетэні (асобна сапраўдныя і асобна прызнаныя несапраўднымі) павінны быць апячатаны пячаткай Участковай выбарчай камісі і разам з другім экземплярам пратакола галасавання і пячаткай зданы старшынёю Участковай выбарчай камісіі на хаванне: у гарадах—гарадскім Советам дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённым Советам дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях—раённым Советам дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 87. На Советы дэпутатаў працоўных ускладаецца абавязак захоўваць выбарчыя бюлетэні аж да зацверджання мандата дэпутата ад адпаведнай акругі Вярхоўным Советам БССР.

АРТЫКУЛ 88. Акруговая па выбарах ў Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія робіць падлік галасоў на падставе пратаколаў, прадстаўленых Участковымі выбарчымі камісіямі.

АРТЫКУЛ 89. У памяшканні, дзе Акруговая выбарчая камісія робіць падлік галасоў, маюць права прысутнічаць пры падліку

галасоў спецыяльна на тое ўпаўнаважаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

АРТЫКУЛ 90. На кожнага кандыдата Акруговай выбарчай камісіяй вядзецца ў 2-х экземплярах падліковы ліст, у якім адзначаецца колькасць галасоў, атрыманых кожным кандыдатам у дэпутаты.

АРТЫКУЛ 91. Акруговая выбарчая камісія складае пратакол галасавання у 2-х экземплярах, падпісваемых усімі членамі Акруговай выбарчай камісіі, у тым ліку абавязкова старшынёю і сакратаром.

АРТЫКУЛ. 92. У пратаколе Акруговай выбарчай камісіі павінна быць указана:

а) агульны лік выбаршчыкаў па акрузе;
б) агульны лік выбаршчыкаў, прыняўшых удзел у галасаванні;
в) лік галасоў, паданых за кожнага кандыдата ў дэпутаты;
г) кароткі выклад заяў і скарг, паданых у Акруговую выбарчую камісію, і прынятыя Акруговай выбарчай камісіяй рашэнні.

АРТЫКУЛ 93. Не пазней 24 гадзін пасля сканчэння падліку галасоў старшыня Акруговай па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчай камісіі абавязан пераслаць першы экземпляр пратакола з прыкладзенымі падліковымі лістамі ў запячатаным выглядзе праз нарачнага ў Цэнтральную выбарчую камісію.

АРТЫКУЛ 94. Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, які атрымаў абсалютную большасць галасоў, г. зн. больш палавіны ўсіх галасоў, паданых па акрузе і прызнаных сапраўднымі, лічыцца выбраным.

АРТЫКУЛ 95. Пасля падпісання пратакола старшыня Акруговай па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчай камісіі абвяшчае рэзультаты выбараў і выдае выбранаму кандыдату ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР пасведчанне аб выбранні.

АРТЫКУЛ 96. Калі ні адзін з кандыдатаў не атрымаў абсалютнай большасці галасоў, адпаведная Акруговая выбарчая камісія адзначае аб гэтым асоба ў пратаколе і паведамляе ў Цэнтральную выбарчую камісію і адначасова аб'яўляе перабалатыроўку двух кандыдатаў, атрымаўшых найбольшую колькасць галасоў, а таксама назначае дзень перабалатыроўкі не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін па сканчэнні першага туру выбараў.

АРТЫКУЛ 97. Калі паданая колькасць галасоў па акрузе складае менш палавіны выбаршчыкаў, маючых права галасаваць па гэтай акрузе, Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія адзначае аб гэтым асоба ў пратаколе і паведамляе неадкладна ў Цэнтральную выбарчую камісію, прычым у гэтым выпадку Цэнтральная выбарчая камісія назначае новыя выбары не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін пасля першых выбараў.

АРТЫКУЛ 98. Перабалатыроўка кандыдатаў у дэпутаты, таксама як новыя выбары ўзамен прызнаных несапраўднымі, право-

дзяцца па спісах выбаршчыкаў, складзеных для першых выбараў, і ў поўнай адпаведнасці з гэтым „Палажэннем аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР“.

АРТЫКУЛ 99. У выпадку выбыцця дэпутата са складу Вярхоўнага Совета БССР Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР у двухтыднёвы тэрмін назначае ў адпаведнай выбарчай акрузе тэрмін выбараў новага дэпутата, але не пазней, чым у двухмесячны тэрмін пасля выбыцця дэпутата са складу Вярхоўнага Совета БССР.

АРТЫКУЛ 100. Усякі, хто шляхам гвалту, ашуканства, пагроз ці подкупу будзе перашкаджаць грамадзяніну БССР у ажыццяўленні яго права выбіраць і быць выбраным у Вярхоўны Совет БССР,—караецца пазбаўленнем свабоды на тэрмін да 2-х год.

АРТЫКУЛ 101. Службовая асоба Совета ці член выбарчай камісіі, зрабіўшыя падробку выбарчых дакументаў ці заведама няправільны падлік галасоў,—караюцца пазбаўленнем свабоды на тэрмін да 3-х год.

**Вык. аб. старшыні Цэнтральнага**
**Выканаўчага Камітэта БССР Н. НАТАЛЕВІЧ.**

**Вык. аб. сакратара Цэнтральнага**
**Выканаўчага Камітэта БССР А. ЕРМАК.**

27 лютага 1938 г.
г. Менск.



*Я. Колас*

## ДЖАМБУЛУ

Ад снежных вершалін Каўказа, Паміра,
Як гордасць шчаслівых аулаў,
Грыміць многаструнная, звонкая ліра,
Сімфонія песень Джамбула.

Дзівосныя песні яго—зараніцы,
Што з'яюць у яснай лазуры,
Што сыплюць вясёлкі, святло бліскавіцы,
Сатканае з сонца і буры.

У іх дыша свежасць, юначая сіла,
І мудрасць у іх Казахстана,
Імклівасць патокаў, арліныя крылы
Чаруючых думак баяна.

Плывуць яго песні ад краю да краю
Натхненна, свабодна, прачула.
Дзядулю Джамбула я шчыра вітаю,
Вітаю акына Джамбула.

Вітаю і партыю, Сталіна геній,
Што круг наш глухі разамкнулі,
Што сеюць народам для дружбы праменні,
Што нам падарылі Джамбула.

*Джамбул*

# ПЕСНЯ АБ СТАЛІНЕ

Я па стэпу хадзіў, паміж скал вандраваў—
Сівы загарэлы, з падругай дамброй—
Дзевяноста гадоў я сонца шукаў,
І сонца з'явілася прада мной.

Я стаяў перад ім у святле залатым;
Грэў і лашчыў мяне ясных промняў разліў.
Я стаяў перад ім, перад сонцам маім,
Быццам сон я чароўны і казачны сніў.

Сталін! Сонца вясновае—гэта ты!
Ты зірнеш, і, як быццам ад промняў хутчэй
Каласяцца палі, зелянеюць лісты,
Сэрца б'ецца мацней і кроў гарачэй.

У жыцці нам юнацтва даецца адно.
Я—стары, у мяне серабро ў барадзе,
Але бачыць цябе я жадаў так даўно,
Што ізноў, як пабачыў, памаладзеў.

Маладосць! Зноў прышла да Джамбула яна,
Быццам кроў забурліла мая, як раней.
Быццам зноў разагнулася лёгка спіна,
Быццам белыя зубы растуць у мяне.

Малады у свае дзевяноста гадоў,
Век пражыўшы, як самы апошні Кедзей,*
Я прынёс табе, Сталін, народа любоў,
Прывітанне сагрэтых табою людзей.

Што мы ведалі? Беднасць і цемрадзь начы.
Што мы бачылі? Толькі ланцуг і штых.
Горш за псоў нас трымалі, гнялі багачы,
У пакуце згасаў наш прыдушаны крык.

* Кадзей—бядняк.

Ты-ж як сонца прышоў, асвятліўшы прастор,
І прынёс нам ратунак і шчасце жыцця.
І скавалі мы герб, і мы ўзнялі да зор
Самай шчаснай краіны палаючы сцяг.

Сталін—сонца! Гары, вечна-вечна ў Крэмлі.
Мы нясём табе сэрцы і спеў малады.
І няма на бязмежнай планеце—Зямлі
Чалавека патрэбней народу, чым ты!

*Пераклаў А. ЗАРЫЦКІ.*

## АБ СОНЕЧНЫМ ГОРКІМ

Па струнах ударылі пальцы Джамбула,
Заветная песня плыве па аулах.
У сонечным краі я песню сваю
Аб сонечным Горкім сягоння пяю.
Пылай мая песня агнём па вершынах,
Цвіці як міндаль у цудоўных далінах.
Улівайся ў народныя песні краіны,
Нібы ў акіяны паток ручаінаў.
Зіяннем сузор'яў над светам паўсталі
Два вогненых генія—Ленін і Сталін.
Прынеслі яны нам квітнеючы май,
Іх мудрасць гарыць як алмазны Алтай.
Батырскія думкі магутных тытанаў,
Шырэй і бязмежней, як шыр акіянаў.
Ты, Горкі, да дна глыбіню іх спазнаў,
І мовай сваёй ўсенародным ты стаў.
І стала звінець тваё мудрае слова,
З народам—ласкава, дзе вораг—сурова.
Ты сэрцам чысцей быў за снежны прастор,
За ясны крыштал лебядзіных вазёр.
Насіў ты напеў у грудзях для народа
Пахучы, як водыр, пчалінага мёду.
Сабраў ты народу ўсю мудрасць вякоў,
Дарыў ты народу жамчужыны слоў.
Сын сонца, ты волатам быў між паэтаў,
Са слоў—самародкаў, са слоў—самацветаў
Народу свайму ты паэмы складаў,
І сэрца сваё ты народу аддаў.
Арлінае сэрца прывычнае к бою,
Вялікае, палкае сэрца героя.
Ты мора і вольныя стэпы любіў,
Народ, што разбіў свой ланцуг, ты любіў,
Ты Сталіна генія свету любіў.
Ты быў-бы між нас яшчэ доўгія годы
Калі-б не змяінае джала Ягоды.

Калі-б не атрута забойцаў тых, катаў,
Ўрачоў, што прыходзілі ў белых халатах:
Якое нябачанае ліхадзейства,
Якое нябачанае зладзейства,
Паўзучых гадзюк, чарнатварых звяроў,
Прадажных ублюдкаў, фашысцкіх псароў!
Як дзень, было ясна бандыцкаму зброду—
Не здрадзіш ніколі свайму ты народу,
Баяліся жабы цябе як агня,
Як совы баяцца прасветлага дня.
За правадыром ўсіх народаў сачылі,
Яны палкаводцаў народа труцілі.
Краіну сваю прадавалі, народ,
Крывавы рыхтуючы ўпотай паход.
Баяліся, выкрыеш план іх змяіны,
Твой голас як гром прагучыць па краінах,
Ты паў на пасту, як бясстрашны змагар,
Як той, хто заве ўсіх на бойку, песняр.
Яны пралічыліся, хцівыя змеі,
Памылка ў разліках, тупыя зладзеі!
Ніколі народ не забудзе цябе,
Твой вобраз вякі пранясе у сабе.
Настаўнік людзей, распрастаўшых гарбы,
Свяшчэннай, народнай прарок барацьбы.
Ты, Горкі, нам родны, цудоўны, любімы,
Як светлае сонца гарыш над краінай,
І будзеш ты жыць між патомкаў шчаслівых
Пакуль на зямлі чалавецтва ўсё жыва.
Ты сонечны Горкі вякі будзеш жыць,
Твой голас на мовах народаў гучыць.

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.

## АРМІЯ НАРОДА

Ляці, мая песня, узвейся арліцай,
З Касцека ляці да чырвонай сталіцы,
З калгаса майго аж да самай граніцы,
Дзе нават пясчынку совецкай зямлі,
Як золата берагуць патрулі...
Ляці, мая песня, і сэрца кіпі!
На плошчы на Краснай Ленін не спіць,
Ён—сонца, што свеціць і ўдзень, і ўначы.
Гадзіннік праб'е, увесь свет замаўчыць.
У гімне ўрачыстым застыне зямля,
Маршал народаў выйдзе з Крэмля,
Каб на крыло маўзалея ўзыйсці,
Сцягі перад ім будуць ярка цвісці:
Сцягі, што віліся ў гарачых баях,
У гарах і марах, у стэпох, на палях,

У балотах, вазёрах, акопах, пясках,—
Яны ў перамогах усюды былі,
Палілі снарады іх, кулі прайшлі,
І след на іх кропель засохшых відзён,
То кроў сцяганосцаў кастрычніцкіх дзён...
Ляці, мая песня, і сэрца кіпі!
На плошчы на Краснай Ленін не спіць.
Гадзіннік праб'е ў чырвонай Маскве
І стрэлка яго ўвесь абойдзе сусвет.
У гімне ўрачыстым застыне зямля,
І зоры зазззяюць на вежах Крэмля.
На красную плошчу, гатовы ў паход,
Узброены выйдзе народ!
Ляці, мая песня, ты—сокал мой дзіўны,
Ды толькі за песню дзівосней радзіма!
У калгасе жыву я, за лёс свой спакойны.
Сын мой любімы—калгаснік і воін,—
Бацька ў сына—пясняр і змагар,
Сын-жа ў бацькі—баец і пясняр.
Сын у Джамбула зоркі, як сокал,
З граніцы не зводзіць ён пільнага вока!
Як толькі вайною павеюць мяцелі,
Выйдуць, як Сталін, у простых шынэлях
Рабочы, калгаснік, стары, малады,—
І скажуць:—Вядзі, дарагі правадыр!
І скажуць яны непахіснае слова:
— Усе, як адзін, мы да бою гатовы,
Моладасць з намі, і слава, і сіла,
З намі вялікі батыр Варашылаў,
З намі Блюхер, з намі Будзённы,
З намі Чапаева сцяг чырвоны,
З намі і Шчорс, і байцы Украіны,
З намі узбекі, башкіры, грузіны,
З намі аскеры з Кабарды,
З намі джыгіты Амангельды.
Як толькі вайною павеюць мяцелі,
Выйдуць, як Сталін, у простых шынэлях
Рабочы, калгаснік, стары, малады
І скажуць:—Вядзі, дарагі правадыр!
У конніцы нашай стальныя падковы.
Усе, як адзін мы да бою гатовы.
Пройдзе зямлёй, бы ў семнаццаты год
Узброены мужны савецкі народ,
Пройдзе праз ўсе рубяжы, без паклонаў,
Армія ў сто семдзесят мільёнаў!
Армія нашай радзімы прыгожай,—
Гордай, любімай, неперриаможнай!

*Пераклаў ЦІМ. КРЫСЬКО.*

# БАТЫРАМ ПОЛЮСА

Сталецце сваё дажываючы, стаў
Сівым я, бы снег на гары Ала-Таў.
Я помню ўсе жахі праклятага веку,
Бяды і знявагі не мала пазнаў.

Стагналі народы расійскіх раўнін,
Казахскага стэпу, грузінскіх далін,
І гінулі, з думкай аб крыллях арліных,
Бяскрылыя дзеці крывавых часін.

Ды казка жыла пра кавёр-самалёт,
Пра цуда-карабль, прабіваючы лёд,
Пра самага мудрага ў свеце батыра,
Хто ў неба падыме крылаты народ.

Дажыў я. Шчаслівы і радасны час.
Вялікі і мудры батыр—сярод нас.
Завуць яго Сталін. Ярмо падняволля
Ён зняў назаўсёды з працоўных мас.

Зямля недарэмна ў лятунках жыла,
Ён кожнаму даў два магутных крыла.
Адвагай і сілай, геройствам і славай,
Бы стэпы вясною, зямля расцвіла.

Мы гаспадары на бяскрайніх палях,
У блакітных нябёсах, на сініх марах,
Мы з боем здабылі ўсе тайны сусвета,
Што ўпарта ад веку захоўваў аллах.

Навек пакарылі мы сцюжу зімы,
Мы знішчылі панства жахлівае цьмы,
Арліныя крыллі ў нас за плячыма,
Вышэй, чым беркут, падымаемся мы.

Папанінцы! Горды арол-самалёт
Прынёс вас на белы зіяючы лёд.
Планета ўбачыла сцяг наш чырвоны,
На полюсе мужны ягоны ўзлёт.

Батыры навукі савецкай зямлі
На крызе вы ў цемені лютай плылі,
Сабою шмат месяцаў вы рыскавалі,
Раскрылі ўсе тайны, што льды берaглі.

У палярную Поўнач буран бушаваў,
І лёд пад палаткай пагрозна трашчаў,
За подвігам сталінскіх смелых пітомцаў
Заўжды з захапленнем сусвет наглядаў.

Ваш подвіг, браты, падарунак вякам,
Ваш подвіг—ён прыклад дастойным сынам,
Ваш подвіг—радзіме і слава, і шчасце,
Ĭ ўдар па раз'юшаным ворагам-псам.

Любімаму Сталіну песню пяю,
Героям-папанінцам песню пяю,
Крыніцы натхнення і подвігаў слаўных—
Народу бяссмертнаму песню пяю!

Папанінцы! Вам, як адданым сынам,
Я рокаты струн з захапленнем аддам.
Шагайце па кветках! Вам кіну пад ногі
Тульпаны і розы—як багатырам!

Папанінцы з намі! З праменных высот
Ĭ сонца вітае іх слаўны паход.
Айчызна ім кветкі падносіць свае,
Яна на ўсіх мовах ўрачыста пяе:
— Жыві, ты натхніцель на подвігі, Сталін,
Ты мудра вядзеш к комунізму народ!

*Пераклаў* АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ.

## КАЛЫХАНКА

Каб ты, хлопчык, засынаў,
На дамбры Джамбул зайграў.
Струны ён перабірае
Добрай дзедавай рукой
Ĭ калысачку люляе
Ĭ паціханьку спявае,
Каб зляцеў к табе спакой.

Дрэмле рэк шырокіх гладзь,
На джайляу *) статкі спяць.
Спяць пуховыя казляты,
Вярблюжаты спяць даўно,
Залатыя жарабяты,
Круталобыя цяляты,
Тонкарунныя ягняты.
Ну і ты засні, сынок.

Дрэмлюць птушкі ў галлі,
Рыбкі спяць у Аму-Дар'і.
Моцна спіць трысцё густое,
Долы, узгоркі, увесь прасцяг,
Ветрык, поле залатое.
Толькі ты не спіш малое,
Чорнавокае дзіця.

* Джайляу—летні папас.

Засынай, малы казак,
Ты у бацькавых руках,
Сталін родны наш не спіць,
Ён каля вакна стаіць
І за ўсёй краінай сочыць,
Бачыць Захад і Ўсход.
І цябе ён бачыць, хлопчык,
І цябе ён любіць, хлопчык,
За цябе мой цёплы хлопчык
Увесь адказвае народ.

Ты малютка сын сваёй
Бацькаўшчыны дарагой.
Аб тваім жыцці далейшым
Сталін думае ў Крэмлі,
Каб ты вырас прыгажэйшы,
Разумнейшы і смялейшы,
Самы шчасны на зямлі.

Ты з дзіцячае пары
Атрымоўваеш дары—
Іх нясе народ з любоўю
У час вячэрніх зор і мар—
Думкі дар і дар здароўя,
Дар адважнасці суровай,
Залатога шчасця дар.

Пад табою светлы край,
Шлях любы ў ім выбірай,
Хор вясновы салаўіны
Для цябе ў садах пяе.
Усе заводы, усе даліны,
Невычэрпныя глыбіні,
Руды, золата, рубіны,—
Мой маленькі,—ўсё тваё.

Твае вочы зор ярчэй,
Валасы шаўку мягчэй.
Постаць зграбная на дзіва,
Свет любуецца табой,
Пражывеш свой век шчасліва
У краіне клапатлівай,
Слаўны заўтрашні герой.

Мы раслі зусім не так,
Нас трымалі як сабак.
І калі пад сонцам мая
Піонерскі вольны сцяг
Яркім макам мне ківае,
Дык дрыжыць сляза скупая
У старога на вачах.

Вырастай, малы казах,
Прад табою светлы шлях.
І цябе ў Казахстане
Лёс чакае залаты:
Піонерам жвавым станеш,
Комсамольцам смелым станеш,
Комуністам будзеш ты.
Засынай, маленькі мой.
Кзыл-аскер * ахоўнік твой.

Гора нам не ведаць болей,
Не загляне гора к нам;
Даў усім наш Сталін волю,
Даў усім наш Сталін долю—
І маленькім і дзядам.

*Пераклаў А. ЗАРЫЦКІ.*

## ЗНІШЧЫЦЬ!

Шчаслівы народ мой, паслухай мяне—
Дрыжаць мае струны, бушуе мой гнеў.
У сэрцы палае агнём абурэнне,
І нараджае нянавісць натхненне.
Злоўлены ў пастку крывавыя псы,
Хто люцей ваўка і хітрэй ад лісы,
Хто вокал атруту смяротную сеяў,
Кроў у каго халадзей, чым у змеяў,
У кім чалавечай няма цяплыні,
Ні шчырасці кроплі, сумлення—ані.
Чорнаму зброду—пракляцці вякоў!
Смуродам нясе ад жывых мерцвякоў.
Мо' толькі сабака раўня ліхадзеям,
Ды той адхіснецца ад подлых зладзеяў.
Няма параўнання крывавым наймітам,
Агідным шчанятам, фашысцкім бандытам.
Знішчыць хутчэй іх, як падлу, зарыць,
І кол у тое месца асінавы ўбіць!
Выклясці подлыя справы навечна,
Пазбавіць, страшыдлаў, імён чалавечых!
Хадзячыя трупы, гніллё, ілгуны—
Яны пагражалі пажарам вайны.
За сонцам народаў хціва сачылі,
На Сталіна кіпці і зубы вастрылі.
Цягнуліся джалам атрутным змяіным
К таму, хто даў шчасце і радасць краіне.
Іх рукі запырсканы чыстай крывёю
Бяссмертнага Кірава, мужных герояў.
Яны салаўінае горла здавілі,

* Кзыл-аскер—чырвонаармеец.

Вялікага Горкага, гады забілі.
Таму я, Джамбул, гэтай песняй сваёй
Суду гавару ад краіны ўсёй:
Сцерці з зямлі нашай чорную зграю,
Сабака—заўсёды сабакам здыхае!
Ляці, мая песня, па роднай зямлі,
Каб голас мой чуць патрыёты маглі.
Э-гей, патрыёты, з'яднаем рады,—
Мы Сталіну вернымі будзем заўжды.
За нашу радзіму мы станем сцяною
Па першаму клічу, гатовыя к бою.
Народы, вучыцеся ў Сталіна жыць,
Перамагаць, ненавідзець, любіць!
Народы, гартуючы дужасць і сілу,
Ворагаў біце, як б'е Варашылаў!
Краіну вартуйце ад шэрых гадзюк,
Аддана і пільна, як сталінскі друг,
Каго нам выхоўвалі Ленін і Сталін,
Хто цвёрды, суровы, як выліты з сталі,
Хто барсаў смялей і адважней арлоў,—
Краіны любімец, зоркі Ежоў!

*Пераклаў ЦІМ. КРЫСЬКО*

*Эдуард Самуйлёнак*

# БУДУЧЫНЯ

Раман

## Частка першая

### I

Пад вечар аднаго дня аднекуль з гор прышоў моцны і гарачы вецер. Гэта было, — як памятае Іліко,—на другі тыдзень пасля смерці бабулі Анны. Іліко сядзеў пры вакне і бачыў, як шугануў вецер па балоце, як хвалямі закалыхаліся парaслі чорнае вольхі, як прыгнулася трысцё на ўскраі вялікай багны, што была тут-жа, каля вёскі, недалёка ад хаты, адзіным гаспадаром якой застаўся цяпер Іліко. Далей бачыў Іліко слупы жоўтага пылу, што віхрылі на вуліцы, бачыў, як сарваў вецер дах з суседскае павеці, у якой звычайна стаяў добры прыяцель Іліко, буйвал Уча. Вецер лёгка разнёс у паветры тоўстыя сцяблы кукурузнае саломы, а стары Уча, устрывожаны нечаканаю бядой, разламаў сваю загарадку, сплеценую з хмызняка, і павольна вышаў на вуліцу.

— Уча! Уча!—закрычаў Іліко—ідзі назад! Ты куды!

Іліко хацеў ужо саскочыць з лаўкі і бегчы на вуліцу, але з дому вышаў сусед Коркія з кіем і Уча адразу павярнуў назад. Коркія загнаў буйвала ў загарадку і ўзяўся там нешта майстраваць, а Іліко захапілі іншыя падзеі. Па вуліцы праімчала свіння, акружаная вісклівым стадам парасят. Гэтую свінню Іліко ненавідзеў. У дзень пахавання бабулі Анны ён не здолеў як след наглядаць за агародам і свіння з усім патомствам добрых пару гадзін пасвілася ў градках фасолі. Мала таго, гэтыя брыдкія жывёлы ўвабраліся ў агуркі, і каб заплаканы, змарнелы ад гора Іліко, нарэшце, іх не заўважыў, усё было-б скончана з маленькім агародам Іліко Жванія. І ўсё з-за гэтага таўстога Сімона, які гандлюе віном у Поці, а тут трымае гаспадарку. Па ўсім пасёлку свінні і парасяты носяць на карку varoтцы і гэты дзеравяны каўнер перашкаджае ім прабівацъ лычом плятні і пралязаць у агароды, а Сімон—не хоча. Ён кажа, што гэта шкодна для свінні і нічога яму не зробіш, бо ён багаты і ўсе яго слухаюць.

— Праклятая свіння!—крыкнуў Іліко праз вакно.—Ты падобна да свайго гаспадара, тоўстага Сімона!—Гэтую лаянку ён чуў ад суседа Коркія, якому, відаць, таксама дакучыла нахабная жывёліна.

Вецер узмацняўся. Над хатамі хісталіся гнуткія высокія таполі і на іх запыленых вершалінах быў развітальны водбліск сонца, што зніжалася недзе далёка, там, дзе—ведаў Іліко—за балотамі пачыналася мора. Жаўтавы туман то ўсплываў над балотамі, то знікаў, разганяемы ветрам. Была душная прыпарная цеплыня. Усё больш цямнела і раптам убачыў Іліко вялікую хмару. Яна шырока раскінула грузныя чорныя крыллі, павольна пасоўваючыся на балоты, дзе бушаваў вецер, хісталася гнуткае трысцё і шумеў узбунтаваны гушчар хмызнякоў. Уздыбленае шэрае лісцё серабрыстымі хвалямі калыхалася скрозь, як вокам глянуць і на гэта, на ўсё поўз грозны, чорны цень. Іліко здзівіла, што хмара ішла як бы супроць ветру. Вецер дзьмуў з гор, а хмара рухалася наўскасяк, з мора і вось, нарэшце, яе чорнае крыло загасіла апошні цмяны прамень затуманенага сонца; запанаваў шэры змрок і раптам сціхнуў вецер. Стала так ціха, што чуваць было, як шапоча лісцё таполяў на вуліцы, як шуміць на балоце трысцё і ўзбунтаваны гушчар. Нарэшце, сціхла і гэта. Толькі паскрыпвала адчыненая фортка ў вакне Іліко і чуцен быў нейкі далёкі, глухі гул.

— Будзе дождж,—падумаў Іліко.—Будзе вялікі дождж і грымоты.

Трывога сціснула яго маленькае сэрца, ён адчуў сябе адзінокім і бездапаможным, яму раптам стала страшна ў прывычнай цішы роднае хаціны. Ён прыўзняўся каб зачыніць фортку і раптам узарвалася цішыня, успыхнула ўсё навокал, і асьлеплены, аглушаны Іліко саскочыў з лаўкі. Асляпляючы бляск зноў разарваў змрок і ўдарыла гулка і суха два разы ўзапар.

— Авай-вава!—закрычаў Іліко, як гэта часта рабіла бабуля.

— Авай-вава!*)

Ён кінуўся ў цёмны кут, дзе ляжала яго пасцілка. Іліко, які лічыўся адважным хлапчуком, страціў сваю смеласць у адзіноце і з галавой накрыўся коўдрай. Цяпер ён не бачыў маланкі, што паліла бурную муць неба, і толькі ўздрыгваў ад гулкіх пяруновых выбухаў. Аднастайны, звычайна заспакойваючы, шум дажджу, нерваваў і страшыў яго.

— Бабуля!—паціху енчыў Іліко,—бабуля!

І раптам яму здалося, што нехта адчыніў дзверы. Іліко асцярожна сцягнуў з галавы коўдру і выглянуў на хату. Было цёмна зусім, нельга было нічога ўбачыць, але Іліко зразумеў, што дзверы сапраўды адчынены, бо дагэтуль заглушаны шум дажджу быў выразным і ад парогу цягнула свежае, вільготнае паветра. Шырока адкрытымі вачыма Іліко глядзеў у цемру.

— Іліко!—ціха паклікаў жаночы голас,—Іліко!

Ён пазнаў голас Кетэ, дачкі суседа Коркія, але быў настрашаны так, што замест адказу застагнаў як хворы.

— Што з табой, сіротка?—пяшчотна гаварыла Кетэ,—ты спалохаўся? Хадзі сюды, пойдзем да нас. Чаго ты сядзіш тут адзін...

Іліко ўзняўся, вобмацкам паправіў коўдру і рушыў да дзвярэй. Ён сустрэў прасцёртую руку Кетэ і ўхапіўся за яе.

*) Гора мне.

— Я тут, цётка Кетэ...—сказаў ён, чапляючыся за яе мокры рукаў.—Я не баюся зусім. Ого! Раз я праз цэлую ноч начаваў на кургане Наохваму разам са старым Тапурыя. Туды ўсе баяцца хадзіць, а я не баюся...

Гаворачы гэта, ён калаціўся і ляскаў зубамі. Кетэ ціха засмяялася і вывела яго за рукаў з хаты. Яны крыху пастаялі пад саламянай паветкай, што была прыстроена над парогам. Дождж ужо не шумеў як шуміць звычайны дождж. Паветра гуло і дрыжэла. Прабіваемае стромымі патокамі вады, яно ператваралася ў густы і вязкі туман. Сіняватыя далёкія маланкі ўспыхвалі раз-па-разу і з шыпеннем і слабым трэскам, як запалкі, загасалі ў вадзяністай муці гэтых бурных прастораў. З-за гулу дажджу не чуваць было грымотаў.

Кетэ пацягнула Іліко за руку. Яны перабеглі вузкую вуліцу, перайшлі масток праз канаву, якая ўжо стала ручаём, і апынуліся на ганку дома Коркія. Кетэ ўзялася атрасаць вопратку. Іліко ўжо асмялеў і стаў гаваркім. Акрамя таго яму хацелася яшчэ раз упэўніць Кетэ, што ён не баяўся адзін у цёмнай хаце.

— На кургане Наохваму, — гаварыў Іліко,—вяпры! Ого, якія вяпры! У аднаго вяпра мы са старым Тапурыя стралялі са стрэльбы. Яго нельга забіць са стрэльбы, яго можна забіць толькі з гарматы, так сказаў Тапурыя. Ён у дзесяць разоў большы за свіню тоўстага Сімона... Мы са старым Тапурыя стрэлілі са стрэльбы, а вепр хацеў кінуцца на нас, а мы не забаяліся...

Раптам сіняя маланка ўзрэзала дажджавую муць.

— Цётка Кетэ! — закрычаў Іліко. — Кетэ! У маю хату нехта пайшоў!!!

Кетэ схапіла яго за руку ізноў.

— Ніхто не пайшоў,—паспешна сказала яна.—Нікога там няма. Хадзем.

— Чалавек увайшоў у мой дом! Я сам бачыў...—крычаў Іліко.

Кетэ моцна пацягнула яго за руку ў сені і моўчкі адчыніла дзверы ў пакой. За сталом сядзеў сусед Коркія і Міха—аднарукі, яго старэйшы сын. Старуха Коркія рыхтавала вячэру. Убачыўшы дарослых, Іліко сціх.

— Прывяла?—усміхнуўся Коркія ў пасівелы вус.—Што-ж ты не вітаешся са старэйшымі? Гэта непрыгожа, бічо!

— Гамарджо! *) — сказаў Іліко, знімаючы круглую войлачную шапку.—Да мяне ў дом пайшоў нейкі чалавек. Пойдзем, паглядзім.

Коркія кінуў быстры погляд на Кетэ, потым на Іліко.

— Калі пайшоў, то лепш мы паглядзім. Ты заставайся тут.

З другога меншага пакою вышаў малодшы сын Коркія, дзевяцігадовы Вано, аднагодак Іліко. Убачыўшы прыяцеля, Вано ўсміхнуўся і падышоў да яго.

— Да нас?—сказаў ён ветліва.—Якраз добра. Мы заўтра пойдзем лавіць сазанаў... Яны нанач выйдуць з канавы на балота, мы іх наловім...

Ён перарваў гутарку, бо заўважыў, што бацька і Міха ідуць да дзвярэй.

*) Прывітанне. Азначае: „жадаю табе перамогі".

— Куды яны?—спытаў Вано.

— У мой дом пайшоў злодзей,—важна адказаў Іліко.—Я хацеў ісці і злавіць яго, але мяне аднаго не пусціла цётка Кетэ.

— Пойдзем разам,—ажывіўся Вано,—Іліко!

— Заставайцеся тут!—сурова спыніў яго Коркія.—Кетэ, выйдзі з намі.

— Вано, Іліко!—паклікала хлапцоў маці Вано.—Я вам дам сыру.

Гэта было не менш цікава, чым затрыманне злодзея. Старая панесла патэльню з падсмажаным сырам у бакоўку, і хлапцы спешна паследвалі за ёй. У той-жа момант адчыніліся дзверы, і Кетэ зноў увайшла ў хату.

— ... якая ты неасцярожная, Кетэ!—учулі хлапцы адрывак фразы.

Іліко выскачыў з бакоўкі. Ён здзівіўся, што вярнуліся гэтак хутка. Яму здавалася, што яны і з сяней не выходзілі.

— Ну? Што там, дзядзька Арцём? Злавілі?

Коркія прытрымаў яго за рукаў.

— Не заступай старэйшаму дарогу, Іліко. Ты ўжо не малы і павінен ведаць, як сябе паводзіць... У доме нікога няма, бо Кетэ замкнула дзверы і туды ніхто не мог-бы ўлезці. І калі ты заўтра будзеш расказваць другім, што нехта там быў у тваім доме, то ўсе падумаюць, што ты баязлівец і будуць смяяцца з цябе... Ідзі да Вано, вячэрайце і кладзіцеся спаць.

Мужчыны паселі за стол. Збянтэжаны Іліко хутка знік у бакоўцы, дзе Вано стараўся над патэльняй. Старая падавала вячэру. Кэта прынесла на стол віно, што некалі Коркія прывёз з кірмашу, і мужчыны выпілі за нейчае здароўе. У Коркія свайго віна амаль ніколі не было. Маленькі вінаграднік звёўся яшчэ ў часы вайны, а завесці новы не ўдавалася, бо мала было зямлі і шмат едакоў. Сеялі кукурузу, фасоль, гародніну і так жылі.

Дарослыя вялі ціхую гутарку і хлапчукі да яе не прыслухоўваліся. Пакончыўшы з вячэрай, яны леглі спаць побач. Некалькі часу абодвы маўчалі. Аднастайна і моцна шумеў дождж. Потым Іліко ўпэўнена сказаў:

— Я злавіў-бы яго.

— Каго?

— Злодзея.

— А калі ён дужы?

— І я не слабы. Я не баюся. А злодзей баіцца зірнуць гаспадару ў твар. Я злавіў-бы яго, звязаў-бы яму рукі і павёў-бы да старэйшых на сход.

— Ты-б не злавіў...—падумаўшы сказаў Вано.—У яго магла быць зброя. А вось бацька і Міха—злавілі-б...

— У Міхі няма рукі,—заўважыў Іліко.

— Затое ён быў на вайне. Хто быў на вайне, той можа адной левай рукой перамагчы дзесяць самых адчайных марджа*), а правай яшчэ больш. У Міха няма левай рукі, а ёсць правая... Пры тым—ён герой. Яму самы старшы цар даў на вайне крыж... Ого!

*) Малайцоў (абхазскае).

Памаўчалі.

— Іліко! А ты-б хацеў, каб табе на вайне адарвалі руку?

— Навошта?

— Каб быць героем.

— Крыж лепш,—разважна адказаў Іліко.

— Дык калі табе руку не адарвуць, то не дадуць крыжа!... Я-б хацеў. Я-б прышпіліў крыж да грудзей, а рукаў, каторы пусты, заклаў-бы за пояс, як гэта робіць Міха... Тады я паехаў-бы на кірмаш і ўсе на мяне глядзелі-б... Вунь, сказалі-б: Вано Коркія пайшоў, герой, марджа...

— Спеце, сырныя чарвякі!—пачуўся голас Коркія.

Хлапцы сціхлі. Роўнамерны гул вялікага дажджу панаваў над усім. Паступова прыходзіў сон. Іліко пакінуў думаць аб злодзеях. Прыемная млявасць сну разбірала яго. Потым нехта (здаецца Арцём Коркія) нахіліўся над ім і разгладжваючы вусы сказаў:

— ... Нічога... Дзеці спяць... Я кажу, што калі не сціхне сёння дождж, нам за два дні не прабрацца балотамі...

Голас аддаліўся і сціх. Іліко спаў. Дождж шумеў над маленькім сяленнем. Над хатамі ў начной цемры хісталіся гнуткія таполі. Дождж грымеў над неабсяжнымі прасторамі дрыгвяной калхідскай нізіны. Тысячы тон вады нізрынуліся ў гэтую ноч на зямлю і магутная рака Рыон вынесла з берагоў свае мутныя, бурныя воды. На возеры Палеостомі хадзілі пеністыя высокія хвалі, гучна біў у берагі морскі прыбой, разліліся Інгур і Капарча, напоўніліся і выйшлі на нізіну шматлікія прытокі Рыона і нават здрадніцкая і страшная Кораці, рака без плыні, праўдзівей плывучая пагібельная дрыгва, зашумела ў гэтую ноч.

Па вуліцы маленькага сялення імчалі шумныя ручаі. Над хатамі хісталіся ў цёплай вадзяністай цемрадзі стройныя таполі. Усюды спалі. Толькі ў вакне Арцёма Коркія мігцеў агеньчык.

Назаўтра раніцою дождж сціх. Стала душна як толькі ўзышло сонца. Туман не разыходзіўся, бо не было ветру, а гусцеў, бо сонца грэла ўсё мацней. Балотныя абшары дыхалі туманам, ён узнімаўся ўсё вышэй і вершаліны тапаляў зануралася ў ім. Скрозь па ўзгорку сялення звінелі мутныя ручаі.

Іліко і Вано прачнуліся рана, на ўсходзе сонца. Першая думка Іліко была аб сваім доме, аб учарайшых падзеях. У пакоі нікога не было акрамя старой, якая перамывала пасуду і нешта гаварыла пра сябе, відаць, нездаволеная.

— Пойдзем у мой дом, Вано,—сказаў Іліко. Трэба аглядзець гаспадарку. Куды пайшоў дзядзька Арцём, бабуля Коркія?

Старая нічога не адказала і не спыніла хлапцоў, калі яны выходзілі.

— Ого!—весела закрычаў Вано, калі яны вышлі на ганак.— Паспрабуй пераскочыць без разбегу. Ну?

Ён скочыў і апынуўся на тым баку канавы. Іліко скочыў гэтак-жа, хаця можна было перайсці і праз масток. Кетэ, якая карміла курэй каля хаты, моўчкі глянула на хлапцоў і адвярнулася ў другі бок. На дзвярах дома Іліко вісеў замок.

— Гэта не мой замок,—сказаў Іліко, націскаючы на слова „мой“,—мой замок меншы.

— Гэта наш замок,—адказаў Вано. Ён не мог сказаць „мой“ і зайздросціў Іліко, самастойнаму гаспадару. Яны зазірнулі ў вакно. Усё было ў парадку, толькі Іліко здалося, што на стале павінен быў яшчэ ляжаць ладны кавалак пірага, які заставаўся пасля памінак. Але зрэшты, Іліко добра не памятаў, ці ляжаў там хлеб учора ўвечары. Магчыма ён і сам яго з'еў. Хлапцы пакруціліся ля вакна, потым Іліко крыкнуў да Кетэ:

— Гэта вы, цётка Кетэ, замкнулі на замок дзверы майго дому?

Кетэ нездаволена махнула рукой і нічога не адказала.

— У мяне там на стале кавалак хлеба ляжаў...—сказаў Іліко.

— Сціхні!—крыкнула Кетэ.—Ідзі да нас, будзе табе чаго есці... Бяда з гэтымі малымі! Вано! Дахаты!

Стройная Кетэ пераскочыла канаву яшчэ больш спрытна, чым хлапцы і злавіла абодвых, перш чым яны паспелі перабрацца праз пляцень у агарод. Яна азірнулася. Нікога не было на вуліцы, ды калі хто і быў, нельга было ўбачыць за туманам.

— Мы хочам ісці ў балота на рыбу...—апраўдваючыся сказаў Іліко.—Там быў яшчэ кавалак „мчадзі“... Мы-б яго ўзялі з сабой.

Вано маўчаў, стараючыся вырвацца з рук Кетэ. Такім чынам абодвы апынуліся ў хаце.

## II

Па ўсёй нізіне Калхіды ад Кабулет да Сухумі, на ўсіх гэтых неабсяжных прасторах балот ляжаць старадаўнія курганы. Усяго іх налічваюць да чатырохсот. Яны ўзвышаюцца над зараслямі трысця і ольхі вялізнымі буграмі. Амаль кожны курган пакрыты раслінасцю: шыпшыннікам, крушынай і ольхай, за якія ахвотна чапляюцца жывучыя парасткі ліан. На самай вяршыні кургана—буйнейшыя пароды дрэў, пераважна букаў. Бук добра расце ў парнай цеплыні Калхіды, яго карэнні глыбока ўвайшлі ў старадаўную глебу курганоў і сям'я магутных дрэў высока ўзнімае свае вершаліны над балотамі і цёмная яркая зеляніна вабіць вока таго, хто заблукаўся ў небяспечных зараслях трысця, у багністым гушчары спавітых ліанамі хмызнякоў. Але дайсці да кургана не менш небяспечна, чым пераскокваць праз багны ці перабірацца праз іх па гнуткай тонкай жэрдцы. Курган акружаны ровам, іншыя з іх, нават двума. Іръвы гэтыя шырокія, глыбіня іх мераецца сажнямі і замаскоўвае гэтую глыбіню тонкі пласт прэлага імху, на якім зыбаецца кволае трысцё. І чалавек, што пасля многіх гадзін небяспечнага падарожжа, ахоплены нестрыманым жаданнем хоць мінуту адчуваць пад сваёй нагою цвёрды грунт, можа лёгка загінуць у глыбокім іръве, варта яму толькі на момант страціць асцярожнасць. Ён можа загінуць у двух кроках ад кургана, ад цвёрдай зямлі, ад гасціннай зялёнай засені, што абяцала адпачынак. І ніхто не прыйдзе яму на дапамогу ў гэтых жудкіх дрыгвяных абшарах, дзе на сотні вёрст хмызняк, трысцё, атрутны туман, здрадная дрыгва, нязмераныя багны, хмары камароў над стаячымі рэчкамі і цвілымі канавамі, жоўты сон адвеч-

ных балот і над усім—палаючае сонца. Ён загіне, усплыве мох над ім, заплыве дрыгва і зноў будзе шапацець трысцё, гойдаючыся ў засені высокіх букаў, што ўзраслі на вяршыні вялізнага кургана.

... Хто насыпаў гэтыя курганы, што ляжаць па ўсёй туманнай нізіне Калхіды? Якія народы жылі тут, дзе цяпер не можа ступіць нага чалавека, дзе няма і жмені цвёрдай зямлі, акрамя гэтых-жа кургаоў.

„У народаў, што жывуць на Фазісе, краіна балоцістая, гарачая, лясістая і поўная вільгаці“.

Так запісаў старадаўні вучоны Гіпакрат. Ён вандраваў па гэтай краіне, ён прайшоў па топкіх берагах Рыона, калі яшчэ гэту бурную раку звалі—Фазіс, і ад тае пары, прайшлі тысячагоддзі. Ці настолькі балацістай была гэтая краіна ў часы Гіпакрата? Мусіць не, бо адкуль-жа маглі ўзяць зямлю будаўнікі старых курганоў, калі над цвёрдым грунтам многасажнёвы пласт торфу ды плывучай дрыгвы! Не, пры такіх умовах, тут не можа існаваць ні адзін народ і тут на сотні кілометраў нікога няма. Толькі на ўзбярэжжы балот ляжаць рэдкія, закінутыя на маленькія астраўкі сяленні цярплівых і працавітых мінгрэлаў. Гэтая мёртвая пространь-агромністы рассаднік малярыі, тэрыторыя заразы і смерці. Тут няма нікога акрамя шакалаў і дробных вывадкаў звяроў, што гняздзяцца па курганах. Не, мусіць не так было тут, у далёкія часы Гіпакрата... „краіна балоцістая, гарачая, лясістая і поўная вільгаці“.

Гарачая... Поўная вільгаці... Які дзівосны сад квітнеў-бы тут, каб рука чалавека адняла воды горных рэк, што затапляюць нізіну, каб адступіла вада і зніклі балоты і ў тлустую цёплую глебу, што адпачывала тысячагоддзі, пяшчотная рука чалавека ўкапала маладыя парасткі новых раслін! Тады-б ты ўстаў, Гіпакрат, з попелу вякоў, і прайшоў-бы праз краіну гарачую і поўную вільгаці, праз цудоўны сад, паўз берагі старадаўняга Фазіса! Што-б напісаў ты, Гіпакрат, на пажоўклых аркушах сваіх манускрыптаў!

Так думаў чалавек, прабіраючыся праз зараслі хмызнякоў. Калючыя шыпы ліан ранілі яго рукі і ірвалі вопратку. Ногі, абутыя ў высокія цяжкія боты, коўзаліся па карэннях і вязлі ў дрыгве. Чалавек па выгляду, быў сярэдняга веку, яго сухі твар меў энергічны выгляд, дзякуючы двум рэзкім маршчынам, што ляглі ад носу да кутоў падціснутых вуснаў. Гарбаты тонкі нос падкрэсліваў рашучасць характару гэтага чалавека і толькі ў шэрых вачах яго жыло мяккае святло лятуцення і змякчала зімныя рысы яго твару. Апрануты ён быў у скураную, пашарпаную куртку, падпяразаны пантранташам, за плячыма была вялікая паходная сумка, на рэмні вісела стрэльба і ў руцэ трымаў ён даўгі, арыгінальнай формы курдскі ятаган. Ім ён працярэбліваў дарогу ў гушчары сшытых калючымі ліанамі хмызнякоў.

Не гледзячы на такія цяжкасці падарожжа, чалавек не аддаваў увагі навакольнаму, занураны ў свае думкі. Ён спрытна перабіраўся з купіны на купіну, пераскокваў праз багны, у пару хапаўся вольнай рукой за галлё кустоў і, выбраўшыся з небяспекі, ішоў далей. Дамаская сталь ятагана блішчэла ў зараслях, распадаліся спляценні

ліан і чалавек паглыбляўся ў гушчар, ступаючы размерана цвёрда, інстынктыўна ўгадваючы небяспеку і механічна ўнікаючы яе.

Следам за ім ішоў пажылы мінгрэл у шырокім войлачным капялюшы. Ён быў невялікага росту, і першае, што кідалася ў вочы—гэта яго шырокі капялюш з абвіслымі палямі. З-пад гэтага капялюша выглядала клінаватая сівая бародка і канцы сівых вусаў. Ён нёс за плячыма жоўтую паліраваную скрынку, з боку ў яго была сумка і ў руках стрэльба. Ён ледзь паспяшаў за першым, які расчышчаў дарогу і даганяў яго толькі тады, калі яны трапялі ў асабліва густыя зараслі і больш работы было ятагану.

І цяпер здарылася тое самае. Белыя дробныя кветкі ліан суцэльным дываном звісалі з кустоў, спадаючы да самай зямлі. Можна было здалёку падумаць, што нехта знарок прынёс гэты, свежавытканы ў кветкі пахучы дыван і паслаў яго на кустах нізкарослай ольхі, шыпшынніку і крушыны, каб хаця крыху аздобіць мёртвую жаўцізну балота, на якім—толькі пыльныя кісці трысця і сумная шэрань гінучых параснікоў. Але пад гэтым дыванам былі шыпы і цвёрдае, як крэмень, дрэва ліан і гэты дыван загараджваў шлях людзям, што ішлі да сэрца вялікіх балот.

— ... Што-б напісаў ты, Гіпакрат на пажоўклых аркушах сваіх манускрыптаў!

Распаліся апошнія вузлы калючых спляценняў, яшчэ раз бліснула сталь і калючая перашкода была прарвана. Наперадзе ляжала роўная прастрань жоўтае травы і воддалі гэткія-ж зараслі трысця. Направа ўзнімалася зялёнае ўзгор'е вялікага кургана. Гэта быў оазіс у пагібельнай пустэльні балот.

— Батоно!*)—учуў чалавек голас.—Вы загадалі тут спыніцца.

— Я цябе прасіў, Тапурыя,—нездаволена сказаў чалавек.—Я колькі разоў прасіў цябе, не зваць мяне „батоно". Мяне завуць Андрэй Міхайлавіч.

Тапурыя ўсміхнуўся.

— Я стары чалавек і гэта ўжо такая прывычка. Я не магу добра сказаць ваша імя і блытаюся. Дазвольце мне зваць вас „батоно". Я буду казаць „батоно", а думаць буду пра вас інакш, бо вы добры чалавек. Для маёй старой галавы імя ваша зацяжкае... Дык вось, батоно, направа бачыце курган. Вы тут загадалі спыніцца. А далей, крыху ўлева—ёсць другі.

Андрэй Міхайлавіч глядзеў на вялікі курган. Над ім панавала вершаліна высокага дрэва, што выбілася ўгару раней за другіх і шырока раскінула магутнае галлё, пакрываючы іншыя.

— Добра! Адтуль можна шмат што ўбачыць,—са здавальненнем заўважыў сам сабе Андрэй Міхайлавіч і спытаў у Тапурыя, ці лёгка прайсці да кургана.

— Проста ісці нельга!—адказаў Тапурыя.—Трэба ісці паўз гэтыя кусты, яны ўвесь час будуць набліжацца да кургана і, за малым не даходзячы яго, пойдуць у бок. Паміж кустамі і курганам ёсць такая невялічкая канава, там ёсць даўнейшыя кладкі, мы іх адшукаем і пройдзем на курган. Гэтая канава, кажуць, даўнейшы

*) Батоно—пан.

раўчок вакол кургана для яго абароны. Гэта зрабілі даўнейшыя людзі.

Андрэй Міхайлавіч абцёр пот з твару і зняў сумку з плеч.

— Вось, што,—сказаў ён, падаючы сумку Тапурыя,—на курган пайду я адзін. А ты бяры наш правіянт, ідзі на левы курган, раскладзі там агонь, адпачні і рыхтуй абед. Я прыду да цябе праз дзве гадзіны, не больш. Давай інструмант.

Тапурыя заспрачаўся, але Андрэй Міхайлавіч амаль сілком адабраў ад яго скрынку з інструмантам.

— Небяспечна, батоно,—угаварваў Тапурыя.—Аднаму ісці туды небяспечна. Пасля дажджу ў канаве шмат вады і вы не знойдзеце кладку. Я пайду з вамі і так будзе спакайней. Калі вы хочаце, я зраблю вам абед раней, чым вы скончыце работу.

— Тапурыя,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Мы дарэмна трацім час і калі будзем спрачацца далей, альбо рассядацца за абедам на першым прывале, то не зробім і паловы таго, што патрэбна. Мы змарнавалі палову дня, а прайшлі ад берагу ўсяго тры вярсты.

— Таму, батоно, што вы не захацелі ісці бліжэйшай дарогай, а загадалі ісці праз зараслі, па канаве. А ў ёй толькі адны жабы.

— Для цябе гэта канава з жабамі, а я, напрыклад думаю, што гэта старадаўні канал. Я хачу паглядзець на яго з кургана. Не будзем спрачацца, Тапурыя... Не ўпершыню мне хадзіць на балоце. Ідзі на левы курган і чакай мяне. Калі я стрэлю, зараз-жа адказвай і мы сыйдземся, калі я стрэлю два разы, спяшайся да мяне. А то будзем адзін аднаму на пяты ступаць,—мала будзе карысці.

Паказваючы, што размова скончана, ён закінуў за плечы скрынку, узяў стрэльбу і ступіў наперад. Тапурыя ўздыхнуў, пазіраючы яму ўслед.

— Стары я стаў,—паківаў ёй галавой.—Я за маладым не паспяшаю, таму ён і не хоча ісці са мной. Тапурыя ведае, якія могуць быць з балотамі жарты.

Андрэй Міхайлавіч азірнуўся і памахаў яму рукой.

— Добра сцежкі пільнуйцеся, батоно!—крыкнуў Тапурыя.—Не памыліцеся кладкай!

Андрэй Міхайлавіч хутка ішоў і неўзабаве знік у зараслі.

Тапурыя ўздыхнуў і падаўся ў свой бок. Ішоў ён не так хутка, як Андрэй Міхайлавіч, але гэта была своеасаблівая лёгкая хада. Здавалася, што ідучы такім спосабам, чалавек не толькі здолее перайсці самую зыбкую дрыгву, але ўтрымаецца і на вадзе.

Андрэй Міхайлавіч хутка дабраўся да кургана. Ён стаяў за некалькі крокаў ад канавы і аглядаў курган. Ён вырашыў, што найлепш было-б перайсці там, дзе спад кургана не такі круты, дзе ён найбольш апоўз у балота. Па меркаваннях Андрэя Міхайлавіча там быў тонкі пласт торфу. На гэта паказвала і тое, што замест лёгкага трысця, там густа расла цёмназялёная, балотная трава з шырокім лісцем. Гэтая трава мае моцныя карэнні і патрабуе моцнай глебы. Але дзе кладка? І Андрэй Міхайлавіч не без падставы вырашыў, што іменна там павінна быць і кладка. Ён прайшоў некалькі крокаў, ступаючы вельмі асцярожна на зыбкай паверхні. На-

вокал хісталася рэдкае трысцё. Вада ў канаве была чорная і па таму, як калышыцца на яе паверхні лісцё нейкіх вадзяных траў, Андрэй Міхайлавіч пазнаў, што канава мае ўласную плынь і гэта шмат што сказала яму. Тут-жа ён убачыў і кладку, сярэдняе таўшчыні жэрдзь. Андрэй Міхайлавіч цяпер ішоў ужо так асцярожна, што яму самому здавалася, нібы найбольшы цяжар яго цела апіраецца на паветра. Перад тым, як ступіць на кладку, ён яшчэ раз глянуў на курган, мераючы адлегласць. І тады...

І тады бераг, на якім стаяў чалавек, адарваўся разам з трысцём, усё паплыло ў бок, уздрыгнулі водарaслі, хліпнула гразь і чорная вада канавы і ўсё жоўтае балота кінулася на чалавека, устала дыбам, недзе мільгнуў кавалак блакітнага неба і лёгкае белае воблака слізганула па ім і знікла...

... што-б напісаў ты, Гіпакрат...

* * *

Вано стаяў на купіне так, што можна было-б сказаць: зрабіў „стойку“. Ён стаяў на адной назе, нахіліўшыся тулавам наперад, у правай руцэ трымаў маленькія восці, левай злёгку балансаваў у паветры і чорныя вочы яго з выразам незвычайнай увагі уперліся ў адно месца. У гэтай позе нечалавечага напружання, Вано стаяў ужо добрую хвіліну. Зусім недалёка ад яго варушылася чырвона-залацістае пяро і сіні хрыбет сазана. Рыба была настолькі вялікая, што не магла схаваць у вадзе ўсё сваё адкормленае тулава. Зрэдку пашлёпваючы хвастом, сазан раскашаваў у цяплыні, сярод балотных траў і не пасоўваўся наперад ні на кроплю, як бы разумеючы, што нічога добрага з гэтага не атрымаецца.

Іліко таксама стаяў на адной назе, хаця ў гэтым не было ніякай патрэбы, бо ён быў за дзесяць крокаў ад Вано і яшчэ далей ад сазана. Але ён не мог больш цярпець і чакаць. І так яму было лягчэй. Раптам Іліко азірнуўся і паляўнічая поза яго змянілася на звычайную. Толькі насцярожанасць і ўвага не пакінула яго твару.

— Вано!

Вано не адказваў. Ён не чуў. Уся яго ўвага была накіравана на чырвона-залацістае пяро, што нарэшце зрушылася з месца.

— Вано! Нехта крычыць на балоце!

Але ў гэты-ж момант Вано ўдарыў восцямі, страціў роўнавагу і пляснуў з купіны ў ваду. Вада закіпела і забурліла; Іліко ўбачыў задраныя ногі Вано, потым цераз яго перакінуўся сазан. Нельга было зразумець, хто каго злавіў. Іліко, не разважаючы далей, кінуўся на дапамогу Вано.

Ён рынуў на сазана гэтак-жа, як і Вано, жыватом і параніў руку аб восці. Тузаніна пачалася з новай сілай. Дужая рыба кідалася ва ўсе бакі, натапырыўшы свае шырокія пер'і. Закіпела вада і то адзін, то другі з хлапцоў, бліскаючы пяткамі, куляўся цераз галаву. Нарэшце сазан, у якога ў хрыбце сядзелі маленькія, вострыя восці Вано, знямогся і тады Іліко, спрытна ўскочыўшы на ногі, схапіў свае восці і ўдарам пад жабры дакончыў рыбіну.

— Папаўся, чорнагубы!

Рыбіна, пабліскваючы буйнай лускай, ляжала на купіне. Яе хвост

і галава былі ў вадзе, цела было нерухомым і толькі залаціста-чырвоныя плаўнікі сударажна ўздрыгвалі. Пераможцы аціралі гразь са сваіх шчаслівых твараў.

— Папаўся, чорнагубы!—паўтарыў Іліко.

— Я забіў добрага сазана,—сплёўваючы сказаў Вано.—Ён будзе важыць пяць пудоў. Яго адной рукой не падняць...

— Як гэта ты забіў!—наёжыўся Іліко.—А я? Хто ўдарыў яго пад жабры!

— А я першы ўдарыў яго ў хрыбет. Я яго забіў, бо ўдарыў па хрыбце горш, чым пад жабры. Ты мне мог і не дапамагаць.

— Ты мяне клікаў!

— Гэта я так. Я мог і без цябе яго забіць. Раз я першы ўдарыў у хрыбет, то ўсе скажуць, што я забіў сазана. Нават Тапурыя скажа...

Тут Іліко ўспомніў, што нехта крычаў на балоце і клікаў, як здалося, Тапурыя. Але цяпер было не да таго.

— Калі ты будзеш хваліцца, што забіў сазана,—сказаў Іліко, сціскаючы кулакі,—то я ўсім скажу, што ты маніш! І тут не будзе пяць пудоў! Ты маніш! І я скажу яшчэ, што ты лазіў красці гуркі...

Але ён пахіснуўся і не дакончыў. Яго штурхануў плячом Вано.

— А я скажу ўсім,—крыкнуў Вано.—А я скажу, што ты баяўся злодзея, што ты баязлівец, а ў хаце нікога не было!

Вялікая крыўда ахапіла сэрца Іліко. Раптам ён успомніў пра бабулю і адчуў сябе зусім адзінокім. Ён усхліпнуў і слёзы паліліся з вачэй. Іліко нахіліўся, узяў свае восці і пабрыў прэч па балоце. Ён брыў па калена ў вадзе. Вано пастаяў, аглядаючы сазана і ён яму здаўся ўжо не такім прывабным, як раней і Вано падумаў аб тым, што не так ужо будзе і шкада, калі ён скажа, што злавілі рыбіну ўдвох. Вано стала ніякавата.

— Іліко!—крыкнуў ён услед таварышу, але змоўк не рады што азваўся.

Іліко стаяў на купіне зусім недалёка ад яго ў той-жа позе, у якой быў ён сам, калі цэліў у сазана. Вано замёр. Чакаць на гэты раз прышлося нядоўга. Іліко адвёў руку з восцямі і рынуў у ваду. Вано памчаў на дапамогу.

Праз некалькі часу хлапцы сядзелі побач на купіне.

— Мой будзе важыць пяць пудоў,—сказаў Вано.—А то і больш.

— А мой шэсць!—стаяў на сваім Іліко.—Мой большы за твайго.

Паспрачаўшыся, хлапцы пагадзіліся на тым, што сазан Вано мае вагу ў пяць пудоў, а сазан Іліко—пяць з паловай. Пасля гэтага абодва адчулі голад, бо яны выйшлі з дому раніцой, як толькі разьвеяўся туман, а цяпер сонца сыйшло ўжо з поўдня. І тут-жа выявілася, што хлеб і сыр падмоклі. Вано зажурыўся і сказаў, што трэба ісці дахаты, але Іліко знайшоў другое выйсце: ён прапанаваў пайсці на курган.

— Там ёсць запалкі, Стары Тапурыя, калі начуе на паляванні, кладзе іх у дупло, я ведаю дзе. Пойдзем, распалім агонь, высушым хлеб і пабегаем. Я табе пакажу гняздо.

Вано згадзіўся. Хлапцы пачапілі сазанаў папружкамі пад жабры, закінулі сваю „шматпудовую“ здабычу за плечы і пайшлі ў зараслі.



Недзе паблізу гаварылі. Але Андрэй Міхайлавіч не прыслухоўваўся. Ён глядзеў на белае кучаравае воблака, што павольна плыло высока ў чыстым блакіце. Яму здавалася, што некалі ён бачыў іменна такое празрыстае воблака, гэта было даўно, і ён не разумеў, чаму гэта засталося ў памяці. Андрэй Міхайлавіч раскрыў вочы і раптам успомніў: бераг адарваўся разам з трысцём, усё паплыло ўбок, уздрыгнулі водарасці, хліпнула дрыгва і чорная вада канавы кінулася на яго, недзе мільгнуў кавалак блакітнага неба, воблачка слізнула па ім і знікла...

Цяпер яно плыве павольна, ціш і спакой навокал і недзе блізка гавораць людзі. Значыць, ён ратаваўся. І значыць, гэтыя людзі яго ратавалі, бо ён сам ніколі не выбраўся-б адтуль. Ён памятае, як хапаючыся за слізкую жэрдку, моцна ударыўся галавой аб вострый кут цяжкай скрынкі з інструментам, як рука заблыталася ў водарасцях і ён раптоўна страціў сілы. Ён памятае як клікаў Тапурыя, памятае, што ў апошні момант прышла да яго спакойная думка, адрывак фразы, якая так падабалася яму: „што-б напісаў ты, Гіпократ“... і ўсё.

Яго ратавалі. Але што гэта за людзі і адкуль яны ўзяліся? Калі ён ішоў, то не бачыў нікога, а яны, мусіць, былі блізка, бо інакш ён не застаўся-б жывым. Андрэй Міхайлавіч хацеў прыўзняцца, але не здолеў. Тады ён павярнуў галаву і ўбачыў людзей. Іх было трое, усе мужчыны. Яны стаялі пад дрэвам недалёка, але разглядзець іх як след было цяжка, бо на гэтай маленькай паляне расла высокая трава: Андрэй Міхайлавіч бачыў усё, як праз сіта і таму постаці людзей былі невыразнымі.

Усё-ж такі адзін з іх выдаўся знаёмым. Здавалася, што гэта Коркія, якога Андрэй Міхайлавіч добра ведаў яшчэ з мінулага году. Але чалавек, як бы адчуўшы на сабе дапытлівы погляд, адвярнуўся, Андрэй Міхайлавіч прыслухаўся. Гаварылі на грузінскай мове, якую Андрэй Міхайлавіч ведаў.

— Гэта інжынер,—сказаў адзін.—Я яго летась вадзіў па балотах. Ён мерае іх і хоча іх высушыць. Сёння ён выйшаў раніцой з Тапурыя, але старога нідзе няма. Можа і з ім што здарылася?

Цяпер Андрэй Міхайлавіч быў упэўнены, што гэта Коркія.

— Не думаю, каб Тапурыя увяз як гэты пан,—адказаў адзін з незнаёмых.—Я думаю, што стары можа з'явіцца сюды кожную хвіліну і ад гэтага мы выйграем мала, бо Тапурыя, вы самі кажаце, слабаваты на язык. Я думаю, што нам трэба выбірацца адгэтуль, пакуль пан яшчэ не пры памяці, бо гэта яшчэ горш, чым язык Тапурыя.

— Ён добры чалавек,—сказаў той, што падобны быў да Коркія.—Я ведаю яго.

— Ён можа быць і добрым, але нам з ім не па дарозе.

— Пакідаць непрытомнага нельга,—сказаў трэці, што маўчаў дагэтуль. У яго быў малады голас.—Без дапамогі ён можа памерці.

— Ён дыхае і пульс б'ецца добра. Наша дапамога яму ўжо не патрэбна.

— А калі ён ачуняе, ды зноў трапіць у багну? Ён-жа адзін не выберацца адгэтуль!—стаяў на сваім малады.

— Прыдзе Тапурыя.

— А калі Тапурыя не прыдзе? Можа яны разышліся і інжынер заблукаўся на балоце?

Старэйшы, відаць, знецярпліўіўся.

— Слухай, Бесо! Што для нас больш важна: прыгоды і здароўе нейкага пана ці заданне камітэта? То ты мокнеш на дажджы і не хочаш ісці пад дах, залішне асцерагаючыся неразумнага дзіцяці, то хочаш завесці знаёмства з чалавекам, ад якога ўсяго можна чакаць!

На гэта маладзейшы нічога не сказаў.

Андрэй Міхайлавіч зразумеў, нарэшце, з кім мае справу і як трэба надалей трымацца з гэтымі людзьмі, каб хаця ў сотай долі аддзякаваць ім за свой ратунак. Ён разумеў, што людзі непакояцца і што ў іх становішчы гэта немалаважная рэч і ён вырашыў зрабіць усё, каб яны з лёгкім сэрцам пайшлі адгэтуль, не ўспамінаючы гісторыю яго ратунку, як падазроную непрыемнасць. Як толькі ён убачыў, што ўсе ўтрох ідуць да яго, ён паспрабаваў устаць. Гэта ўдалося лягчэй, чым раней, але ў галаве быў цяжар і таму ён пабаяўся стаць на ногі. Ён убачыў у траве стрэльбу і запэцканую ў гразі скрынку з інструмантам. Людзі спыніліся каля яго.

— Добры дзень, дарагі Коркія!—ветліва сказаў па-расійску Андрэй Міхайлавіч, абмінаючы дапытлівыя погляды двух,—са мной здарылася няшчасце і, як можна думаць, вы, сябры, ратавалі мяне?

Ён з радасснай і непрытворнай усмешкай паглядзеў проста ў вочы высокаму, які стаяў побач з Коркія.

— Я не магу знайсці слоў удзячнасці і разумею, што няма такой узнагароды, якая магла-б быць годнай вашай адвагі і самаадданасці.

Ён гаварыў і далей у гэткім-жа высокім стылі і бачыў, што паступова знікае ў цёмных зрэнках высокага чалавека аганёк скрытай насцярожанасці. Закончыўшы свае высокалётныя выказванні, Андрэй Міхайлавіч выняў з унутранае кішэні блокнот, адшукаў больш чыстую старонку і, надпісваючы на вуглу паперкі свой адрас, сказаў:

— Я не маю чым аддзякаваць вас, дарагія сябры мае, і, таму, прашу кожнага з вас, як толькі здарыцца выпадак, зайсці ў Тбілісі па гэтаму адрасу. Мой дом,—заўсёды для вас адкрыты і, у выпадку патрэбы, я сам да вашых паслуг.

Ён падаў паперку старэйшаму. Той узяў яе, кінуў хуткі погляд на напісанае і, як здалося Андрэю Міхайлавічу, застаўся задаволеным. Ва ўсякім-жа разе твар, які выражаў дагэтуль востры неспакой—змякчэў. Гэта быў чалавек у трыццаціпяцігадовым узросце, высокі, шырокаплечы і крыху сутулаваты. Больш нічога Андрэй Міхайлавіч не заўважыў, бо стараўся як мага менш прыглядацца да гэтага насцярожанага чалавека. Другі, маладзейшы, яго звалі Бесо, стаяў увесь час у баку, у размову не ўступаў

Андрэй Міхайлавіч прыкмеціў толькі, што ён невялікага ўзросту,

і круглы твар яго аброс маладой кучаравай барадкай. Усе яны былі апрануты як і Коркія, у звычайнае адзенне мінгрэльскага селяніна: цёмныя суконныя світкі, гэткія-ж нагавіцы і войлачныя шырокаполыя капялюшы. Чалавек, якому Андрэй Міхайлавіч падаў паперку, акуратна склаў яе і паклаў у кішэню.

— Мы вельмі рады,—сказаў ён няправільнай расійскай мовай, але, не губляючы стыля Андрэя Міхайлавіча,—мы рады, што няшчасны выпадак не меў непрыемных вынікаў і што гэта дало нам магчымасць мець такое знатнае знаёмства і чуць словы вашае ўдзячнасці. Мы хаця і бедныя сяляне, але мы просім вас не думаць аб якой-бы то ні было ўзнагародзе. Ратаваць чалавека ад пагібелі—закон, паказаны богам, ён вышэйшы за ўсе багацці чалавека. І гэта не змерыць грашыма. Калі вы адчуваеце сябе лепш, мы правядзем вас на кладку, на якую-б вы не трапілі, ідучы сюды, і вывядзем на сцежку. Мы спяшаемся да хворага сваяка і таму пайшлі балотам, бліжкай дарогай.

І ён пакланіўся, паказваючы гэтым, што ўсё патрэбнае ўжо выказана і час ісці.

— Вялікае дзякуй яшчэ раз,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Быў-бы рады аддзякаваць не на словах. Ісці яшчэ я не магу, але тут паблізу, на суседнім кургане, знаходзіцца мой праваднік Тапурыя. Я выклікаю яго стрэламі і ён неўзабаве прыдзе сюды. Мы з ім так умовіліся.

Нарэшце трое накіраваліся ў гушчар. Цяпер Андрэй Міхайлавіч добра разглядзеў і трэцяга маладзейшага. У яго быў добрадушны твар і крыху здзіўленыя і хітраватыя вочы. Ён вельмі адрозніваўся ад свайго панурага таварыша і выглядам і жвавасцю рухаў.

Застаўшыся адзін, Андрэй Міхайлавіч падабраўся па траве да сваёй стрэльбы. Ён цяпер адчуваў яшчэ млявы цяжар ва ўсім целе, як бы змяшалася з крывёй зімная вада балотнае глыбіні. Андрэй Міхайлавіч крысом курткі ацёр ствалы, потым адамкнуў ложа і выняў з сумкі складаны шомпал. За работай Андрэй Міхайлавіч адчуў сябе лепш.

* * *

Прабраўшыся скрозь зараслі шыпшыны, трое дабраліся да кладкі і тут спыніліся. Коркія зірнуў на Бесо. Бесо на свайго таварыша. Усе трое адразу падаліся назад і схаваліся за кусты. Па балоце, пераскокваючы з купіны на купіну, ішлі да кургана Іліко і Вано.

— Калі яны знойдуць нас, гэта бяда,—сказаў Коркія.

— Трэба схавацца,—шапнуў Бесо.

— Пачакаем,—адказаў яго таварыш,—можа яны не знойдуць кладкі.

— Знойдуць,—упэўнена сказаў Коркія.—Яны выраслі на гэтым балоце. Што рабіць?

— Трэба разысціся па аднаму,—запрапанаваў Бесо.—І калі яны ўзбяруцца на курган, мы сойдземся да кладкі зноў.

— Яны могуць нас убачыць з кургана, калі пойдзем па ба-

лоце,—сказаў Коркія. Мы трацім час... І пры гэтым хутка прыдзе Тапурыя.

Трэці аглянуўся на курган, як-бы чакаючы аднекуль дапамогі і паўтарыў:

— Трэба пачакаць.

— Дык чаго чакаць, Сандро!—знецярпліўіўся Бесо.—Чаго мы дачакаемся? Нам—нічога, але бацьку пасля будзе бяды.

Коркія маўчаў і торгаў свой абвіслы пасівелы вус.

Хлапцы набліжаліся.

* * *

— Але-ж і цяжкі мой сазан,—сказаў Іліко.—У мяне многа сілы і то цяжка несці. Ён важыць шэсць пудоў. Слухай, Вано! Ты ведаеш, на гэтым кургане раней жылі разбойнікі... Мне расказваў стары Тапурыя. Ты баішся разбойнікаў, Вано?

— Чаго мне іх баяцца?—адказаў Вано.—Я іх не баюся. Раз Кетэ пакінула на агародзе сваю хустку і папрасіла мяне, каб я прынёс, бо яна баялася ісці ўвечары. Я пайшоў, а на агародзе былі шакалы. Я прагнаў іх, знайшоў хустку і прынёс дахаты.

— На агароды шакалы не прыходзяць. Ты маніш, Вано.

— Прыходзяць.

— Не прыходзяць! Я ўсім скажу, што ты зманіў!

Хлапцы спыніліся, паглядаючы адзін на аднаго.

— Твой сазан тухлы!—крыкнуў Вано.—Ты яго здохлага злавіў і ён не важыць шэсць пудоў!

Іліко густа пачырванеў.

— Твой сазан дохлы!—узрадавана паўтарыў Вано.—Я гэта адразу пазнаў, бо ён халодны! А мой сазан, цёплы, як чалавек!

— А чаму ён трапятаўся?—дрыжачым голасам спытаў Іліко.— Я цябе ўдару кулаком, свіння!

— І пра разбойнікаў ты маніш!—прапускаючы міма вушэй пытанне Іліко, крыкнуў Вано.—Там ніякіх разбойнікаў няма! Я ўсім скажу...

Іліко сціснуў кулак і зрабіў крок да Вано. Той скінуў рыбіну з пляча і падрыхтаваўся да абароны.

— Няма разбойнікаў!—крыкнуў Вано.—Маніш!

І раптам, абвяргаючы яго словы, з кургана грымнуў стрэл. Адважны Вано вытрашчыў вочы, схапіўся за жывот і прысеў з разяўленым ротам. Іліко збялеў. Гул пакаціўся па балоце і не сціхла яшчэ рэха ў дальніх зараслях, як з кургана грымнула яшчэ раз і ў той-жа момант, моцны працяглы свіст рэзнуў паветра.

— Ай!—крыкнуў Вано,—ай-ай!

Ён схапіў папружку і кінуўся бегчы што сілы. Ён валок за сабою рыбіну і, не зважаючы на небяспечныя багны, бег так хутка, як толькі маглі бегчы яго босыя ногі. Іліко імчаў следам. Хлапцы беглі без аглядкі, часта спатыкаючыся і падаючы. Пазіраючы на спешнае адступленне адважных паляўнічых, Коркія, Сандро і Бесо пакладаліся са смеху. Калі хлапцы дасяглі зарасляў, Сандро сказаў:

— Я гаварыў вам, што трэба пачакаць!

Яны перабраліся праз кладку і хутка на кургане застаўся адзін Андрэй Міхайлавіч, які, сам таго не ведаючы, зрабіў першую маленькую паслугу людзям, што ратавалі яго жыццё. Андрэй Міхайлавіч ляжаў на маленькай паляне ў зялёнай засені букаў. Моцна пахлі прыгрэтыя гарачым паўднёвым сонцам высокія травы. У паветры насіліся матылі, звінелі дзікія пчолы, шапацела лісцё разамлелых у цяплыні старых дрэў. Навокал прасціраліся вялікія балоты, яны дыхалі атрутнаю парнаю цяплынёй, але пар гнілізны не даходзіў сюды, у зялёную засень букаў, у гушчар квітнеючай шыпшыны і ліан.

Андрэй Міхайлавіч адпачываў, перажываючы непаўторную радасць чалавека, што шчасліва ўнікнуў неспадзяванай, і, як здавалася, немінучай смерці. І ён думаў аб тых людзях, што ратавалі яго і аб тых іх справах, аб якіх ён толькі мог здагадвацца. І ён шчыра жадаў ім поспехаў.

## III

Быў ціхі вечар, калі тры падарожнікі падышлі балотамі да ўзмор'я. Ззаду застаўся доўгі і небяспечны шлях: пераправа праз гнілыя стаячыя рэкі, праз небяспечныя багны, дзе на кожным кроку чакае пагібель; засталіся ззаду несканчоныя зараслі трысця і хмызнякоў, густыя лясы, спавітыя ліанамі і хмелем. Коркія прабіраўся цяпер паўз бераг нешырокай рэчкі. Наперадзе ён бачыў роўную гладзь мора і над ім палымнеючы пурпур зары. Блакітнае неба цямнела. Водбліскі зары адбіваліся на зялёнай паверхні мора і трапяталі на іх, расцякаючыся жывым агнём і загасалі павольна, сустракаючы ноч з усходу, дзе ўспыхнулі цмяныя зоры і разгараліся ўсё ясней.

Над балотамі ўсплылі туманы. Хмары камароў звінелі ў паветры, прарэзліва рэхталі жабы і быстрыя агеньчыкі першых светлякоў мігцелі там і тут. Трое выйшлі з балот на морскі бераг, калі ўжо сцямнела зусім.

Было ціха. Спакойныя хвалі лянівa ўспаўзалі на пясок і адыходзілі назад, пакідаючы белую істужку лёгкай пены. Свежы вецер зрэдку павяваў з морскай начной далі. Стомлены Коркія спыніўся і адразу-ж сеў на пясок.

— Вось я і правёў вас, хлапцы,—сказаў ён, аціраючы пот,— не ў мае гады гэткія вандраванні.

Яму ніхто не адказваў. Сандро і Бесо ўглядаліся ў морскую цёмную далеч.

— Усё ў парадку,—сказаў упэўнена Сандро.

— Бачу,—пацвердзіў Бесо.—Трэба даць сігнал.

Сандро здабыў запалкі. Як толькі успыхнуў агеньчык, з мора пачуўся заглушаемы шумам хваль, працяглы свіст.

— Наш!—узрадавана сказаў Сандро.

Коркія устаў, углядаючыся ў цемру, але нічога не мог убачыць. Тады ён падышоў да Бесо і ўзяў яго за руку. Яму не хацелася выказаць залішнюю чуласць і цяжка было справіцца з тымі пачуццямі, што ахапілі яго ў гэты момант.

— Памятай, Бесо!—сказаў ён стараючыся быць спакойным і нават суровым.—Памятай, што дзеці маюць абавязкі да сваіх бацькоў. Бедны Міха наш—калека. Вано—яшчэ дзіця. Ты вырвеш нам сэрца, калі не будзеш асцерагацца, мы са старой не перажывём цябе. Я ў твае справы не ўмешваюся, як можна бачыць, у цябе розум большы, чым у мяне. Але ты павінен сябе пашкадаваць для нас... Ты бачыш мае гады і мае сілы...

Гаворачы так, Коркія сам разумеў, што гэта ні ў чым не дапаможа. Ён ведаў характар Бесо, які нагадваў яго самога ў маладосці. Ён ведаў, што з-за гэтых бацькоўскіх слоў, Бесо не пакіне тварышоў, не пакіне сваіх спраў і не пойдзе з ім назад, у старое дзедаўскае жыццё. Наадварот, стары ведаў, што зараз прыдзе з мора човен і сын пакіне яго самога тут, на беразе, і паедзе ў цёмную ноч насустрач сваёй невядомай будучыні і там можа сустрэць яго бяда, якая невядома адкуль і калі можа прыйсці і ад якой Арцём Коркія не здолее засцерагчы свайго любімага сына. Ад усяго гэтага яму хацелася плакаць слабымі старымі слязмі, але ён стараўся вытрымаць характар і выказаць яго ў спакойным і суровым тоне голаса і ў словах, якія ён гаварыў дарэмна і сам гэта ведаў.

— Цяпер цяжкія часы і каб я быў маладым, можа і я пакінуў-бы хату, але ўсё-такі ты павінен памятаць аб сваіх абавязках сына і берагчы сябе,—дакончыў Арцём Коркія.

— Мне вельмі шкада,—задумана сказаў Бесо.—Мне вельмі шкада, што я не мог як след паглядзець на Вано. Мне было смешна, калі напалоханыя хлапцы ўцякалі па балоце, але ў той-жа час і сумна, бо я не ведаў каторы з іх Вано. Я пакінуў іх абодвых паўзунамі, а цяпер выраслі добрыя хлапцы... Але, я не мог бачыць Вано, я не хацеў наклікаць на цябе бяду... Хлапец яшчэ малы, а дзіцячая галава—неразумная...

Бесо падумаў. Ён хацеў знайсці некалькі добрых і вясёлых слоў, каб уцешыць бацьку і супакоіць яго. Але гэтых слоў ён адшукаць чамусьці не мог. Замест гэтага ён бестурботна сказаў:

— Нічога са мной не здарыцца, бацька! Не бядуй!

Стары Коркія не адказаў, толькі глянуў на Сандро, што моўчкі стаяў воддаль.

— Гэй, на беразе!—данесся хрыплаваты голас з мора.—Прымайце канец!

Спіраль важкага канату са свістам развінулася, і рассякаючы паветра, упала на пясок, пад ногі Коркія. Усе ўтрох узяліся за канат, невялікі баркас раптам з'явіўся з цемры, яго лёгка вынесла на бераг гладкая хваля і мокры пясок заскрыпеў пад яго тупым носам. З баркасу выскачыў чалавек.

— Ну, хутчэй!—сказаў ён.—Маю два месцы першага класа да Батумі. Прашу паноў займаць каюты. Дайце хто-небудзь запалку. Мае падмоклі, бо пасля дажджу на моры было свежа. Хутчэй, кажу, паварачвайцеся. А гэта хто? А! Вельмі прыемна. Дайце запалкі!

Коркія убачыў шырокі твар з рудою плямай на шчацэ, паласатую майку, рыжы віхор, і аганёк загас. Бесо падышоў да бацькі і моцна абняў яго. Ён так і не знайшоў тых простых і вясёлых

слоў, якія патрэбна было сказаць на развітанне. Тое-ж самае адчуваў і стары Коркія. Яны развіталіся моўчкі. Арцём дапамог зрушыць баркас з берагу, чалавек у паласатай майцы ўскочыў нахаду і Коркія застаўся адзін. Глуха шумела спакойнае начное мора і на яго чорных прасторах дрыжэлі бледныя і цмяныя адценні ясных зор.

Коркія доўга стаяў на беразе задуманы і сумны. Так, наперадзе ў цёмнай прасторы мора плыве маленькі парусны баркас і там яго сын, Бесо. За плячыма, на многія версты, балотная глухамань, непраходныя зараслі, багны, курганы, трысцё, хмары камароў і маленькае сяленне, дзе яго дом і яго сям'я. Ён стаіць на рубяжы. Ззаду тое жыццё, што пражыў Арцём Коркія, наперадзе—у вольных ветрах мора, у шуме белапенных хваль—жыццё яго сына, Вісарыёна Коркія. Ён стаіць на рубяжы, на гэтай вузкай пясчанай касе, што служыць мяжой паміж морам і балотам. І можа лепш пражыць адну ноч у шуме ветру і хвалі, чым год у жоўтым балотным сне, можа лепш загінуць у такую ноч, чым дзесяткі год карпець з матыгай на вузкім маленькім участку гомі* і кукурузы?..

Доўга стаяў задуманы Арцём Коркія на пясчанай касе, што адмежавала мора ад балота і думаў і глядзеў у ноч. Потым ён успомніў, што трэба ісці адпачыць і назаўтра прабірацца дадому. Ён вырашыў заначаваць на плоскім кургане, які ён ведаў здаўна і ад якога было блізка адгэтуль.

І зноў занурыўся ў трысцё Арцём Коркія і над ім гулі камары, кружыліся агні светлякоў, пад нагамі хліпала цёплая дрыгва, навокал верашчэлі жабы і недзе наперадзе, мусіць на тым кургане, куды ён ішоў, працяжна выў агалцелы шакал.

Маленькае вогнішча дагасала. Над ім трапяталі палахлівыя начныя матылі, зяленавыя іскры светлякоў праносіліся ў цемры. Яны кружыліся ў сваім начным танцы, абмінаючы вогнішча, бо ў дрымотлівым святле яго загасалі іх цмяныя ліхтарыкі. Светлякі баяліся агню. Яны любілі змрок.

Арцём Коркія ляжаў пры вогнішчы. Ён не мог заснуць, хаця трэба было адпачыць перад цяжкай дарогай назад, праз балоты. Неадчэпныя думкі ішлі адна за адной, адганяючы сон са стомленых павек.

... Гэта было даўно, чатыры дзесяткі год таму назад. У маленькай мінгрэльскай вёсцы на ўзбярэжжы вялікай калхідскай нізіны пад вечар гарачага летняга дню, паміраў селянін Самсон Коркія. Каля яго ложка, падасланага саломай, сабралася радня і суседзі. Самсон Коркія трымаў за руку старэйшага сына і пятнаццацігадовы хлапец чуў, як халадзее рука бацькі, як з кожнай хвілінай астывае яго кроў, як падступае смерць. Жанчыны плакалі ціха, каб не патрывожыць спакой Самсона, твары мужчын былі пахмурнымі і яны стараліся не сустракацца поглядамі. Вачыма, поўнымі слёз, хлапчук глядзеў на жоўты, высушаны дашчэнту твар, які губляў свой звычайны, знаёмы выраз. Глыбока запалыя вочы былі за-

* Проса.

крыты. Так цягнулася доўга. І калі ўсе падумалі, што няма ўжо на свеце добрага суседа Самсона Коркія, калі ўзняўся плач і стогны і сын адышоў ад ложка, Самсон узняў руку і яна бяссільна апала. Але гэтага было досыць, каб усе сціхлі. І ў цішыні ўчулі ўсе:

— Ідзіце... Бяжыце адгэтуль... На сухое... На сухі бераг... новыя землі...

Гэта былі апошнія словы Самсона Коркія і ўсе зразумелі, што ён хацеў гэтым сказаць. Самсон перасцерагаў сваю сям'ю і суседзяў, ён раіў ім кінуць сяленне і ўцякаць ад жоўтай напасці ад ужмуры-малярыі, ахвярай якой ён стаў сам. Даражэй за ўсё чалавеку жыццё і доўга ў сяленні гаварылі аб гэтых апошніх Самсонавых словах. Але ісці не было куды і ўцячы ад жоўтай хваробы было нельга. Яна сцерагла першую хвіліну жыцця людзей ціхіх мангрэльскіх вёсак і малако маці было атручана ёю. Яна жыла ў крыві і перамагала яе. І толькі за высокія сцены княжых замкаў і толькі ў дамы багатых рэдка трапляла яна.

Людзі засталіся на месцы. Яны, як і раней, з усходам сонца выходзілі з матыгамі на свае вузкія загоны і познім вечарам вярталіся дадому. Над імі звінелі густыя хмары лютых камароў і цёплай гніллю несла на іх з балот. Людзям не было куды пайсці і яны забыліся не толькі на тое, што гаварыў у апошнюю хвіліну чалавек, які даўно памёр, яны забыліся і на тое, што некалі жыў на гэтым свеце добры і працавіты Самсон Коркія.

І не забыўся толькі адзін яго сын Арцём. Але і яму не было куды пайсці і словы бацькі, якія ён чуў і раней, словы аб тым, што ёсць на свеце шчаслівыя землі, на якіх не ходзіць жоўтая хвароба, засталіся марай аб лепшым, што рыхтавала яму будучыня. Ішлі гады і Арцём страціў маці і малодшага брата. Вымiранне сям'і было страшным сцверджаннем праўдзівасці бацькавых слоў. Арцём застаўся адзін. Больш нішто не звязвала з маленькай вёскай, дзе дрэмлюць таполі над стрэхамі хат і дзе адзіным успамінам была смерць блізкіх людзей. І хутка мары аб новай зямлі здзейсніліся. Але гэта былі казармы Гунібскага стралковага палка. Тут не было малярыі, на гэтай новай зямлі, але затое тут быў фельдфебель і унцер-афіцэры, якія па меры сіл навучалі маладога салдата Коркія „славеснасці“, статутам службы і давалі кароткія, але зразумелыя лекцыі расійскай мовы. Толькі праз чатыры гады Арцём вышаў з клумкам за плячыма за вароты казармы. І надоўга запомніў стракатую караулку, міма якой на гэты раз ён прайшоў, як яму здавалася, вольным чалавекам.

Потым—плантацыі тытуню Месаксудзі, чарада гадоў цяжкай працы, бар́акі, гарачае, бязлітаснае, абхазскае сонца, тытунёвы пыл, жабрацкае жыццё і наступны этап—з'яўляецца Арцём Коркія ў роднай вёсцы, адкуль яму раіў бацька ўцякаць і дзе жоўтая хвароба знішчыла яго сям'ю. На радзіму Арцём прышоў не адзін. З ім была жонка, маладая абхазка, гэткая-ж як і Арцём батрачка плантацый. Яны не маглі заснаваць сваю сям'ю ў бараках Месаксудзі і Анна марыла аб уласным доме гэтак-жа, як некалі марыў Арцём аб новых шчаслівых землях. Анна ведала, што такі дом існаваў. Гэта быў дом Самсона Коркія, пакінутая бацькаўская

спадчына Арцёма. І каля дому быў яшчэ невялікі кавалак зямлі, якім, за адсутнасцю гаспадароў сядзібы, карыстаўся адзін з суседзяў. Нарэшце, пасля доўгіх спрэчак і нескончоных слёз Анны, Арцём пагрузіў на свае шырокія плечы ўвесь сямейны скарб, а яшчэ праз некалькі дзён, з напаўразбуранага коміна хаты Самсона Коркія—курыўся шызы дымок і суседзі прыходзілі паглядзець на Арцёма і на яго маладую прыгожую жонку.

Адзін за адным пайшлі гады. Усе яны былі гэтак-жа бедны падзеямі, як беднай была Арцёмава хата дастаткамі. Так жыў яго бацька, так жыў яго дзед. Драмалі таполі над беднаю хатай, і векавечны балотны сон панаваў навокал.

Потым прышла вайна. У Арцёма было тры сыны, бо на гэты раз жоўтая напасць абмінула сям'ю Коркія. Старэйшы сын, Міха прышоў з-пад Эрзерума георгіеўскім кавалерам і без рукі. Ратнік другога разраду, Арцём Коркія дабраўся дадому ў 1917 годзе і ў яго таксама быў георгіеўскі крыж за тое, што яго засыпала зямлёй пад Дзвінскам. Ён знайшоў крывабокую хаціну, жонку, старую жанчыну, у якой нельга было пазнаць колішнюю красуню Анну, знайшоў Міха, які працаваў матыгай у аднаруч і пяцігадовага Вано. Не было толькі Бесо, які пайшоў на вайну па апошняму прызыву. Ён з'явіўся праз год, у часы асенніх дажджоў. Ён прыехаў з Петраграду, многа расказваў аб рэволюцыі і Леніне, заявіў, што ён большэвік і ледзь не застрэліў княжага аканома, які пачаў быў высмейваць „халопскую рэволюцыю". Гэтым Бесо нарабіў бацьку вялікіх непрыемнасцей і, нарэшце, сабраўся ў дарогу. Адыходзячы, ён сказаў Арцёму, што ідзе да большэвікоў і паабяцаў, што калі ўжо вернецца, то пакажа гэтым князям і аканомам чортаву бабулю ў натуральны рост.

Арцём праводзіў сына аж за межы балот, да палатна Закаўказскай чыгункі. Ён доўга глядзеў услед яму і калі Бесо знік, адчуў на шчацэ цёплую слязу. Яму здавалася, што гэты ваяка больш ніколі не вернецца пад бацькаўскі дах.

З таго дню прайшло два з лішкам гады. Гэта былі самыя цяжкія гады з тых, якія толькі памятаў Арцём. Людзі, што прыходзілі з франтоў і з палону, знаходзілі агалелыя сем'і, спустошаныя вінаграднікі, зарослыя пустазеллем палі. Людзі, што вырваліся з пекла вайны, пападалі ў пекла галечы, у лапы кулакоў, якія спаганялі пазыкі, выдадзеныя сем'ям з такімі процантамі, што хрысталюбівым воінам заставалася адно: прадавацца ў няволю. У сталіцы прымаў парады меншавіцкі ўрад, па маёнтках гаспадарылі памешчыкі і радавітая арыстакратыя, па вуліцах гарадоў маршыравалі калоны чужаземных войск і ў партах трапяталі пярэстыя флагі піратаў марэй, бандытаў міжнародных рынкаў.

Па вёсках гарланілі меншавіцкія агітатары, распісваючы багатымі фарбамі „гераічную сапраўднасць" і „бліскучую будучыню". З гор дзьмуў гарачы вецер, узнімаючы пыл на спаленых сонцам пустых палях. І мабыць гэты гарачы неспакойны вецер прыносіў у ціхія сяленні пагрозны гул пераможнага наступу Чырвонай арміі там у стэпах, бо здаралася часта, што ўцякалі ад абураных сялян

красамоўныя аратары. Але тады з'яўляліся карныя атрады. І тады гарэлі вёскі, выросталі свежыя магілы... Так. Гэта былі самыя цяжкія гады з тых, якія толькі памятае Арцём Коркія.

Бесо прышоў пазаўчора. На золаку ціха пастукалі ў вакно. У мутнай шэрані туманнай раніцы вырысоўваліся дзве невыразныя постаці. Напалоханы Арцём доўга распытваў з-за дзвярэй, каму ён патрэбны. Яму адказвалі ціха, так што нельга было нічога разабраць. Нарэшце Арцём учуў:

— Я, Бесо.

Гэта быў не той хлюставаты Бесо, што любіў хлёсткія франтавыя слоўцы, не той Бесо, што некалі размахваў наганам перад носам таўстога, напалоханага княжага аканома. Гэта быў сур'ёзны, аброслы маладой бародкай чалавек. Арцём глядзеў на сына і думаў аб тым, што за гэтыя гады Бесо мусіць давялося шмат чаго бачыць і перажыць. Сын адвёў яго ў бок і сказаў, што яму з таварышам патрэбна затрымацца тут на адны суткі, але іх ніхто не павінен бачыць і ніхто не павінен ведаць аб іх. Ён не згаджаўся нават бачыць маці, ужо не гаворачы пра Кетэ. Ён нікому не давяраў і пагэтаму Арцём згадаў, што ў сына нейкія важныя і патаемныя справы. Той, што прышоў з Бесо, якога ён зваў Сандро, увесь час маўчаў, і дакорліва глянуў на Бесо, калі Арцём сказаў, што схаваць іх так, каб ніхто ў хаце пра іх не ведаў, наўрад ці ўдасца, бо хата Арцёма мае ўсяго два пакоі, а на двары толькі павець для буйвала.

— Вось бачыш!—як бы сказаў гэты чалавек сваім поглядам.— Я-ж табе гаварыў!

У гэты момант адчыніліся дзверы і на парозе з'явілася Кетэ. Яна адразу пазнала Бесо і кінулася яго абнімаць. Сандро паморшчыўся і адвярнуўся. Арцём і Бесо ледзь супакоілі дзяўчыну, але зараз-жа на двор вышаў Міха, а следам за ім Анна. Маці, як гэта заўсёды робіцца ў такіх выпадках, узялася плакаць. Сандро падышоў да Бесо і сказаў, што калі ён зараз-жа не пойдзе разам з ім адгэтуль, то ён ідзе ў балоты адзін. Бесо доўга ўгаварваў яго, Арцём за гэты час суняў сваіх. Нарэшце ўсе супакоіліся і быў выпрацаваны план: госці будуць хавацца ў кукурузе на агародах, а назаўтра Арцём правядзе іх балотамі, куды патрэбна. Кетэ даручылі наглядаць за Вано і яго таварышамі, што любяць гойсаць па агародах. Раптам пад вечар узнялася навальніца і гасцям давялося-б правесці непрыемную ноч, каб Кетэ не ўспомніла аб маленькім гаспадары Іліко і яго пустой хаце.

І вось, мінула бурная ноч, шчасліва скончыліся прыгоды на балоце, маленькі баркас ідзе зараз далёка ў моры, а Арцём Коркія ляжыць на кургане пры вогнішчы і думкі ідуць адна за адной, адганяючы сон. І то паўстаюць перад вачыма далёкія дні маладосці, то сум і туга і трывога за заўтрашні дзень сціскаюць сэрца.

Бесо не сказаў, адкуль ён прышоў і куды пойдзе. Руды жартаўнік, што прыехаў на баркасе, нешта гаварыў аб Батумі. Гэта ўсё роўна. Ад гэтага не сціхне туга старога сэрца. Які стаў Бесо. Дужы, спрытны, сур'ёзны. І ён робіць нейкую справу, патаемную для другіх і вельмі важную, бо нічога не сказаў нават яму, бацьку.

Ён сказаў толькі, што стараецца, каб лепш было жыць такім, як Арцём Коркія, і аб сабе мала дбае. Вось які яго сын, Бесо. Але ён можа загінуць. Арцём ведае, як многа загінула такіх людзей, як часта гінуць яны.

А можа лепш загінуць у такую цёмную ноч? Можа лепш загінуць адразу, чым праз дзесяткі год валачыць за сабою тугу і крыўду, пакорна зносіць гора, спрацавацца дашчэнту, да згубы чалавечага аблічча і памерці нікому непатрэбным?!! Вось, прайшоў ён сёння ў думках увесь свой жыццёвы шлях... Ні іскры радасці, ні спачынку, і тое, што можа і радавала некалі, загінула ў нуднай далечы пražытага. І была яна, мусіць, такою мізэрнаю, гэтая бедная радасць, што яе цмяны праменьчык не дасягае сёнешняга дня і не грэе старое сэрца чалавека... Што-ж гэта за жыццё! І што чакае ў будучыні калеку Міха і малога, неразумнага яшчэ Вано? Што знойдзе ў жыцці адзінокі Іліко, горкая сірата?

Не, мусіць лепш загінуць такой цёмнай ноччу, чым пакорна зносіць гора і здзек, карміць сваёй працай другіх, чужых табе і варожых і памерці так, як Самсон Коркія і дзесяткі другіх людзей, якіх ведаў змоладу Арцём і вобразы якіх не затрымаліся ў памяці... Мусіць, лепш загінуць на такой дарозе, як дарога Бесо... Але не лягчэй яму, Арцёму Коркія, ад такіх думак, не лёгка яму бачыць у будучыні сваіх дзяцей, альбо беспрасветнае жабрацкае жыццё, альбо ліхую смерць...

Так думаў Коркія ля маленькага вогнішча. Ён заснуў, калі на ўсходзе пасвятлела неба. Дагасалі ліхтарыкі светлякоў, неўгамонныя матылі кідаліся над вогнішчам і трапяткімі пялёсткамі падалі на росную траву. Усё гэтак-жа, як і раней, гулі над балотамі цемныя хмары камароў, рэхталі жабы і на суседскім кургане выў адзінокі тура-шакал.

## IV

Аднойчы Іліко бег вуліцай на канец вёскі, да старога Тапурыя і сустрэў таўстога Сімона. Ён узяўся за шапку і тым-жа ходам хацеў абмінуць гэтага непрыемнага чалавека. Але Сімон спрытна ўхапіў яго за рукаў.

— Куды ты, бічо!*)—зарагатаў Сімон.—Ах, які шустры гаспадар! Пачакай, пагаворым, можа я што-нібы ў цябе куплю. Ах, ты які...

Сімон быў у добрым настроі і ў маленькіх жывых вочках блішчэў вясёлы аганёк. Ён любіў смяяцца і для гэтага яму не трэба было шукаць асаблівай прычыны. Шырока расставіўшы свае таўстыя ногі, Сімон трымаў Іліко за рукаў і ад гэтага было так смешна, што ён аж хістаўся. Іліко глядзеў на пухлую, ружовую руку з кароткімі пальцамі, пакрытымі рабаціннем і рудым пухам, на круглы жывот Сімона і яму хацелася вырвацца і ўцячы. Але ён не ўцёк і толькі таму, што Сімон назваў яго гаспадаром і сказаў, што хоча ад яго нешта купіць. Пасмяяўшыся колькі было

*) Бічо—хлапчук.

трэба, Сімон апусціў рукаў Іліко і запрасіў зараз зайсці да яго пагаварыць аб справах. Іліко недаверліва паглядзеў на Сімона, але не мог утрымацца ад спакусы. Вано аж трэсне ад зайздрасці, калі даведаецца аб усім гэтым, бо нічога падобнага з ім здарыцца не можа. І ён пашоў з Сімонам.

На прасторным двары Сімона чапурыўся дурны ганарлівы індык, пад плятнём рохкала, млеючы на сонцы, акружаная сваім рухавым патомствам, ненавісная пражорлівая свіння, куры разграбалі пыл і вучылі жоўтых куранят умельству лавіць жукоў. Убачыўшы гаспадара, індык забалбатаў на ўсё горла, певень паглядзеў на прышоўшых круглым жоўтым вокам, патрос грабянём, натапырыў крыллі і хацеў заспяваць, але гэта яму чамусьці не ўдалося і ён адышоў, як заўважыў Іліко, крыху збянтэжаны.

Сімон пакінуў Іліко на ганку і пайшоў у дом. Сімонаў дом не быў лепшы за іншыя дамы ў сяленні, бо сам гаспадар жыў у Поці, а калі прыязджаў, на пару дзён, то займаў толькі адну каморку, пакідаючы астатняе для трох работнікаў, што апрацоўвалі абшырныя Сімонавы агароды і вінаграднікі. Гэтыя агароды і аглядаў цяпер Іліко, седзячы на ганку. За плятнямі ён бачыў роўныя градкі гуркоў, рэдысу, цыбулі, далей шчыльнай сцяной стаяла цёмназялёная кукуруза, аздобленая пышнымі мяцёлкамі квітнення. А далей яшчэ на ўзгорку відаць было светлую зяляніну вінаграда, высаджанага правільнымі радамі. Зямля ў вінаградніках была дбайна прапалата, і на агародах і на двары ўсё ўтрымоўвалася ў поўным парадку. Іліко падумаў, што добра было-б, каб і ён меў такую слаўную гаспадарку, і не толькі падумаў, але нават сказаў пра гэта Сімону, які на тую пару вышаў на ганак. Сімон аглушальна зарагатаў, учуўшы гэта, і пахлопаў Іліко па плячы.

— Усё будзе,—сказаў ён.—Усё будзе, сынок, калі ў цябе ў галаве што небудзь трымаецца! Ах, ты які быстры, бічо! Ах-ха-ха-ха!

І Сімон нават не мог устаяць на нагах, сеў побач з Іліко на лаўку і доўга яшчэ смяяўся, калышучы грузным жыватом. У гэты час старая служанка прынесла віно і дзераўную талерку з сушаным інжырам і рознымі яшчэ прысмакамі. Сімон адразу выпіў дзве шклянкі віна, а да Іліко падсунуў талерку. Размова пачалася. Сімон спачатку распытваў, ці не шкада Іліко бабулі і як ён думае жыць далей. Учуўшы, што Іліко намераны гаспадарыць сам, ён не засмяяўся, а толькі спытаў: ці праўда, што Арцём Коркія з'яўляецца яго апякуном. Пасля гэтага ён памаўчаў, падумаў, паскробваючы пухлую шчаку, і далейшую размову перавёў на гаспадарку Іліко. Хлапец сваю гаспадарку ведаў дасканала. Іліко памятаў нават, колькі сцяблоў кукурузы расце на яго маленькім агародзе і колькі жменяў гомі і колькі бабоў фасолі было высеяна ў гэтую вясну. Гэта, як можна было заўважыць, спадабалася Сімону. Гаворачы пра агуркі, Іліко не забыўся сказаць аб шкодзе, што нарабіла яму Сімонава свіння і нават вызначыў суму гэтай шкоды. Учуўшы гэта, Сімон зноў зайшоўся ад смеху і ружовы твар яго стаў аж сізым. Усё яшчэ смяючыся, ён палез у кішэню і выняў грошы. Ён сказаў, што плоціць іменна столькі, колькі сказаў Іліко, хаця гэта і не малая сума. Але ён не хоча крыўдзіць маладога

гаспадара і, хаваючы рэшту, Сімон нават папрасіў прабачэння за дрэнныя паводзіны яго ненажэрнае свінні і за турботы, якія яна прынесла Іліко. Ніколі ў жыцці не трымаў Іліко столькі грошай у руках. Шчаслівы і горды, ён сціскаў у жмені пярэстую паперку і некалькі светлых манетак і слухаў Сімона, які выказваў тую думку, што хаця Іліко і вельмі дасціпны і рупны гаспадар, аднак з прычыны таго, што зямлі ў яго мала, хаціна яго старая і прадбачацца вялікія затраты для ўмацавання гаспадаркі і што патрэбных дастаткаў для гэтага ў Іліко няма, то яму, як здаецца Сімону, лепш падумаць аб якім-небудзь рамястве, ці што яшчэ лепш, навучыцца гандляваць. Гэта, як гаварыў Сімон, дае значна больш прыбыткаў і куды лягчэй, чым корпацца ў зямлі. Сімон сказаў яшчэ, што ён са здавальненнем узяў-бы да сябе ў Поці такога разумнага хлапца, як Іліко і навучыў бы яго гандлёвым справам і раіў Іліко падумаць. Пасля гэтага ён выпіў яшчэ дзве шклянкі віна, паабяцаў купіць у Іліко рэдыс, згроб з талеркі прысмакі і напхаў імі кішэні Іліко.

Праз некалькі хвілін Іліко, цвёрда ўпэўнены, што самы лепшы з людзей гэта Сімон Гамрэкелі, павольна, як і належыць сталаму чалавеку, выходзіў за вароты сядзібы свайго новага друга. Прайшоўшы некалькі крокаў вуліцай, ён, аднак, не ўтрымаў выгляду сталасці, пусціўся подбегам, потым прыбавіў ходу і нарэшце памчаў па вуліцы, што было сіл.

* * *

Стары Тапурыя плёў сеці ў сваім маленькім садку. Побач з ім сядзеў Вано і сачыў за яго работай. Пальцы ў Тапурыя былі нейкія крывыя, пакорчаныя, з сінімі нагцямі. Але яны так хутка перабіралі тонкія ніці, і так спрытна працавалі чаўнаком, што Вано шчыра зайздросціў умельству старога і з горыччу думаў аб тым, што яму ніколі не дасягнуць гэткага майстэрства. Вано меў такую натуру, што ён хацеў навучыцца рабіць усё, што толькі ўмеюць людзі. Ён цэлыя дні стаяў каля муляра, які рабіў печ у хаце суседа і калі майстар скончыў сваю простую і не зусім зграбную работу, Вано быў упэўнены, што навучыўся мулярству. Заставалася толькі здабыць цэглу і намясіць гліны. Але паколькі гэтых патрэбных матэрыялаў у Вано не было, ён пакуль што не мог даказаць сваё майстэрства на практыцы і пакінуў гэтую прафесію на будучыню. Так-жа ён вывучыў гародніцтва і вінаградную справу і цяпер вучыўся ў Тапурыя плесці сеці, што само па сабе не з'яўляецца вельмі простай справай.

Тапурыя не любіў маўчаць. То ён апавядаў аб розных цікавых гісторыях, якія здараліся з ім змоладу, то смешныя падзеі, якія ён чуў альбо выдумваў. Галоўнай фігураю ў гэтых гісторыях заўсёды быў сам Тапурыя. Цяпер ён расказваў Вано адзін з многіх варыянтаў аб тым, як пацярпеў аварыю карабель, на якім ён нелі служыў матросам і што з гэтага вынікла.

— Мы вышлі з Очэмчыры з грузам лесу,—гаварыў Тапурыя, нуючы сваім спрытным чаўнаком.—Што? Не, гэта не такі лес, як

на балоце. Лесам называюць дошкі, якія пагружаны на карабель. Як-бы ты пагрузіў на карабель такі лес, як на балоце? Вось падыходзіць да мяне капітан і пытае: „Як вы думаеце, дарагі Тапурыя, не будзе непагоды сёння на моры?“ Я паглядзеў на сонца, падумаў, памеркаваў і сказаў капітану, што сёння надвор'е будзе добрае, але заўтра пасля абеду пачнецца вялікая бура. „Вось бяда,—кажа капітан,—я шкадую, што не спытаў вас аб гэтым, калі яшчэ былі ў порце. Справа ў тым, дарагі Тапурыя (так ён мяне заўсёды называў), справа ў тым, бачыце, што ў нас на караблі знаходзіцца князь з князёўнаю, яны едуць разам з намі ў Трапезунд, а далей накіроўваюцца ў падарожжа, у святыя землі“. Гэта быў князь Давід, дзед нашага цяперашняга князя, паршыўца, я з ім некалі судзіўся. Дачка Давіда князёўна Ніна, якая ехала з намі, была вельмі прыгожай і адразу прыглянулася мне, ды і яна, як я заўважыў, была не прэч завесці са мной знаёмства. Я быў у тую пару высокі і стройны як таполя. Адным словам стаіць капітан і не ведае, што рабіць. Тады я кажу яму: „Супакойцеся, не турбуйцеся залішне, наш дарагі капітан. Калі Тапурыя на караблі, вы можаце ні аб чым не думаць“. Так сказаў я капітану і ён застаўся вельмі здаволеным...

Адцвітаючы гранат, пад якім сядзеў Тапурыя, атрасаў чырвоныя пялёсткі свайго квецця. Яны падалі з дрэва на сівую галаву Тапурыя, ляжалі на тонкім спляценні сецяй, раскіданых па траве, шматкамі чырвонага полымя праносіліся ў паветры. У маленькім садку была зялёная засень і цішыня. Дым са старой люлькі Тапурыя сінімі смугамі плаваў у паветры і павольна раставаў, Вано, які можа дваццаць разоў чуў гэтую гісторыю, слухаў з захапленнем, прымаючы на веру кожнае слова. Ды і сам Тапурыя шчыра верыў у тое, што ён нізенькі і каржакаваты, непрыкметны чалавечак, які працаваў палубным матросам на маленькім брудным парусніку, быў сапраўды высокім і стройным, як таполя, юнаком і што іменна так з ім трымаў сябе капітан, мацюжнік і горкі п'яніца з каменнымі кулакамі, з якімі меў непрыемнае знаёмства „дарагі Тапурыя“. Паруснік, старая пасудзіна, на палубу якога не гаворачы аб князях, нават партавыя грузчыкі ступалі неахвотна, выдаваўся яму цяпер прыгожым, вялікім караблём, што белым лебедзем плыве на сіняй прасторы мора. Усё інакшым бачыў Тапурыя ў такія хвіліны, наіўнай выдумкай стараючыся ўзнагародзіць сябе за пражытае, у якім не было і драбінкі тае гераічнасці, аб якой ён марыў заўсёды і асабліва цяпер, на склоне сваіх дзён. І адзін з эпізодаў ягонага скупога на скарынку хлеба, бяздомнага адзінокага жыцця, эпізод, у выглядзе аварыі старога парусніка, што затапіўся ля турэцкага ўзбярэжжа больш за сорак гадоў таму назад, вырастаў у рамантычную гісторыю з удзелам вялікадушнага князя, прыгожай князёўны, адважнага капітана, вялікага карабля і яго самога, Тапурыя, маладога, прыгожага, смелага матроса, якога любіць капітан і ў якога без памяці закахалася князёўна.

Утульна ў маленькім садзе Тапурыя, старанна ўзгадаваным яго працавітымі рукамі. І побач сядзіць Вано, найлепшы слухач, якога

толькі можна сабе ўявіць. У цёмных, шырока адкрытых вачах хлапчука то захапленне, то страх, то радасць, то лятуценная лёгкая імгла, якая зараз-жа зменьваецца бляскам новага абуджанага ў маладым сэрцы пачуцця.

— Так я сказаў капітану, і ён застаўся задаволены,—прадаўжаў Тапурыя.—Але, назаўтрае, якраз пасля абеду, пачалася бура. Я табе скажу, Вано, што я ніколі не бачыў гэткай буры ні да таго дню, ні пасля, а ты ўжо і напэўна не ўбачыш. Цяперашнія жалезныя параходы з даўгімі гарматамі, якія ты таксама яшчэ не бачыў, пайшлі-б на дно як камені, але наш карабель быў драўляны і затапіць яго не лёгка. Цяпер не ўмеюць будаваць такія караблі, мой дарагі Вано. Дык вось... Узняўся страшэнны вецер, ён паламаў нашы высокія мачты і парваў шырачэзныя парусы на шмаццё. Калі завалілася самая галоўная мачта, яна цяжка параніла нашага капітана, а матросы, напалоханыя, як жанчыны, паразбегліся хто куды, так што я не мог іх адшукаць. Але я іх і не шукаў. Я занёс раненага капітана ў ягоную каюту, потым супакоіў князя з князёўнай і сказаў, што сам буду кіраваць караблём. Яны ведалі, што гэта пэўны ратунак і князёўна так узрадавалася, што ўзяла чонгуры*) і заспявала цудоўным голасам старую, прыгожую песню. Што гэта быў за голас! Што гэта была за песня, дарагі Вано!

Чаўнок Тапурыя спыніў сваю работу. Лёгкая сетка апала на траву. Тапурыя глядзеў проста перад сабою і сумная, задуменная ўсмешка застыгла на яго зморшчаным, цёмным ад сонца, пасрэбраным сівізнай твары. Ападалі і кружыліся ў паветры яркія чырвоныя пялёсткі.

— Я стаяў каля стырна тры дні і тры ночы. Матросы не паказвалі і носа на палубу,—праз нейкі час пачаў Тапурыя.—Калі крыху сціхала бура, смелая князёўна Ніна прыносіла мне салодкае віно і розныя прысмакі з княжага стала, але я не мог есці, бо нельга было пакінуць стырно, за якое я трымаўся абедзьвума рукамі. Я не еў і не піў роўна тры дні і тры начы і, нарэшце, бура сціхла. Але я забыўся, што прыдзе самая вялікая, апошняя хваля, пасля якой мора ўжо робіцца гладкім, як люстэрка, і не ў пару выпусціў стырно са сваіх рук. Калі я ўбачыў цэлую вадзяную гару, я не паспеў паставіць карабель носам проста на яе, хваля ўдарыла ў бок і больш я нічога не памятаю... Апынуўся я ў турэцкім шпіталі з перавязанай галавой...

Тое, што Тапурыя не памятае, як ён трапіў у турэцкі шпіталь,—чыстая праўда. Але праўда і тое, што ён стаяў каля стырна. Праўда і тое, што бура паламала паточаныя чарвём мачты і парвала залатаныя парусы гнілога парусніка, які вёз дошкі ў Трапезунд. Але, як толькі надышла такая небяспека, добры капітан, аглушаючы матросаў лаянкай і энергічна працуючы пудовымі кулакамі, першы ўскочыў у адзіны на гэтым караблі човен і за ім кінулася ахопленая панікай уся каманда, дзесяць чалавек. Іменна столькі людзей і мог утрымаць човен. З капітанам-жа экіпаж павялічыўся на адзінку і гэтая адзінка магла загубіць човен. Па

*) Чонгуры—струнны музычны інструмант.

карабельных спісах капітан быў першым, а палубны матрос Тапурыя, які амаль зусім не разумеў расійскае мовы за выключэннем каманды і капітанскае лаянкі—лічыўся апошнім. І яго не пусцілі ў човен. Калі-ж, ахоплены жудасцю, ён учапіўся за борт чаўна, што гушкаўся на талях, то ў першы момант яго ледзь не выкінула за борт, а ў наступны на яго пасыпаліся ўдары моцных кулакоў і самым важкім быў капітанскі. Ад гэтага развітальнага капітанскага ўдару „дарагі Тапурыя" адляцеў на некалькі крокаў і страціў прытомнасць. Калі ён ачнуўся, было ўжо цёмна. У шэрым змроку ішлі на маленькі, знявечаны паруснік агромныя хвалі і з гулам раз-по-разу пакрывалі яго. Па палубе з шыпеннем імчалі патокі вады, гнілая пасудзіна дрыжэла і трашчала па ўсіх швах, то падаючы ў бяздонне, то ўзлятаючы на хвалю. Тапурыя папоўз, захліпаючыся і адплёўваючыся, паміж двумя штабелямі дошак па праваму барту. Праўдзівей, ён не поўз, а плыў, бо ў гэтым вузкім праходзе было столькі вады, што ён не мог дастаць рукою палубы. Такім парадкам ачнуўся Тапурыя каля стырна, за якое і ўзяўся, сам не ведаючы навошта. Паруснік залівала і кожную хвіліну ён мог пайсці на дно. Для карабля і адзінага на ім чалавека не было ратунку, з начной цемры адна за другой выплывалі вадзяныя горы, на вершалінах якіх мяцеліцай віхрыла пена і з грымотным гулам кідаліся на гінучы паруснік. Тапурыя ўхапіўся за кола стырна. Яго некалькі раз збівала з ног і ён уставаў зноў, праклінаючы капітана, матросаў, што пакінулі яго, задыхаючыся ад страху, чакаў смерці. Нарэшце, паруснік уздрыгнуў, загрымелі рассыпаючыся штабелі дошак, страшны грукат аглушыў Тапурыя і... ён ачнуўся ў турэцкім марскім шпіталі.

Яго даглядаў санітар—грэк. Ен быў заўсёды п'яны і сонны. Ад яго на дзесяць крокаў несла перагарам спірту і часнаком і гэты пах так напрыкрыў Тапурыя, што ён памятаў свайго лекара яшчэ доўга пасля сканчэння сваёй морскай кар'еры. Грэк з вялікімі цяжкасцямі, дапамагаючы рукамі і нават вырысоўваючы на рэцэптавых паперках нешта аднаму яму зразумелае, растлумачыў Тапурыя, што яго паруснік выкінула на бераг у пяці верстах ад гораду, што ён быў знойдзены непрытомным каля стырна і што крыху далей за паруснік знойдзены човен з той-жа назвай і труп матроса, які прывязуць у шпітальны морг сёння ўвечары. Тапурыя зразумеў, што ўсе загінулі, што ўратаваўся толькі ён адзін, які быў пакінуты на волю пякельнай стыхіі і яму стала шкада гэтых людзей. Тапурыя адвярнуўся да сцяны і ціха заплакаў.

Увечары санітары паднялі Тапурыя да адкрытага вакна ў калідоры. Пад вакном стаяла павозка і на ёй ляжала нешта пакрытае брэзентам. Калі брэзент знялі, Тапурыя ўбачыў першага чалавека па карабельных спісах, капітана. Ен ляжаў агромны, у паласатай майцы і яго вялікія кулакі былі сціснуты, як і заўсёды. Да Тапурыя падышоў нейкі турэцкі начальнік і, трымаючы руку каля сваёй чырвонай фескі, нешта запытаў. Тапурыя не зразумеў ніводнага слова. Тады прышоў санітар са сваім алоўкам. Ен ужо меў вопыт і растлумачыў Тапурыя, што начальнік порта ў захапленні ад адвагі капітана, які застаўся адзін каля стырна і не пакінуў

судно паводле лепшых мараходных традыцый і віншуе яго з шчаслівым збаўленнем. Разам з тым, начальнік порта пытаецца, ці з яго экіпажа гэты матрос і калі так, то начальнік порта просіць назваць яго і сваё прозвішча для паведамлення расійскаму консульству, бо ніякіх дакументаў ні пры ім, ні на трупе не знойдзена. Апрача таго начальнік порта пытаецца, якія будуць распараджэнні наконт пахавання, і, нарэшце, як сябе адчувае адважны капітан.

Цяпер прышла чарга да Тапурыя. Ён ледзь не страціў прытомнасць, пакуль санітар уцяміў, што не ён капітан, а той быў капітанам, што ляжыць пад брэзентам. Начальства, збянтэжана ўсміхаючыся, пераглянулася, учуўшы гэткую навіну, начальнік порта, што так неспадзявана трапіў у дурні, зрабіў рэзкі нецярплівы гэст і аддаў нейкае распараджэнне. Санітар узяў Тапурыя пад руку і павёў на калідор. Яго душыў смех і каля дзвярэй палаты ён не вытрымаў і зарагатаў. Ён рагатаў у гулкім калідоры доўга, прысядаючы, трымаючыся за жывот, паказваў Тапурыя, як да яго падыходзіў фарсісты начальнік порта, казыраў, пытаўся аб здароўі і аб распараджэннях. І супакоіўся санітар толькі тады, калі ўбачыў, што смуглы твар Тапурыя збялеў і хворы не можа далей трымацца на нагах.

З таго дню санітар пачаў адносіцца да Тапурыя па-прыяцельску і нават прыносіў яму спірт. Але цяпер ляжаў Тапурыя не ў той светлай палаце, дзе быў першы дзень і яму прыносілі зусім не такія стравы, як там. Ён ляжаў у вялізным цёмным пакоі, запоўнены пустымі ложкамі і яго выпісалі са шпіталя ў той-жа дзень, як толькі ён здолеў хадзіць без чужой дапамогі. Хворы Тапурыя дабраўся да консульства, адтуль яго пераправілі ў Расію і ад тэй пары ён закаяўся плаваць па сіняму моры ў далёкія землі, якія так вабілі яго.

Гэткай была гісторыя аварыі парусніка і гэта ўсё было вельмі звычайным і Тапурыя не хацелася верыць, што гэта іменна так і было. Таму на месца санітара, што прыкра пахнуў гарэлкай і часнаком, ён паставіў прыгожую і цнатлівую князёўну з старадаўняга роду і справа прыняла зусім інакшы выгляд.

— Даглядала яна мяне,—уздыхаючы гаварыў Тапурыя.—Каб жа ты ведаў, дарагі Вано, якая прыгожая была князёўна Ніна! Яна грала мне на чонгуры і спявала сваім анёльскім голасам. Яна карміла мяне, слабога, сваімі белымі тонкімі ручкамі і гаварыла мне, што я ўратаваў яе жыццё. Калі я паздаравеў, князь Давід сказаў мне: „Тапурыя,—сказаў ён,—ты шчаслівы ад бога чалавек. Князёўна Ніна, якая адмовіла самаму важнаму князю, хоча быць тваёй жонкай і не можа без цябе жыць. Табе выпала шчасце парадніцца з намі,—сказаў далей князь,—бо ты ўратаваў наша жыццё. Я буду хадайнічаць перад яго імператарскай вялікасцю, гасударам імператарам самадзяржаўцам усерасійскім, царом польскім і фінляндскім, Александрам Александравічам трэцім, міратворцам, каб табе далі дваранства і ты ўвойдзеш у наш род“. Але я на гэта адказаў так (тут голас старога мацнеў). Я адказаў так: „Князь Давід!—сказаў я.—Вельмі я ўдзячны за такую ласку, але княжыя палацы не па мне. Я вольны марак і просты чалавек

і не змагу я жыць у срэбры і золаце. Я люблю князёўну Ніну, але я не магу жыць так, як вы, і ўціскаць народ, як паскуднік князь Георгій, які падаў на мяне ў суд і прысудзіў штраф за тое, што я забіў вяпра нібыта на ягоным полі. Я не магу сядзець за адным сталом з такім паршыўцам,—сказаў я,—і быць яго радней. Але я не магу і забыцца на каханую князёўну Ніну і каханне да яе будзе мне грызці сэрца праз увесь мой век. Я зноў іду ў мора і калі загіну, то скончацца мае пакуты і не памінайце мяне ліхам!“ Так я сказаў, пакланіўся князю і князёўне і вышаў і ад тэй пары не бачыў іх. І добра зрабіў, бо жыць з такім шакалам, як князь Георгій, якому я заплаціў штраф за вяпра...

— Дзядзька Тапурыя,—спыніў яго Вано.—Вяпра-ж вы забілі летась увосень, я памятаю...

Тапурыя ад нечаканасці выпусціў з рук чаўнок. Ён зразумеў, што зрабіў памылку, уплёўшы сюды вяпра і Георгія. Цяпер стары сядзеў моўчкі, злаваў на сваю слабую памяць, якая ўсё блытае, і нічога не мог адказаць дапытліваму Вано.

— Дык як-жа?—спытаў Вано.

— Ты дрэнна слухаеш!—раздражліва сказаў Тапурыя,—утыкаешся дзе не трэба, перабіваеш размову старэйшым. Я табе не скажу больш нічога!

Тапурыя зноў узяўся за работу. Вано чакаў, што ён зноў пачне гаварыць, але стары маўчаў. Вано не цярпелася. Хаця ён разумеў, што ў гэтым апавяданні Тапурыя не ўсё нагадвае праўду, але ведаў, што канчаецца яно кожны раз па-новаму і цяпер хацеў адзнацца пра далейшы, новы лёс чароўнай князёўны. Калі ён адважыўся нарэшце спытаць Тапурыя пра гэта, стары глянуў на яго з дакорам, але адказаў:

— Яна вышла замуж за другога князя праз пяць гадоў, і добра. Парадніся з гэтымі князямі, а потым яны цябе будуць цягаць па судах за кожнага вяпра!

Вано зазлаваў. Яму хацелася верыць старому і гэта не ўдавалася нават пры самых паблажлівых адносінах да яго апавяданняў. У мінулы раз стары казаў, што князёўна памерла ад сухот, бо ў яе не хапіла сіл перанесці нешчаслівае каханне, а сам Тапурыя, дазнаўшыся пра гэта, даў урачыстае абяцанне больш ніколі не ісці ў мора, хаця яго проста ірвалі на часткі ўласнікі караблёў, прапануючы пасаду капітана. Ён вырашыў вярнуцца на радзіму і пражыць там усё жыццё, што і выканаў. Вано, які злаваў пры думцы, што ўся гэтая цікавая гісторыя можа быць няпраўдай, хацеў сказаць аб гэтым старому, ужо не баючыся яго гневу, але ў тую-ж хвіліну ў сад прыскакаў на аднэй назе шчаслівы Іліко.

— Вано!—крычаў ён.—Дзядзька Тапурыя!

Ён пачаў расказваць пра сустрэчу з Сімонам, як толькі апынуўся ў садзе яшчэ на хаду. Ён скакаў на адной назе і можна было зразумець толькі асобныя словы:

— Грошы... Гуркі... Сімон... Свіння...

Нарэшце яго супакоілі і ён расказаў аб сваёй сустрэчы з Сімонам, аб размове пра гаспадарку, пра выплату грошай за шкоду, аб тым, што ён паедзе вучыцца гандляваць і аб тым, што Сімон

Гамрэкелі самы лепшы чалавек на свеце. Нарэшце ён пачаставаў сваіх сяброў прысмакамі, што падараваў Сімон і змоўк толькі тады, калі ўбачыў, што Вано блізкі да плачу ад таго, што гэта не здарылася і не магло здарыцца з ім. Але стары Тапурыя чамусьці не падзяляў бурнай радасці Іліко. Выслухаўшы хлапца, ён паківаў галавою і сказаў Іліко:

— Пакажы грошы, бічо?

Іліко паказаў, на смуглай дзіцячай далоні ляжала скамечаная пярэстая паперка і некалькі дробных светлых манетак. Тапурыя глянуў на грошы і ўсміхнуўся:

— Трэба навучыцца грошы лічыць, бічо,—сказаў ён.—Ты папрасіў за шкоду, больш, чым варты ўвесь твой агарод, а ён заплаціў табе за дзесяць гуркоў. Ты яшчэ малы хлапчук і не павінен лезці ў размовы са старэйшымі. Трэба слухаць тых, якія табе не хочуць дрэннага. Нікуды табе ехаць не трэба і да Гамрэкелі ты больш не хадзі. Гэта—дрэнны чалавек.

Іліко стаяў разгублены, сціскаючы ў жмені свае грошы. Ён думаў, што Тапурыя будзе вельмі рады такому ходу ягоных гаспадарскіх спраў і будзе гаварыць з ім так, як таго і заслугоўвае чалавек, які мае ўжо свае ўласныя і немалыя грошы і сваю гаспадарку. А Тапурыя назваў яго малым хлапчуком і аказалася, што на грошы ягоныя можна купіць усяго толькі дзесяць гуркоў. Усё змяшалася ў галаве Іліко і цяпер ён сам быў блізкі да плачу. Вано адразу заўважыў яго настрой і плаксівая зайздросная міна яго змянілася здаволенай усмешкай.

— Сімон—дрэнны чалавек,—пацвердзіў ён словы Тапурыя.

— Пра гэта ўсе гавораць.

Іліко пачырванеў.

— Сімон добры чалавек!—крыкнуў ён да Вано. (На Тапурыя ён крычаць баяўся).—Я з ім паеду ў Поці гандляваць.

— Нікуды ты не паедзеш!—зазлаваў Тапурыя.—Знайшоўся гандляр.

— Паеду!

— Не паедзеш!—зноў выткнуўся зларадасны Вано.—А Сімон дрэнны чалавек. Я нават не хачу есці гэтую ягоную дрэнь!

Ён выняў з кішэні адну ягадку інжыра і кінуў яе на траву. Іліко засапеў носам і падступіў да яго бліжэй. Тапурыя паклаў чаўнок і сурова сказаў:

— Калі вы, сырныя чарвякі, пачнеце тут яшчэ бойку, я абодвух выганю адгэтуль. Сядай, Іліко! Чуеш? Вось так. Я раскажу вам пра Сімона Гамрэкелі і вы ўбачыце, што гэта дрэнны чалавек...

У маленькім садзе Тапурыя зноў стала ціха і спакойна.

Стары расказваў аб тым, як у часы вайны скупліваў землі поційскі купец Сімон Гамрэкелі, як ён рознымі махінацыямі абменам і арэндай злучаў у адно маленькія ўчасткі салдацкіх сем'яў, гаспадарам якіх ужо не суджана было гаспадарыць. Так гандляр Гамрэкелі стаў уласнікам абшырных агародаў і вінаграднікаў шмат у якіх сяленнях.

Але малы Іліко не мог уцяміць, чаму Гамрэкелі—дрэнны чалавек.



Цэлую раніцу не было чаго рабіць. Сімон швэндаўся па двары, заходзіў на агароды, аглядаў вінаграднік і нідзе яму не ўдавалася прычапіцца да парабкаў, бо ўсё было ў поўным парадку. Нарэшце, ён знайшоў пад плотам заіржавелую лапату, на якую забыліся мусіць з самай вясны. Размахваючы гэтай лапатай, Сімон лаяўся да тае пары, покуль самому абрыдла. Потым ён панёс лапату на двор, і каб паказаць работнікам прыклад гаспадарскай руплівасці, узяўся чысціць яе пяском. Лапата была старая, іржа амаль наскрозь праела жалеза. Сімона хутка ўзяло на пот і ён, нарэшце, кінуў гэтую работу. Больш нічога не заставалася, як піць віно. Сімон сам палез у пограб, вынес адтуль ладны гарлач і асушыў яго, не зважаючы на гарачыню. Пасля гэтага ён крыху павесялеў і пачаў дражніць сабаку. Нарэшце, сабака пачаў агрызацца і Сімон, схапіўшы кол, пачаў ганяць яго па двары. Так забаўляўся ад няма чаго рабіць багаты купец Гамрэкелі да тэй пары, пакуль сабака не вырваўся на вуліцу. Сімон шпурнуў кол яму ўслед і вырашыў пайсці паспаць. Але было вельмі душна і праз поўгадзіны асалавелы Сімон плёўся вуліцай, сам не ведаючы куды. Тут на яго і наскочыў Іліко.

— Вялікі хлапец і бегае без работы,—прышла вялая думка.

Але яна чамусьці затрымалася ў памяці і прымусіла Сімона спыніць Іліко. Пакуль ён гаварыў з хлапцом і нехаця рагатаў— вялая думка стала больш акрэсленай і перарасла ў рашэнне прыбраць да рук гэтага загарэлага, босаногага ветрагона. Нарэшце знайшлася работа. Сімон не любіў доўга марудзіць, калі ён ужо вырашыў што-небудзь зрабіць і адразу ўзяўся за справу. Калі шчаслівы Іліко пабег да Тапурыя, Сімон, які не любіў адкладаць справы назаўтра, не спяшаючы пайшоў вуліцай, заклаўшы рукі ў кішэні сваіх шырокіх штаноў і хутка з'явіўся каля плятня агароду Коркія.

— Гамарджо!—сказаў Сімон, як толькі ўбачыў за плятнём шапку Арцёма.—Кінь працаваць у такую спякоту.! Пасядзімо, пагаварым, справу зробім, віна вып'ем! Ха-ха-ха... Цяпер самы раз у засені адпачыць.

Гаворачы гэта, Сімон пералез праз плот, Коркія ішоў яму насустрач і на твары яго Сімон заўважыў нейкі неспакой, нават баязнь. Сімон прывык да гэтага, бо так амаль заўсёды выглядалі людзі, з якімі ён меў справы і якія шмат у яго напазычылі і ад гэтага ён рабіўся весялейшым. І цяпер ён зарагатаў, як-бы сказаў нешта вельмі смешнае.

Коркія не падзяляў яго весялосці. Адказаўшы на прывітанне Сімона, ён стаяў моўчкі і глядзеў на купца, як-бы стараючыся згадаць, што патрэбна гэтаму рудому багацею. Нарэшце Гамрэкелі змоўк, выняў з кішэні хустку і абцёр лысіну.

— Сядай тут, дарагі Арцём,—сказаў ён, паказваючы куды трэба сесці.—Вось тут у засені мы з табой пагаворым.

І ён сеў першы, проста на зямлю паміж градак фасолі, дзе ніякай засені не было. Коркія паслухмяна прысеў побач і з яго

худога, заклапочанага твару не сыходзіў неспакой. Сімон заўважыў, што бялкі вачэй Арцёма жоўтыя і павекі набраклі пухлінай і зразумеў, што ў гэтую ноч Арцёма мучыла малярыя.

— Такая, значыць, справа, мой добры Арцём,—сказаў Сімон і сарваў малады стручок фасолі.—Значыць, такая справа.

Ён не сказаў, якая справа, але разлушчыў пазногцем стручок, выняў адтуль маленькую зялёную фасольку, паклаў у рот, зморшчыўся і сплюнуў. Пасля гэтага Сімон пачаў разглядаць вылушчаны стручок, як-бы ў ім і заключалася ўся справа, з-за якой ён прышоў да Коркія. Стручок быў хрусткі і зялёна-празрысты. Навакол вісела шмат такіх стручкоў, фасоль вілася на тычках і тонкія, гнуткія парасткі цягнуліся ва ўсе бакі, чапляючыся за ўсё, што толькі траплялася побач. Разглядаючы стручок, Сімон украдкай, яшчэ раз зірнуў на Коркія і ўбачыў, што неспакой таго павялічыўся: Арцём сядзеў, панурыўшы галаву, хутка пераціраючы пальцамі камкі сухой зямлі, і па гэтым можна было пазнаць, што чалавек нервуецца. Сімон, нарэшце, кінуў стручок.

— Вось, значыць, якая справа, мой мілы, дарагі Арцём. Я хачу ўзяць Іліко да сябе на службу.

Ён сказаў адразу ўсё, што хацеў сказаць. Сімон не любіў доўга цягнуць, калі датычылася справы. І выказаўшы ўсё, ён адарваў новы стручок і заняўся ім з яшчэ большай ахвотай. Арцём узняў галаву, паглядзеў на Гамрэкелі і зноў панурыўся. Яго запыленыя пальцы торгалі сівы вус. Сімон прарабіў з другім стручком тую-ж самую аперацыю і, адкінуўшы яго, сказаў:

— Хлапец шустры. Ён будзе ад мяне меці карысць. Грошы, якія ён ад мяне заробіць, застануцца пры мне, у рахунак твайго доўгу. Праз якія-небудзь пяць гадоў, ты не будзеш мне вінен ні капейкі, а хлапец будзе меці рамяство і калі вырасце, будзе ўдзячны нам з табой абодвым. Яго я не пакрыўджу. Бог карае тых, хто крыўдзіць сірот.

На Сімона раптам напала набожнасць.

— Бог узяў да сябе яго бацькоў і родных і даручыў нам неразумнае дзіця. Бога нельга ашукаць, мой дарагі Арцём. Ты апякун Іліко, а я буду яго другім бацькам. Дзіця будзе меці хлеб, вопратку і калі вырасце, то на свой розум хай робіць, як хоча. Можа ён захоча кінуць у нас камень...

Сімон уздыхнуў.

— ... І тады хай яго судзіць бог і добрыя людзі. А цяпер мы павінны аб ім паклапаціцца, бо дзіця без дагляду і выхавання можа вырасці нядобрым чалавекам.

Сімон узяўся апрацоўваць трэці стручок. Арцём усё яшчэ маўчаў.

— Агарод я вазьму сабе,—дакончыў Сімон, але—каб было зручней нам абодвум, я магу яго абмяняць на маленькі кавалачак твайго поля, што каля майго вінаграднікуі нашы землі будуць пры адным месцы. Гэта я бяру сабе за клопат. Так і зробім. Пойдзем напішам кантракт і вып'ем добрага віна. Пагуляем як след у добрай згодзе. Ха-ха-ха...

Сімон хацеў зарагатаць, мяркуючы, што маўчанне Коркія аз-

начае згоду, але змоўк, сустрэўшыся з поглядам цёмных воч Арцёма. У іх былі крыўда і смутак.

— Іліко яшчэ зусім малы...—ціха сказаў Арцём.—Хай падрасце хлапец, набярэцца сілы... Я табе сплачу доўг Сімон... На будучую восень я разлічуся да капейкі, толькі пакінь Іліко ў спакоі. Яму яшчэ рана ісці ў свет. Навошта ты не шкадуеш бедных людзей, Сімон?..

Сімон чмыхнуў носам і нічога не сказаў. Ён стараўся не сустракацца з позіркам хворых воч Арцёма.

— Ты хочаш забраць кавалак майго поля,—гаварыў далей пануранны Коркія,—і аддаеш мне агарод. Але гэта-ж агарод не твой. Калі вырасце Іліко, то ён над ім гаспадар. Гэта яго спадчына ад бацькі, якая яна ні ёсць, і я, апякун, павінен яе берагчы ў цэласці. Калі я згадзіўся-б аддаць Іліко, то на мяне ўсе людзі паказвалі-б пальцамі... Яны сказалі-б, што хлапец гадаваўся пры старой жанчыне, але меў свой дах над галавой і кавалак хлеба. І яны сказалі-б, што я, апякун, раскідаў гаспадарку дзіцяці, пазбыў усю яго маёмасць, а самога аддаў у парабкі. Як-бы глянуў я людзям у вочы? І пры чым я застаўся-б сам, калі-б аддаў табе поле? Як-бы я жыў са сваёй сям'ёй, калі і зараз мне не хапае хлеба і я пазычаю ў цябе? Чаму ты хочаш крыўдзіць бедных людзей, Сімон?

Сімон устаў, абтрос пыл са сваіх шырокіх штаноў.

— Я думаў, што ты разумны чалавек, Арцём,—сказаў ён, злосна ўсміхаючыся. А ты няўдзячны дурань. Ты са мной гаворыш, як з ворагам, хаця ніколі ты не пайшоў ад мяне з пустымі рукамі. Добра, калі так. Мне не трэба працантаў на тваю пазыку. Тэрмін скончыўся яшчэ ўвосені. Аплаці мне ўсё поўнасцю праз тыдзень, а то я падам у суд, і па судовай продажы тваёй гаспадаркі не хопіць. Досыць ужо маёй міласэрднасці. Паглядзім, ці лепш будзе Іліко ў тваёй жабрацкай хаце! Х-хэ! Апякун! Х—хэ!

Зазлаваны Сімон завярнуўся і пайшоў між градак, знарок зачэпліваючы тычкі і выварачваючы іх. Адкрываючы касабокую фортку на вуліцы, ён азірнуўся і крыкнуў:

— Вядзі прадаваць буйвала!

Сімон пакінуў фортку адкрытай і Арцём чуў, як грузка ступаючы, ён прайшоў вуліцай міма. Арцём устаў, апіраючыся на матыгу, прайшоў па агародзе, папраўляючы вывернутыя Сімонам тычкі, закрыў фортку і задумаўся, не зважаючы, на зацікаўленых суседзяў, якія чулі апошнія словы Гамрэкелі і цяпер выглядалі са сваіх агародаў.

— Чаго ён хацеў ад цябе, Арцём?—крыкнуў да Коркія адзін з суседзяў.—Што яму патрэбна ад цябе, гэтаму шалёнаму шакалу.

Але Арцём не чуў пытання суседа. Ён думаў аб тым, што Гамрэкелі абавязкова падасць у суд. На тое, што застанецца, жыць ужо будзе нельга, справа закончыцца продажам зямлі таму-ж самаму Гамрэкелі і трэба будзе з торбаю ісці ў свет. У тым, што Сімон выканае сваю пагрозу, Коркія не сумняваўся. Гамрэкелі ўзяў ад яго ўсё, што было можна і цяпер возьме астатняе. Арцём яму ўжо не патрэбны, а літасці ад яго не чакаць. Калі-ж аддаць яму

Іліко, то гэта ганьба і ўсё роўна не ратунак з лап купца, бо ён бярэ сабе апошні кавалак поля Коркія і калі жыць з двух маленькіх агародаў, то не толькі не пазбавішся ад даўгоў, але яны будуць расці з кожным годам.

І ўсё гэта аддаляе катастрофу на нейкіх пару год, бо калі не пагадзіцца з Гамрэкелі, то ад гаспадаркі Арцёма не застанецца ні звання праз месяц. Куды пойдзе тады Арцём з хвораю жонкай, з малым Вано і з гэтакім-жа Іліко? Дзе падзецца бязрукаму Міха? Толькі адна Кетэ, маладая і здаровая, можа яшчэ застацца тут, пайсці ў батрачкі да таго-ж Гамрэкелі ці ў княжы маёнтак... І нарэшце, калі справа ідзе толькі пра Іліко, то дзе яму будзе лепш: у парабках Гамрэкелі, ці ў жабрацкай хаце Арцёма, пра што ўжо гаварыў і Сімон?

Так думаў Арцём і ўсё больш пераконваўся, што яму нічога не застаецца, як толькі згадзіцца з Сімонам. Інакш усё пойдзе дымам. А так, ён можа яшчэ чакаць. Мала што можа здарыцца на свеце за два гады? Можа за гэтыя два гады прыдуць тыя, аб якіх так часта гавораць людзі? О, тады прышоў-бы Бесо і пагутарыў-бы з гэтаю тоўстаю свіннёй, з гэтым ненажэрным шакалам! Але-ж поле! Як аддаць яму поле, як жыць гэтыя два гады!

Моцна пякло сонца на палове дню. Зеляніна агародаў і садоў звяла і здавалася запыленай. Над балотамі хмурнела імгла. Людзі пакідалі работу і хаваліся ў засень, каб адпачыць і перачакаць спёку, а Арцём усё яшчэ стаяў на тым-жа месцы нерухомы і задуманы і колькі не думаў, усё больш пераконваўся, што адзін выхад для яго, гэта пагадзіцца з Гамрэкелі і чакаць на лепшы час.

Такая бяда здарылася з Арцёмам з-за таго, што Іліко не ўпару сустрэўся з Сімонам Гамрэкелі, якому не было чаго рабіць. А Гамрэкелі ляжаў на тапчане ў засені, еў моцоні, якое дапамагае ад спёкі, і чакаў на Арцёма.

Гамрэкелі ведаў людзей і чакаў недарма. Надвечар Арцём прышоў да яго.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хлапцы праз цэлы дзень адсядзелі ў садзе Тапурыя. Увечары яны хадзілі разам са старым на балота, дзе ў канаве ён паставіў нанач новыя сеці, якія дакончыў сёння. Справіўшы гэтую работу, усе трое вячэралі ў садзе, а на дарогу Тапурыя даў хлапцам яшчэ па кавалку сыру.

Ужо зайшло сонца, калі Іліко і Вано выбраліся ад Тапурыя. Яны ішлі вузкаю пыльнаю вуліцай. Нядаўна прагналі стада і ў млявым вячэрнім паветры стаяў сыты пах свежага малака. Было ціха. На зямлі ляжалі невыразныя цені. За балотамі недзе, далёка, загасала ясная зара.

Хлапцы ішлі павольна, трымаючыся за рукі і знарокі узнімаючы пыл босымі нагамі. Раптам яны пачулі песню:

*Я пайду да дзяўчыны...*
*Да чарнавокай маёй любай...*

— спяваў нечы слабы, хрыплаваты голас незнаёмую песню. Хлапцы пераглянуліся.

— П'яны,—упэўнена сказаў Іліко.—Пойдзем, паглядзім!

Яны пабеглі і хутка ўбачылі спявака. Высокі чалавек ішоў у засені таполевых прысад каля агародаў Гамрэкелі, хістаўся і, размахваючы рукамі, спяваў.

— Гэта бацька!—здзіўлена крыкнуў Вано.—Ой, будзе смеху!

Іліко, узрадаваны, пабег следам за Вано. Хлапцы ўзрадаваліся таму, што калі Коркія бываў п'яным, ён быў вельмі вясёлым, што з ім рэдка здаралася,—прыносіў хлапцам прысмакі, альбо расказваў, як ён служыў у салдатах, спяваў, танцаваў і ў маленькай хаце Коркія рабілася весела.

Але, на гэты раз вышла іначай. Арцём, хістаючыся, доўга глядзеў на хлапцоў, як бы не пазнаючы іх. Нарэшце, ён узмахнуў рукой і крыкнуў на ўсю вуліцу:

— Я быў у Сімона Гамрэкелі!... Я быў гасцём у гэтага шакала! Я піў за здароўе гэтай шкадлівай сабакі!... Людзі! Глядзіце як прападае Арцём Коркія! Ах, прападае...

Ён сарваў з галавы свой войлачны капялюш і кінуў на зямлю, у дарожны пыл, Іліко падняў капялюш і абтрос яго.

— Іліко!—закрычаў Арцём, прасціраючы рукі,—Іліко! Бедная ты мая сіраціна... Прапалі мы з табой! Іліко...

Арцём усхліпнуў і слёзы пацяклі па яго твары. Хлапцы спалохаліся і адышлі ў бок, гатовыя кожную хвіліну ўцякаць. Арцём паглядзеў на іх, дакорліва паківаў галавой і пайшоў вуліцай. На яго глядзелі з-за парканаў аднавяскоўцы, добрыя і дрэнныя суседзі і ўсе яныківалі галовамі, паціскалі плячыма, пераглядаліся і гаварылі адзін аднаму, калі Арцём праходзіў міма, што ў сям'і Коркія, можна думаць, здарылася нейкае няшчасце, у якім, відаць, вінаваты Гамрэкелі.

Арцём не зважаў на суседскія шэпты і пераглядванні. Ён ішоў з непакрытай сівой галавой, і слёзы цяклі па маршчынах яго смуглых шчок. Ён глядзеў проста перад сабою і нікога не бачыў і ні аб чым не думаў і толькі плакаў слязамі дарослага п'янага і пакрыўджанага чалавека. Следам за імі ішлі два босаногія хлапчукі, і адзін з іх нёс стары войлачны капялюш Арцёма. Ім была няёмка і таксама хацелася плакаць.

## V

Арцём не спаў амаль усю ноч і ўзняўся раніцой зусім хворы. Ён абудзіў старую і Кетэ, сказаў каб рыхтавалі Іліко ў дарогу і зазірнуў у бакоўку. Хлапцы спалі на посцілцы, дружна абняўшыся, і на іх смуглых тварах быў спакой здаровага адпачынку. Арцём ціха вышаў з бакоўкі.

Ён не ўзбудзіў Міха, бо яму было няёмка перад дарослым сынам за ўчарайшае. Узяўшы матыгу, ён пайшоў на агарод, хаця рабіць там не было чаго.

Ружовая зара палымнела на ўсходзе, над імглістымі гарамі. Яны былі падобны да шэрай, нерухомай хмары, што хаваецца за гарызонт, павольна асядаючы над зямлёй. У гэты ранні час Арцём заўсёды любіў глядзець на далёкія горы. Яму здавалася, што там,

на скалістых вышынях, на зялёных палянах горных пасьбішчаў у прывольных далінах, дзе імчаць бурныя патокі рэк і ручаёў—нейкае інакшае, прывольнае жыццё. І ён, звычайна, доўга глядзеў на пахмурыя горныя вышыні да тэй пары іншым разам, пакуль над гарамі не ўзнімалася сонца і іх пасля зацягвала імглой.

І цяпер глядзеў Арцём на знаёмыя, авеяныя марамі горы. Але яны выдаліся цяпер пагрознымі і недаступнымі. Яны горда ўзвышаліся над балотным светам, паволі ахутваючыся дымам імглы і першыя прамені сонца асвятлялі далёкія, снежна-белыя вяршаліны іх. Паветра губляла свежую празрыстасць, і горы адыходзілі прэч і чоткія абрысы іх паступова сціраліся ў мутнай імгле, што прадракала гарачы дзень цяжкай і нуднай працы. Так заўсёды ў Арцёмавым жыцці знікалі мары і надзеі. Так заўсёды прыходзіла сапраўднасць.

Свежае з начы паветра напаўнялася цяплынёй. Сонца ўзнімалася вышэй, даўгія цені стромых тапаляў ляглі на зямлі і кроплі высыхаючай расы дрыжэлі на лісцях раслін. Мацнеў птушыны гоман, як гэта заўсёды бывае на ўсходзе сонца. У сяленні мычэлі каровы і пераклікаліся пеўні. На суседнім двары гаварылі людзі. Гэта была звычайная раніца, якіх было шмат у жыцці Арцёма.

І ўсё-ж, была асаблівай ад іншых, гэтая раніца. Ніколі не адчуваў сябе Арцём такім нешчаслівым, якім, яму здавалася, быў ён сёння. Моцны прыпадак малярыі пасля падарожжа па балотах падарваў яго сілы і ён адчуваў боль і цяжар ва ўсім целе. Да гэтага далучалася ўсё тое, што давялося яму перажыць учора з ласкі купца Гамрэкелі, уключаючы боль галавы ад Сімонавых пачастункаў і згрызотныя думкі аб тым, што ён, пажылы чалавек, крычаў на вуліцы, як п'яны парабак і плакаў, як старая жанчына. Усё гэта выйшла на пацеху злым языкам і заядлы Гамрэкелі, які даведаецца аб усім, знойдзе спосаб адпомсціць яму.

З асаблівай выразнасцю адчуў Арцём, што яму ўжо няма аб чым марыць, і няма на што спадзявацца. Ён стары чалавек, яго з'ядае гора і хвароба і выйсця няма і не будзе. Усё, што ён зрабіў, пайшло на карысць другім, усё, аб чым ён марыў і на што ён спадзяваўся, развеялася, як дым пад халодным ветрам восені. Ён аказаўся бяспомачным настолькі, што дзіцянё, якое пакінулі на яго апеку, адабраў купец Гамрэкелі і Арцём не здолеў яго абараніць. Так абрабавалі Арцёма Коркія, працавітага чалавека, які любіў марыць аб лепшым жыцці і ўмеў у горы адшукаць радасць надзей.

Што цяпер засталося для яго ў жыцці?..

Арцём глядзеў на далёкія горы, якія з кожнай хвілінай усё больш зацягвала імглой і яны адыходзілі прэч, адступалі ўсё далей і далей і зьнікалі ў імглістым марыве гарачыні. Так гінуць лятуценні, так прыходзіць сапраўднасць. Так было заўсёды ў жыцці Арцёма Коркія.

Арцём, нерухомы і пануры, ахоплены цяжкімі думкамі, не чуў, як увайшоў у агарод яго сусед Макар Чантурыя. Ён азірнуўся толькі тады, калі Макар узяў яго за плячо.

— Што ў цябе здарылася, Арцём?—спытаў Макар.—Скажы мне, якая ў цябе бяда?

Макар быў другам Арцёма з даўніх год. Яны служылі разам у Гунібскім стралковым палку і разлучаліся надоўга толькі два разы на жыцці: калі Арцём пайшоў шукаць шчасця на новых землях тытунёвых плантацый Месаксудзі і калі ён хадзіў па георгіеўскі крыж пад Дзвінск.

— Што ў цябе здарылася, Арцём?—паўтарыў Макар.

Арцём зразумеў, што гэтае пытанне ён учуе за сёнешні дзень не адзін раз. Ён ведаў, што сёння ў сяленні ад самай раніцы толькі аб тым і гавораць, як учора ішоў па вуліцы п'яны Арцём Коркія, плакаў і кляў Гамрэкелі, і стараюцца згадаць, што такое з ім здарылася. Ён ведаў, што кожны па свайму будзе разглядаць яго ўчынкі і што ўсе будуць асуджаць яго за тое, што ён аддаў Іліко купцу Гамрэкелі. Мала хто спагадае Арцёму, можа толькі адзін Макар, які зазнаў гора ад Гамрэкелі і ад іншых не менш за яго. І ён вырашыў расказаць аб усім яму першаму. Макар слухаў яго моўчкі, спагадліва ківаючы галавой.

— Шкада,—сумна сказаў ён, калі Арцём скончыў.—Шкада хлапца, Арцём. На нішто звядзе яго Гамрэкелі, п'янстваваць навучыць, хлусіць, абманваць... Яму абы толькі грошы! Але што-ж мы можам рабіць? Бяда за бядой ідзе на нас, стогне народ і церпіць пакуты. Ты чуў, што па ўсёй Мінгрэліі будуць ад сялян землі адразаць да памешчыкаў? Казалі, што так пішуць у газетах, што памешчык лепш сплоціць арэнду, чым селянін... Усё роўна ўсім нам прападаць, і твая бяда, Арцём, не адна на свеце і ты ў гэтым не вінаваты, як і кожны з нас, і гэтага не зразумее хіба той, хто не ведае, якая горкая расце кукуруза на нашых палях. Можа хлапец неяк сам выб'ецца ў людзі, бо калі Гамрэкелі прадасць цябе судом, то што хлапец будзе рабіць у цябе? Ён пойдзе ў парабкі да таго-ж Сімона. Ён не міне яго рук! А калі Сімон забірае тваё поле, то і гэта для цябе ўсё роўна, бо калі не адбярэ купец, то адбярэ памешчык. Ах, Арцём, прападае бедны народ...

Макар змоўк. Яны сталі побач, двое людзей, што пражылі аднолькава цяжкое жыццё і ў абодвух былі сумныя думкі аб нястачы, аб бязрадаснай хворай старасці.

— Гогімордзвас!—сказаў рэзкі голас.

Арцём узняў цяжкую хворую галаву. За плятнём на вуліцы стаяў Гамрэкелі. Па яго выгляду Арцём пазнаў, што Сімон не ў гуморы. Шырокі твар, што блішчэў тлушчам і які заўсёды расцягвала прыемная Сімонава ўсмешка, быў нерухомым і маленькія вочы вяпра былі мутнымі, як спрасоння. Такі быў у Сімона выгляд, калі ён злаваў, і Арцём, які падумаў, што Сімону дрэнна пасля ўчарайшай выпіўкі, памыліўся.

— Ну, што-ж Арцём!—насмешліва спытаў Гамрэкелі.—Можа і сёння ты будзеш паказваць тэатры і абражаць маё імя перад людзьмі, якія нічога не ведаюць? Тады будзь ласкавы, бяры кантракт і зробім па другому... А?

Арцём маўчаў, панурыўшы галаву. Ён не ведаў, што адказваць, не мог упарадкаваць свае думкі і не хацеў гэтага. Яму было ўсё

роўна, што-б не здарылася з ім цяпер, ці пасля. Макар глядзеў у другі бок. Гамрэкелі заўважыў зацікаўленых жанчын, што выглядалі з-за платоў сваіх агародаў і пачаў крычаць:

— Ты што—глухім стаў пасля майго віна, якое ты так любіш піць і за якое плоціш мне лаянкай? Ах, як прыгожа, Арцём Коркія! Падзівіцеся, людзі! Чалавек хоча, каб я гадаваў яго з байструкамі, каб я даваў яму хлеб і грошы, каб я паіў яго віном! Ха! Ён хоча перайсці да мяне на пансіон, гэты хітры Коркія! Можна памерці са смеху з дурнога Сімона, які корміць і поіць Арцёма Коркія, каб толькі ён не лаяўся і не абражаў яго перад людзьмі! Ха! Ён плача, Арцём Коркія, з-за хлапчука, ён баіцца, што сірата будзе не парабкам, а купцом... Бачыце, людзі, Арцём Коркія не любіць купцоў!

— Бог пакарае, Сімон,—заступіся Макар.— Навошта ты здзекваешся з чалавека!

Але Сімон не слухаў. Ён зноў стаў вясёлым і рагатаў на ўсё горла, трымаючыся за плот. Усё больш зацікаўленых суседзяў з'яўлялася за плятнямі, некаторыя выходзілі на вуліцу, каб лепш было чуць, што робіцца каля дому Арцёма Коркія. Усе чулі ад слова да слова, што гаварыў Гамрэкелі, бо ён знарок крычаў на ўвесь пасёлак і ўсе былі здзіўлены, калі ўбачылі, што з двара Коркія выйшаў высокі і худы Міха аднарукі і пабег проста да Сімона.

Убачыўшы сцягнуты грымасай шаленства сухі, востры твар Міха, на якім палалі вялікія чорныя вочы, Гамрэкелі адразу змоўк, адступіў на крок і ўпёрся хрыбтом у пляцень. Людзі, якіх набралася ўжо шмат на вуліцы, з нецярплівасцю чакалі, што скажа спакойны і маўклівы калека, раз ён ужо дайшоў да такога стану. А Міха доўга не мог сказаць нічога, задыхаўся і, выскаляючы зубы, падступаў да Гамрэкелі, які павольна адыходзіў ад яго крок за крокам, трымаючыся плятня і азіраючыся на бакі.

— Любіць купцоў?—крыкнуў нарэшце Міха.—Завошта цябе любіць, пражэрная свіння? За тое, што ты рабуеш людзей, рабуеш сяленне, адбіраеш нашых дзяцей? Так? Раней князі прадавалі нас у турэцкую няволю і гэта памятае ўвесь бедны народ, а цяпер будзе прадаваць купец Гамрэкелі? А?

Міха ступіў крок наперад, Гамрэкелі адступіў, увесь час не адыходзячы ад плятня.

— Так, Сімон Гамрэкелі!—закрычаў Міха, парываючыся схапіць Сімона за каўнер.

— Міха!—крыкнуў Арцём.—Супакойся!

— Так, Сімон, Гамрэкелі?—крычаў Міха, забягаючы Сімону наперад.—За гэта мы будзем цябе любіць? Ты нас корміш і поіш? О, мы цябе любім! Ах, як яшчэ мы любім князя і падатковага чыноўніка і асобы атрад.*) Мы ўсіх любім і прыдзе пара, Сімон, што я нават цябе пацалую!.. Я цябе так пацалую, што твая жонка захварэе ад зайздрасці!..

Ён моцна пхнуў Сімона ў грудзі, прыцісвуў да плятня і спрытна схапіў за горла.

*) Меншавіцкая ахранка (1918-1921 г. г.)

— Людзі!—раўнуў Сімон, адбіваючыся ад Міха.—Людзі!

— Міха!—у адзін голас крыкнулі Арцём і Макар, кідаючыся да плятня.

Яны паспелі адабраць Сімона перш, чым прыбеглі суседзі. Збялелы Міха размахваў кулаком, калаціўся і ляскаў зубамі. Іх акружылі людзі, Сімона падхапілі пад рукі двое мужчын, хаця той і не думаў кідацца ў бойку.

— Вар'ят!—крыкнуў Сімон, пацірaючы далонню таўсты карак.— Вар'ят!

Міха зноў рынуўся на яго, але Арцём паспеў загарадзіць дарогу. Макар схапіў Міха за плечы і яго стрымалі. Узняўся гоман. Адусюль збягаліся людзі.

— Памятай!.. Гамрэкелі!...—выкрыкваў амаль непрытомны Міха.—Памятай! Калі ты... яшчэ раз прыедзеш сюды... Не будзе... ні твайго, ні нашага... Ні твайго.. ні нашага... Памятай!. Спекулянт Гамрэкелі... злодзей...

Міха не мог стаяць на нагах, ён хістаўся, яму не хапала паветра. Яго трымалі Макар, Арцём і Кетэ і цягнулі прэч. У гэты час падбеглі парабкі Гамрэкелі.

— Ён мне пагражае!—закрычаў Гамрэкелі, як толькі ўбачыў падмогу.—Людзі! Вы чулі? Вы чулі, як ён мне пагражаў? Вы чулі пра асобы атрад? Ах, ты бандыт, аднaлапы сабака! Людзі, вы чулі пра асобы атрад?

Але людзі, якія чулі пра асобы атрад і зразумелі, у які бок пайшлі справы, пачалі разыходзіцца гэтак-жа спешна, як і збіраліся. Калі Міха давялі да парогу хаты, на вуліцы нікога ўжо не засталося, акрамя трох работнікаў Гамрэкелі і яго самога. Сімон імчаў па вуліцы і крычаў, што тут зневажалі ўладу, што яму пагражалі забойствам і што яго не здзівіць, калі тут пачнецца бунт і сюды прыедзе асобы атрад. Вецер раздзімаў шырокія штаны Гамрэкелі і ён, уздымаючы пыл, каціўся па вуліцы, круглы, як мяч, выкрыкваючы пагрозы і праклёны. Следам за гаспадаром ішлі маўклівыя парабкі.

З Міха здарыўся прыпадак. Ён качаўся па падлозе, грыз руку, біўся галавой аб сцены і страшна выў. Яго трымалі Арцём з Макарам. Жанчыны плакалі ў сенях. Іліко і Вано стаялі ў кутку напалоханыя да непрытомнасці. Няшчасце, што так нечакана прышло ў маленькую хаціну Коркія, было тут поўным гаспадаром, яно трымала людзей у сваіх лапах, напаўняючы іх душы страхам і болем, роспаччу і трывогаю.

Міха, нарэшце, заснуў. Яго паклалі на ложак. Арцём з Макарам доўга стаялі над ім і адышліся толькі тады, калі яго скарэжаны твар стаў спакойным, праясней і хворы пачаў дыхаць роўна і глыбока. Тады Макар паклікаў Арцёма на двор. Арцём пайшоў за ім паслухмяна і ў яго быў такі выгляд, як бы ён не ведаў, дзе ён і што з ім робіцца.

— Арцём!—сказаў Макар,—трэба зараз-жа ісці да Гамрэкелі.

— Я не пайду!—абыякава адказаў Арцём.

— Трэба ісці зараз-жа,—паўтарыў Макар.—Трэба ўгаварыць

Гамрэкелі, інакш гэта бяда! Ты чуў, што гаварыў Міха? Гэта бяда, кажу я табе і трэба ўгаварыць Гамрэкелі.

— Я не пайду.

— Мы пойдзём разам. Хай жанчыны рыхтуюць Іліко ў дарогу, а мы пойдзем, бо Гамрэкелі паедзе і будзе позна. Пойдзем, бо я табе кажу: гэта—бяда!

Макар зайшоў у хату, распарадзіўся наконт Іліко і пацягнуў Арцёма на вуліцу.

Гамрэкелі стаяў на двары, наглядаючы за работай парабкаў, якія грузілі на арбу мяхі з агуркамі. Другая арба, даверху напоўненая зялёнай гароднінай, стаяла тут-жа. Гамрэкелі рыхтаваўся да ад'езда.

— Лягчэй, цішэй!—крычаў ён.—Ты прывык на млыне з каменнямі! Хто будзе купляць гурковую кашу, сын каровы?

Макар нясмела кашлянуў, падыходзячы да Сімона. Той хутка азірнуўся і абодва са здзіўленнем убачылі, што Сімон вясёлы і выраз яго твару не змяніўся, калі ён убачыў іх.

— Прышлі? — расплываючыся ў шырокай усмешцы, сказаў Сімон.—Вось і добра, што прышлі мірыцца. Пасварыліся і памірыліся. Гэта патрэбна чалавечаму сэрцу. Без гэтага не абойдзешся. Так нашы дзяды жылі, так і нам загадалі. Хоць ты, Арцём (усмешка збегла з яго твару), ты можа прышоў па кантракт? І можа я дарэмна цябе па-прыяцельску сустракаю? А?

— Дзе там!—удаючы бесклапотную вясёласць паспешна адказаў Макар за Арцёма.—Кантракт хай будзе на месцы, жанчыны рыхтуюць хлапца ў дарогу, а мы прышлі прасіць у цябе выбачэння за дрэнны ўчынак Міха. Сам ён цяпер хворы і не можа прыйсці, але мы думаем, ён пашкадуе, што так неразважна зрабіў. У чалавека сэрца гарачае...

Арцём маўчаў і ўпарта глядзеў сабе пад ногі.

— Глупства!—засмяяўся Гамрэкелі і дакрануўся да пляча Арцёма.— Між суседзямі ўсякае здараецца. Я і сам вінаваты, пагарачыўся за тое, што мяне ўчора Арцём абразіў... Эх! Глупства!.. Толькі (зноў усмешка знікла з твару Гамрэкелі) толькі вось, Міха шмат чаго непатрэбнага ў злосці сказаў.

Макар падштурхнуў Арцёма. Яны пераглянуліся. Гамрэкелі гэта заўважыў.

— ... але мяне не датычыцца... дакончыў ён і няшчыра засмяяўся.—Я не ўрадавы камісар і не чыноўнік, мая справа прадаць шклянку віна ды добрых людзей пачаставаць. Гэй! Старая! Віна! Прашу, суседзі! Вось тут, у засені. Сядайце! Старая, хутчэй. Пасварымся і памірымся... На гэтым чалавечае жыццё трымаецца. Так нашы дзяды жылі... Прашу, суседзі.

Ён забегаў па двары, стараючыся выказаць як мага большую ветлівасць і пашану да суседзяў, якія прышлі мірыцца. Але суседзі бачылі ў гэтай Сімонавай паваротлівасці зусім іншае. Яны здагадваліся, што Сімон нешта задумаў, але не хоча паказаць гэтага і па тым, як ён стараецца замаскаваць залішняй ветлівасцю, яны разумелі, што ўся дружба скончыцца, як толькі Сімон паедзе адгэтуль і далей нічога добрага чакаць не выпадае. Таму госці селі за стол яшчэ больш панурыя. Макар, які разумеў, што калі

яны хочуць адвесці бяду, то нельга траціць часу, сказаў пасля першай-жа шклянкі, якую пілі за дружбу, згоду і здароўе Гамрэкелі:

— Я вельмі рады, дарагі сусед, што вы дайшлі да згоды і мне прыемна сядзець за адным сталом з такім чалавекам, як ты, Сімон. Асабліва я баяўся, што ты падумаеш дрэннае пра беднага Міха, які сказаў тое, аб чым і сам не думаў. Ты-ж ведаеш, што ён калека, у яго дрэннае здароўе, і ў такім стане чалавека можна толькі шкадаваць, бо ён слабы і на сэрца, і на галаву.

Пранырлівыя вочкі Сімона, унікаючы погляду Макара, кінуліся ўправа, улева і схаваліся пад прыпухлымі павекамі. Сімон напоўніў шклянкі, агляпуў гасцей і ўсміхнуўся так лагодна і весела, як гэта яму можа зроду не ўдавалася. І па гэтым пазнаў Макар, што ніякага міру няма, і што ён сваёй прамовай закрануў іменна тое, што захаваў Сімон і што хоча замаскаваць перад імі гасціннасцю і ветлівасцю.

— Бог з ім, з бедным Міха!—сказаў Гамрэкелі, узнімаючы шклянку.—Якая ў мяне можа быць злосць на яго, на хворага чалавека. Я толькі баюся, што людзі могуць панесці на языках яго словы і ад гэтага можа выйсці бяда і яму і людзям, якіх там было шмат. Ёсць-жа такія, што не разумеюць якое слова ідзе на карысць, а якое на шкоду. А я не маю на Міха ніякай злосці і ніякай крыўды, я хачу жыць з суседзямі ў дружбе і згодзе і гэта сведчу тым, што са здавальненнем п'ю за здароўе Міха і вашае.

Цяпер ужо ўсё было зразумелым. Макар больш гутаркі пра Міха не пачынаў, яны маўчалі, хаця Сімон як мага стараўся падтрымаць весялосць за сталом згоды, і рагатаў дзе трэба і не трэба.

Калі, нарэшце, яны падзякавалі гасціннаму гаспадару і вышлі за вароты яго сядзібы, Макар сказаў:

— Добра было-б, каб Міха мог куды-небудзь паехаць. Ды і ты таксама.

Арцём падумаў і махнуў рукой.

— Куды ён паедзе?.. І што там лепшае шукаць? Хай будзе так, як прыдзецца.

Гэта было ўсё, што мог сказаць Арцём. І ён сказаў праўду. Ісці не было куды і лепшага шукаць не было дзе. Заставалася чакаць, што будзе далей з ласкі купца Сімона Гамрэкелі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Апоўдні на двары Сімона стаялі дзве запрэжаныя арбы. Ilіко сядзеў на мяху з рэдысам, еў агурок і гутарыў з Вано, пазіраючы на яго з вышыні нагружанага воза. Тут-жа былі: Арцём, старая Анна і Макар. Кетэ не магла прыйсці, яна засталася каля хворага Міха. Не было і Тапурыя. Ён лавіў рыбу на балоце.

— Я магу з'есці ўсе гэтыя агуркі,—сказаў Іліко і кінуў агрызак за плот.—Сімон казаў, што яму нічога не шкода для мяне. Так ён мяне любіць.

Вано маўчаў.

— Сімон даў мне іх цэлых два і сказаў: калі будзе мала—бяры

яшчэ,—гаварыў далей Іліко і здабыў з мяха вялізны агурок.— Хочаш, Вано?

— Я не люблю,—схлусіў Вано.—Мне ад іх баліць у жываце. Кетэ казала, што ад іх крышацца зубы.

Іліко таксама ўжо наздаволіўся гэтым ласункам, але ўсё-такі адкусіў кавалак. Агурок аказаўся горкім.

— Сімон казаў, што калі я буду есці шмат зеляніны,—украдком сплёўваючы ў кулак, сказаў Іліко,—то у мяне да восені вырастуць вусы. Ён кажа, што купцу, таксама, патрэбна і барада. Тады да его больш пашаны.

— Ад агуркоў вусы не вырастуць,—пакутным голасам адказаў Вано.—Вось я, дык ведаю, што трэба есці. У мяне да восені вырасце барада, як у Тапурыя.

— Ты будзеш падобны да Макаравага казла,—адрэзаў Іліко.

Гэта была абраза. Вано змоўк і стаяў пануранны. Ад няма чаго рабіць ён адкалупваў пазногцямі камякі гліны, што прысохлі да спіцы высокага кола. Нарэшце Вано надумаўся.

— Цябе бяруць у няволю!—сказаў ён узрадвана.—Гэта гаварыў Міха!

— Міха нічога не ведае,—абыякава адказаў Іліко.—Ён хворы. А Сімон абяцаў купіць мне чырвоную кашулю з вельмі добрага чырвонага сукна і яшчэ камізэльку.

Вано ўздыхнуў. Больш гаварыць не было аб чым. Ён быў пераможаны і Іліко, адчуваючы гэта, раскашаваў на мяху з рэдысам, стараючыся зрабіць як мага больш важную міну. Ён хацеў быць падобным да сапраўднага купца і таму хмурыў бровы і надзімаў шчокі. Вано таптаўся каля воза, млеючы ад зайздрасці.

Арцём, Анна і Макар непадалёку гутарылі ўпоўголаса. Чакалі на Сімона, які з парабкамі лавіў у хлеве курэй. Куры гарлалі на ўвесь двор. Сімон лаяўся, як ніколі і прайшоў ладны час, пакуль нарэшце, спатнелыя парабкі не вывалаклі з хлева цэлых дзве нізкі павязаных разам курэй. У паветры паляцелі пер'е і пух, у будцы забрахаў сабака, індык забалбатаў і пад'ехаў на крыллях, як на палазах. Парабкі ўскінулі курэй на воз і гвалт памалу сціх.

— Трэба ехаць,—заклапочана сказаў Гамрэкелі.—Трэба ехаць і так шмат часу патрацілі, можна спазніцца на цягнік. Бывайце здаровы, суседзі. Калі хто будзе ў Поці, заходзьце, буду рады ўбачыць.

Але выехаць адразу не ўдалося. Узлезшы на воз, Сімон знайшоў непарадкі: мяхі ляжалі не так, як трэба, няёмка было сядзець.

— Шалбы!—закрычаў Сімон.—Ты лянуешся лішні раз ступіць нагой, свінячы хвост! Мне палову дня трэба ехаць, дык я з тваё ласкі буду набіваць мазалі на прыгожым месцы?! Давай саломы!

Парабак пабег у павець. Арцём з Макарам падышлі дапамагчы Сімону, а Іліко давялося злазіць з воза. Вано стаяў каля плятня і з укосу глядзеў на Іліко.

— Вазьмі маю сетку і восці,—паблажліва сказаў Іліко.—Мне цяпер няма як рыбу лавіць. Я буду гандляваць таварамі. Хочаш агурок? Ён толькі з аднаго канца горкі.

Вано маўчаў, пазіраючы ў другі бок.

— Ты не крыўдзіся,—гаварыў далей Іліко.—Гэта я знарок сказаў пра казла...

Твар Вано пакрывіўся і яго чорныя вочы затуманіліся.

— Не трэба ехаць, Іліко...—зашаптаў Вано.—Што я буду рабіць адзін?.. Коча б'ецца, Гогі дурны, я не люблю яго... не трэба ехаць... Будзем разам хадзіць, я табе пакажу гняздо чаплі... Што я буду... адзін...

Вано ўсхліпнуў і абцёр вочы рукавом.

Іліко анямеў ад нечаканасці. Потым ён адчуў, што нешта казыча ў горле і ў яго задрыжэлі губы. Іліко напэўна заплакаў бы, каб на гэтую пару Сімон не скончыў сваёй работы на возе.

— Іліко!—крыкнуў Сімон.—Хадзі сюды, малады купец! Паехалі!..

І гэта адразу змяніла настрой. Слёзы, гатовыя выліцца, высахлі. Малады купец гэта азначае: сталы чалавек. Сталым людзям плакаць не да твару.

— Ты слінішся, як жанчына,—з папрокам сказаў Іліко.—Я не магу застацца, калі мы ўжо дагаварыліся з Сімонам... Кінь, а то ўбачаць і будуць смяяцца...

— Мне трапіў камар у вока,—сказаў Вано.—Я не плачу, няма чаго маніць! Пільная мне патрэба плакаць...

Вано яшчэ раз смаргануў рукавом па твары. У яго вачах бліснула злосць.

— Прыязджай да мяне ў госці разам з Тапурыя!—паспрабаваў прымірыцца Іліко.

— Я сам, калі захачу, буду купцом,—зазлавана сказаў Вано.— Пільная мне патрэба... у госці...

— Іліко! Іліко!—у адзін голас крыкнулі Сімон з Макарам.

Іліко пабег да арбы.

— Бывайце, суседзі!—крыкнуў Сімон, ляскаючы кіем па аблезлых сцягняках буйвалаў.—Прывязу вам купца-малайца, рыхтуйце вяселле! Э-гоп! Ха-ха-ха!.. Усяго добрага!

Сімон зайшоўся ад рогату, буйвалы ступілі наперад, загрукалі высокія колы і вазы адзін за другім выехалі на вуліцу. Арцёмаў твар пацямнеў яшчэ больш, Макар насунуў свой капялюш на вочы, старая Анна заплакала. Толькі адзін Вано быў цяпер спакойны. Пазіраючы ўслед шчасліваму Іліко, ён ужо думаў аб тым, як будуць праводзіць яго, калі ён куды-небудзь паедзе.

Буйвалы павольна ступалі, важна нясучы свае цяжкія, закручастыя рогі і вось вазы прайшлі ўжо вуліцу сялення з рэдкімі прысадамі тапаляў і каштанаў, дарога крута завярнула ў бок, паабапал яе пацягнуліся даўгія плятні агародаў і калі азірнуўся Іліко, то ўбачыў толькі шэрыя стрэхі хат і запыленую зяляніну садоў. Сяленне аддалялася. Скончыліся і плятні, колы загрукалі па насцілу, вазы ўз'ехалі на грэблю. Пачыналіся балоты.

Скрозь, як вокам глянуць, былі зараслі і вузкая зыбкая грэбля вяла наперад, губляючыся ў гушчары. Шыракалістыя каснікі, шумлівае трысцё, крушыннік і вольха, чародкі крыклівых, стракатых соек, што праз дзень сварацца ў кустах, аддаўна знаёмыя мясціны... Нудна пасвістваючы, высока над грэбляй, лётаў, выглядаючы

здабычу, маленькі каршачок. У небе плыло заімглелае сонца. Балоты драмалі ў млявай цішыні поўдня.

Тоўсты Сімон гойдаўся на бакі і нешта мармытаў сам сабе. Капялюш з'ехаў яму на самы нос і Іліко, які сядзеў ззаду, бачыў толькі ягоныя шырокія, адрузлыя плечы, з ружовым наплывам карку над каўняром. Іліко стала нудна.

— Мы хутка прыедзем у Поці, дзядзька Сімон?—спытаў ён, каб пачаць размову.

Сімон маўчаў.

— А? Дзядзька Сімон?

Сімон сагнаў кіем сляпня, што сядзеў на хрыбце буйвала і не абазваўся ні словам. Здзіўлены Іліко хацеў зазірнуць у твар Сімону, але той адвярнуўся ў другі бок. Іліко стала ніякавата. Ён больш не спрабаваў пачынаць гутарку і нават не варушыўся. Буйвалы павольна ішлі наперад, арба трэслася і скрыпела. Сядзець было няёмка, бярэма саломы ўсё больш пасоўвалася на бок, трэба было папраціць, але Іліко не адважваўся сказаць пра гэта Сімону. Так прайшоў ладны час. Нарэшце Іліко адчуў, што з'язджае з мяха зусім, і каб не ўпасці, ухапіўся адной рукой за біла, а другой пачаў падграбаць салому. Тут нешта трапіла яму пад руку. Гэта быў агурок, якім ён частаваў Вано і памятаючы, што агурок горкі, Іліко выкінуў яго на дарогу. У гэты-ж момант Сімон павярнуўся да хлапчука.

— Ты што выкінуў?—сурова спытаў ён.

— Агурок,—спужана адказаў Іліко.

— Ідзі зараз-жа, вазьмі яго!

— Ён горкі...

— Ідзі, вазьмі яго, кажу табе!—павысіў голас Сімон.—Не прывыкай гаспадарскае дабро раскідаць! Чуеш? Цябе не абыходзіць, горкі ён, ці салодкі?

Іліко глядзеў у вочы гаспадару і ніяк не мог даць веры, што Сімон гаворыць сур'ёзна. Яму ўсё здавалася, што і маўклівасць Сімона і гэтыя ягоныя суровыя словы, усё гэта знарок, што Сімон зараз зарагоча і абодвым будзе весела. Але маленькія вочкі Сімона глядзелі цвёрда і злосна і не было нават і цені ўсмешкі на Сімонавым круглым твары.

— Ідзі, шчанё!—сыкнуў Сімон, стрымліваючы буйвалаў.—Ты што аглух, чортава дзіця?

Іліко зразумеў, што ніякіх жартаў тут няма, хутка саскочыў з воза і прынёс агурок.

— Лезь!—коратка загадаў Сімон, прымаючы агурок з рук Іліко.

Іліко, спяшаючыся ўзлез на воз і прыстроіўся на самым канцы мяха. Сімон ляснуў кіем па касцістых хрыбтах буйвалаў і арба рушыла наперад.

— Чаму ты кінуў агурок?—грозна спытаў Сімон.

— Ён... горкі...—прашаптаў блізкі да плачу Іліко.

Сімон агледзеў агурок, абцёр яго аб крысо і шпурнуў далёка ў кусты.

— Ты мне гэтак усе агуркі паабгрызаеш, паскуднік!—Памятай,

калі табе гаспадар што небудзь дае, а ты не хочаш гэта спажываць, то ты павінен падзякаваць гаспадару за ласку і папрасіць, каб ён узяў падарунак назад, а не раскідаць гаспадарскае дабро па гразі. Цяпер бачу я, што ты плачаш, ад гэтага ты павінен адвыкнуць зусім. Я гэтага не люблю! Ты павінен быць вясёлым, ты павінен шмат працаваць, так як працую я, і ты павінен беражліва адносіцца да гаспадарскага дабра. Калі ты не будзеш такім, як трэба, то пойдзеш на вуліцу і будзеш начаваць з валацугамі пад баржай. Бачу, табе не падабаецца, што я кажу!? Не глядзі з-пад ілба!.. Не адварачвайся, як той воўк, якому евангеліе чыталі, а ён у лес глядзеў! Памятай, што я твой гаспадар, а ты мой слуга. Глядзі мне проста ў вочы, калі я з табой гавару! І ты павінен мяне называць не „дзядзька", а „батоно". Чуеш? Вось і ўсё!

Сімон скончыў і зноў агарнуў яго дрымотны спакой. Ён гойдаўся на бакі і бурчэў сабе пад нос. Цяпер толькі Іліко зразумеў, што бурчэнне Сімонава—гэта песня.

Іліко быў разгублены і пакрыўджаны, баяўся Сімона і адчуваў сябе адзінокім, як ніхто на свеце. Цяпер ужо яму не хацелася ехаць у незнаёмы горад Поці, гандляваць таварамі. Марудна ішлі лянівыя буйвалы, марудна рухалася арба знаёмаю грэбляю, у незнаёмае для Іліко жыццё. Ён глядзеў сухімі, пашыранымі ад нязнанага дагэтуль болю душы вачыма, на гэтыя родныя мясціны, на гэтае дрымотнае балота, за якім ляжала родная вёска, дзе жылі родныя людзі і адзіным жаданнем Іліко было: саскочыць з арбы і бегчы назад, туды, дзе квітнеюць гранаты ў маленькім садзе добрага Тапурыя, туды, дзе чакае на яго прыяцель Вано. Але гэтага зрабіць было нельга, з-пад шырокаполага капялюша скосу адным вокам, пазіраў на Іліко Сімон.

Каршачок склаў крыллі і каменем упаў у зараслі. Ён знайшоў здабычу. У кустах закрычалі сойкі. Направа, узбоч дарогі, рэдка махаючы крыллямі, з намаганнем узнялася чапля і паляцела некуды ў глыб балота. Можа быць, тая самая чапля, гняздо якой ведае Вано...

У гэты самы паўдзённы час стары Тапурыя лавіў рыбу ў ціхай балотнай рэчцы і пераглядаючы свае сеці абдумваў гісторыю пра тое, як быў выратаваны інжынер Андрэй Міхайлавіч з небяспечнай багны пад курганам. У гэты час знясілены хваробай Міха прышоў да памяці і ляжаў з шырока-адкрытымі вачыма на жорсткай посцілцы. У гэты гарачы паўдзённы час Арцём стаяў з матыгай на агародах, глядзеў на далёкія, скрытыя імглой туманаў горы і думаў свае горкія думы, а Вано, схаваўшыся ў гушчары кукурузы, плакаў, развітваючыся са сваім прыяцелем і цяпер ужо не саромеўся сваіх слёз, бо іх ніхто не бачыў.

... Марудна ішлі буйвалы, важна нясучы свае закручастыя рогі, і за імі грукала арба па вузкай грэблі, што вяла праз вялікія пространі балота туды, дзе пачыналіся сухія землі, дзе жылі інакшыя людзі і было інакшае жыццё.

Малады купец Іліко Жванія ехаў гандляваць таварамі ў незнаёмы горад Поці.

## Частка другая

Фазіс—мта. Гара Фазіс. Сівыя вяршаліны ў сям'і гор Сванетыі. Па крутых спадах імчыць леднікавы паток. Ён шуміць у вузкіх горных праходах, разліваецца па зялёных палянах пасбішчаў, з грымотным гулам падае з абрываў у змрочныя прадонні, дзе адвечная вільгаць, дзе сівыя туманы чакаюць на прыход ночы. Ён падмывае скалы, крышыць гранітныя глыбы, бярэ з сабою рэчкі і ручаіны, што трапляюцца на шляху, і поўны новых сіл, бурны і гнеўны, вырываецца з горных цяснін на прасторы даліны, дзе ў падножжы гор раскідаў свае сады стары і прыгожы горад Кутаісі.

Хутка пачынаюцца абшары Калхіды і тады жоўтапенны паток, насычаны цёмнымі водамі балот, стрымлівае свой імпэт. Рыон, многаводная, магутная рака, якую старадаўныя народы называлі Фазісам, велічна падыходзіць да мора і перад тым, як аддаць яму сваю сілу, падзяляе рэчышчы на двое. І на тым рубяжы, дзе заканчваецца адвечны шлях Рыёна, акружаны балотамі, на нізкім морскім узбярэжжы, ляжыць невялікі горад Поці.

Некалькі простых роўных вуліц. Прысадзістыя, каржакаватыя дрэвы інжыру, каштанаў, засень арэхавых прысад у цэнтры, дзе будынкі ўстаноў і найбольш багатыя крамы. Гарадскі сквер, на якім пара неахайна збітых павільёнаў, густыя зараслі лаўравішань, аліў і мірт і дрымотныя пальмы; на беразе Рыона—спавітыя дзікім вінаградам, руіны старажытнай турэцкай цытадэлі. Там-жа ўзвышаюцца шэрыя сцены недаканчанай пабудовы сабору. Невялікі рыначны пляц. На ўскраінах дамы на па́лях, глыбокія лужы, балотная дрыгва на небрукаваных вуліцах і там бясконцае рэхтанне жаб, хмары камароў і лянівая, прэлая балотная цішыня. З аднаго боку—шырачэзная морская сінь, з другога—неаглядныя прасторы калхідскай нізіны. Толькі зрэдку гудок парахода ў порце, прарэзлівы свіст лесапільні за горадам, кірмашны шум па святах, ажыўляюць млявы спакой гарадка, што дрэмле на берагах Рыона.

Такім быў Поці ў тыя часы, калі туды прыехаў гандляваць малады купец Іліко Жванія.

### I

Цягнік не паспеў яшчэ спыніцца, а Сімон быў ужо на пероне. Размахваючы паперкамі перад носам высокага чалавека з бліскучымі гузікамі, ён крычаў нешта аб багажы і аб вагоне, які адчапілі на апошняй станцыі. Следам за Сімонам выкуліўся з вагона Іліко са сваім клункам.

— Вагон адчапілі таму, што загарэліся буксы,—спакойна растлумачваў Сімону высокі.—Калі буксы гараць, вагон следаваць не можа... Забаронена правіламі руху!

Іліко таптаўся каля Сімона, увесь час трапляючы пад ногі людзям, якія некуды спяшаліся. Ён быў аглушаны ўражаннямі гэтага незвычайнага дню: чорнае страшыдла—паравоз, вялікія і прыгожыя дамы на калёсах, шмат народу, начальнікі з светлымі гузікамі, ліхтарамі і флагамі, свіст і грукат, усё гэта ўздзейнічала на Іліко так, што ён баяўся адступіць на крок ад Сімона.

— А гнілы тавар, з вашай ласкі, прадаваць правіламі не забаронена?—верашчэў Сімон, наступаючы на высокага.—Чаму гэта, калі гараць нейкія буксы, то павінен гарэць Сімон Гамрэкелі? Падавайце мой багаж, я на гэта грошы патраціў! У мяне з вашай ласкі гніюць два вазы гародніны, у мяне, з вашай ласкі, куры з голаду паздыхаюць! Я не настолькі багаты, каб з-за вашых праклятых буксаў страты цярпець! Я падам скаргу ва ўпраўленне дарогі!

Іліко нічога не разумеў з гэтай гутаркі. Ён баяўся, што начальнік заарыштуе Сімона. Але дзяжурны па станцыі быў спакойным чалавекам і акрамя таго, яму не было чаго рабіць. Ён моўчкі слухаў, паглядаючы паверх Сімонавай галавы і ад гэтага Сімон аж шалеў. Нарэшце дзяжурнаму надакучыла і ён узяў багажныя квіткі.

— Адзінае, што я магу зрабіць,— сказаў ён, разглядаючы паперкі.—Гэта адзнаку аб прычынах затрымання грузу. Падавайце скаргу.

— Адзінае, што я магу зрабіць, — сказала курыца, — гэта знесці яйка!—крыкнуў Сімон.—Іліко, пайшлі! Казу купіў, казу прадаў, а карысці ні капейкі!

Сімон крута завярнуўся і памчаў па перону, узнімаючы пыл сваімі шырокімі порткамі. Следам пабег Іліко. На вакзальным пляцы чакала на Сімона лінейка, пакрытая дыванам. На козлах сядзеў смуглы, чорнавусы чалавек і курыў. На ім была чырвоная кашуля і камізэлька, аб якой марыў Іліко.

— Я ўжо думаў, вы не прыехалі, батоно,—сказаў ён роўнадушна.—А гэты хлопчык з вамі?

Сімон, не адказваючы, ускочыў на лінейку. За ім узлез Іліко. Чорнавусы тузануў за лейцы. Лінейка загрымела па бруку. Сыты, лянівы конь бег трухам, бразгаючы вялізнымі падковамі, маўклівы фурман густа курыў, едкі дым цэлымі хмарамі плыў над яго войлачным капялюшом, Сімон сапеў носам, адплёўваўся і лаяў дзяжурнага. Лінейку моцна трэсла і калаціла па разбітым бруку і Іліко трымаўся за жалезную парэнчу з усяе моцы. У гэты час заходзіла сонца, косыя праменні густа фарбавалі дахі нізкіх дамоў, у вузкіх вуліцах згушчаўся змрок. Лінейка завярнула ў нейкую вуліцу, Іліко ўбачыў вялікі сад і зараз-жа адкрылася мора. Дрымота, якая ўжо дакучала стомленаму хлопчыку, знікла без следу.

Агромная неаглядная прастрань ззяла ўсімі фарбамі вячэрняй зары. Чысты блакіт і барвовы пурпур, цёмная сінь і жоўтыя агнявыя ўспышкі на грэбнях хваль, безліч колераў і адценняў іх, расцякаліся, мяняліся, трапяталі, ішлі шырачэзнымі палотнішчамі па невымернай гладзі спакойнага мора, ад гарызонту самага і загасалі дасягнуўшы берагоў. Неба злівалася з морам і гэта быў дзівосны, казачны пажар, які ахапіў палову свету.

Іліко глядзеў шырока адкрытымі вачыма на гэты цуд.

— Заўтра будзе добрае надвор'е,—сказаў чорнавусы, паганяючы каня.—Хо! Заўтра цёпла будзе. Сонца весела спаць пайшло.

— Яно заўсёды так?—спытаў Іліко, забыўшыся на ўсе крыўды і на тое, што Сімон загадаў не дакучаць.—Яно заўсёды такое...

чырвонае? Яно мусіць глыбокае? А? Дзядзька Сімон?! Стары Тапурыя казаў, што...

— Сціхні!—сыкнуў Сімон.—Мне патрэбна ведаць, што казаў нейкі Тапурыя!.. Гвацiя! Кінь курыць, ты задушыў мяне дымам! Не гані каня, я сабе зубы паадбіваю на гэтай дрындзе! Сонца весела спаць пайшло! Што мне з таго, калі я сам спаць іду плачучы! Добрае надвор'е яму патрэбна, гэткаму пану! У цябе дабро не гіне ў вагоне?.. Га?

Гвацiя кінуў акурак, стрымаў каня, лінейка павольна рушыла прысадамі па самым узбярэжжы і Іліко доўга яшчэ бачыў палымнеючае мора.

— Каб тут быў Вано!—падумаў Іліко, асцярожна пазіраючы на Сімона.—Чаго ён злуе на мяне? Ой, які дрэнны чалавек!

Яму было сумна, ён адчуваў сябе чужым і адзінокім сярод гэтых людзей. Але плакаць было нельга. Побач сядзеў Сімон, які не любіў, калі людзі плачуць.

На рагу вуліцы стаяў ліхтар, праз шырокія вокны вялікага дома ў змрок вечара падала святло. У доме, відаць, было шмат людзей, па шыбах мітусіліся цені, чутна была музыка і спевы. Тут і спынілася лінейка. Гвацiя саскочыў, адчыніў вароты і ўвёў каня ў двор.

— Злязай!—падштурхнуў Іліко Сімон.

На двары было зусім цёмна. Іліко не мог добра аглядзецца і стаяў на месцы. Гвацiя выпрагаў каня. Сімон адышоўся ў бок, нешта мармытаў там сам сабе, крахтаў і потым сціх. З дому ўсё так-жа чутна была музыка, тупат ног і галасы. Іліко паглядзеў угору. Неба стала цёмным і на ім трымцелі вялікія і ясныя зоры.

Гвацiя выпраг каня і павёў яго некуды ў двор. Скрыпнулі вароты. Іліко стаяў, трымаючы пад пахай свой клунак. Сімон не абзываўся. Так цягнулася даволі доўга. Зноў заскрыпелі вароты. Гвацiя вяртаўся назад.

— Гвацiя!—натужна крыкнуў Сімон так, што Іліко знянацку ўздрыгнуў.—Гвацiя, чуеш?

— Я тут, батоно,—недзе зблізку адказаў Гвацiя.

— Вазьмі хлапца, вядзі на кухню і скажы старой, каб дала яму чаго-небудзь есці... Чуеш?

— Чую, батоно!

— ... Хай спіць у каморы... Потым прыдзеш да мяне, я скажу, што трэба з ім рабіць... Ха, чорт, нервы мне сёння папсавалі... Дык, ідзіце!

Гвацiя падышоў да Іліко, узяў яго за рукаў і моўчкі павёў за сабой.

На кухні быў чад і прагорклы смурод апаленага пер'я і перасмажанага тлушчу. Пад нізкаю столлю вісела цмяная, забруджаная лямпа. Ля печы, падобнай да кавальскага горна, завіхалася жанчына.

— Саламея!—крыкнуў Гвацiя.—Пакармі хлапца.

— Які хлапец?—ахрыплым мужчынскім голасам спытала жанчына.

— Гаспадар прывёз.

— Добра. Хай пачакае.

— Хадзі сюды!—сказаў Гвацiя да Іліко.—Сядай тут, табе дадуць есці, я па цябе потым прыду.

Іліко паклаў свой клунак на падлогу і сеў на шырокую лаву. Гвацiя вышаў.

— Яна, мусіць, таксама дрэнная...—думаў Іліко пра жанчыну, што завіхалася каля печы.—У яе страшны голас і яна, калі я прышоў, нават і не глянула на мяне. І Гвацiя злы.. Ён усё маўчыць...

Акрамя Саламеі, на кухні была яшчэ адна жанчына. Яна мыла талеркі і таксама ні разу не глянула на Іліко.

— Усе тут дрэнныя...—думаў Іліко.—Тапурыя быў добры. Дзядзька Арцём быў добры, Кетэ была добрая, Вано, цётка Анна... А тут усе дрэнныя... А-вай...

Іліко абапёрся аб сцяну, каб ямчэй было сядзець. Ён закрыў вочы, на якіх былі слёзы ад едкага дыму.

— Я ўцяку адгэтуль...—думаў Іліко.—Я ўцяку, тут дрэнныя людзі... Прыду да дзядзькі Арцёма, а ён працуе ў кукурузніку... Прыду да дзядзькі...

І тут Іліко нечакана ўбачыў Арцёма. Ён стаяў у кукурузніку, за плятнём, круціў свой сівы вус і ўсміхаўся.

— Тут усе дрэнныя людзі,—сказаў Іліко.

Твар Арцёма стаў сумным.

— Мала добрых людзей на свеце, сынок,—адказаў Арцём так, як гаварыў ён заўсёды.

— Я ўцёк,—сказаў Іліко.—Я не хачу гандляваць таварамі.

— Ён не хоча гандляваць... ха-ха!—сказаў нехта чужы.

Арцём сумна ўсміхнуўся і знік, толькі калыхаліся яшчэ заласцістыя мяцёлкі кукурузы.

— Ён заснуў,—зноў сказаў чужы.— Змарыўся.

Іліко адкрыў вочы. Каля яго стаялі трох: Гвацiя і дзве жанчыны.

— Калі не хочаш гандляваць, дык мо' чаго з'еў-бы?—спытаў Гвацiя.

Іліко маўчаў, з-пад ілба пазіраючы на чужых.

— Ён яшчэ зусім малы,—сказала маладзейшая жанчына.

— Я не малы!—агрызнуўся Іліко, тулячыся да сцяны.

— Хочаш, я табе дам харчо?—спытала тая, у якой быў страшны голас.

Іліко любіў гэтую пахучую страву. Ён недаверліва паглядзеў на жанчыну і цяпер яна чамусьці здалася не такой страшнай. Яна была падобная да бабулі Анны.

— Хачу...—нерашуча адказаў Іліко.

Праз хвіліну перад Іліко стаяла міска з харчо, а за сталом, супроць яе, сядзеў Гвацiя. Ён таксама аказаўся не такім злым і ад яго пахла віном. Жанчыны зноў узяліся за работу. За сцяной пачала граць музыка, там не спыняўся гоман і спевы, у печы ясна разгарэўся агонь і на кухні пасвятлела. Іліко адчуў сябе лепш.

— Дык, ты, кажаш прыехаў вучыцца на купца?

Іліко паківаў галавой. У яго быў заняты рот.

Гвацiя выцягнуў з кішэні бутэльку і пагладзіў вусы.

— За тваё здароўе, малады купец!

— На здароўе!—адказаў Іліко. Ён стараўся быць прыстойным.

— Гэта гаспадар табе сказаў, што ты будзеш купцом?—спытаў Гвацiя, хаваючы бутэльку.

— Гаспадар. Ён сказаў яшчэ, што ў мяне будзе чырвоная кашуля і камізэлька, як у вас.

— Гэта то будзе!—упэўнена адказаў Гвацiя.

Іліко стала весела. Ён дакончыў вячэру і збіраўся ўжо, як і ўсе дарослыя, распачаць гутарку пра справы, але Гвацiя ўстаў з-за стала.

— Пойдзем спаць, купец,—сказаў ён.—У нас устаюць рана.

Не заставалася больш нічога, як узяць свой клунак і пайсці за Гвацiя. Але гэта не сапсавала настрою хлапца і ён, супакоены і здаволены, лёг спаць на войлачнай посцілцы ў маленькай каморы. Ён бачыў у сне шэрыя стрэхі родных хат, сваіх пакінутых сяброў і не ведаў, што на гэтыя ціхія стрэхі павольна сунецца злавесная хмара няшчасцяў.

* *
*

Сімон Гамрэкелі вышаў на вуліцу, пастаяў ля варот, пасвістаў, абдумваючы нешта, і ўзышоў на ганак. У духане іграла шарманка. Сімон адчыніў дзверы і пераступіў парог. Воблака тытунёвага дыму ўскалыхнулася і пайшло яму насустрач. Гул п‘яных галасоў агарнуў Сімона.

— Гаспадар!

— Хо-о!.. Гаспадар!

— Гамарджоба, Сімон!

— Выпі з намі!

— Здароўе Сімона!

Гасцей было шмат, усе столікі былі заняты і пасярэдзіне абшырнай залы Сімонавага духана за шырокім сталом гарлала і бразгала кубкамі вялікая кампанія. З усіх бакоў да Сімона цягнуліся рукі з келішкамі, шклянкамі, кубкамі. Сімон кланяўся направа і налева. З-за вялікага стала ўзняўся таўшчарэзны мужчына з рогам віна ў руках. Гэта быў прыяцель Сімона, Саламон Пачулія.

— Музыка, ціха!—закрычаў ён.—Батонібо! Першы тост мы п‘ем за нашага дарагога Ноя*) за нашага бацьку, за ягоны светлы розум і добрае здароўе! Ваша!

— Ваша-а-а!— падхапіла кампанія.

Нехта падаў Сімону шклянку. Усе ўсталі. Саламон Пачулія ўзняў вялізны рог і перахіліўся назад. Усе адразу сціхлі. Пачулія ўсё больш перахіляўся і адпаведна гэтаму ўзнімалася яго рука.

— Тры бутэлькі!—у захапленні сказаў нехта.

— Ціха!

Чырвоны твар Пачулія стаў шызым, вялізнае бруха гарой выпірала над сталом. Нарэшце, ён выпрастаўся. Рог быў пусты!

— Га-а-а, Саламон!—зашумела кампанія.

---

*) Ной Жорданія, кіраўнік меншавіцкага ўрада ў Грузіі (1918—21 г. г.).

— Ой, Саламон!

— Здароўе гаспадара, Саламон!

Пачулія аціраў вусы. Зноў заграла шарманка. Пілі за здароўе Сімона і потым Сімон піў за здароўе гасцей і паказаў не меншае за Пачулія ўмельства.

— Рэзаць барана!—крычалі госці.—Музыку! Досыць шарманкі!

Сімон сказаў некалькі слоў буфетчыку, той абцёр рукі і выскачыў на вуліцу. Госці з-за маленькіх столікаў адзін за другім пакідалі духан. Сімон не пайшоў іх угаварваць. Гэта была драбяза—рыбакі і некалькі сялян з Рачынскага павету, якія заначавалі ў горадзе. Хутка ў духане засталася толькі кампанія пад кіраўніцтвам Саламона. Тут былі такія-ж купцы, як Пачулія і сам Гамрэкелі, некалькі больш дробных, але паважаных гандляроў, чыноўнікі, на чале са зборшчыкам падатку, і іншая цёплая грашовая публіка.

Сімон сядзеў побач з Пачулія і старанна падліваў яму ў кубак. Пачулія ахвотна піў, яшчэ больш еў і кідаў косткі пад стол.

— Мусіць зарабіў, Соломо?—дапытваўся Сімон.—Па вачах бачу, што зарабіў! Навошта хаваешся ад прыяцеля?

Але Пачулія падміргваў суседзям, жартаваў, ліў у сябе віно як у бочку і нібы не чуў Сімонавых пытанняў.

— Соломо!—ныў Гамрэкелі.—Чаму ты не скажаш?

Але Соломо, у гэты час, пачынаў гутарку з суседам. Ведаючы ягоную натуру, Сімон цярпліва падліваў віна. І вось язык Пачулія пачаў блытацца, маслінавыя вочы затуманіліся і, нарэшце, ён абняў Сімона за шыю.

— Сімон, ты лепшы мой друг!—расчулена сказаў Саламон.—Ты лепшы мой друг і... разумная галава, Сімон... Я добра зарабіў! Дай, я цябе пацалую, мой дарагі Сімон!...

— На чым ты зарабіў?—ціраючы твар спытаў Сімон.

— Хром!... Сапраўдны англійскі хром... Падэшва і іншы палувал... Ха! Я ўсё гэта пераправіў у Тбілісі... Добра зарабіў. Гуляем!

Сімон адразу ацверазеў і страціў настрой. Адсунуўшыся ад Пачулія, ён панура аглядаў гасцей. Сімона ела зайздрасць і яму цяпер здаваліся глупствам гэтыя клопаты і беганіна з гароднінай і курамі. Яго нават не цешыла выручка ад сёнешняй гулянкі. Гэта можа адна тысячная доля прыбытку пранырлівага Пачулія!

— Соломо!—пачакаўшы, зноў пачаў Сімон.—Соломо! А колькі ты зарабіў? Ну, скажы, не бойся прыяцеля... Соломо!

Гамрэкелі енчыў яшчэ з поўгадзіны да тэй пары, пакуль Саламон зноў абняў яго за шыю. Паміж двума сакавітымі пацалункамі Сімон пачуў такую лічбу, ад якой яму стала холадна.

— Ай!—мог толькі сказаць Сімон.—У інтэнданцтва?

— Што, у інтэнданцтва!

— Прадаў...

— Ва!—зняважліва ўсміхнуўся Пачулія.—Я з інтэнданцтва купіў, а куды прадаў, гэта мая справа... Дарагі Сімон! Соломо ўмее...

Пачулія змоўк на поўслове, адвярнуўся ў другі бок і пачаў

нешта шаптаць суседу, камерцыйнаму чыноўніку з транспартнай канторы. Гамрэкелі зразумеў, што Саламон толькі прыкідваецца п'яным і што гэтую гулянку ён завёў нездарма. Ва ўсякім разе не з-за тэй прычыны, што ён добра зарабіў і хоча пагуляць з сябрамі. Сімон пасунуўся бліжэй, спадзяючыся ўчуць хоць-бы адно слова з гутаркі Саламона з чыноўнікам, але на тую бяду за сталом пачаліся спевы. Госці галёкалі ў паўтара дзесятка горлаў так, што ў Сімона зазвінела ў вушах і ён кінуў слухаць.

— Вось гэта галава!—пакутваў Сімон.—Гэты чалавек умее гандляваць! Ён мае справу з разумнымі людзьмі і ў яго кішэнях звоніць золата. А ты, Сімон, лётаеш па балотах, месіш гразь, шалудзівыя мужыкі гатовы прабіць табе чэрап матыгамі, ты гандлюеш агуркамі і мацаеш курэй і ў кішэнях у цябе не столькі золата, колькі гарбузікаў! Ай, які ты стаў дурны, Сімон!

Госці гутарылі, спявалі, бразгалі кубкамі, смяяліся. Пануры Сімон сядзеў маўклівы і насцярожаны. Ягоную, прагную да здабычы душу, пякла зайздрасць.

— Дзесяць мяхоў гомі. Што гэта за гандаль!

— Вы чулі? Былі выпадкі захворванняў на халеру!

— Пляваць я хацеў на халеру!.. Вып'ем!

— Патрыярх Леанід служыў у Сіонскім саборы...

— Пляваць я хацеў на...

— Што?!!

— Я не на патрыярха... Я на халеру...

— Вып'ем!

— Панове! Тост!

— Я быў заняты размовай і нічога не чуў...

— Рабочыя майстэрняў... Яны не хочуць...

— Мала, што яны не хочуць...

— Рубель на рубель—гэта гандаль.

Усё гэта Сімон прапускаў міма вушэй. Ён пільнаваў Пачулія, камерцыйнага чыноўніка і зборшчыка падатку. Цяпер яны гутарылі ўтрох. Сімон адчуваў сябе як на вугаллях. Ягоныя, зарослыя рудым воласам вушы прагна лавілі кожны гук іх ціхай размовы.

— Я так думаю, што ўзіму па гарадах пачнецца голад... Запасы хлеба, панове, гэта скарб... Каб я быў купцом, я-б скупляў хлеб і...

Усе ўтрох, як па камандзе, глянулі на Сімона. Падатковаму чыноўніку здалося, што ён залішне павысіў голас. Але Сімон Гамрэкелі, ветлівы гаспадар, частаваў суседа і быў заняты толькі сваёй справай.

— Не губляйце часу, паважаны Пачулія, вось вам адзіная мая парада. Мне здаецца, што вы будзеце ўдзячны за маю паслугу.

Далей справы Сімона нечакана і хутка пайшлі яшчэ лепш. Адчыніліся дзверы і ў духан увайшлі новыя госці і адзін з іх быў Акакій Гунава, асобаатрадчык. Ён яшчэ стаяў на парозе, заклаўшы пальцы рук за аздоблены срэбнай насечкай пояс і паклонамі адказваў на прывітанні, як Сімон ужо вырашыў, што трэба рабіць. Ён у адно мгненне выбраўся з-за стала і апынуўся ля парога.

— Прашу! Дарагія госці...

Важны, надзьмуты Гунава, павольна абышоў стол. Гамрэкелі вёў яго пад рукv і пасадзіў на пачэснае месца ў цэнтры, але з такім разлікам, каб Саламон не прысуседзіўся да гэтай персоны. Ён нават не адышоўся ад Гунавы і здалёк распараджаўся ўсаджваннем астатніх асобаатрадчыкаў. Пачулія, зацікаўлены, моўчкі глядзеў на Сімонавы манеўры. Ён хацеў разгадаць ягоную ігру.

— Нічога, прыяцель!—сказалі яму светлыя Сімонавы вочкі.— Ты сабе, я сабе. Пагуляем.

Саламон з абыякавым выглядам адвярнуўся ў другі бок.

Зноў адчыніліся дзверы. Буфетчык прывёў двух вандроўных музыкаў, якіх яму ўдалося вывудзіць з суседняга духана. Неўзабаве заскогліла скрыпка, завыла віяланчэль, падобная да абшарпанай скрыні, падатковы чыноўнік выйшаў танцаваць, але наляцеў на служавак, што неслі з кухні доўгачаканага барана.

Сімон заняўся з Гунава.

* * *

На золаку Сімонаву жонку абудзіў грукат. Нехта абярнуў крэсла ў суседнім пакоі і там чыркалі запалкамі. Потым пачуўся ахрыплы голас Сімона:

— Сюды, друг Гунава, налева... Цішэй, тут жонка спіць. Ты спіш?

Жанчына прыкінулася спячай. Праз спальню прайшоў са свечкай у руцэ Сімон, за ім, высокі і тонкі, як жэрдка, Гунава. Жанчына заўважыла, што абодвы дрэнна стаяць на нагах. Яны пакінулі дзверы адчыненымі. Было зусім добра чуваць, што гавораць і яна пачала слухаць.

— ... будзе каштаваць!—сказаў Гунава.

— Нічога не зробіш,—пакорна адказаў Сімон.

— Ты напішаш, я падтрымаю,—сказаў Гунава.—Усё ў парадку.

— Колькі?—спытаў Сімон.

— Сто жоўценькіх,—коратка адказаў Гунава.

— Дорага!—яшчэ карацей сказаў Сімон.

— Нічога не зробіш!—тонам Сімона адказаў Гунава.

Памаўчалі.

— Пяцьдзесят цяпер, пяцьдзесят потым,—прапанаваў Сімон.

— Сто адразу,—уздыхнуў Гунава.—І штуку сукна потым. Ты напішаш, я падтрымаю. Справа зроблена.

— Чорт!—сказаў Сімон.

Памаўчалі.

— Пойдзем вып'ем?—спытаў Гунава.

— Пойдзем,—адказаў Сімон.

Яны зноў прайшлі праз спальню і зноў загрымела крэсла. Здалёк жанчына ўчула.

— ... жонка... здаровая?

— Здаровая... ведзьма...

У ранні час, на ўсходзе сонца жанчына абудзілася яшчэ раз. Ля ложка стаяў Сімон і, махаючы рукамі, гаварыў прамову.

— Пачулія зарабіў грошы і думае, што ён разумнейшы за ўсіх. Але ты, Соломо (ён пагразіў пальцам), не думай, што грошы галоўная сіла!.. Галоўная сіла—зямля! Я не спрачаюся, Соломо, аб тое, што грошы не маюць сілы! О, не! За грошы можна купіць нават і зямлю!.. Але, адкуль-жа бярэцца золата? З зямлі! Адкуль хлеб, віно, бараны і ўсё, што патрэбна чалавеку?.. З зямлі! Грошы можна згубіць, а зямля заўсёды застанецца пры табе... Я вырашыў заняцца зямлёй, Соломо! (Сімон ікнуў і пахіснуўся.) Я буду набываць зямлю без золата, і здабываць з яе золата!.. Зямля—гэта сіла, а астатняе ноль і цьфу! Я не спрачаюся, што золата гэта сіла... Калі я аддаваў сёння гэтаму прахвосту Гунава сто залатых, у мяне адбалела палова сэрца... Але, самая галоўная сіла...

У гэты момант заскрыпелі пружыны ложка і Сімон змоўк. З-пад коўдры, агромная, як мядзведзіца, вылазіла мадам Гамрэкелі. Сімон адступіў на крок, потым зрабіў другі і хутка апынуўся за парогам спальні. Мадам Гамрэкелі моцна груркнула дзвярыма і Сімон чуў, як шчоўкнуў замок.

— Самая галоўная сіла...—прамармытаў Сімон, кладучыся на канапу.

Раніцой мадам Гамрэкелі вышла з спальні. Сімон сядзеў за сталом і пісаў.

— Што ты пішаш?—густым голасам спытала мадам Гамрэкелі.

Сімон маўчаў. Мадам Гамрэкелі паправіла шаль і моўчкі вышла. Сімон прачытаў напісанае. Папера была гатова. Яна пачыналася словамі:

*Даводжу да ведама асобаму атраду.*

і заканчвалася ўласнаручным подпісам купца Сімона Гамрэкелі.

„... з прычыны таго, што адзін сын Арцёма Коркія, Вісарыён, з'яўляецца комуністам—пісаў Сімон,—то калі я браў да сябе на службу няпоўналетняга Іліко Жванія, старэйшы сын Арцёма, Міха, не хацеў мне яго аддаваць, так як Арцём з'яўляецца апякуном няпоўналетняга Іліко Жванія. Калі я ўзлаваўся і сказаў, што яны не хочуць дзіцяці дабра, а калі так, то і я не хачу для іх дабра і спаганю з іх даўгі праз суд і не хопіць іхнае гаспадаркі, каб сплаціць даўгі, памянены вышэй Міха Коркія (аднарукі па прычыне георгіеўскага кавалерства) пачаў мяне лаяць, кідаўся біцца, лаяў урад і асобы атрад (апошнія два словы Сімон два разы падкрэсліў) і казаў, што ён зробіць паўстанне, пасля чаго яго схапіў прыпадак, так як ён ёсць прыпадачны. Сын Арцёма Коркія, Вісарыён, каторы комуніст, пайшоў у Чырвоную армію да большэвікоў, а перад тым, як пайсці да большэвікоў ледзьве не застрэліў аканома князя. Прозвішча аканома Гогі Дгебуадзе і ён гэта пацвердзіць.

Па прычыне ўсяго вышэйпаказанага, прашу высяліць сям'ю Арцёма Коркія з сялення Сагвасаліо, а старэйшага сына ягонага, па імені Міха, арыштаваць, як яўнага большэвіка, бо ён падбухторвае народ знішчыць мае плантацыі, якія я маю ў памяненым вышэй сяленні".

Скончыўшы пісанне, Сімон паклаў пяро і задумаўся. Ён вылічваў, наколькі пашырыцца плошча яго вінаграднікаў, калі да яе далучыць зямлю Коркія і Іліко.

— Галоўная сіла, дарагі Соломо, гэта зямля!—сказаў Сімон, заклеіў паперу ў канверт, паклаў у кішэню і вышаў з пакою.

Ён пайшоў па справах. Сімон ніколі не адкладваў на заўтрае тое, што можна зрабіць сёння.

Дзверы скрыпнулі і ясны сонечны зайчык ускочыў у цёмную камору. Іліко абудзіўся.

— Хто там?—спытаў ён.

— Я!—адказаў тоненькі галасок.—Гвацiя, кажа, табе трэба ўставаць, а то гаспадар убачыць, што доўга спіш. Уставай!

Іліко ў першую хвіліну ніяк не мог уцяміць, дзе ён знаходзіцца і што гэта за гаспадар і хто такі Гвацiя. Замест знаёмай пракуранай столі, над галавой запыленымі вехцямі звісала павуцінне, поблізу стаяла вялікая абсмаленая дзяжа, навокал было шмат усялякага ламачча і заместа вакна, былі вузенькія шчыліны ў дзвярах і праз іх праліваліся светлыя праменьчыкі. Нарэшце Іліко прыпомніў: Сімон, Поці, Гвацыя, чырвоная кашуля і камізэлька. Ён хутка ўскочыў і пачаў апранацца.

— Ты не спіш?—спытаў з-за дзвярэй тонкі голасок.

— Не. Я ўстаў. А што Сімон чакае?

— Які Сімон?

— Рыжы.

— Так нельга пра гаспадара гаварыць,—адказаў галасок з-за дзвярэй.

Праз хвіліну Іліко вышаў з каморы. У калідоры, ля вакна, стаяла маленькая дзяўчынка. У яе былі даўгія чорныя косы, смуглы твар, і вельмі вялікія дапытлівыя вочы, якія ў момант агледзелі Іліко з ног да галавы і спыніліся на ягоным заспаным твары. Іліко чамусьці стала няёмка.

— Чаго ты на мяне так глядзіш?—спытаў ён, адварочваючыся ад сонца, бо святло рэзала вочы.

— Я думала, што ты малы!—адказала дзяўчынка, паціскаючы плечыкам.—А ты зусім вялікі...

Яна гаварыла так, як-бы шкадавала, што Іліко вялікі. Але гэта яму прышлося да спадобы.

— Я не малы,—здаволена адказаў ён.—Мне дзевяць гадоў.

— А мне сем,—сказала дзяўчынка.—Я яшчэ малая. А як цябе звяць?

— Іліко. А цябе?

— Маро. Маю маму завуць Саламея. Яна кухарка на кухні, а тату забілі на вайне. У цябе ёсць мама?

— Няма. Я адзін жыву... Я прыехаў у Поці вучыцца гандляваць таварамі.

— Ну, дык пойдзем,—сказала Маро.—Мама табе дасць есці, а потым ты будзеш мыць бочкі. Так сказаў Гвацiя.

— Бочкі?—спытаў Іліко, ідучы следам за Маро.—А якія бочкі?..

— Ад віна...

Маро хутка збегла ўніз па драўляных усходах і яны апынуліся

на абшырным двары, з усіх бакоў акружаным пабудовамі. Тут Іліко ўбачыў Гвація. Ён выкочваў бочкі з пограба.

— Гамарджо!—сказаў Іліко, знімаючы сваю круглую шапку.

— А, купец!—засмяяўся Гвація.—Бяжы хутка на кухню, а потым сюды. Ёсць работа.

Маро ужо чакала ля дзвярэй кухні.

Далей усё пашло зусім не так, як Іліко меркаваў. На снеданне замест харчо, на якое ён разлічваў, памятаючы ўчарашнюю вячэру, было мацоні і да яго хлеб. Толькі, калі ўжо Іліко збіраўся адыходзіць, Саламея дала яму курэчую ножку і сказала, каб ён з'еў як найхутчэй і каб ніхто не ўбачыў. Гэта здзівіла Іліко, але ён зрабіў так, як сказала Саламея. Пасля гэтага пачаўся цэлы шэраг непрыемных нечаканасцей. Гвація, убачыўшы Іліко, сказаў:

— Ну, купец, знімай кашулю!

— Навошта?—спытаў Іліко.

— А як-жа ты ў кашулі палезеш у бочку? Знімай, яна ў цябе яшчэ добрая. І падкасвай штаны... Замочышся, як даўгахвостая мыш...

Іліко стаяў збянтэжаны і не ведаў, што яму рабіць. З кухні раз-па-разу выходзілі то Саламея, то другая жанчына, воддалі стаяла Маро; няёмка было распранацца.

— Маро, ідзі адгэтуль,—загадаў Гвація.—Зараз устане гаспадыня. Знімай кашулю, Іліко. Ужо нясуць ваду.

Жанчына з кухні несла вядро, з якога ішла пара.

— Вось у тую, у большую,—паказаў Гвація і дапамог жанчыне выліць ваду ў бочку. Потым ён адвярнуўся да Іліко.

— Хутчэй, купец! Выйдзе гаспадар, бяда будзе. І так спазніліся, бо я цябе пашкадаваў рана будзіць. Ну, жыва!

Іліко адважыўся нарэшце і ўзяўся за завязкі кашулі. Потым Гвація ўзяў яго пад рукі, узняў у паветра і пачаў павольна апускаць у вялікую бочку.

— Ай!—сказаў Іліко, як толькі ногі яго дакрануліся вады.

— Горача?—спытаў Гвація.—Ну, я патрымаю цябе... Прывыкай...

Ён нейкі час трымаў Іліко пад рукі, павольна апускаючы яго ўніз. Вада была вельмі гарачай, у Іліко зайшлося дыханне, ён пачырванеў.

— Прывыкнеш, прывыкнеш...—суцяшаў Гвація,—дарагі мой, я таксама папарыў пяты не раз. А ну! Гоп!

Іліко стаў на дно і адразу адчуў сябе неяк лепш. Ён ужо крыху прывык да вады і акрамя таго быў здаволены, што ніхто не бачыць яго без кашулі, бо ён схаваўся з галавой. У бочцы было гулка, душна ад пары і нейкага густога смуроду. Стаяць было таксама дрэнна: дно і сценкі аплылі слізкаю цвіллю. Іліко ўзняў галаву і ўбачыў угары блакітнае чыстае неба. Па ім ішло лёгкае курчавае воблака, пранізанае сонечнымі промнямі.

— Ну, купец!—пачуўся ўгары голас Гвація.—Вось табе інструмант. Бяры і мый сцены, пакуль вада гарачая.

У ваду шлёпнуў сухі пук нейкай надзвычайна жорсткай травы. Калі хлапчук узяўся за работу, ён спачатку баяўся, каб не парэзаць рук. Але трава хутка размокла і працаваць стала лягчэй.

Апоўдні, на двары стала горача. Сонца стаяла амаль проста над галавой і прыпякала так, што куры, якія швэндаліся дагэтуль па двары, разявіўшы дзюбы, самі лезлі ў пограб. Гваціяўвесь час майстраваў там. Ён збіваў абручы і знімаў пакрышкі з бочак, якія Іліко павінен быў потым вымыць. Пасля гэтага, як растлумачыў Гваціяя, бочкі заставаліся толькі абкурыць, каб не было дрэннага паху, ад якога магло папсавацца маладое віно. Да поўдня Іліко вымыў дзве бочкі. Ён прывык ужо да гарачай вады, але Гвація, які на ўласным вопыце ведаў гэтую работу, перад тым, як перасадзіць Іліко ў трэцюю бочку, перакаціў яе пад павець, каб хлапцу не дакучала сонца.

Іменна тады і вышла з дому мадам Гамрэкелі. Звычайна яна рэдка з'яўлялася на двары, тым больш у такую пару. Але ёй сказалі, што гаспадар прывёз новага работніка і яна захацела на яго паглядзець.

— Дзе ён?—спытала мадам Гамрэкелі.

— Там!—паказала Маро.

Яна павяла гаспадыню пад павець і тая з цікаўнасцю зазірнула ў бочку.

— Маленькі зусім!—гулка сказаў нехта над галавою Іліко.

Хлапчук ускочыў на ногі і ўбачыў шырокі жаночы твар.

— Ён не малы,—сказала Маро,—ён вялікі.

— Маро!—сурова спыніла дзяўчынку мадам Гамрэкелі,—цябе ніхто не пытае!

— Мне дзевяць гадоў!—данеслася з бочкі.

Але мадам Гамрэкелі ўжо вышла з-пад павеці. Гвація паглядзеў гаспадыні ўслед, кінуў акурак і палез у пограб. На абшырным двары стала пуста.

Пасля абеду і кароткага адпачынку Іліко адчуў сябе стомленым. Балелі ногі, і рукі былі, як чужыя. Але, Гвація сказаў, што гаспадар будзе злаваць, і Іліко зноў палез у бочку. Калі сцямнела, Іліко пайшоў на кухню і заснуў на лаве. Саламея не магла яго абудзіць і прымусіць есці. Гвація завёў хлапчука ў камору. Ён абурыўся і сказаў, што пойдзе гутарыць з гаспадаром, але замест гэтага напіўся і ўсю ноч адаспаў пад паветкай. Назаўтрае ён абудзіў Іліко і сказаў, што трэба хутчэй ісці, бо гаспадар загадаў, каб да нядзелі ўсе бочкі былі перамыты. Да нядзелі засталося пяць дзён, але бочак яшчэ шмат і Гвація хутчэй павёў заспанага хлапчука на кухню.

Так прайшло тры дні. Бочак сапраўды аказалася шмат. Яны адна за другой з'яўляліся на двары з нізкіх варотцаў пограба, Іліко пералазіў з аднае бочкі ў другую. Гвація то майстраваў у пограбе, то складаў перамытыя бочкі пад павець, то знікаў некуды па справах, па якіх пасылаў гаспадар. Гаспадара Іліко не бачыў ад самай тэй хвіліны, калі ён злез з лінейкі. Не бачыў ён таксама і гаспадыні і Маро, якая заўсёды знаходзілася пры ёй альбо ў доме, альбо ў садзе за домам. Іліко пералязаў з бочкі ў бочку, гурт іх рос пад павеццю, а Гвація ўсё яшчэ грукаў у пограбе і казаў, што бочак яшчэ шмат. Іліко пакрыху прывыкаў да гэтай работы, ужо не так балелі распараныя ногі і сцёртыя рукі,

але за тое хлапчука грызла туга. Як сёнешні, стаяў перад ім апошні дзень у роднай вёсцы: даўгія плятні, за якімі калышуцца залацістыя мяцёлкі кукурузы, высокія таполі на вуліцы, маленькія сады, такія, як сад Тапурыя, прыяцель Вано і пануры Арцём з капялюшом у руках (так стаяў ён ля варот Сімонавай сядзібы, калі ад'язджаў Іліко) і нарэшце,—знаёмая грэбля, стракатыя сойкі ў густых зараслях і маленькі каршачок, што лётаў высока над балотамі і свістаў, развітваючыся з Іліко. Тады яшчэ ўзляцела з трысця вялікая шызая чапля...

А потым Сімон лаяўся, калі яны ехалі праз грэблю і крычаў на Іліко. А далей была станцыя і спатканне з чорным страшыдлам, якое завецца паравозам. Калі ехалі паравозам, Сімон казаў, што купіць для Іліко камізэльку і чырвоную кашулю, а цяпер выходзіць, што ён зманіў. Іліко сядзіць у бочцы, у смуроднай гарачыні з жорсткім вехцем у руках. Але пры ўсёй крыўдзе на Сімона ён і не думаў нават аб тым, каб дапамінацца наконт кашулі з камізэлькай. За дні, якія пражыў Іліко ў Сімона, ён адвык і ў думках называць яго так, як зваў раней—дзядзька Сімон, або проста Сімон. Усе, і Саламея, і другая кухарка Эзабэдзі, і буфетчык Гурген і, не гаворачы аб Маро, сам Гвація, інакш не называлі Сімона, як „гаспадар“ і „батоно“. І хаця Іліко не бачыў Сімона ад самай хвіліны прыезда сюды, ён разумеў, што з ім папросту справу мець нельга, бо ён гаспадар і паводле слоў Гвація, ён мог зрабіць з Іліко што хоча. Нічога больш не заставалася, як шараваць аслізлыя сценкі, тужыць і зрэдку плакаць.

Аднойчы, калі Іліко плакаў, да бочкі падышоў Гвація.

— Чаго ты?—спытаў ён.—Стаміўся?

Іліко маўчаў, усхліпваючы.

— Калі стаміўся, то вылязай і адпачні! Мне самому ад гэтых бочак млосна, а ты яшчэ дзіця... Вылязай!

— Я ўцяку адгэтуль!—нечакана для самога сябе выкрыкнуў Іліко і змоўк, спалоханы. Гэта была ягоная захаваная думка з першага дню. Гвація абапёрся на бераг бочкі.

— Дурань!—лагодна сказаў ён.—Куды ты будзеш уцякаць? Дадому? Як ты туды дабярэшся, неразумнае дзіця?.. І што ты там будзеш рабіць? Мусіць не з вялікай выгоды цябе сюды аддалі!.. У свет пойдзеш? Не ведаеш ты, што цяпер на свеце робіцца!.. Эх, купец! На свеце голад цяпер, людзі на халеру хвараюць, папы ўсе званы ў цэрквах паабівалі і рады няма... А ён будзе ўцякаць! Тут хаця ты кавалак хлеба маеш, а там... Цярпі, купец! Я гэты хлеб з дзяцінства ем... Я, брат, усюды быў, усяго паспытаў...

Гвація нахіліўся і пагладзіў ускалмачаную мокрую галаву хлапчука. Ад гэтай нечаканай пяшчотлівасці чужога чалавека, сэрца Іліко моцна зазнібела і хлапчук заплакаў уголас.

— Эх, гора, гора!—сказаў Гвація, махнуў рукой і пайшоў у пограб.

Нарэшце прышоў дзень, калі Гвація выкаціў апошнюю бочку. Падвечар Іліко ўлез у яе і тады, на двары з'явіўся гаспадар. Ён кінуў кароткі позірк пад павець і прайшоў у пограб.

— Малайчына Гвацiя!—весела загаварыў Сiмон.—Прывучай хлапца працаваць i сам вучыся на гаспадара. Бачыш, калi будзе тое вiно, а ў мяне ўжо i бочкi гатовы.

— Стамiўся хлапец...—панура адказаў Гвацiя.—Сумуе...

— Нiчога, прывыкне! І мы сумавалi...

Сiмон завярнуўся i вышаў з пограба.

Над галавой Іліко нечакана загрымеў гулкi смех.

— Ах-ха-ха...—зайшоўся Сiмон.—Іліко аказваецца добры работнiк, iш ты, як скрабе i колькi наскроб! Малайчына хлапчук, будзе з цябе чалавек, адразу бачу!

Напалоханы Іліко маўчаў, пазiраючы ўгору. Нарэшце Сiмон высмяяўся i сцiх.

— Самая галоўная чалавеку вартасць,—павучальна сказаў ён,—гэта калi чалавек працавiты. А калi ён гультай, то ноль i цьфу! Ты бяры прыклад ад мяне. Я працую як дзень, дык ноч. І калi табе хто будзе што нiбы такое гаварыць, то ты нiкому веры не давай, а бяры прыклад са свайго гаспадара. І будзеш чалавекам. Я сам цябе зраблю чалавекам. Чуў?

Іліко маўчаў.

— Ты чуў, я ў цябе пытаюся?

— Чуў...—прашаптаў Іліко.

— Ну, то i памятай!

Сiмон пайшоў у дом.

Надвечар мадам Гамрэкелi прахаджвалася па верандзе, што выходзiла ў сад. Праз адчыненае вакно яна ўбачыла мужа. Сiмон сядзеў за сталом i пiсаў.

— Ты зноў пiшаш?—спытала мадам Гамрэкелi.—Пра што ты ўсё пiшаш?

Сiмон не ўзняў нават галавы. Ён пiсаў заяву ў суд, патрабуючы тэрмiновага спагнання даўгоў з Арцёма Коркiя. Яму не было часу для размоў.

— Сiмон!—даволi грозна сказала мадам Гамрэкелi.

Сiмон не чуў.

— Хам!—сказала мадам Гамрэкелi, адыходзячы ад вакна.

Паклiкаўшы Маро, яна павольна сышла з веранды ў сад. Тут раслi акуратна падстрыжаныя кусты мiртаў i лаўравiшань, ля паркану буяла акацыя, квiтнелi стройныя, тонкiя дрэўцы мандарынаў. Калi мадам Гамрэкелi з'явiлася ў садзе, Гвацiя, якi прывязваў да тычкi тонкi парастак маладога лiмоннага дрэва, схаваў у рукаў акурак. У садзе, у прысутнасцi мадам Гамрэкелi, яму не дазвалялася курыць. Мадам Гамрэкелi павольна прайшла мiма. Яна даравала непрыстойны ўчынак, бо Гвацiя, акрамя ўсяго, быў нядрэнным садоўнiкам. Клумбы i газоны i ўтрыманыя ў парадку дрэвы сведчылi аб яго дбайнасцi i ўмельстве.

Мадам Гамрэкелi прайшла праз увесь сад i грузна села на лаўку. Маро заняла сваё звычайнае месца каля яе ног, на пяску дарожкi. Яна трымала на руках кацянё.

— Ты мне прынясеш у дом заразу,—заўважыла мадам Гамрэкелi.—Я скажу Гвацiя, каб ён выкiнуў вон гэтае стварэнне. Што ў цябе за мода, падбiраць на вулiцы ўсякую дрэнь?!

Маро прытуліла да грудзей цёплы, пушысты камок. Яе вочы напоўніліся слязамі.

— Ну, не плач...—сказала мадам Гамрэкелі.—Можаш пакінуць яго ў сябе, толькі заўсёды мый рукі, калі прыходзіш у дом.

Мадам Гамрэкелі сама адчувала сябе пакрыўджанай і ў такім стане заўсёды была больш ласкавейшая.

— Прынясі мне кветку.

Маро ў момант выканала загад. Мадам Гамрэкелі супакоілася. У садзе было ціха, на вуліцы таксама. Даўгія цені дрэў кладзіся на пясчаныя дарожкі—сонца схілялася да заходу. Яно цяпер плыло над морам, залiваючы золатам неагляднае прастор, але гэтага з саду нельга было ўбачыць. Тут была толькі засень, пах кветак і цішыня, якая парушалася час ад часу кашлем Сімона ў доме і ціхім плёскам вады за парканам. Гэта Іліко мыў апошнюю бочку на двары.

Мадам Гамрэкелі ўздыхнула, прыціскаючы кволыя, пахучыя пялёсткі да мясістых ноздраў. Яе твар быў сумным. Яна асабліва востра пераносіла ў гэты момант сваю хранічную хваробу-крыўду на жыццё, якое зрабіла яе ахвярай кахання і жонкай Сімона Гамрэкелі... У свой час павятовы поштмейстар Самсон Дгебуадзе меў непрыемнасць ад уласнага ведамства. Яно даставіла яму тэлеграму, у якой дырэктар жаночай гімназіі ў Тбілісі паведамляў, што гімназістка VI класа Тамара Дгебуадзе, выехала без дазволу адміністрацыі гэтай навучальнай установы і таксама, без яе ведама, у горад Санкт-Пецярбург, разам з гусарскім паручыкам-рэманцёрам. На наступны дзень прышоў ліст ад Тамары, у якім яна пісала, што каханне кліча яе на жыццё і на смерць, што агонь яе сэрца ледзь не загаснуў у сценах гімназіі і што гусар—іменна тая асоба, якая годна падтрымаць гэты агонь.

Праз тры месяцы Тамара прыехала назад. Аказалася, што асоба, годная падтрымліваць святы агонь кахання, прагуляла на більярдзе у карты і іншымі спосабамі значныя казённыя сумы і трапіла пад суд, ушчэнт разбіўшы сэрца Тамары. Але, разбітае сэрца не было галоўнай бядой. Тамара была ў такім стане, калі жанчыне лепш за ўсё быць замужам. На сямейнай нарадзе было вырашана адправіць яе ў Поці, дзе стрэчны брат яе быў аканомам княжага маёнтка поблізу горада.

Амаль на наступны-ж дзень, па прыездзе ў Поці, брат пазнаёміў Тамару з гандляром Сімонам Гамрэклія, які разбагацеў на армейскіх пастаўках і якому для поўнага парадку не ставала толькі жонкі. Гогі Дгебуадзе, аканом, меў дачыненні да Сімонавых спраў у такой-жа меры, як Сімон да спраў Дгебуадзе. Яны хутка згаварыліся. Аказалася, што Гамрэклія намераны жаніцца толькі на асобе з дваранскага роду. Паколькі Тамара гэтым запатрабаванням адпавядала—справа толькі за пасагам. Гамрэклія сам вызначыў суму і калі сямейная нарада Дгебуадзе адхіліла і суму, і самую прапанову, Гамрэклія ўкосна даў зразумець, што яму вядома становішча паненкі і што, калі яму выдадуць азначаную суму, ён бярэцца ліквідаваць канфлікт. Сямейная нарада Дгебуадзе пайшла на ўступкі. Што да самой Тамары, то для яе інакшага выйсця не было. Пасля пагроз скончыць самагубствам, яна перайшла да разумных разва-

жанняў і дала згоду быць жонкай Сімона, паставіўшы толькі адну ўмову: не Гамрэклія, а Гамрэкелі. Апошняе, здавалася ёй, гучэла лепш. Сімон згадзіўся, хаця прадчуваў лішнія клопаты. Гэта засталося адзінай ягонай уступкай на ўсё жыццё.

Дзіцё няўдалага кахання памерла пры нараджэнні. Прайшлі гады. Стройная Тамара Дгебуадзе стала грузнай мадам Гамрэкелі. Гэта паказала сябе лянівая кроў памешчыкаў-продкаў. На твары мадам Гамрэкелі застыгла назаўсёды рыска пакрыўджанасці і пагарды—міна, якую мела яна ў час шлюбу. Вясёлы і парыўны характар Тамары Дгебуадзе ператварыўся ў нораў ведзьмы, як любіў гаварыць Сімон.

Вось цяпер, сядзіць яна, падруга гусара і жонка купца, нудна ўспамінае сваё несамавітае мінулае і прыціскаючы да мясістых ноздраў кволыя кветкі, тут-жа вырашае, што трэба загадаць на вячэру і потым думае аб тым, што хутка прыедзе на вакацыі Гло, сын яе і Сімона.

— Маро! — сказала мадам Гамрэкелі. — Прынясі мне яшчэ кветак.

Дзяўчынка ўскочыла і пабегла да клумбы.

— Я не люблю гэтых...—сказала мадам Гамрэкелі.—Хіба ты не ведаеш, Маро? Прынясі тых, блакітных.

Маро пабегла зноў.

Яшчэ некаторы час прайшоў у цішыні. Засень у садзе стала цёмна-зялёнай. У гэты час сонца раскошна купалася ў моры і неба гарэла дзівосным полымем.

— Усё-ткі, я баюся заразы,—сказала мадам Гамрэкелі.— Я скажу Гвація, каб ён утапіў гэтае стварэнне. Як ты думаеш, Маро?

— О, пані!—прашаптала Маро, тулячы да сябе пушыстага звярка.

— Калі ты будзеш мыць рукі, ён застанецца ў доме. Не плач. Бяжы ў мой пакой, там, на століку, ляжаць папяросы. Каля гадзінніка. Толькі глядзі, не бяры нічога, а то я цябе пакараю!

Маро пабегла ў дом і хутка вярнулася. Яна запаліла сярнічку. Пахучае воблачка дыму ўсплыло ў застаялым паветры.

— Маро!—сказала мадам Гамрэкелі.—Прынясі мне кніжку, што ў цёмнай вокладцы, з белымі літарамі. Толькі глядзі, нічога не чапай! Кніжка ляжыць на піяніно.

Дзяўчынка пабегла зноў.

Неба рабілася цёмна-сінім. У нязмераных вышынях павольна загасалі праменні сонца. Адтуль сыходзіла ноч на зямлю, але зор яшчэ не было, бо палаў над морам цудоўны пажар захаду. Па садзе прайшоў лёгкі ветрык.

Маро прынесла кнігу.

— Маро!—сказала мадам Гамрэкелі, разгортваючы кнігу.— Занясі кацянё ў дом, памый рукі і прыходзь да мяне. Толькі не нясі яго на кухню, пакінь у сенях...

Маро пабегла.

Крылатым и смелым<br>Был тот, кто влюблен.

Мадам Гамрэкелі задумалася. На яе рыхлым твары больш выразнай стала пагардлівая грымаса, якую носіць яна паўтары дзесяткі год. Гусар палка яго вялікасці і гандляр кукурузай! Дваранка Тамара Дгебуадзе і мяшчанка Гамрэклія, жонка купца другой гільдзіі! Не, ніколі не можа мадам Гамрэкелі даравацъ гэтага свайму няўдаламу лёсу...

Прышла Маро. Мадам Гамрэкелі не кранулася з месца. Дзяўчынка сядзела на пяску, пры нагах сваёй гаспадыні. Нарэшце шырокі твар з падвойным падбародкам павярнууся ў яе бок.

— Маро!—сказала мадам Гамрэкелі,—бяжы на веранду і ціханька паглядзі праз вакно, што робіць батоно. Толькі глядзі, каб ён цябе не бачыў!

Маро асцярожна прайшла сцежкай паўз веранду. Мадам Гамрэкелі сачыла за ёй, пакуль кучаравая галава Маро не знікла ў гушчары акацыі, што расла ля сцяны дому. Дзяўчынка вярнулася хутка.

— Батоно няма ў доме,—сказала яна.—Пакой пусты, а на стале ляжаць паперы.

— Пойдзем у дом,—сказала мадам Гамрэкелі.—Ужо цямнее, я не магу чытаць. Ідзі на кухню і скажы матцы, каб прышла да мяне. І памый рукі яшчэ раз...

Мадам Гамрэкелі ўстала і павольна пайшла чыста вымеценай дарожкай да веранды. Яе вялікая, грузная постаць ціха праплыла міма Гвація, узнялася па прыступках на веранду і знікла за цёмным шклом дзвярэй у неасветленым пакоі.

— Як жывуць людзі!—развaward сказаў Гвація сам сабе.—Год без работы, два без работы, а як-жа дваццаць гадоў без работы? Гэта трэба мець моцнае здароўе, каб з маладых год да старасці пад кустом на лаўцы адседзець!

Сказаўшы гэта, Гваціяазірнуўся. Ён меў дрэнную прывычку голасна гаварыць сам з сабою. Але яго ніхто не мог чуць. Маро даўно выбегла з саду, мадам Гамрэкелі пакінула за сабою дзверы зачыненымі, у доме было цёмна, усюды была цішыня. У вершалінах дрэў звінелі мошкі. Ад зямлі ўзнімалася вячэрняя вільгаць. Па вуліцы нехта праехаў, глуха пратупаў конь і слуп шэрага пылу ўзняўся за парканам.

Гваціяадрэзаў сухую галінку і кінуў яе ў кошык.

* * *

Неўзабаве пасля таго, як мадам Гамрэкелі выбралася ў сад, Сімон скончыў пісаць заяву, узяў тростачку, шырокі святочны капялюш і вышаў з дому. Ён крыху пастаяў ля варот. На вуліцы было яшчэ светла і калі ісці да Гунава звычайнай дарогай, яго абавязкова заўважыць Пачулія. Ён жыве паблізу, у гэты час заўсёды сядзіць на ганку, гуляючы з прыказчыкам у „нарды“ і калі не прычэпіцца да Сімона, то абавязкова прасочыць, куды ён пойдзе. Сімону не хацелася, каб Пачулія ведаў аб яго візітах да Гунава, ён перачакаў-бы пакуль сцямнее, але спяшаўся таму, што ведаў: праз поўгадзіны Гунава трэба ўжо шукаць па духанах.

Сімон завярнуў у завулак, зрабіў ладны крук і калі вышаў з другога канца вуліцы, на якой жыў Гунава, то здалёк яшчэ ўбачыў таўшчэразную постаць і шырокую лысіну Пачулія. Як і меркаваў Сімон, Пачулія сядзеў на ганку. Насунуўшы капялюш на вочы, трымаючыся засені, бокам, Сімон прабег па тратуары і не паспеўшы адказаць на прывітанне знаёмаму, што кланяўся праз вакно, хутка ўскочыў у падваротню. На двары ён папраўіў капялюш і асцярожна выглянуў на вуліцу. Лысіна Пачулія маячыла на тым-жа месцы.

— Гэй, Сімон!—пачуўся сіпаты голас.—Чаго ты там джыгітуеш?

У глыбі двара пад разветлым каштанам, сядзеў за сталом Гунава. Ён курыў даўгую старую люльку. Перад ім, прыціснутыя камянём, ляжалі паперы. Пад сталом Сімон заўважыў вядро, з якога тырчэла горла бутэлькі. Ля ног Гунава ляжаў вялізны аўчар.

— Смялей ідзі, не ўкусіць!—крычаў Гунава, заўважыўшы, як далікатна ступае Сімон.—Ён цябе не зачэпіць, гэта толькі для жулікаў, спецыяльны сабака!

— Вазьмі яго, патрымай!—папрасіў Сімон.

Гунава зарагатаў.

— Табе кажу, ён толькі для жулікаў, чаго ты баішся? Ён толькі жулікаў бярэ... Ідзі смялей!

Аўчар, які дагэтуль моўчкі глядзеў на Сімона, раптам устаў. Сімон убачыў лютую грымасу звера, моцныя жоўтыя клыкі і крута затармазіў. Гунава ўзяў сабаку за ашыйнік.

— Э-э-э, Сімон!—з дакорам сказаў ён.—Дык ты, аказваецца, гм!.. Ну, што-ж хадзі і сядай. Нічога не зробіш. Усе мы людзі, усе грэшныя...

Сімон вырысаваў поўкруг навокал каштана, зайшоў з другога боку стала і асцярожна сеў на крэсла. Ён баяўся паварушыцца, бо думаў што Гунава не стрымае сабаку. Але аўчар адразу лёг, як толькі Гунава ўзяўся за ашыйнік і больш не ўдзяляў Сімону ўвагі.

— Гэта мой вопыт...—выцягваючы бутэльку з вядра, сказаў Гунава.—Гэта я сам прыдумаў. Як толькі скажу, што сабака жулікаў бярэ, усе мае паважаныя кліенты гатовы ўцячы праз паркан. І толькі адзін не ўцякаў. Ведаеш хто? Наш дарагі Саламон Пачулія. Той адразу прышоў да стала і нават нагой ударыў гэтую бедную псіну. Я аж падзівіўся: во, думаю, нарэшце, святы чалавек прышоў! Аказваецца, Саламон ведаў аб тым, што сабака стары і выскаляецца, каб яму далі скарынку хлеба!.. Так што, дарагі мой друг, Саламон спрытнейшы за цябе. Ну, як табе падабаецца вопыт? Хочаш віна?

— Свіння...—зазлаваны падумаў Сімон. Ён толькі цяпер зразумеў, што трапіў у дурні з-за сваёй панічнай баязні сабак.— Божы ўгоднік знайшоўся, жулікаў з сабакам шукае... Паклаў маіх сто залатых у кішэню і яшчэ кпіны строіць! Казалі разумныя людзі: пацалуй свінню—укусіць!

Але ўголас выказаў Сімон свае думкі інакш.

— Калі першым сустракае гасця сабака, а апошнім гаспадар,— сказаў ён, пасоўваючы да Гунава шклянку, то гэта гасцю, мой дарагі Акакій, не вельмі прыемна. Але што-ж мне злаваць?!

Кожны ў сваім доме, як хоча, так і робіць, а госць, як гэта кажуць, можа быць не ніжэй за жабрака і не вышэй за малодшага брата! Тым больш, я да цябе параіцца прышоў!

— Нічога, Сімон, нічога,—засмяяўся Гунава.—Не злуй, мой дарагі, не варта!

Ён сабраў паперы са стала і паклаў у сумку, што ляжала пабач, на лаўцы. Туды перабраўся і Сімон. Яму было няёмка сядзець на крэсле, ножкі якога грузлі ў зямлю.

— Ну, вось і добра,—сказаў Гунава.—Хай будзе згода. Ломі! Пайшоў вон! Гэй, Сцепаніда!

Аўчар паслухмяна ўстаў і павалокся некуды ў кут двара. Толькі цяпер Сімон заўважыў, што сабака сапраўды стары, з абмуляным бокам і яго зноў на момант укалола злосць. Але Гунава быў ветлівым і гасцінным. Басаногая Сцепаніда бегала ў дом і з дому, на стале з'яўлялася ўсё больш рознай стравы і Сімон, адчуўшы сябе ў сваёй стыхіі, хутка зусім забыўся на крыўду. Пачалася гутарка.

Калі сцямнела, Сцепаніда прынесла з дому лямпу. Над сталом закружылі трапяткія матылі. Сябры ўжо гучна гаварыл.

— Я выкараню большэвікоў з гэтага праклятага сялення Сабокучаво!—крычаў Гунава, стукаючы кулаком па стале.

— Сагвасаліо!—папravіў Сімон.—Сяленне Сагвасаліо!

— Усё роўна! І ў Сабокучаво ёсць большэвікі! Сёння туды паехаў падатковы інспектар і адрад міліцыі! Яны не плоцяць падаткаў, чортавы валацугі! Яны гатовы ляжаць дзесяць гадоў дагары брухам і хочуць, каб іх з уласных рук карміла начальства! Альбо яны заплоцяць падаткі, альбо іхныя косці будуць грызці шакалы!

— Дык як ты думаеш наконт майго іску?—спытаў Сімон.— Падаваць?

— На якое ліха? Даўно ад цябе суддзя Пагава хабар злупіў? Я яшчэ дапяку гэтага суддзю Пагава! Ён мне ў адным месцы нагу падставіў! Ну, то добра! Застанецца ён і без нагі і без носу! Не так лёгка Акакію Гунава ногі падстаўляць, сукіныя вы дзеці!

— Дык як-жа наконт іску?—дапытваўся Сімон.—Я хачу падаць іск!

— Я табе кажу, на чорта гэты іск? З кім ты будзеш судзіцца? Раз ты маеш справу з Акакіем Гунава і ён табе сказаў слова, прыходзь і бяры ўсё, што трэба голымі рукамі. А калі ты мне штуку сукна прынясеш?

— Заўтра,—без запінкі адказаў Сімон.

— Дай я цябе пацалую, мой дарагі!

Сябры пацалаваліся.

Праз некалькі часу Гунава зноў грукаў па стале кулаком.

— Як толькі прыдзе атрад з Сабокучаво, я дамся ў знакі гэтым смуроднікам з гнілой дзіры Сагвасаліо! Яны чакаюць на большэвікоў, а большэвікі ву-унь яны дзе, за гарамі, за стэпамі, яны ўцякаюць ад войск яго пр-рэвасхадзіцельства...

У доме пачуўся тэлефонны званок.

— Сцепаніда!—крыкнуў Гунава.—Падыдзі, паслухай!.. Калі звоняць з атраду, пашлі к.... гэтае, скажы, што мяне ў доме няма. Аб чым я гэта гаварыў?

— Ты шмат аб чым гаварыў,—сказаў Сімон. Яго весялосць крыху зменшылася пасля напамінку Гунава наконт сукна.—Ты гаварыў, здаецца, што хутка паедзеш у Сагвасаліо. І яшчэ казаў, што заплоціш мне з казны, бо я заявіў на большэвікоў...

— І паеду,—пачаў Гунава зноў.—І заплачу! З Акакіем Гунава ты можаш прайсці босымі нагамі праз самае пекла!

Густая цемра абступала асветлены лямпай стол, паціху шалясцела лісце каштана, які цёмным шатром узвышаўся ўгары, засланяючы зоры гэтай ціхай ночы. Матылі роем кружылі вакол лямпы і падалі на стол і траву. Ля стала нечакана з'явілася Сцепаніда. Гэта была дужая, шырокаплечая, укормленая жанчына.

— Патрабуюць да тэлефона,—гучным шэптам сказала яна.— Звоняць з атраду. Нічога не слухаюць, крычаць, падавайце начальніка! А я, кажу..

— Пасядзі, Сімон, я зараз.

Гунава ўстаў, апіраючыся рукамі на стол, зрабіў некалькі нягвёрдых крокаў і знік у цемры. Следам за ім адплыла Сцепаніда. Сімон застаўся адзін. Ён чуў, як спатыкнуўся Гунава аб прыступкі ганку. Потым данёсся ягоны голас. Гунава гаварыў па тэлефону.

— На ліха я сказаў, што заўтра сукно прынясу... — думаў Сімон.—Сто залатых згроб, цяпер возьме сукно, а выйдзе справа ці не, чорт яе ведае... Мала, што ён тут пляце... Толькі тады кажы брод, калі на другі бераг вылезеш... Ай, пацягнула за язык... Дурны ты, Сімон!

Гунава нечакана затрымаўся ў доме. Сімон сядзеў, падпёршы шчаку далонню. Матылі ўсё лёталі, кружылі, адны падалі, з'яўляліся другія. Над лямпай, ад цяпла, варушыўся шырокі каштанавы ліст. Прайшло значна часу. Сімону захацелася спаць.

Гунава падышоў так ціха, што Сімон уздрыгнуў, калі высокая постаць з'явілася ля стала.

— А я быў ужо заснуў,—сказаў Сімон і пацёр анямелую шчаку. —Вельмі-ж ты доўга... Мне ўжо і дадому пара...

Гунава замест адказу скінуў са стала дзве талеркі проста на зямлю. Толькі цяпер Сімон заўважыў, што на руках у Гунава цэлы ахапак нейкіх рамянёў.

— Забяры гэтыя чарапкі, Сцепаніда,—сказаў Гунава.—Бяры, кажу, бо паб'ю ў пыл!

Сцепаніда хутка сабрала пасуду, ачысціўшы бераг стала. Туды і паклаў Гунава свае рамяні і толькі цяпер Сімон убачыў, што гэта баявая амуніцыя. Тут быў шырокі пояс з кольцамі, кручкамі і карабінамі, паходная сумка, вялікі рэвольвер у драўлянай кабуры, кінжал і крывая, старадаўная шабля ў ножнах упрыгожаных срэбнай насечкай. Акрамя таго, Гунава паставіў перад Сімонам на стол нейкую рэч, падобную да бутэлькі. Сімон, які з пашанаю аглядаў ваенную гаспадарку Гунава, дакрануўся да гэтай рэчы і адчуў пад пальцамі халадок металу.

— Не чапай!—сказаў Гунава, бяручы са стала пояс.—Граната... Бомба...

Сімон зараз-жа схаваў руку. Сцепаніда панесла ў дом пасуду.

— Што здарылася, Акакій?—спытаў Сімон.—Скажы, калі не сакрэт!.. Куды ты збіраешся? Можа, не дай бог, вайна?..

— У нас заўсёды вайна...—адказаў Гунава.—Гэта вы толькі гандлюеце бобам і ў вас мір за печкай. У нас-жа—вайна!..

Ён працверазеў, стаў важны і маўклівы. Абчэплены з усіх бакоў зброяй, перавязаны ўздоўж і поперак рамянямі, ён меў ваяўнічы выгляд і зусім не быў падобны да таго Гунава, якога прывык бачыць Сімон у сябе ў духане. Гэта быў інакшы чалавек. Сімон не адважыўся больш распытваць і моўчкі сядзеў за сталом, пазіраючы на асобаатрадчыка.

— А цяпер, дарагі Сімон,—сказаў Гунава прычэпліваючы да пояса гранату,—я на жаль, павінен спяшацца. Ідзі, друг, і перад сном успамяні добрым словам Арсена, падатковага інспектара.

— А што з ім?—спытаў Сімон устаючы.—Ты-ж казаў, што ён паехаў у гэтае... у Сабокучаво.

— Ён паехаў у Сабокучаво, а адтуль яго прывязуць,—сказаў Гунава, бяручы Сімона пад локаць.—Асцярожна, тут невялікая ямка... Свіння, праклятая, выкапала раніцой. Вось тут сцежка.

Сімон спыніўся. Цемра пасля святла асляпіла яго, пасля слоў Гунава яму стала страшна.

— Што ты гаворыш, Акакій?—сказаў ён, чапляючыся за рамяні Гунава.—Пачакай! Як гэта Арсена прывязуць?!

— Як нябожчыкаў возяць, не ведаеш?—з насмешкай спытаў Гунава.—У труне, нагамі наперад.

— Што-ж такое з ім здарылася? Ай-ва-ва!

— Бунт!—гучна сказаў Гунава.—Мужыкі ў Сабокучаво ўзбунтаваліся, адабралі ад міліцыянераў зброю, паранілі дваіх, а інспектара забілі. Вось што здарылася! Ды ідзі ты сцежкай, аслеп, ці што? На мазоль мне наступіў!

У цемры перад Сімонам на момант усплыў рыхлы твар з вусікамі стрэлкай. У апошні раз бачыў Сімон падатковага інспектара ў сваім духане. Тады-ж ён падслухаў размову інспектара і адразу завёў справу з Гунава. Сімона пранялі дрыжыкі. Ён пакорна валокся побач з Гунава, спатыкаючыся праз кожны крок. Цемра была непранікнёнай, ноч дыхала пагрозай. Палахлівае сэрца Сімона гулка білася ў грудзях. Нарэшце дабраліся да варот. Гунава адчыніў фортку. На вуліцы, здавалася, было яшчэ цямней. Павеяў свежы, лёгкі ветрык з мора, прашумелі дрэвы. Чуваць было далёкі плеск прыбою.

— Вось яно, жыццё чалавечае,—прашаптаў Сімон.—Ты паедзеш туды, Акакій?

Воддаль пачуліся галасы, порсканне коняй.

— Ідзі, Сімон, ідзі!—падштурхоўваючы гасця пад локаць, сказаў Гунава.—Мне няма часу, я спяшаюся! Будзь здароў!

— Я забыўся тростку,—сказаў Сімон.—Там, пад каштанам...

— Заўтра прышлеш па тростку. Ідзі, я табе кажу, у мяне часу няма!

Гунава на гэты раз падштурхнуў Сімона даволі моцна, так што ён нехаця ступіў два крокі ў напрамку дадому.

— Шчасліва, Акакій!—сказаў Сімон, не заўважаючы крыўды.— Усяго табе лепшага.

Гунава не адказаў. Магчыма ён пайшоў на двор. Сімон вобмацкам прабіраўся па дошках папсаванага тратуару. Ён чуў, як пад'ехалі коннікі да дому Гунава і спыніўся, каб паслухаць. Але там гаварылі мала і пціху. Неўзабаве зноў затупалі коні і міма Сімона па вуліцы прамчаў конны атрад. За ім, паскрыпваючы рэсорамі, лёгка праляцеў парны фаэтон Гунава.

Па дварах забрахалі сабакі. На вуліцы ўзняўся гаркавы пыл. Сімон застаўся адзін. Ён паціху брыў па тратуары, часта спатыкаўся і яму ўсё здавалася, што ззаду нехта ідзе крок і крок. Горкі пыл казытаў у перасохлым горле. Сімон баяўся адкашляцца.

— ... Запасы хлеба, панове, гэты скарб... Каб я быў купцом я-б скупляў хлеб...—сам таго не жадаючы прыпомніў Сімон падслуханую параду інспектара.—Запасы хлеба, гэта...

— Хто тут?—спытаў шэптам Сімон. Яму выдалася, што нехта стаіць побач.

Ніхто не адказаў. Прыціскаючы руку да грудзей, Сімон асцярожна сышоў з тратуара і не азіраючыся больш, стараючыся не чуць начных шолахаў, што паціху плылі адусюль, хутка пабег сярэдзінай вуліцы. Так ён дабег да свайго дому і з усяе сілы грукнуў у дзверы. Яму адчыніў заспаны Гвацiя. Сімон моўчкі прайшоў у спальню і ацiраючы пот, задыханы, сеў на ложку. Цяпер яму не пагражала небяспека.

Але і тут яго доўга яшчэ грыз неспакой. Яму злым вяшчунствам выдавалася нечаканая смерць інспектара і ягоная выпадкам падслуханая парада, якая падштурхнула на небяспечны шлях здабывання зямлі. Вось, паедзе ён у Сагвасаліо, калі Гунава зробіць усё, што ён зрабіць павінен, а адтуль прывязуць яго, Сімона Гамрэкелі, мёртвага, з расчэпленай галавой. Вы чулі? Памёр Сімон Гамрэкелі, яго забілі ў сяленні Сагвасаліо, дзе ён адсудзіў ад мужыкоў зямлю. Прыходзьце ў суботу у царкву св. Давіда, будзе багатае пахаванне...

Ці не варта пакінуць усё гэта, пакуль не позна? Што азначаюць для яго, нарэшце, сто залатых, якія Гунава напэўна не аддасць? За жыццё не шкада адкупіцца і тысячай. І так, і інакш думаў Сімон, седзячы на ложку. За вакном, запятым кісяёй, дакучліва пішчэлі камары. Было душна. Заснуў Сімон толькі на світанні, калі праяснела неба і ў чыстым паветры на гарызонце абрысаваліся ў туманах вяршаліны далёкіх прыморскіх гор.

III.

Тапурыя палову дню ўжо ішоў па сляду вяпра, якога ўзняў з логава яшчэ на золаку. Звер, адчуваючы небяспеку, адразу пайшоў у глыб балот. Паблізу не было стада. Гэта быў стары, адзінокі вепр. Ён па самае бруха грузнуў у дрыгве, калі абыходзіў багны, пад ім клалася трысцё, і, нават, калі звер трапіў у лес, на цвёрдую зямлю, Тапурыя скрозь бачыў яго след. Дарогу вяпра паказвалі абдзёртыя вострымі капытамі карэнні дрэў, прыбітая да

зямлі трава, а ў гушчары, там, дзе ў глухой засені няма травы, на чорнай зямлі заставаўся выразны след—адбітак. Тапурыя не спяшаўся. На поўдні лес выходзіць у нізіну, грузнаму зверу ў топкую дрыгву ходу няма і калі вепр паверне назад, на вузкім лясным перашыйку Тапурыя выйдзе яму насустрач.

Стары паляўнічы ішоў сваёй звычайнай, лёгкай хадой, пільна ўглядаючыся ў сляды. Вось тут звер спыніўся, слухаў і прынюхваўся. У гэты час Тапурыя быў далёка. Ён пераходзіў праз ручай. Там ляжала дрэва, вываранень, скрозь абвітае хмелем. Тапурыя заблытаўся ў націнні хмеля і каб не ўпасці, схапіўся за сук. Сук зламаўся. Звонкае рэха панесла па лесе трэск. Вепр скочыў наперад і напралом памчаў праз гушчар. Трэба ісці больш асцярожна і хутчэй, бо гэтак звер дойдзе да балота раней, чым Тапурыя дабярэцца да перашыйка і тады яны размінуцца.

Праз нейкі час звер пачаў супакойвацца. Вось тут ён ішоў зусім памалу. Гэта добра. Пачынаецца нізіна. Зямля стала вязкай, усюды купіны, дзе-ні-дзе трапляюцца каснікі, шмат аброслых мохам і грыбамі вываратняў і скрозь жорсткая асака. Хаця сонца высока над балотамі, тут засень і вільгаць. Сляды вяпра сталі яшчэ больш выразнымі. Ён ішоў павольна і пачынаў ужо карміцца. Вось ён выкарчаваў купіну і ўскапаў зямлю пад старым пнём. Далей, ён прайшоў праз асаку, вышаў на ўзгорак, узняў зямлю ў некалькіх месцах і пакінуў памёт. Значыць, ён зусім блізка і не чуе паляўнічага. Тапурыя аглядзеў замок сваёй старой стрэльбы, выняў з похвы і заткнуў за пояс нож. Трэба быць пільным. Звер тут, недзе ў гушчары.

Тапурыя не ступіў яшчэ і двух крокаў, як у зараслях пачуўся шум. Затрашчала галлё, захліпала дрыгва, пахіснуўся бліжэйшы куст, зялёная заслона разарвалася і вялікі буры звер выскачыў з зарасляй. Убачыўшы чалавека, вепр стаў, як урыты, цяжка асеўшы назад. Узняўшы ўгору закручасты лыч, стуліўшы кароткія вушы, бліскаючы вялізнымі крывымі клыкамі, вялізны, шырокагруды звер, з наежаным хібам, сядзеў пад кустом і сапучы, кідаючы пенай, пазіраў на чалавека маленькімі, злымі вачыма. Тапурыя ўзняў стрэльбу. Вепр з кароткім усхрыпам рынуў наперад. Бліснуў агонь, гулкі ўдар страсянуў паветра, у дыме мільганула даўгое, бурае цела, Тапурыя адскочыў назад, трымаючы напагатове нож.

... Вепр ляжаў на баку, па ягонай мокрай, бурай шэрсці поўз дымок, кроў залівала шырокія грудзі і цякла з пашчы, з-пад клыкоў. Паветра, уздрыгваючы, закрывала цёмнае вока, у якім павольна загасалі жуд і лютасць. Звер, спрабуючы ўстаць, цяжка, са стогнам кашлянуў. Праз ноздры пайшла кроў. Вепр зноў прыпаў галавой да зямлі, і ягоныя дужыя ногі, з чорнымі рашчэпленымі капытамі, выпрасталіся. Тапурыя паклаў нож у похву.

Стала раптам вельмі ціха. Вецер прашумеў у вершалінах дрэў. Тапурыя зняў капялюш і нізка пакланіўся на ўсход. Таго вымагаў старадаўны паляўнічы звычай. Воблака ўзышло на сонца, у лесе пацямнела. Зноў ускалыхнуў вецер вершаліны дрэў. Вялізны звер, гаспадар гэтых змрочных месц, нерухома ляжаў ля ног чалавека.

— Ты мяне хацеў перахітраваць?—спытаў Тапурыя, дакранаючыся нагой да лыча мёртвага вяпра.—Ты думаў, я не ведаў, куды ты пойдзеш? А потым ты рынуў на мяне і хацеў прабіць клыкамі мае грудзі?! Ах ты, дурны балотны дзед!

Тапурыя падышоў пад дрэва і сеў на высокую купіну. Сэрца доўга яшчэ не супакойвалася. Потым Тапурыя адшпіліў ад пояса рогі, высыпаў на далонь рэшткі пораху. Заставалася якраз на адзін зарад. Але, цяпер ужо няма чаго турбавацца. У маёнтку памешчыка Абхазава яшчэ не страцілі смаку да вяпровай шынкі і можна не толькі вымяняць пораху і шроту, можна яшчэ прынесці да дому крыху мукі і солі, і нават цукру. Зараз Тапурыя адпачне, потым ён будзе разбіраць вяпра і гэтай работы яму хопіць да самага вечару. Ён застанецца тут нанач, а заўтра, памалу перанясе мяса ў бліжэйшае сяленне.

— Ах ты, дурны, балотны дзед!—сказаў Тапурыя, высыпаючы порах у мерку.—Тапурыя, каб ты ведаў, некалі застрэліў самога барса! Так, хаця гэта было даўно, у горах, аж пад Сухумі... Тапурыя, каб ты ведаў, самы лепшы паляўнічы ў Мінгрэліі! Ты павінен быў уцякаць адгэтуль, а ты, кацо, кідаешся на мяне і хочаш прабіць мне грудзі клыкамі...

Раптам Тапурыя ўзняў галаву. У кустах воддалі трывожна закрычала птушка. Пачуўся шолах. Неўзабаве птушка азвалася зноў.

— Хто там?—занепакоены падумаў Тапурыя.—Гэта-ж і вепр адтуль павярнуў...

Спяшаючыся, ён загнаў пыж, уздзеў пістон і ўстаў. Некалькі часу зялёны гушчар быў нерухомы, потым затрашчала галлё, шэрая птушка з прарэзлівым крыкам узляцела над зараслямі, мільгнула нечая постаць і з зарасляў вышаў чалавек са стрэльбай. Гэта быў высокі мужчына, чорнавусы, моцнага складу. Галава яго была павязана цёмнай суконкай, у руках ён трымаў стрэльбу. Тапурыя адразу пазнаў Тарыела Кверквелія з сялення Сабокучаво.

— Гамарджо, Тапурыя!—сказаў чалавек.—Дык гэта ты яго прыкончыў?

— Я гнаў яго ад самай раніцы,—забыўшыся адказаць на прывітанне, занепакоены адказаў Тапурыя.—Я трапіў яму проста ў сэрца... А што, хіба ён быў падстрэлены? Па мойму, ён быў цэлы?

Кверквелія маўчаў. Ён стаяў на купіне і мерыўся пераскочыць праз невялікую багну. Купіна ўгрузала, і, каб захаваць роўнавагу, Кверквелія размахваў сваёй стрэльбай. Прыгледзіўшыся, Тапурыя заўважыў, што гэта не паляўнічая стрэльба, а вінтоўка. Кверквелія прабраўся праз багну і падышоў да вяпра.

— О-о-о!—сказаў ён.—Гэта-ж леў!

— Ён быў падстрэлены ці не?—дапытваўся Тапурыя.

— Мусіць, не... Ён выскачыў проста на нас, а потым павярнуў назад, аж гром па лесе пайшоў. Раптам, чуем, нехта стрэліў... Вось я і прышоў паглядзець, чым гэта скончылася.

— Удача, што казаць!..—узрадаваны засмяяўся Тапурыя.—А я думаў, можа ты што да мяне маеш!.. Бываюць такія зайздросныя

людзі. Скажа, што з-пад ягонай стрэльбы ўзяў звера, вось і дзяліся з ім нямаведама за што! Я на гэтага вяпра амаль што тры дні патраціў. Дзічыны цяпер, сам ведаеш, не так ужо багата, я стары, не ўсюды магу дайсці, а тут дажыў да таго, што... ну, адным словам, сам ведаеш, як гэта бывае... Дык, ты кажаш, ён проста на вас выскачыў? А хто-ж там яшчэ?

— Ну, і вепр!—сказаў Кверквелія,—гара мяса.

Нахіліўшыся, ён абмацваў карак вяпра.

— Добрая ў цябе стрэльба,—заўважыў Тапурыя.—Гэта, мне здаецца, ваенная стрэльба. Дзе ты яе купіў?

— Ах, удача!—гаварыў Тарыел, не адыходзячыся ад тушы.— Можа ў цябе ёсць крыху тытуню, Тапурыя? Ад самай раніцы не курыў. Забыўся ўзяць.

Праз нейкі час яны сядзелі побач, распаліўшы люлькі.

— Цяпер звер у горы выбіраецца,—гаварыў Тапурыя.—Мала цяпер звера. Я за гэтым вяпром каторы дзень палюю. Увосень, дык іншая справа. Тады ён сам да цябе ў сяленне прыдзе, і калі не дапільнуеш, чыста перамалоціць тваю кукурузу. Аднак, слаўная ў цябе стрэльба! Ты даўно выбраўся на паляванне?

— Нядаўна выбраўся!..—усміхнуўся Тарыел і тут-жа спахмурнеў.—Толькі мне здаецца, брат мой Тапурыя, мне з гэтага паляванння дадому не прыйсці...

Ён змоўк і думаў аб нечым, пакручваючы свой чорны вус.

Гэтыя незразумелыя словы здзівілі Тапурыя, як і тое, што ў Кверквелія ваенная вінтоўка і замест капялюша на галаве нешта падобнае да аджарскай чалмы. Але стары не выказаў свайго здзіўлення. Ён нават не хацеў паказаць, што разумее ў словах Кверквелія нейкі падвойны сэнс.

— Да палявання, што і казаць, трэба мець спрыт,—прастадушна заўважыў Тапурыя.—Калі хадзіць абыяк і абы дзе, то ад гэтага карысці не будзе, а, можа стацца, нават, што і косці паразгубляеш. Калі хочаш, то можаш са мной хадзіць. Я тут усё роўна, што на сваім агародзе.

— Не такое ў мяне паляванне,—панура ўсміхнуўся Тарыел зноў,—я сам не ведаю, хто я такі, ці стралец, ці качка...

Ён нахіліўся, сарваў у траве шырокі ліст нейкай балотнай расліны і ўзяўся разгладжваць яго на далоні. Тапурыя маўчаў, пазіраючы на гэтую непатрэбную работу. Яму вельмі цікава было ведаць, чаму Тарыел Кверквелія, працавіты і многасямейны гаспадар, які дагэтуль і ў рукі не браў стрэльбы, нечакана аказаўся ў балотах з ваеннай зброяй. Але Тапурыя больш не хацеў распытваць чалавека, які не хоча расказваць і яны доўгі час сядзелі моўчкі. Вецер сагнаў воблака з-над лесу, сонца зноў заліло святлом абшары балот, і тут, у гушчары, была пярэстая засень, хісталася высокая папараць і моцна пахла прэлымі імхамі.

— Я думаю, мне ўжо трэба брацца за вяпра,—сказаў Тапурыя, мерачыся ўставаць.—Ён ужо астыгнуў. Трэба да вечара ўправіцца, бо потым камары будуць дакучаць.

— Пачакай!—стрымаў яго за рукаў Кверквелія.—Пачакай! Я табе нешта скажу.

Але перш чым пачаць гаварыць, ён яшчэ доўга прасаваў у далонях воглы ліст. Тапурыя ніяк не мог зразумець, навошта гэтая дрэнь спатрэбілася Тарыелу.

— Лякарства!—сказаў Кверквелія, нібы адгадаўшы думкі старога.—Гэтай травой зараз будзем лячыцца.

Тарыел паклаў ліст на калена. Тапурыя, здзіўлены яшчэ больш, маўчаў. Толькі цяпер ён заўважыў, што Кверквелія некалькі змяніўся. На спакойным добрадушным твары Тарыела ляжаў як-бы нейкі цень. Смуглыя шчокі пацямнелі, вочы запалі глыбей і ў іх не было звычайнага агеньку жартаўніка Кверквелія.

— Я ведаю, мой дарагі,—пачаў Тарыел,—што ты любіш расказваць людзям цікавыя навіны. Таму вельмі прашу цябе, каб ты ні слова нікому не гаварыў аб тым, што зараз пачуеш, як-бы ты аб гэтым ні падумаў. Мы без цябе абыйсціся не можам, і калі ты дзе-небудзь ненарокам прагаворышся, то шмат наробіш бяды. Людзі ад гэтага могуць вельмі пацярпець і я буду шкадаваць, што сустрэў цябе тут.

Тапурыя пакашляў, не ведаючы, што адказаць.

— Там вось,—паказаў Кверквелія ў зараслі,—у лесе хаваюцца людзі з сялення Сабокучаво, знаёмыя табе людзі, Тапурыя. Нас чатырнаццаць чалавек. Нашы сем'і засталіся сіротамі, нікому з нас не прыйсці пад родны дах. І нікуды нам дарогі няма, хіба толькі ў турму...

Тапурыя шырока раскрыў вочы.

— Што здарылася з вамі, божа мой!...—ускрыкнуў ён.—Пачакай, калі-ж гэта я заходзіў у Сабокучаво...

Кверквелія сціснуў сваімі моцнымі пальцамі локаць Тапурыя да болю.

— ... Ты слухай... Учора надвечар прыехаў чыноўнік з атрадам салдат і пачаў спаганяць нядоімкі. Яны выганялі жывёлу з загонаў, бралі ўсё, што трапіла пад руку... Вялікае гора было ў нашым сяле... Калі чарга дайшла да мяне...

Кверквелія прасцёр руку. Ён як-бы бачыў яшчэ чыноўніка і салдат ля сваёй хаты.

— ... Я стаў на парозе і сказаў, што не дам ніводнага зярна, пяра з курынага хваста не дам вырваць! Досыць ужо з нас пабораў! Я сказаў, што не пушчу нікога ступіць праз парог!.. Але чыноўнік пайшоў проста да мяне і салдаты за ім. Я зайшоў чыноўніку дарогу, ён адштурхнуў мяне, я не падаўся... І тады ён... Вось... глядзі...

Кверквелія пачаў хутка развінаць сваю чалму. Пад ёй паказалася скрываўленае рыззё. З грымасай болю Кверквелія садраў рыззё і Тапурыя ўбачыў рану. Ад скроні, наўскасяк чэрапа, да патыліцы была рассечана скура.

Тапурыя праняла дрыжыкі.

— У яго быў пруткі, драцяны дубец...—скрыпнуўшы зубамі, сказаў Тарыел.—Тады я ўдарыў яго ў пераноссе... Я ўдарыў яго, так, што ён больш не ўстаў... Ён без душы застаўся ляжаць у пылу, як сабака! Адзін салдат хацеў стрэліць у мяне, але я неяк паспеў ускочыць у хату... Потым я ўжо добра не памятаю...

У руках у мяне аказаўся жалезны лом. Дзе я ўзяў яго—сам не ведаю... мужчыны пачалі ламаць парканы, салдаты стрэлілі ўгору, потым пакідалі зброю і ўцякалі з сялення, але мы здагналі іх і паадбіралі патроны. Чыноўнік застаўся ляжаць на вуліцы... Мы развялі жывёлу па загонах, пахавалі хто якія меў рэчы і, пабраўшы зброю, уначы прышлі сюды... Нас чатырнаццаць чалавек... якія біліся... Астатнія засталіся ў сяленні... Яны не вінаватыя!.. паразбегліся, як зайцы!.. А чыноўнік застаўся ляжаць... Згіне ён з насеннем і завяззю... Каб ён спакою не меў на тым свеце... Зловяць нас ці не, усёроўна дзеці нашы сіротамі засталіся! Яшчэ невядома што будзе... Можа прыехаў ужо асобы атрад... Ох, галава баліць... Пачакай, Тапурыя... Памажы мне абвязаць галаву... Цёмна ў вачах стала... Вазьмі ліст... прыкладзі да раны...

Кверквелія схіліў галаву на калені і сціх. Тапурыя дапамог яму ўстаць і амаль непрытомнага давёў да маленькага ручая, што струменіў з-пад карэнняў дрэў у неглыбокім яры. Пасля перавязкі Кверквелія адчуў сябе лепш.

— Ён моцна мяне ўдарыў...—сказаў ён шэптам. Мусіць касці адшчапіў, таму і дапякае... Здаровы быў гэты чыноўнік, сабака... Ох!

Ён закрыў вочы і грымаса болю зноў сцягнула ягоны твар. Праз нейкі час Тарыел авалодаў сабою.

— Табе трэба ісці ў Сабокучава...—гаварыў ён далей, прыўзнімаючыся на локці. Мы думаем, што прыехаў асобы атрад... Мы хочам ведаць, што сталася з нашымі сем'ямі... Мы не баімся асобага атраду, але нас грызе трывога аб дзецях. Зрабі ласку, брат Тапурыя, і я і мы ўсе да самай смерці будзем паўтараць тваё імя. Мы пайшлі-б самі, бо кажу табе—не страшная нам смерць, але пасля нас застануцца сіроты і праўду пасля нас не будзе каму абараніць... Я табе потым раскажу, што мы будзем рабіць, зараз яшчэ не пара... Паслухай нас, Тапурыя!..

Маленькая вёрткая птушка гойдалася над ручаем на тонкай галінцы. Тапурыя, задуманы, пазіраў на гэтае ўвішнае дробнае стварэнне і нібы не чуў, што кажа да яго Тарыел.

— А можа ты не хочаш і гаварыць са мной?—спытаў Тарыел.— Можа ты пагарджаеш чалавекам, які забіў другога? Чуеш, Тапурыя?

Стары ўзняў на Тарыела затуманеныя вочы.

— Ты сказаў, не падумаўшы, Тарыел,—з дакорам адказаў ён.—Хіба мне не ведаць, што такое крыўда? Хіба я не зрабіў-бы так, як ты, каб у маіх слабых руках была твая сіла? О! Сто мёртвых шакалаў ляжала-б на маіх слядах!.. Але, я не ўмеў сам сябе абараніць... І хаця я быў слабым, усё-ткі, брат мой Тарыел, я не быў баязліўцам і заўсёды паважаў смелых. Я пайду ў Сабокучава і зраблю ўсё, што трэба і цяпер, і калі яшчэ скажаш...

— Дзякаваць, Тапурыя,—шэптам адказаў яму Тарыел.—Ты добры чалавек...

І ён зноў, закрываючы вочы, нізка схіліў галаву.

Праз некаторы час Тапурыя ўжо ішоў праз зараслі. Ён развітаўся з Тарыелам пасля таго, як яны закідалі галлём тушу вяпра

і ўгаварыліся сустрэцца на пэўным месцы, на паўднёвай ускраіне лесу. Тапурыя ішоў нацянькі, каб скараціць дарогу ў Сабокучаво. Зараслі паступова пераходзілі ў нізіну, зямля стала вязкай, потым пад нагамі пачала зыбацца дрыгва, навокал хісталіся рэдкія кусты і неўзабаве ўбачыў Тапурыя неабсяжны гушчар трысця. Стары спыніўся, падцягнуў пояс, закінуў стрэльбу за плечы і азірнуўся. Ззаду хмурнеў цёмны лес. Наперадзе, пад ветрам гнулася трысцё. Вельмі далёка, на гарызонце, праясняліся і знікалі абрысы узгор'яў. На палове дарогі да іх, над лянівай балотнай рэчкай ляжала сяленне Сабокучаво і калі ісці праз балота проста, можна выйсці на грэблю, пад самае сяленне.

Тапурыя сышоў з купіны і ступіў на зыбкую, плывучую паверхню балота. Праз момант ягоная маленькая постаць знікла ў хісткім шумлівым гушчары. Цяпер бачыў перад сабою Тапурыя толькі зялёнае спляценне сцяблоў і над сабою блакітнае высокае неба. Ён пільна глядзеў наперад, па колеру трысця, па ягонай гушчыні стараючыся адгадаць багны. Перад яго вачыма мільгалі пыльныя мяцёлкі, каленчатыя сцяблы і дрыгва пад ім калыхалася і плыла. У гэты час Тарыел Кверквелія ішоў густым лесам, дзе расла папараць, прэлі ў вільгаці карчы, дзе ў самы ясны дзень панаваў змрок, бо неба закрылі густыя вершаліны высокіх дрэў.

Такім чынам ні стары паляўнічы, ні Тарыел не ўбачылі, як над балотамі ўсплыло вялізнае бурае воблака. Вецер ускалыхнуў яго, раптам узняў на вялікую вышыню, яно нейкі час заставалася там нерухомым, потым апала, развеялася і новае воблака, яшчэ больш цёмнае і густое, усплыло над балотам.

* * *

Гэтую ноч у Сабокучаво спалі неспакойна, сон быў кароткім і трывожным. Яшчэ не развеяўся змрок начы на ўсходзе, прадвяшчаючы прыход сонца, у знобкіх туманах усплывала цмяная зара, а на вуліцы сялення ўжо тут і там чуліся галасы. Яны не былі звонкімі ў гэтай ранняй цішы, як заўсёды, калі такой парой людзі ўставалі на работу. Сыходзячыся гаварылі пацíху, альбо стаялі маўклівымі гурткамі. Некалькі чалавек сабралася перад домам сельскага старасты Спірыдона Ганарджыя.

Праз шчыліны ў паркане яны бачылі бледную пляму слаба асветленага акна. Гэта гарэлі свечкі. У старастывым доме ляжала цела забітага падатковага чыноўніка. На двары старастывай сядзібы шорхаў гебель, шыпела піла, стукалі малаткі. Плотнік Пінія і старастывы парабкі рабілі труну для чыноўніка.

Усё больш яснела на ўсходзе. Ружовая зара перамагала туманы, з балот прышоў халаднаваты вецер і ў садзе зашумелі дрэвы, атрасаючы начную расу. Гучна крычалі пеўні. Да паркану падышло яшчэ некалькі чалавек. Людзі прывіталіся шэптам.

— Староста не выходзіў?—спытаў адзін з прышоўшых.

— Не... А навошта ён табе?

— Ён сказаў, каб я прынёс фарбы... У мяне крыху засталося з таго часу, калі я на дарозе знайшоў быў цэлую банку. Чыноўнікаву дамавіну будуць фарбаваць,

— Дык ты нясі, чаго стаіш?
— Я думаю, што ён спіць.
— Хто?
— Стараста.
— Ідзі, ён не спіць... Нядаўна нечага крычаў на двары.
— Хай хто-небудзь са мной пойдзе. Можа ён сабак у сад выпусціў...
Адзін з мужчын моўчкі адышоў ад паркану. Заскрыпела фортка, потым стала ціха,
— Няма сабак!..—сказаў нехта з тых, што засталіся на вуліцы.—Цяпер стараста іх ад сябе не адпусціць. Ён цяпер сам гатовы ў сабачай будцы пераначаваць.
— Ціха,—загаманілі мужчыны,—досыць нам бяды і без твайго языка!
— Калі ў цябе такі розум, то лепш ідзі да Тарыела ў балоты.
— Ай! Якія палахлівыя! Што я няпраўду сказаў? Ці раз табе, Коча, парвалі лыткі стараставы сабакі? Пажартаваць ужо нельга.
— Жарты... Знайшоў ён час для жартаў.
— Што ты хочаш! Вар'яту заўсёды весела... Гамарджо, Гагулія.
З вуліцы падышло яшчэ некалькі чалавек. Людзі зноў маўчалі. Вецер гнаў туманы над балотамі, паветра дрыжэла, насычаючыся святлом, ружовыя смугі зары расцякаліся ў неабдымнай прасторы неба, і праз нейкі час святло разарвала заслону начы, і сонечныя праменні дасяглі вышыні, асвятліўшы чараду рэдкіх дымных хмар. На далёкіх узгор'ях успыхнуў бляск, распаленае золата пырснула з-за гор, і ў раскошнай аправе праменняў з'явілася сонца.
У садзе зашчабяталі птушкі. Але сонца развеяла толькі змрок. Трывога ў душах людзей засталася. Амаль усё насельніцтва Сабокучаво сабралася ля стараставага дома, і была такая цішыня, што Спірыдон Ганарджыя здзівіўся, калі, адкрыўшы фортку, убачыў густы натоўп.
Ён зняў свой капялюш і моўчкі пакланіўся. Яму адказаў глухі гул дзесяткаў галасоў.
— Што ты хочаш, Гуджу?—голасна спытаў Ганарджыя, убачыўшы сівога чалавека, які ўвесь час кланяўся яму.—Што ты ад мяне хочаш? Усё сталася з ласкі твайго сына, і я нічога парадзіць не магу... Каторыя тут з жанчын...
Але стары ўжо выбраўся наперад.
— Я не пра сына хачу сказаць, брат Спірыдон,—задыхаючыся загаварыў ён.—Я прашу цябе... каб ты... нашы сем'і... перад начальствам абараніў... каб наш здабытак не зруйнавалі... каб нявінныя дзеці... гора не цярпелі... Майму сыну бог даў... гарачае сэрца... і моцную руку... у чым-жа дзеці ягоныя... вінаватыя?..
— Чорт яму даў руку!—гукнуў стараста.—Сэрца ў яго гарачае. Каб шакалы з'елі сэрца, то па свеце шаленства пайшло-б. Ты маўчы, Гуджу. У мяне без цябе галава занятая. Твой сын забіў важнага і дастойнага чалавека, я пра твайго сына нічога і чуць не хачу, пакуль яго не павесяць. Эй, каторыя там з жанчын, бяжыце да ўдавы Тацiя, каб хутчэй кветкі неслі. Не разыходзьцеся, суседзі!

Ганарджыя завярнуўся і грукнуўшы форткай, знік. Апынуўшыся ў садзе, ён паслухаў яшчэ, што гавораць на вуліцы, але там было ціха. Ганарджыя пастаяў, змахнуў рукавом павуцінку з крыса сваёй новай світкі і пайшоў у двор, паблісквaючы халявамі новых ботаў, начышчаных да поўнай яснасці.

Перад натоўпам застаўся стаяць сівы стары. У яго дрыжэлі ногі, ён, нахіліўшыся, апіраўся на кій, на яго са спачуваннем глядзелі людзі, але ніхто не азваўся да яго ні словам. Гэта быў бацька Тарыела Кверквелія. Ужо некалькі гадоў ён не выходзіў з дому, прыкуты да месца даўняй хваробай, і вось цяпер, калі здарылася няшчасце, ён перамог хваробу і прышоў сюды ў надзеі абараніць сваю шматлікую сям'ю. Усім было шкада старога, але ніхто не падышоў да яго. Яшчэ ўчора ўвечары Ганарджыя абвясціў, што раніцой трэба чакаць прыезду асобага атрада, і ўсе ведалі, што гэта азначае. Асобна ад іншых стаялі і жонкі тых, хто пайшоў у балоты. Іх таксама ўсе абміналі. Кожны хацеў адвесці бяду ад сваёй хаты і думаў толькі аб сабе, з трывогай чакаючы страшнага слова „едуць“. Вось чаму ў неспакоі блукалі людзі ў знобкім ранішнім змроку і абасобленыя, кожны сябе баючыся, стаялі цяпер у панурым чаканні. І амаль што звычайныя словы чалавека, які падышоў да Кверквелія, здаліся людзям папросту страшнымі.

— Што вы, бацька, ад гэтага паршыўца міласці просіце!—сказаў ён, беручы пад руку старога.—Уся ягоная скура аднаго вашага мазаля не варта... Хадзіце, я давяду вас дадому...

Стары, не гаворачы ні слова, пайшоў за ім і перад ім расступіліся. Мужчыны панура глядзелі ў зямлю. Гэты чалавек Элія Бокучава, быў родным братам аднаго з тых, хто пайшоў у балоты.

— Бяда з гэтым Элія!—загаманілі ў натоўпе, калі Бокучава стары Кверквелія адышлі.

— У яго язык, што нож...

— З гэтым языком не знасіць яму галавы па добраму...

— Ён хрэснік Гуджу Кверквелія! Заступіўся за радню...

— То што, калі хрэснік?!. Вось як ахрысцяць яго нанава, ды за адным захадам і нас! Вялікая мне радасць, што ён некаму радня.

— А, кіньце вы! Маўчалі-б ужо лепш. Калі чалавек маўчыць у дрэнны час, ён усё роўна выйграе, ці дурны ён, ці разумны...

— Яшчэ хопіць часу для гаворкі.

— Праўда! Калі начальства пачне пытацца, вось тады пагаворыш!

— Вельмі гаваркія сталі...

Паступова гоман сціх і людзі зноў стаялі моўчкі. Час ішоў. Сонца ўзнімалася вышэй, высыхала раса, вецер ганяў па вуліцах пыл. Ніхто не кранууся з месца, ніхто не падумаў аб рабоце. У загонах рыкала жывёла, стада не пусцілі на пасьбішча, бо стараста загадаў, каб усё было на месцы.

— Труну панеслі ў дом!—сказаў нехта.

Усе пацікнуліся да паркану. Там стала цесна.

— Не, гэта фарбуюць,—заўважыў адзін з мужчын.—Адыдзецеся, палымаеце мне рэбры. Вунь, Піпія прыставіў яе да паркану і фарбуе...

Натоўп падаўся назад, але зараз-жа прысунуў зноў, калі на двары Ганарджыя завішчэла парасё.

— Для начальства на абед...—здагадваліся людзі.—Глядзі, як Спірыдон стараецца.

— Гэта нам прыдзецца потым адплачваць,—гаварылі больш разважныя, якія не надта верылі ў шчодрасць Ганарджыя.—Гэта нам дарма не пойдзе... Сказаць па праўдзе, Спірыдон з сваёй кішэні вельмі не перастараецца.

У гэты момант прымчаў задыханы хлапчук і здалёк яшчэ закрычаў:

— На грэблі!.. Салдаты!..

Усё адразу сціхла. У мёртвай цішыні ўсе чулі далёкі, глухі тупат.

— Адыдзіцеся з дарогі!—крыкнуў нехта і зараз-жа на вуліцы з'явіўся конны атрад. Коні ішлі на поўную рысь. Коннікі гойдаліся ў сёдлах, бліскала зброя, курыўся пыл, і ўсё гэта было незвычайным і страшным на вуліцы ціхага сялення. Атрад праляцеў міма, а за ім прамчаў парны фаэтон. Пачулася працяглая каманда. Коннікі крута асадзілі коняй, строй змяшаўся. У фаэтоне сядзела трох, яны былі прыгожа і спрытна апранутыя, пры боку мелі шаблі і ўсякую іншую зброю. Мужчыны знялі свае шапкі.

— Гамарджо!—сказаў нехта, больш смелы, і за ім усе астатнія.

Двое вышлі з фаэтону, трэці ўстаў і стаяў там, аглядаючы натоўп. Ён быў высокі, стройны, вельмі падцягнуты. У яго былі чорныя калючыя вочы, вусы стрэлкай і чорны пучок бародкі пад самай ніжняй губой. На поясе ў яго вісеў вялізны рэвольвер, шабля з чыстага срэбра, і не менш багаты кінжал. Усе адразу пазналі ў ім галоўнага начальніка і куды-б ні глянуў Акакій Гунава, усюды бачыў ён нахіленыя галовы, ніхто ні разу не сустрэўся з ім поглядам.

— Я з вамі не вітаюся!—прагучэў голас начальніка.—Я скажу вам добры дзень тады, калі буду ведаць, што сярод вас няма забойцаў і рабаўнікоў. Стаяць спакойна, не разыходзіцца! Варта! Глядзець за народам!

Начальнік саскочыў на зямлю... Коннікі акружылі натоўп, наязджаючы на людзей. Вельмі хутка салдаты сагналі сялян у цесны гурт. Начальнік нешта сказаў да сваіх і яны ўтрох пайшлі да варот старасты. У гэты момант на вуліцу выскачыў Ганарджыя. У яго быў такі выгляд, што адразу можна было пазнаць: чалавек не ведае ці смяяцца яму, ці плакаць. Але, убачыўшы начальніцкую міну, Ганарджыя зразумеў, што смяяцца не выпадае. З нізкім паклонам ён прапусціў сваіх гасцей, якія і яму не адказалі на прывітанне і дбайна зачынілі фортку.

Людзі засталіся на вуліцы, акружаныя конніцай. Прайшло паўгадзіны, потым гадзіна, сонца прыпякала моцна і калі спатнелыя коні высахлі, то дрэнна стала салдатам. Яны ёрзалі на сёдлах, усё больш губляючы выгляд удалых ваяк і ўсё больш нагадваючы вельмі стомленых людзей. Сукно гімнасцёрак пацямнела пад рамянямі і пагонамі. З панурымі тварамі салдаты пазіралі на сялян, якія, усё так-жа маўклівыя, пакорна стаялі на сярэдзіне пыльнай

вуліцы. Апаўдні на вуліцу вышаў адзін з начальнікаў і загадаў палове атраду рассядлаць коняй і адпачываць, астатнім-жа трымаць варту. Коней салдаты развялі па суседніх дварах, неўзабаве выйшаў на вуліцу стараста Ганарджыя і загадаў, каб жанчыны зараз-жа ішлі гатаваць страву для салдат.

— У нас госці не павінны быць галоднымі,—сказаў ужо больш весялейшы Ганарджыя.—Ты, Гвазава, будзеш за старшага... Ідзі, я гаварыў з начальнікам і ён табе дазволіў выйсці з-пад варты. Нічога не шкадуйце для дарагіх гасцей!

Гвазава, спяшаючыся, выбраўся з натоўпу і адразу ўзяўся за работу. Ён адвёў у бок жанчын з тых сем'яў, сваякі якіх пайшлі ў балоты і пачаў з імі гутарыць.

— У цябе, Бучу,—сказаў Гвазава,—ёсць ладны падсвінак. Тамурыя прынясе курэй, Тація—малодшая—ты аддасі барана. Суседзі не павінны з-за вас гора цярпець, Што? Мукі няма? Гм... Ну, мукі можа знойдзем. А ты? У цябе толькі каза? То і што, калі каза? Хіба яна святая, твая каза? Аб дзецях трэба было падумаць твайму мужу, мне пра гэта думаць не варта, у мяне свае дзеці. Ну, ідзіце, паліце ў печы... Ідзіце, кажу я вам! Што вы думаеце, з-за вашых мужоў усе у пятлю палезуць?

Жанчыны, плачучы, пайшлі па хатах. Мужчыны, якія стаялі пад вартай, зрабілі выгляд, што не чулі гутаркі Гвазава. Кожны думаў аб сабе і баяўся толькі за сябе. Праз некаторы час па дварах закрычалі куры, двое салдат пранеслі вуліцай у двор Гвазава вялікага барана. Туды-ж павяла жонка Мітрафана Бокучава, адзіную сваю казу. Мужчыны не глядзелі ў той бок. Салдаты, якія засталіся на варце, спахмурнелі яшчэ больш. Сонца прыпякала няшчадна, коні, змучаныя начным паходам, ледзьве стаялі на нагах. Сяляне баяліся глядзець на салдат. Стала лепш, калі за парканам зноў з'явіўся начальнік і загадаў варце спешыцца.

— Гвазава апошняй Мітрафанавай казой хоча пяцьдзесят салдат накарміць,—сказаў суседу Элія Бокучава.—Багаты раз на жыцці памірае—бядняк штодзень. Іш, як спрытна стараста свайго прыяцеля вызваліў! Ці бачыў ты? Старшы! Начальства знайшлося курэй душыць!

Сусед моўчкі адвярнуўся ад Бокучава.

Ішоў час, людзі нерухома стаялі на вуліцы, сонца пякло няшчадна і вецер узнімаў гарачы пыл.

У адным з пакояў абшырнага старастава дому, за сталом сядзеў Гунава, побач з ім начальнік аддзелу павятовай міліцыі Мучаідзе і насупроць—памочнік Гунава. Стараста не адважваўся садзіцца ў прысутнасці начальства і туляўся за крэсламі са жбаном у руцэ. Гунава праглядаў спіс, які падаў яму стараста.

— Дык гэтых, ты кажаш, ніводнага няма?—спытаў Гунава ў старасты.

— Ніводнага няма, пане начальнік,—паспешна адказаў стараста, наліваючы ў кубак Гунава.—Учора ўвечары ў балоты ўцяклі, каб іх пярун пабіў да астатку. Калі ласка, ваша міласць!

Гунава пагрыз курэчую ножку і паклаў яе на чысты абрус. Стараста з жалем паглядзеў на жоўтую пляму.

— Раз... два... тры...—лічыў Гунава.—Чатырнаццаць... Чатырнаццаць мужыкоў з кіямі і пятнаццаць салдат з англійскімі магазіннымі вінтоўкамі... Яшчэ раз павінен вам сказаць, паважаны друг, што ў вас не салдаты, а цяжарныя бабы з радзільнага дому! Я хацеў-бы паглядзець, як гэта яны пераносілі свае зады праз плятні і ўцякалі ў балоты! Сорам! Ганьба! Мужык возьме хварасціну і праганяе з вёскі ўзброены атрад ўрадавага войска! Які пасля гэтага можа быць парадак? А?

Мучаідзе чырванеў і маўчаў. Стараста са жбанам адышоўся да сцяны.

— Колькі ў іх можа быць патронаў?—спытаў Гунава.

Мучаідзе адкашляўся.

— Патронаў?.. Штук пяцьсот можа быць... У кожнага міліцыянера было ў сярэднім па сорак пяць патронаў. Калі адбылася сутычка, выдаткаванне... у сярэднім... Адным словам, можна меркаваць...

— Гэта вы будзеце меркаваць, калі наскочыце ў балотах на засаду...—перабіў яму гутарку Гунава.—Тады вы падлічыце, колькі ў сярэднім дзірак будзе ў вашым жываце. Сорам, дарагі мой!

Начальнік міліцыі маўчаў. Ён не мог спрачацца з Гунава, бо ведаў, што ад асобаатрадчыка цалкам залежыць у далейшым ягоная служба.

— Яны былі ў салдатах, стараста?—спытаў Гунава.

— Хто, пане начальнік?...

— Ну, гэтыя... што ў балотах?

— Амаль усе, ваша міласць. Амаль усе былі ў вайну на фронце...

— Я думаю, яны лепш управяцца з вінтоўкамі, чымся вашы юрадзівыя!—сказаў Гунава да Мучаідзе.—Тарыел Кверквелія, Мітрафан Бокучава, Сандро Бачылава, Оція Гвіцыя, Міхаіл Ганарджыя... Што гэта, стараста, сваяк твой тут?

Стараста паставіў жбан на падлогу і развёў рукі.

— Стрыечны брат зганьбіў прозвішча, ваша міласць... Будзьце ласкавы, дайце веры: пяць год ягоная нага на парозе майго дома не была. Валацуга і скандаліст, бадзяўся па гарадах, капейкі пры душы ніколі не меў, голы і востры і богу нямілы, у нашым родзе гэткіх ніколі не было... Увесь наш род Ганарджыя, ваша міласць будзьце ласкавы...

— Добра, добра...—сказаў Гунава.—Досыць...

Стараста змоўк. У пакоі стала ціха.

— Дык вось,—сказаў Гунава нарэшце.—Ад таго, што стараста тут накрэмзаў карысці ніякай няма. Гэты спіс вы пакладзіце, паважаны мой, сабе ў партфель. Так сказаць, на ўспамін аб сваёй плённай дзейнасці... А мы тымчасам падумаем, як гэтых чатырнаццаць галаварэзаў вылавіць з балот. Дзе яны могуць хавацца, як ты думаеш, стараста?

Ганарджыя зноў развёў рукамі.

— Балоты, пане начальнік! Хто яго ведае! Тут, вёрст за пяць адгэтуль, ёсць лес. Вялікая пушча... Туды вельмі дрэнна ісці, амаль ніхто не ходзіць, ваша міласць. Можа, яны там?

— Напэўна там,—ажывіўся Мучаідзе.—Людзі спешаным строем пройдуць праз лес і...

— І што?

— ...І мы акружым іх. У нас пяцьдзесят чалавек!

— Глупства, мой дарагі!—усміхнууся Гунава.—Вы пройдзеце сто крокаў і ад пешага строю застанецца на паверхні пяцьдзесят шапак! Мы павінны іх запрасіць сюды. Стараста! Хто там ёсць такі?

— Дзе, ваша міласць?

— На вуліцы... як яго... Эліа...

— Бокучава, пане начальнік.

— Гэтага ўзяць пад варту!—сказаў Гунава да ад'ютанта.— Астатніх распусціць па хатах. Толькі ты, стараста, адказваць будзеш, калі хто ўцячэ ў балоты! Праз гадзіну сабраць іх зноў... Я зараз паеду і вы са мной, мой паважаны друг...

Мучаідзе ўстаў. Ад'ютант моўчкі вышаў з пакою. Гэта быў вельмі маўклівы чалавек. Праз хвіліну да варот падвялі коняй, на вуліцы не было ўжо ніводнай душы. Акружаны кавалерыстамі, Гунава праехаў на другі канец сялення, спыніўся на мосце і доўга нешта абдумваў, аглядаючы балоты.

— Тут вы паставіце адзін „Люіс“!—сказаў ён ад'ютанту, заварачваючы каня.—Стралкоў размясціце ў агародах за плятнём.

У сяленні было ціха. Людзі выглядалі з-за парканаў і праз вокны і, ўбачыўшы суровага начальніка на кані, хаваліся. На другім канцы сялення, на грэблі, Гунава вызначыў месца для другога кулямёта, нешта запісаў у блакнот і, падаючы лісток ад'ютанту, сказаў:

— Па гэтай схеме размясціце атрад. Аб астатнім раскажу вам пасля. Цяпер пара ўжо абедаць.

Яны вярнуліся ў сяленне.

Пасля абеда Гунава вышаў у другі пакой, паклікаў ад'ютанта доўга гаварыў з ім, потым ад'ютант загадаў старасце сабраць сялян. Мучаідзе стаяў ля вакна, паскубваючы рэдкія вусы і не адвярнууся, калі Гунава падышоў да яго.

— На вас, мой дарагі, я ўскладаю вось што...—сказаў Гунава, падаючы яму каробку запалак.—Ад'ютант будзе пры мне, за салдатамі-ж патрэбны нагляд аўтарытэтнага начальніка... Тым больш, салдаты ўсе былыя сяляне... Пры гэткіх справах яны звычайна, хвалююцца...

Мучаідзе, не разумеючы, моўчкі глядзеў на Гунава.

— Стараста пакажа вам халупы гэтых... балотных гверыльясаў...—гаварыў далей Гунава.—Я гатовы паручыцца галавой, што праз гадзіну яны будуць тут. Х-хэ! Дымок пад страхой—нядрэнная прынада!

Толькі цяпер Мучаідзе зразумеў у чым справа.

— Пане Гунава!—прашаптаў ён, хаваючы рукі за спіну.

— Па службе непрыемнасцяў не будзе! Мы тут на правах карнага атраду. Хіба ў вас уласныя запалкі.

Мучаідзе маўчаў. Гунава паклаў каробку ў кішэню і ў яго вачах успыхнула злосць.

— Вам надакучыла служба?—спытаў ён, насмешліва крывячы губы.—Вам патрэбны адпачынак? Я магу вам даць такую мажлівасць.

Гунава пайшоў да дзвярэй.

— Пане Гунава!—ахрыпла сказаў Мучаідзе.—У мяне няма запалак...

Гунава завярнуўся, як па камандзе, і зноў падышоў да яго.

— Я вас разумею.—сказаў ён.—Вы, здаецца, некалі былі ва універсітэце. Служэнне народу, ідэі дэмакратыі... Можаце быць упэўнены, што я таксама падзяляю гэтыя погляды. Але, як ваенны чалавек, я надаю перавагу рашучым дзеянням, калі прыязджаю па справе забойства ўрадавага служачага. Калі ў вас такая далікатная натура, не варта было апранаць ваенны мундзір.

— Што вы, пане Гунава,—паспрабаваў усміхнуцца Мучаідзе.—Мне толькі здалося, што гэта, так сказаць... выклікае моцныя непарадкі...

— Гэта іх супакоіць надоўга!—рэзка сказаў Гунава.—Па меншай меры на некалькі год. А вы свае ліберальныя ідэі...

Гунава зрабіў нейкі незразумелы гэст, што павінен быў азначаць начальнікавы ідэі.

— ...гэтыя дохлыя, студэнцкія ідэйкі, пакіньце раз назаўсёды! Бярыце запалкі!

Гунава кінуў каробку на стол і пайшоў да дзвярэй.

— Майце на ўвазе!—крыкнуў ён ад парогу.—Я заўсёды буду ўжываць агонь і меч, каб падтрымаць аўтарытэт нашай дзяржавы. Ён для мяне даражэйшы за гнілыя халупы і за мужыцкія абмуляныя скуры! Астатняе—потым!

— Вы мяне дрэнна зразумелі, пане Гунава!.. Я... У мяне ідэй няма...

— Тым лепш для вас!

Гунава вышаў, грукнуўшы дзвярыма. Мучаідзе застаўся ў пакоі адзін.

— Вар'ят!—пакрыўджаны, прабурчэў ён.—Слова не дае сказаць.

Яму было ад чаго крыўдзіцца. Ён не менш за Гунава паважаў аўтарытэт дзяржавы, разумеючы ў гэтым сваё ўласнае службовае становішча і дабрабыт. Ён праявіў нерашучасць толькі таму, што не быў у дастатковай меры смелым, каб у ясны дзень, на вачах ста з лішнім сялян, падпальваць іхнія хаты. У суседнім пакоі ляжала мёртвае цела, а начальнік быў даволі ўражлівым чалавекам. Зразумела, сказаць пра гэта асобаатрадчыку ён не мог. Ён толькі сказаў, што Гунава памыляецца, мяркуючы, што ў яго ёсць інакшыя імкненні, акрамя жадання падтрымаць аўтарытэт улады, і гэта было шчырай праўдай. Але ўсё роўна, гэта не выратавала становішча, і для таго, каб словы пацвердзіць справай, трэба браць запалкі з вакна. Інакш Гунава напіша рапарт, што начальнік аддзела міліцыі ліберал, гуманіст і чорт ведама што ён яшчэ такое, і падмацаваўшы гэта гісторыяй у Сабокучаво, дзе міліцыя паказала сябе вельмі несамавіта,—лёгка даб'ецца ягонай адстаўкі.

На двары, за сталом сядзеў Гунава з ад'ютантам. Перад ім стаяў без шапкі селянін. Мучаідзе павольна сышоў з ганку. Ён

толькі цяпер падумаў аб тым, што трымаў сябе пры асобаатрадчыку, як апошні на свеце баязлівец. І тое, што напалоханы Гунавай, ён папрасіў у яго запалкі, каб падпаліць сяленне, выйшла знешне па-тэатральнаму, а па сутнасці проста па-халуйску.

— У мяне няма запалак, пане Гунава...—прыгадаў Мучаідзе свой ахрыплы нясмелы голас і расцярушыў каробку ў жмені, з ненавісцю пазіраючы на Гунава.—Ён цяпер паедзе на мне, як на ішаку!

— І тады што?—пытаў Гунава ў селяніна.—Што тады зрабіў Оція Гвічыя?

— Ён...—селянін азірнуўся, комкаючы ў руках шапку.—Ён, пане начальнік... ударыў салдата.

— Ах!—застагнаў стараста, які стаяў пад дрэвам.—Ах, якія людзі!

Гунава глянуў на яго, і стараста закашляўся.

— Гэты баран можа ісці ў сваю загарадку,—сказаў асобаатрадчык.—Прывесці таго, што пад вартай!

Двое салдат прывялі Элія Бокучава.

— Глядзі мне ў вочы!—сказаў Гунава.—Ну? Чаму ў цябе морда скрываўленая?

Бокучава паспрабаваў вызваліць руку, але салдат трымаў яго моцна пад локаць. Тады ён штурхануў салдата плячом і вырваў руку.

— Я ў садзе, у паграбе сядзеў,—адказаў ён, аціраючы твар.—Мяне адтуль вашы салдацікі выцягнулі...

Як толькі ён абцёр твар, салдат зноў узяў яго пад руку.

— Пашана цяпер нам!—сказаў Бокучава, усміхаючыся і адкрываючы рад маладых белых зубоў.—Водзяць пад рукі, як маладуху і паціху мацаюць. У нас, пане начальнік, прыслоўе ёсць такое: мацалі маладуху, мацалі, а яна і зацяжарыла. Дык вось, учора былі радзіны, а сёння, відаць, хрэсбіны... Пусці маю руку, служывы.

— Ты што пляцеш?—упоўголаса грозна спытаў Гунава.—Чаму ты выскаляешся?

— Бо зубы маю!

— Што?

Гунава прыўстаў. Яго тонкія, рухавыя, даўгія пальцы прабеглі па стале і спыніліся каля рэвальвера, што ляжаў на паперах. Бокучава прасачыў за бегам трапяткіх начальнікавых пальцаў і калі сустрэўся з поглядам асобаатрадчыка, смех загаснуў у яго вачах.

— Ты саб-бачая косць...—задыхаючыся зашаптаў Гунава.—Ты сын паршывай сукі, сваімі зубамі не выхваляйся! Ты гэта бачыў?

Гунава ўзяў рэвальвер за ствол і памахаў у паветры цяжкой рукаяццю.

— У нас ёсць лякарства для зубоў!—у тым-жа тоне гаварыў Гунава.—Мы і не такія зубы вылячылі! Стой ціха, сабака! І калі пытаюць, адказвай на кожнае слова.

Аброслы маладым воласам смуглы твар Бокучава скамянеў. Сціснуўшы зубы, ад чаго на сківіцах застыглі жаўлакі, моўчкі глядзеў Эліа Бокучава на асобаатрадчыка. Ад гэтага погляду Гунава адчуваў, што шалее. Не палахлівая пакорнасць, не ліслівая гатоў-

насць услужыць, не страх і адчай, зусім не тое было ў вачах гэтага чалавека, што прывык бачыць Гунава ў іншых, у гэтых-жа умовах. Нізкарослы селянін, якіх ледзьве дасягаў галавой да пляча салдата, глядзеў на Гунава з адкрытай пагардай, не схаванай пагрозай, спакойна і смела.

— Каналья!—крыкнуў Гунава, стукаючы рукаяццю рэвольвера па стале.—Мы з табой пагутарым у другім месцы! Спусціць гэтага паганца ў пограб! Ну? Чаго стаіце? Не чулі?

Салдаты падштурхнулі Бокучава, ён завярнуўся і пайшоў з імі. Усе моўчкі глядзелі яму ўслед.

— Дазнання больш рабіць не будзем,—сказаў Гунава ад'ютанту. Ягоныя збялелыя губы дрыжэлі і твар раз-по-разу перасмыквала лютая грымаса.—Усё і так ясна, мы дарэмна трацім час. Людзі адпачылі і падмацаваліся. Стараста, пакажаш халупы... Пане, начальнік, вазьмеце ад варот пяць чалавек. Калі пачуеце свісток, адразу пачынайце. Ну, ад'ютант!

Ад'ютант склаў паперы ў сумку і пайшоў з двара. Хутка пачулася каманда, і атрад, падзелены на дзве часткі, накіраваўся ў розныя канцы сялення. Ля варот старастовай сядзібы засталося дзесяць коннікаў. Па-ранейшаму пякло сонца, пераходзячы на другую палову дню, усё яшчэ не суняўся вецер, і ўсё гэтак-жа у маўчанні, зноў стаяў натоўп пасярэдзіне вуліцы.

Гунава вышаў за вароты, следам за ім Мучаідзе, які загадаў прызначаным да яго коннікам спешыцца і прывязаць коняй. Стараста хадзіў следам, нешта мармычучы сабе пад нос. Мучаідзе не звяртаў на яго ўвагі.

— Гамарджо!—сказаў Гунава да натоўпу і ўзяў пад казырок.— Можна спадзявацца, што сярод вас цяпер бандытаў няма.

Стрыманы гул прайшоў у натоўпе.

— Праз пяць дзён вы ўсе павінны быць у павеце!—гучна пачаў гаварыць Гунава.—Я даю вам ільготу на пяць дзён. За гэты час вы павінны сплаціць нядоімкі спаўна! Я думаю, што вы не будзеце чакаць, пакуль я яшчэ раз прыеду да вас! Сёнешні дзень застанецца вам у памяці, як прыклад таго, што бывае і будзе з кожным, хто асмеліцца ўзняць руку супроць улады і закону. Улада жорстка пакарае кожнага, хто выступіць супроць парадку і гэта вы зараз убачыце на ўласныя вочы.

— Ваша міласць, ваша міласць...—шаптаў стараста, ідучы ззаду за Мучаідзе.—Вось тут, хлапчук, ваша міласць... Мой парабак.

— Што там яшчэ такое?—адвярнуўся Мучаідзе.

Стараста, азіраючыся, цягнучы за руку маладога хлапца, падбег да яго.

— Я не магу, ваша міласць...—мармытаў стараста, увесь час аглядаючыся назад, на натоўп.—Адпусцеце мяне, бо яны...

Ён раптам абхапіў Мучаідзе за шыю і зашаптаў на вуха:

— Заб'юць мяне потым... ваша міласць... Хай вам хлопчык пакажа...

Ад калючай старастовай барады і ягонага панібрацтва начальніка пранялі гідлівыя дрыжыкі. Ён моцна штурхануў яго ў грудзі.

— Што ты мяне абымаеш, хам!—закрычаў Мучаідзе, нарэшце даючы волю свайму гневу.—Куды лезеш са сваёй мордай? Зараз-жа марш наперад і да мяне блізка не падыходзь! Ну?

Стараста адскочыў, як апараны. Салдаты зарагаталі.

— Вы, бараны!—нечакана для сябе самому зароў Мучаідзе не сваім голасам.—Даўно пад арыштам былі? З кім гэта вы? На гулянку вышлі?

Стараста бордзенька бег наперадзе і неўзабаве спыніўся ля сядзібы пад таполямі.

— Вось, ваша міласць...—гучным шэптам сказаў ён.—Хата Кверквелія... Тарыел Кверквелія, той самы, ваша міласць, што забіў нябожчыка, як яго...

Шэрую страху ахіналі разветлыя старыя дрэвы. Маленькія, чыстыя вокны весела пазіралі з-за плятня на вуліцу. За домам былі яшчэ нейкія пабудовы, за садам расла кукуруза. Адкінуўшы нагой фортку, начальнік прайшоў на двор, следам за ім праскочыў стараста і бразгаючы ножнамі шабляў, з шумам увайшлі салдаты. На двары нікога не было.

— Абшукаць дом,—загадаў Мучаідзе.—Усіх каго знойдзеце выводзьце на вуліцу.

— Тут у хляве буйвал,—сказаў салдат, зазірнуўшы праз шчыліну ў дзвярах.

— Выганяйце на вуліцу! Каб нічога жывога не засталося.

Буйвал упіраўся, лез у кут загарадкі, кідаўся ў бок ад незнаёмых людзей. Адзін з салдатаў улез у загарадку і ўдарыў яго прыкладам па карку. Буйвал завярнуўся, зачапіў рогам за загарадку. Пачуўся трэск, пасыпаліся жэрдкі і напалоханая жывёліна выбегла на двор. Салдаты выгналі буйвала на агарод.

— Добра паглядзеце ў доме!—камандаваў Мучаідзе.—Стараста! Ты лепш ведаеш, вядзі...

У доме нікога не было. Салдаты ператрэслі і пераглядзелі ўсе куткі. Толькі цяпер Мучаідзе заўважыў, што кавалерысты, дзякаваць клопатам Гвазава, даволі такі п'янаватыя.

— Гэта лепш,—падумаў ён, выходзячы з сяней на двор. І тут-жа спыніўся. Перад ім, апіраючыся на кій, стаяў згрыбелы стары. У яго быў зусім цёмны, зморшчаны твар, вецер варушыў даўгія, сівыя валасы на ягонай непакрытай галаве, стары нібы задуманы нечым глядзеў на начальніка.

— Ты хто такі?—спытаў Мучаідзе.

Стары памаўчаў і, замест адказу, спытаў ціхім, дрыжачым голасам:

— Што вы робіце тут, добрыя людзі?

Падумаўшы яшчэ, ён дадаў, як-бы ў задуме:

— Вунь і буйвала з хлява выгналі...

Мучаідзе азірнуўся і па тварах салдат здагадаўся, што ім шкада гэтага старога, хаця яны яшчэ і не ведалі, чым усё гэта скончыцца.

— А ну, хлопцы!—бадзёра скамандаваў Мучаідзе.—Вывадзіце і старога таракана на вуліцу. Хай пасядзіць там на лаўцы. Толькі асцярожна, каб не рассыпаўся...

І ён па-свойму падміргнуў салдатам. Але яны не засмяяліся, як таго чакаў Мучаідзе. Адзін, з іх падышоў і ўзяў старога пад руку.

— Ваша міласць...—жыва сказаў стары.—Пашкадуйце маіх дзетак, унукаў маіх... Бог даў майму сыну моцную руку і гарачае сэрца...

Ен умольна глядзеў на Мучаідзе, яго загаслыя вочы набылі жывы бляск. Салдат лёганька падштурхоўваў яго, але стары стаяў цвёрда, упіраўся ў зямлю кіем і не хацеў ісці, чакаючы, відаць адказу начальніка.

— Ідзі, ідзі...—сказаў Мучаідзе, хаваючы вочы.—Ідзі, нічога! Чаго ты стаіш?—закрычаў ён на салдата.—Колькі разоў трэба загадваць?

Салдат сілком павалок старога за сабою і той пайшоў, не трапляючы ў крок. Астатнія моўчкі глядзелі яму ўслед і зноў Мучаідзе заўважыў на тварах салдат аднолькавы для ўсіх выраз жалю і спагады.

— Чорт прынёс гэтую старую падлу!—падумаў Мучаідзе.

Стараста, заклаўшы рукі за спіну, стаяў ля плятня і пазіраў на страху дома Кверквелія. Пругкі вецер гойдаў гнуткія таполі, у садзе шумелі дрэвы.

— Пагарыць усё...—думаў стараста.—Гэта-ж чатырнаццаць двароў!.. Добра, калі яшчэ на астатнія не перакінецца... Хата Гвіцыя ад мяне за тры сядзібы... Ай-ва-ва!

Стараста ўявіў сабе, як шугае агонь з-пад высокага, чарапіцай крытага даху ягонага дома, як трэскаюцца і асыпаюцца цёмныя, задымленыя шыбы і халодныя дрыжыкі пайшлі ў яго па хрыбце і ў горле стала суха. Стараста прагна ўздыхнуў.

— Не!—падумаў ён, стараючыся супакоіцца.—Салдаты будуць пільнаваць, начальства не дапусціць да бяды... Пан Гунава хлеб-соль пад маім дахам елі. Але яны-ж паедуць потым! Божа мой, яны-ж паедуць, а я застануся... Што будзе, калі Тарыела не зловяць, ён будзе туляцца па лясах і ўночы прыдзе ў сяленне... На ліха я ў старасты пайшоў, пасціху сядзеў-бы, свой кавалак хлеба маючы... Чаго не ставала мне, ой, гора. Прасіў-жа я гэтую вусатую жабу... Хіба не мог парабак паказаць?.. О, гора!

Далёкі свіст пачуўся з агародаў, стараста ўздыхнуў і ягоныя горасныя думкі развеяліся ўшчэнт перад тым, што павінна было адбыцца. Мучаідзе падышоў да салдат.

— У каго ёсць запалкі?—спытаў ён.

— У мяне, пане паручык!—з гатоўнасцю адказаў адзін, шукаючы па кішэнях.

— Хадзі са мной,—загадаў Мучаідзе.—А вы праверце зброю. Быць напагатове, на нас могуць напасці.

Ен адвёў салдата да хлява і паказаў на нізкую саламяную страху.

— Запальвай!

Салдат глянуў на Мучаідзе асавелымі вачыма.

— Падпальвай дах!—павысіў голас Мучаідзе.—Што? Не выконваць загад?

Салдат збялеў. Ён шукаў па кішэнях і не мог знайсці каробку, якую толькі што трымаў у руках. Мучаідзе падаў яму на далоні жменю расцярушаных запалак.

— Выбяры цэлую! Зараз-жа!—закрычаў ён, украдкам зірнуўшы на астатніх салдат.—Табе афіцэр загадвае, ці хто?

Салдаты стаялі плячо-у-плячо, з вінтоўкамі пры назе, як у страі. Яны моўчкі глядзелі сабе пад ногі. Па іх тварах нельга было распазнаць, што думаюць гэтыя людзі. Нарэшце салдат выбраў цэлую запалку, спяшаючыся смаргануў ёй па поясе. Жоўтая галоўка абвуглілася, але агню не было відаць, так ясна асвятляла двор сонца. Салдат прыўстаў на наскі, узнімаючы ўгору тоненькі адшчэпак дрэва, на якім трапятала нябачная кропля агню. Рука салдата дрыжэла і ўсе глядзелі на гэтую вялікую аброслую воласам жылістую руку.

Было ціха. Нерухомыя цені ляжалі на пяску акуратна вымеценага двара. Павеяў вецер, скрыпнулі дзверы ў пустым, пакінутым доме. Шумелі таполі. За парканам калыхаліся залацістыя мяцёлкі кукурузы.

— Гарыць!—прашаптаў адзін з салдат.

Салома пацямнела ў тым месцы, дзе салдат дакрануўся страхі. Цёмная пляма пашыралася, але агню не было відаць. Тонкім струменем пацёк шэры дым, праслаўся па страсе, вецер скінуў яго ўніз на двор, і людзі пачулі звычайны дамавіты пах вогнішча. Зноў павеяў вецер і цмяныя плямы з'явіліся адразу ў некалькіх месцах.

— Гатова!—сказаў Мучаідзе.—Выходзіць адгэтуль! Стараста, вядзі!

Яны пашлі з двара.

На вуліцы стаяў згорблены Гуджу Кверквелія. Стараста, Мучаідзе і салдаты моўчкі прайшлі міма яго і ён паглядзеў на іх, нібы не пазнаючы. У гэты момант, над сядзібай усплыў цёмны дым. Стары ўздыхнуў, узняў галаву і са здзіўленнем глядзеў на цёмнае воблака, што ўзносілася ўгору. Потым спатыкаючыся, з высіленнем апіраючыся на кій, ён пакульгаў на двор.

— Пажар!—шаптаў стары Кверквелія і яму здавалася, што ён бяжыць хутка і гучна крычыць.—Пажар! Што вы нарабілі, людзі...

— Урад па-бацькоўскаму клапоціцца аб вас...—гаварыў Гунава да маўклівага натоўпу.—І той хто ўзнімае руку супроць свайго законнага ўраду, яшчэ раз кажу вам, будзе пакараны так, як забойцы вечнай памяці пана падатковага інспектара. Тое, што вы ўбачыце зараз, для вас добрая навука, а для іх грозны напамінак яшчэ больш цяжкай кары. Няма таго, хто зрабіўшы злачынства, схаваўся-б ад рукі закону! Памятайце гэта! Вы ведаеце, што сказаў Ной Жорданія...

— Дым!—раптам крыкнуў нехта з натоўпу.

— Дым!—паўтарылі дзесяткі галасоў...

— Пажар!

Чорнае воблака ўзнімалася над садамі і стрэхамі Сабокучаво.

— Стаяць!—закрычаў Гунава на ўвесь голас.—Слухаць, што я кажу! Кожны мае права абараняць сваю гаспадарку і дапамагчы

суседу... Хто паспрабуе выліць хоць каплю вады на дах аднаго з гэтых...—застрэлю на месцы! Бачылі?..

Гунава вырваў з кабуры свой цяжкі рэвальвер.

— Марш па хатах!

Натоўп з крыкам кінуўся ў розныя бакі. Хутка Гунава застаўся адзін са сваімі салдатамі. Чорная хмара паўзла над сяленнем, яе збіваў да зямлі вецер. Вялізны, бледна-жоўты слуп агню раптам узняўся ўгору... Новае цёмнае воблака ўсплыло ў тым-жа канцы Сабокучаво. Крык суцэльным гулам стаяў над сяленнем, па вуліцы бегла жывёла. Коні канвоя Гунава стрыглі вушамі, непакоіліся, салдаты трымалі іх пад уздзечкі. Пакусваючы губы, Гунава паклаў у кабуру рэвальвер. Вогненны слуп прыгнуўся пад ветрам, дым апаў на вуліцу, пацямнела. Гунава зрабіў знак салдату, той пабег у двор і вывеў каня. Гунава акуратна паставіў вузкую ступню ў стрэмя і прызвычаена, спрытна ўскочыў у сядло. Конь затанцаваў, перакруціўся. Гунава, абыякава адкінуўся назад, зацягваючы павады. Ён як-бы выхваляўся перад салдатамі сваёй спрытнасцю, сілай і спакоем.

Салдаты бледныя і ўсхваляваныя, моўчкі глядзелі на яго.

— Як сядзіш?—крыкнуў Гунава аднаму з іх.—Папраў нагу! За мной!

У гэты момант жонка і дзеці Тарыела Кверквелія дабеглі да сваёй хаты, ахопленай полымем. Таполі хісталіся ў дыме, полымя грозна грымела. Жанчына, ламаючы рукі, заклікала суседзяй на дапамогу.

Гунава ўбачыў старасту, які паспяшаў яму насустрач. За ім бегла некалькі мужчын.

— Пане начальнік!—крычаў стараста яшчэ здалёк.—Ваша міласць!.. Загадайце, каб кінулі падпальваць... Увесь той канец сялення гарыць!

Мужчыны стаялі, зняўшы шапкі.

— Згарыць усё сяленне,—гаварыў стараста, чапляючыся за сядло Гунава.—Вецер вялікі, дым і агонь нясе скрозь...

— Пашкадуйце бедных людзей...—сказаў адзін з мужчын, але далёка не пакорнасць і просьбу ўбачыў Гунава ў яго вачах.—Навошта, спусташаеце зямлю!..

— Усё згарыць!—дадаў другі.—І правыя і вінаватыя...

— Ваша міласць...—заенчыў стараста, не адпушчаючы сядла.— Ваша міласць!..

— Добра!—сказаў Гунава.—Адмяніць загад! Скажыце начальніку, каб ішоў сюды...

Ён павярнуў каня. Неўзабаве прышоў на старастаў двор Мучаідзе з салдатамі. Мучаідзе аціраў хусткай потны твар, стараўся не сустракацца поглядам з Гунава і не адказаў на ягонае пытанне, калі асобаатрадчык захацеў даведацца, колькі імі было падпалена двароў.

— Пяць хат падпалілі, ваша міласць!..—жыва адказаў стараста.— Астатняе само пайшло... Увесь той канец сялення гарыць.

Як гэта не дзіўна, ён адчуваў цяпер сябе значна лепш, чымся ў пачатку пажару.

Гэта-ж не хто іншы, а ён прасіў начальніка, у прысутнасці сялян, каб той адмяніў сваё рашэнне спаліць Сабокучаво, гэта-ж ён вешаўся на сядло Гунава, хапаў лютага асобаатрадчыка за рукі і дабіўся адмены загаду. Гэта бачылі людзі і цяпер не такая ўжо бяда, калі і не зловяць Кверквелія, калі ён і заўтра прыдзе сюды з балот. Не пагражала небяспека і гаспадарцы. Вецер гнаў агонь у другі бок ад ягонай сядзібы. Стараста дрыжэў і ляскаў зубамі, пазіраючы на чорную хмару дыму, на грозныя ўсплескі полымя. Ён быў узбуджаны і ўсхваляваны, але гэта ўсё не дасягала глыбіні душы і недзе ў схаваным кутку краталася радасць. Усё-такі чалавек вырабіўся з бяды. І не з аднэй, а з двух адразу.

Гунава моўчкі стаяў пад дрэвам, пазіраючы на замглёнае дымам сонца. Вецер мацнеў, налятаў парывамі, смуроднае дыханне пажару насычала паветра. Здалёк былі чуваць гул, трэск і крык.

Рыкала спалоханая жывёла, ірзалі коні. Дзень спахмурнеў, трывога і жуд панавалі ў сяленні.

Мучаідзе хадзіў па двары, схаваўшы рукі ў кішэнях. Ля варот паціху гаманілі салдаты. Раптам нехта адкрыў фортку. Клікалі старасту, той не спяшаючыся пайшоў да варот і праз хвіліну вярнуўся ўжо бегам.

— Ваша міласць, чалавек згарэў..—далажыў ён Гунава.—Гуджу Кверквелія, бацька таго самага...

— Дзе згарэў? Як?

— Ён мусіць гасіў агонь і... значыцца... захлынуўся...

Гунава глянуў на Мучаідзе і сустрэў злую усмешку, якую той нават і не хаваў пад сваімі рэдкімі вусамі.

— Ну?—прачытаў Гунава ў насмешлівым поглядзе.—Што скажаш?

— Пане паручык!—сказаў Гунава раздзельна.—Я даў вам ін-струк-цы-ю: нікога не пакідаць у хатах, вывесці нават жывёлу з хлявоў. Як гэта здарылася, мой дарагі?

— Пане капітан!—у тон яму адказаў Мучаідзе.—Я загадаў салдатам вывесці гэтага чалавека на вуліцу, што і было зроблена. У іншых дварах ні было нікога. Такім чынам я выканаў вашу інструк-цы-ю, і за вынікі не адказваю.

— Вас ніхто і не абавязвае,—павёў плячом Гунава.— Я начальнік карнага атраду і магу выпаліць усю гэтую гніль дашчэнту, не спадзяваючыся на тое, што адказваць будзеце вы. У вас ёсць уласная адказнасць, будзьце ласкавы... Што-ж, адзначым у пратаколе няшчасны выпадак на пажары... А гэта што? А-а-а! Бачыце?

Салдаты вялі ад варот нязнаёмага.

— Дзе затрымалі?—спытаў Гунава, ідучы насустрач.

— На грэблі, пане капітан!—далажыў салдат.—Бег проста на кулямёт!

Гунава, здаволена ўсміхаючыся, крута павярнуўся на абцасах.

— Што я вам казаў, мой дарагі? Выйшла па-мойму, гверыльясы не вытрымалі аганьку! Гэта іх разведчык. Яны, усё-такі досыць асцярожныя... Ну, я так і меркаваў... Вядзіце яго сюды.

Ён прайшоў пад дрэва і сеў за стол, гэстам запрашаючы сесці і Мучаідзе. Яны хвіліну моўчкі прыглядаліся да незнаёмага. Перад

імі стаяў пажылы селянін. Ён быў невысокага росту, шырокаполы капялюш закрываў палову яго твару. Выгляд ягоны быў самы звычайны.

— Слухай, ты!—сказаў Гунава.—Знімі з галавы гэтае варонняе гняздо.

— Знімі капялюш, Тапурыя!—крыкнуў стараста.

Арыштаваны зняў капялюш і, не адрываючыся, глядзеў на пажар. Там чуўся трэск, агонь кідаўся высока ў замглёнае неба, чырвонае сонца хавалася ў дым. На твары чалавека быў нейкі засмучаны спакой. Так выглядаў Гуджу Кверквелія, калі ўбачыў салдат на сваім двары.

— Як яго завуць?—спытаў Гунава.—Тапурыя?

— Тапурыя, ваша міласць!

— Ну, паглядзім што гэта за слодыч!*) Слухай, Тапурыя, дзе астатнія?

Тапурыя паглядзеў на начальніка, не разумеючы.

— Ты што, глухі? Я пытаюся ў цябе, дзе хаваюцца астатнія?

Тапурыя паціснуў плячыма.

— Я не ведаю, начальнік... Я лавіў рыбу на балоце і прышоў сюды, калі ўбачыў дым. Гэткае няшчасце здарылася з людзямі...

— Не прыкідвайся дурнем! Калі гэта ты пайшоў па рыбу? Пасля таго, як вы забілі чалавека, ты пайшоў сабе рыбку вудзіць, стары злодзей!

— Ваша міласць,—умяшаўся стараста,—гэта чалавек не з нашага сялення. Ён рыбак і палюе на дзічыну... Ён з гэтага... як яго...

Бровы Гунава палезлі ўгору. Ён зусім не падумаў аб тым, што паблізу ў балотах могуць быць людзі і апрача сялян Сабокучаво.

— Як толькі ўбачыў дым, я пабег сюды, начальнік,—сказаў Тапурыя.—Я кінуў сеці і сам не памятаю дзе. Гэткае няшчасце...

Новая хмара ўсплыла ўгору, яшчэ вышэй узняўся агонь. Пачуўся распачлівы крык. Стараста з нагамі ўзлез на лаўку.

— Злязай!—зашыпеў Гунава.—Што табе тут трэба! Пайшоў вон адгэтуль...

—Выбачайце, ваша міласць...—шэптам адказаў стараста.—Новая хата гарыць... Здаецца, не дай божа, вецер змяніўся.

— Злязай, кажу!—закрычаў Гунава.—Вон адгэтуль, к чортавай мацеры, дурань. Ну!

Стараста саскочыў з лаўкі.

—Прынясіце крэсла!—загадаў Гунава.—Стараста, ты чуеш?

Стараста пабег у дом і вынес крэсла.

— Сядайце, Тапурыя,—запрасіў Гунава, перагінаючыся праз стол.—Выбачайце, я не ведаў, што вы не тутэйшы. Калі ласка!

Гунава падаў Тапурыя раскрыты портсігар. Стары не выказаў ніякага здзіўлення з прычыны нечаканай начальніцкай ласкі. Ён не спяшаючыся ўзяў папяросу, няспрытна трымаючы яе ў непаслухмяных, агрубелых пальцах, прыкурыў ад запалкі, якую падаў яму Гунава, і спакойна сеў на крэсла. Гунава гэта не спадабалася. Ён

*) Топуры—па мінгрэльску—мёд.

паморшчыўся, заўважыўшы лёгкую ўсмешку Мучаідзе, але стрымаў сябе.

— Скажэце,—Тапурыя,—у тым-жа ветлівым тоне спытаў асобаатрадчык,—вы нікога не сустракалі ў балотах?

Яму здалося, што стары занепакоіўся, нейкая трывожная рыска з'явілася на яго зморшчаным твары і знікла. Гунава глядзеў на яго ва-ўпор, неадрыўна і востра, добра ведаючы сілу гэтага погляду. Тапурыя адчуў сябе ніякавата. Здавалася, што павуціннe аблытала твар. Ён нават абцёр шчаку далонню, як гэта рабіў звычайна, калі ў гушчары траплялася зачапіць гэтыя агідныя павуковыя цянёты.

— Ну? Вы бачылі каго-небудзь ў балотах? Гаварылі з кім-небудзь!

— Сёння раніцой, начальнік, бачыў я аднаго чалавека,—сказаў стары, прыпамінаючы.—Ён сек хвораст. Гэта далёка ля самага нашага сялення.

— Хто ён такі? Прозвішча як?

— Макар Чантурыя, начальнік. Ён з нашага сялення.

— А як вашае сяленне зваць?

— Сагвасаліо...

— Там жыве Арцём Коркія?

Зноў з'явілася і знікла неспакойная рыска на абыякавым і засмучаным твары старога. Гэта было адценне схаванай, трывожнай думкі, і Гунава гэта заўважыў.

— Там ёсць такі селянін, начальнік...

— А дзе ягоны сын, Вісарыён?

— Не ведаю... Ён, здаецца, у войску.

— Ага!—заспакоена сказаў Гунава.—Я так і думаў. Бачыце, напісалі заяву,—звярнуўся ён да Мучаідзе,—што Бесо Коркія хаваецца ў дэзертырах і хоча перабегчы да большэвікоў. Аказваецца, гэта няпраўда. Ужо трэці чалавек мне кажа, што Вісарыён служыць у нашым войску...

І зноў заўважыў Гунава цень неспакою на смуглым твары старога.

— Ну, пра гэта пакінем...—сказаў ён.—Глядзіце на мяне Тапурыя... Там пажар і вы пакуль што ні ў чым не дапаможаце. Глядзіце мне проста ў вочы. Значыцца, вы нікога акрамя Макара Чантурыя, у балотах не сустрэлі?

— Нікога, начальнік...—спакойна адказаў Тапурыя.

— Брэшаш!—раптам крыкнуў Гунава ўстаючы.—Ты маніш, стары сабака! Хочаш, я табе зараз пакажу таго, хто цябе сюды паслаў? А? Глядзі мне ў вочы! Устаць!

Тапурыя ўстаў таксама. І колькі ні ўглядаўся асобаатрадчык, нічога з гэтага не выйшла. Тапурыя ведаў, што Тарыел нават пры самай хуткай хадзе мог быць тут не раней, як яшчэ праз гадзіну. Таму ён спакойна глядзеў на асобаатрадчыка і спакойна паўтарыў:

— Мяне ніхто не паслаў, начальнік. Я прыбег сюды, як толькі ўбачыў пажар.

Гунава глядзеў на яго ва-ўпор.

— Ты хітруеш...—сказалі вочы Гунава.—Цябе прыслалі сюды...

— Я нікога не бачыў і нічога не ведаю,—цвёрда адказаў погляд Тапурыя.

У гэты момант наляцеў моцны парыў ветра. Горкі дым запоўніў двор, на пажары загрымела полымя і зноў працяглы крык многіх людзей разлёгся над сяленнем.

— Змяніўся вецер!—заенчыў стараста.—Ай-ва-ва!

— Вахмістр!—крыкнуў Гунава.—Што там такое?

— Абваліўся дах, пане капітан,—адказалі ад варот.—І яшчэ адна хата загарэлася поблізу...

— Ну, добра!—сказаў Гунава да Тапурыя.—Сядай... можа быць ты і не бачыў нікога. Мяне толькі дзівіць, што ты гэтак далёка па рыбу ходзіш...

— Я заўсёды хаджу далёка. Поблізу рыбу вылаўліваюць...Людзям трэба есці, начальнік.

— Дык што, апрача рыбы есці няма чаго?

— Бывае і так, начальнік... Да новага хлеба, іншым разам, год выдасца даўгі...

— Іш, якія галодныя!—Гунава крыва ўсміхнуўся.—Ну, ідзі, Тапурыя. Але памятай, калі ты мне зманіў, я цябе пад зямлёй знайду!—Гунава пастукаў па стале сухімі косткамі пальцаў.—Ты ад мяне ў гэтым паганым балоце не схаваешся! Ідзі, і памятай гэта!

Тапурыя ўстаў, пакланіўся і, не спяшаючыся, пайшоў да варот. Гунава сядзеў за сталом і, кусаючы мундштук, думаў аб нечым. Падобна было, што ён зноў пакліча Тапурыя. Але стары вышаў на вуліцу і Гунава ўстаў і пачаў хадзіць па двары.

— І ўсё?—падумаў Мучаідзе, праводзячы Гунава поглядам.— І ўсё скончылася? І ты не ўбачыў, што ў яго на поясе ладунка шроту і рог з порахам?.. Дурань! Замест бяздарнага акторства і курэчага гіпнозу, ты павінен быў пытаць, чаму ён схаваў стрэльбу і маніць, што лавіў рыбу! Вось тады, баранняя твая галава, ты дазнаўся-б, навошта ён прышоў сюды? Цяпер ты іх не зловіш! Цяжка спадзявацца, што яны самі прыдуць сюды, мой дарагі Гунава!..

Ён быў пераконаны, што асобаатрадчык, выпусціўшы Тапурыя, страціў адзіную і апошнюю магчымасць злавіць бунтароў. Але сказаў-бы ён пра гэта Гунава хіба толькі пад страхам смерці, бо нічога ён так не жадаў цяпер, як поўнага правалу асобаатрадчыка.

— Прыехаўшы з пустымі рукамі, надта не напішаш рапартаў, мой дарагі...—злорадасна думаў Мучаідзе.—Будзьце ўпэўнены, пане Гунава, ёсць пісьменныя людзі і акрамя вас...

Пануры, ссутулены Гунава кружыў па двары. Стараста, хаваючыся ў куце двара, ля паркану, глядзеў на вуліцу. Двое салдат курылі, стоячы ля варот, і пра нешта шапталіся.

— Прывесці таго... з пограба!..—загадаў Гунава.

Салдаты пабеглі ў сад.

— Я думаю,—сказаў Мучаідзе,—што гэты ўсё-ткі ведае, дзе яны хаваюцца.

— Хто „гэты“?

— Ну, той, што ў пограбе.

Гунава моўчкі завярнуўся і зноў пачаў хадзіць, пасцёбваючы хлыстом па халявах. Запыленае срэбра ягонай шаблі цмяна паблісквала. Крок быў цвёрдым і пругкім. Гунава яшчэ трымаў сябе ў звычайным тоне.

— Памалу сціхае агонь,—азваўся ад паркану стараста.—А то гарэла, як у пекле, я ўжо думаў...

— Сціхні!—сказаў Гунава.—Досыць тваіх лямантаў!..

З-за вугла выбег салдат і спыніўся, як урыты. Другі бег следам і наскочыў на яго.

— Пане капітан!—прашаптаў салдат, падносячы дрыжачую руку да казырка.—А-арыштаваны збег...

— Што?—бабскім голасам крыкнуў Гунава.—Як збег? Куды збег?

— Выкапаў яму пад сцяной, пане капітан... У пограбе аказалася лапата.

— І лом...—дадаў другі салдат.—Там поўна ўсякага інструманту.

Гунава з усяе сілы ўдарыў сябе хлыстом па назе, збялеў ад болю і заскрыпеў зубамі.

— Праўда, там інструмант,—пацвердзіў стараста.—Парабкі яго заўсёды ў пограб хаваюць...

— Ва-а-хмістр!—працягла закрычаў Гунава, тупаючы нагамі.—Вахмістр, сюды! Вы мяне зарэзалі, сабакі!..Ва-а-ахмістр!

Ад варот спатыкаючыся бег цыбаты салдат.

— Ва-а-хмістр!—гарлаў Гунава.—Падаць мне арыштаванага сюды! Чуеш? Чаго стаіш? Каб ён праз хвіліну быў тут, перада мной! Марш!

Вахмістр больш не распытваў, завярнуўся і рынуў да варот. Салдаты пабеглі за ім. Стараста прашмыгнуў праз сцяну і знік у садзе. Яго занепакоіла псота ў пограбе. Гунава павольна падышоў да Мучаідзе. Ягоны смуглы твар быў шэрым ад бледнасці, пасінелыя вусны дрыжэлі.

— Чаму вы смяецеся?—спытаў ён шэптам.—Чаму вам смешна?

— Н-нервы...—згінаючыся адказаў Мучаідзе і ацёр слёзы хусткай.—П-прыпадак! У мяне, пане Гунава, ха-ха-ха!.. сэрца... Няўроз сэрца!..

Гунава хвіліну дзіка глядзеў на яго, потым крутнуўся і выбег з двара, моцна грымнуўшы форткай.

* * *

Калі Тапурыя вышаў на вуліцу, ён прыбавіў кроку. Наперадзе бушавала полымя, ускідаючы ўгору дым, у агні хісталіся цёмныя сілуэты таполяў. Па вуліцы бегла напалоханая жывёла, людзі вынасілі на дарогу і на агароды свой скарб. Над сяленнем стаяў рознагалосы лямант, вецер дыхаў гарачынёй і агідным смуродам пажару. Тапурыя не пазнаваў здаўна знаёмай, ціхай вуліцы.

Усё больш гусцеў дым, усё больш рабілася горача. Міма беглі мужчыны, цягнучы на возе бочку з вадой. Тапурыя схапіўся за дышла, каб дапамагчы ім, але хутка пачаў задыхацца, адстаў

і сышоў з дарогі. Поблізу дыміліся рэшткі нечыяй сядзібы. Апаленыя чорныя дрэвы прасціралі голае галлё. Пажоўклае скарэжанае лісце асыпалася ў гарачы попел. З-пад карэнняў дрэў поўз едкі дым. Абкураныя, мёртвыя калоды вулляў стаялі, як магільныя помнікі, у спаленым садзе. Абгарэлыя платы ляжалі на зямлі. Вось усё, што асталося ад сядзібы Тарыела Кверквелія. А далей усё яшчэ лютаваў пажар, апаляючы сваім смяротным дыханнем квітнеючыя сады.

Як скамянелы стаяў Тапурыя над пажарышчам. Пасля першых хвілін спалоху і трывогі, калі ідучы балотамі, ён убачыў агонь над стрэхамі Сабокучаво, пасля допыту ў Гунава, калі Тапурыя вельмі выразна адчуваў вялікую небяспеку, здолеў стрымаць сябе і застаўся спакойным, пасля ўсяго гэтага ягоную ўражлівую душу ахапіла нейкая здрантвелая абыякавасць. Ён мог-бы стаяць тут доўга, ні аб чым не думаючы, нічым не здзіўляючыся.

— Тапурыя!—клікаў недзе жаночы голас.—Тапурыя!—Хадзеце сюды!..О, родны мой! Ён не чуе... Хадзеце сюды!..

Воддалі ад пажарышча на агародзе стаялі гуртком жанчыны і дзеці. Адна з іх клікала Тапурыя. Стары ледзьве пазнаў Бучу, жонку Тарыела, адну з прыгажэйшых жанчын Сабокучаво. У апаленай вопратцы, з распушчанымі валасамі, Бучу ішла да яго, прасціраючы рукі, і слёзы цяклі па яе змарнелым, як-бы пастарэўшым і незнаёмым твары. Яе вялікія жывыя вочы былі напоўнены хворым бляскам болю і адчаю.

— Хадзеце, сюды, Тапурыя!.. Яго трэба перанесці... жанчыны баяцца!..

Стары зразумеў: здарылася нешта вельмі страшнае. Ён, спяшаючыся, перабраўся праз галоўні і пайшоў ёй насустрач.

— Што ты кажаш, Бучу!—устрывожаны пытаў ён.—Каго трэба несці...

— Гуджу...—застагнала жанчына.—Наш добры Гуджу...

І сцежкай, што ішла з агародаў, яна прывяла Тапурыя на былы свой двор. І тут ён убачыў між грудамі руін, на гарачым бруку тое, што засталося ад Гуджу Кверквелія. Жуд праняў Тапурыя, ён адступіў і здалося, што зямля парушылася пад нагамі. На момант усё знікла нібы ў тумане і потым з'явілася зноў, незвычайнае і страшнае. Тапурыя зняў капялюш і схіліў галаву.

Бучу стаяла воддалі, баючыся падыйсці. Жанчыны на агародзе плакалі ўголас. Вецар узняў попел, едкі дым і чад узняліся з руін, слуп агню высока ўдарыў угору, там, на пажары. Бразгаючы дужкай, вядро пакацілася да ног Тапурыя і ён уздрыгнуў. Тут страшным быў кожны гук, кожны шолах.

— Начальнік падпаліў хату...—гаварыла шэптам Бучу.—Дзядуля хацеў... загасіць...

І яна закрыла твар далонямі.

Тады здарылася дзіўнае. Вялікая змена адбылася ў гэтую сумную і цяжкую хвіліну. Тапурыя глядзеў на схіленую постаць Бучу, на жудасныя астанкі таго, хто быў чалавекам і сябрам, на бяздомных дзяцей і жанчын, ён бачыў вялікае гора навокал сябе і замест роспачы і пакутнага страху, высокі гнеў, халодная няна-

вісць і нязмеранае хваляванне, ніколі дагэтуль нязнаныя пачуцці, абнаўляючы кроў, нараджаліся ў глыбіні яго істоты. Як-бы не Тапурыя, стары і слабы чалавек стаяў цяпер тут, сярод попелу руін, а малады і дужы сын народу прышоў сюды, на месца смерці і разбурэння, каб помсціць.

— Гуджу!—гучна сказаў Тапурыя, узнімаючы руку.—Прысягаю табе! Чалавек, ад якога прыняў ты пякельную смерць, крывёй сваёй і жыццём заплоціць за гэта... Ягоную печань будуць жэрці сабакі, жабы будуць сядзець на ягоных касцях! Гуджу! Я, твой друг, Іота Тапурыя, прысягаю табе... Спі... Гуджу!..

Тапурыя нізка пакланіўся, дастаючы рукой зямлі.

— Я пайду, жанчына!—сурова сказаў ён.—Табе людзі дапамогуць, калі ўціхне пажар.

І ён пайшоў праз абгарэлы сад і хутка знік у гушчары кукурузы.

Сонца схілялася да захаду, зануражочыся ў дымах, што ахіналі балоты. Пажар загасаў. Нядаўна Гунава зняў заслоны на дарогах, і сотні людзей, якія прыехалі і прышлі з суседніх сяленняў запоўнілі Сабокучаво. Атрад Гунава ў поуным зборы стаяў на вуліцы. На двары стараста, Гвазава і парабкі ўвязвалі вяроўкамі пастаўленую на арбу труну з целам падатковага інспектара. Мучаідзе прахаджваўся перад ганкам, дзе сядзеў хмуры Гунава са сваім маўклівым ад'ютантам.

— Прыемнае падарожжа,—думаў Мучаідзе, пазіраючы на двор.— Цьфу, чорт!

Ён угаварваў Гунава пераначаваць у сяленні і выехаць раніцой. Але асобаатрадчык упэўніўся, нарэшце, што тыя чатырнаццаць не прыдуць у сяленне, хаця-б яно згарэла дашчэнту. Раздражнены і збянтэжаны пабегам Бокучава і раптоўным зніканнем Тапурыя, якога хацеў нанова дапытаць, ён зняў заставы з дарог і загадаў выступіць праз поўгадзіны.

— Вось цяпер ты будзеш больш прыстойным...—з ядавітай усмешачкай пазіраючы на панурага асобаатрадчыка, думаў Мучаідзе.— Сёння ты нарабіў столькі, колькі чатырыста ўзбунтаваных катаржнікаў зрабіць не здолеюць, не тое, што чатырнаццаць мужыкоў і ўсё дарма, пустая твая галава!

Мучаідзе адчуваў-бы сябе зусім добра, каб не трэба было ехаць уначы праз балоты. Але тут ён ніякай рады даць не мог. Атрад быў у распараджэнні Гунава і фаэтон ужо стаяў перад ганкам. Стараста скончыў сваю работу на двары, флегматычныя буйвалы вывалаклі на вуліцу арбу і спыніліся за фаэтонам. Парабак сядзеў на возе, раз-па-разу абыякава сплёўваючы на зямлю.

— Ты!—крыкнуў Гунава, сыходзячы з ганку.—Я табе пачухаюся, сабачая косць! Ты што? Мех бобу вязеш? Злязай, свіння. Вахмістр! Трох кавалерыстаў ля канвою цела! Прыбыць у Поці з усходам сонца!

Парабак перакінуў ногі праз біла і, неспяшаючыся, злез з воза. Гунава ўскочыў у фаэтон, Мучаідзе і ад'ютант следам за ім. Пачулася каманда і атрад рушыў. Стараста і Гвазава кланяліся ўслед. Зноў трывога агарнула старасту. Яго не супакойвала тое, што

ён вешаўся на сядле Гунава, прасіў пашкадаваць сяленне і што ўсе гэта бачылі. Ён быў-бы больш спакойны, каб Гунава са сваім атрадам назаўсёды застаўся-б тут. Але атрад аддаляўся і хутка знік наперадзе, у дымным змроку пажарышча. Стараста ўздзеў свой капялюш.

— Пойдзем, брат мой Гвазава,—сказаў ён.—Дапаможам людзям у бядзе...—Гэта-ж такое няшчасце!

Мала хто працаваў на пажарышчы з такім запалам, як стараста са сваім прыяцелем. Яны цягалі па вуліцы загаслыя галоўні, без патрэбы лезлі ў агонь, цяпер ужо не страшны, і ніхто не крычаў і не камандаваў так гучна, як Спірыдон Ганарджыя.

Атрад Гунава быў ужо далёка ў балотах, а следам за ім, адстаючы ўсё больш, грукала арба. Босы парабак павольна ішоў грэбляй, сонныя салдаты ківаліся ў сёдлах. Наперадзе не чуваць ужо было тупату коняй. Цямнела, вецер сціх і з зарасляў на грэблю напаўзаў туман. Птушкі, абуджаныя грукатам, сонна перасвістваліся ў гушчары. Недзе далёка на ўзгор'і працягла вылі шакалы. Іх распачлівая песня то сціхала, то ўзнімалася і плыла ў вячэрняй цішы, абуджаючы гулкае рэха ў прасторах балот. Пішчэлі камары, аганькі светлякоў мітусіліся над грэбляй, рэхталі жабы. Праз нейкі час неба над балотамі праяснела. З надгорных туманаў выходзіў бледны месяц.

— Зараз канчаецца балота,—сказаў адзін з салдат.—Там у лясах будзе весялей!—Гэй! Паганяй буйвалаў, бічо!

Гучны адзінокі стрэл пачуўся воддалі, рэха пранесла яго далёка і ён паўтарыўся недзе ў гулкай цясніне гор. Недзе далёка закрычалі людзі, іх галасы слаба дайшлі сюды на змрочную балотную дарогу. Салдаты стрымалі коней.

— Страляюць...—прашаптаў першы салдат, зрываючы з пляча вінтоўку.—Во! Во яшчэ...—Чуеце?

І сам не ведаючы навошта, ён ускінуў вінтоўку ўгору. Бліснуў агонь і гулкі ўдар пракаціўся над грэбляй. Парабак закрычаў на буйвалаў і ягоны спалоханы голас, як-бы падштурхнуў салдатаў. Спяшаючыся, адзін перад другім, яны расстралялі кожны па абойме. Калі сціхлі стрэлы, чуваць быў толькі грукат арбы наперадзе. Спуджаныя буйвалы пабеглі і парабак крычаў на іх, угаварваў і ўпрошваў. Салдаты прышпорылі коняй і хутка здагналі арбу. Парабак плакаў, што моцна збіў нагу і прасіў дазволу сесці на воз.

Салдаты доўга стаялі на грэблі, раіліся, што рабіць. Ніхто не адважваўся адзін паехаць наперад, каб дазнацца, чаму стралялі. Калі-ж вырашылі ехаць удваіх, то трэці адмовіўся астацца пры возе. Нарэшце, рушылі тым-жа строем, толькі ехалі цяпер больш асцярожна, увесь час трымаючы вінтоўкі напагатове. Сціхла трывожнае адгалоссе стрэлаў і зноў рэха насіла над балотамі распачлівую песню шакалаў.

Рэхталі жабы, звінелі камары... Бледны месяц плыў над змрочнай нізінай.

(Працяг у наступным нумары).

---

*Канстанцін Лордкіпанідзе.*

# КОНЬ

(Апавяданне)

У той год Міхась Рухло атрымаў баявое хрышчэнне. У самы разгар акопнай перастрэлкі ён падняў левую руку над галавой; які-небудзь адарваны палец назаўсёды вызваляў яго ад гэтага пекла. Міхась спяшаўся дамоў. Там, у вёсцы, пакінуў ён недабудаваную хату і маладую жонку.

Але куля шкадавала азлобленага салдата.

У цягучым суме і нядобрай будзёншчыне прайшло лета.

Яго ранілі ў пачатку верасня пры пераправе праз Стаход. Мякаць ікры прабіў асколак шрапнеля. Рана была зусім лёгкаю. Яна не вызваляла ад вайсковай службы, але салдат і гэтым быў задаволены: хадзілі ўпартыя чуткі, што вайне хутка канец.

Яго накіравалі ў тыл. Прыбывалі санітарныя абозы, і ён першы кульгаў па лазарэтнаму двару насустрач раненым. Знаходзіў земляка, частаваў яго і тутуньцом, і захованым кавалкам цукру, а здаралася і кіпятку дастаць не палянуецца. Мала-па-малу наблізіўшы навічка да сябе, Рухло настойліва выпытваў навіны.

Чуткі пацвярджаліся і Рухло амаль ужо верыў, што мір застане яго яшчэ ў лазарэце.

І тут не пашанцавала. Сёння ў лазарэце была праверка. Па загаду Керанскага, усіх тых, што папраўляліся, варочалі назад у палкі, і Рухло раптам узялі на выпіску. Ён аж змяніўся з твару.

Палкавы ўрач супакоіў салдата. „Гэта дробязь,—сказаў ён,—пры такой пазіцыйнай вайне нага не многа значыць“.

Потым прышла непагода. Над лесам пайшлі камлатыя хмары. Яны ішлі нізка, чапляючыся за насцярожаныя верхавіны, і, трава, нібы прыдушаная злавесным нашэсцем воблакаў прыпадала да зямлі, і вецер мацнеў, але тварылася штосьці дзіўнае: усё навокал замірала, рабілася ціхім і безгучным, і толькі зямля ўзнімала моцны пах апаўшых лістоў.

І адразу лінуў дождж. Першыя цяжкія, бадзёрыя кроплі, як кулі, падымалі пыл на двары, камячылі і тапілі на возеры лісты куўшынак. Мокры вецер злосна распахваў паламаныя вокны і з падваконнікаў ляцелі недапітыя шклянкі.

Рухло цяжка дыхаў. Ліхаманкава гарэлі яго вочы. Даўно небрыты хударлявы твар стаў яшчэ танчэйшым.

— Назаўтра зямля высахне. Нашыя араць паедуць,—глуха сказаў, збіраючы ў кулак рудую бараду.

— Адкуль зямляк,—запытаў у Міхася рослы украінец. Ён засядзеўся на вакне, яго правая калашына была пустая, нібы дажджавая труба. Звалі яго Дабрэнка.

— Тутэйшы, з Прудка,—адразу адгукнууся Рухло.

Гэты магутны лівень, які нёс пах іх асірацелых палёў, выклікаў настрой у абодвых пагаварыць на шчырасць.

— Араць, як відаць, я ўжо не змагу. Але баранаваць, дык змагу,—ціха сказаў Дабрэнка і, трохі памаўчаўшы, усхвалявана дадаў:—люблю баранаваць.

Міхась чулліва паглядзеў на таварыша. Вочы Дабрэнка блішчэлі ад слёз, якія наплывалі знутры. І Рухло здагадаўся.—Дабрэнка ніколі не думаў, што любіць баранаваць, і толькі цяпер гэта прышло яму ў галаву.

Сказаў ласкава:

— І баранаваць—праца, браток.

Доўга яны гаварылі. Вецер жменямі кідаў жоўтыя лісты. Калі змрокі вышлі з лесу, салдаты прыціхлі. Ужо не трэба было растраўляць сум: у змроках ён рабіўся яшчэ больш пякучым і нестрымным.

Неспакойная ноч выдалася Рухло. Завываў вецер, урываючыся ў шчыліны палаты сырым пахам густога лесу. Скрыпелі старыя хваёвыя сцены, на страсе стукаў і скрыгатаў адагнуты край бляхі. І поўная ўсім гэтым ноч напамінала Міхасю вёску, яго сум стаў знікаць. У гэтую ноч Міхась парашыў уцякаць.

У лазарэце была хворая кляча па клічцы „Санітар". У калёсы запрагаць яе нельга было, яе кастлявы круп тырчаў, як сядзельная аснова. Забытаму „Санітару" не давалі ні сечкі, ні стойла. На нач яго часта не замыкалі. Звесці каня было проста.

Затое вакол і ўсюды шнырылі палявыя атрады. Гэта былі людзі з галавою і ім не цяжка было дастаўляць дэзертыра кудынебудзь у галодны і няўтульны штаб, дзе зубы зломіш на макусе. Атрадчыкі ціснуліся бліжэй да вёсак на прывабны пах паранага малака і цёплых караваяў, і каб не траціць такога сытнага суседства, дызертыраў прыстрэльвалі на месцы.

І вось Міхась бязлітасна сцябаў „Санітара" каб да світання праскочыць гэтыя нядобрыя мясціны, дабрацца да цар-дуба", дзе ён у свой час гнаў смалу і абхадзіў усе сцежкі.

Мокры бальшак быў заліты халодным светам сырога асенняга месяца. Разарваныя воблакі ляніва цягнуліся назад да лазарэта. Міхасю яны здаваліся то галовамі нябачаных звяроў, то барадатымі дзядамі, то раптам—згарэўшымі вёскамі.

Першы час „Санітар" бадзёра цокаў па шчэбню.

Булькаў яго адвіслы жывот. Потым ён пачаў сапці часцей, і вёрст праз пяць, калі здалёк закрычалі першыя пеўні, конь пачаў прыставаць і варта было конніку аслабіць повад, „Санітар" ужо заварочваў назад. Міхась злосна стукаў яму абцасамі ў бок. І, нібы разбіты на ўсе ногі, „Санітар" бяссільна прыпадаў на хаду.

Набегла сырая свежасць: набліжалася світанне.

Баючыся, каб раніца не захапіла яго на бальшаку, Міхась парашыў звярнуць у бок прабіцца да „цар-дуба“ лесам.

„Санітар“ спалохана паглядаў на чорную аграмаду лесу, на ўсю сваю сілу ўпёршыся на месцы пярэднімі нагамі. Міхась спяшаўся і цягнуў каня ў лясны гушчар, як дзеці цягнуць на вяроўцы ўпартага сабаку.

У густалістым лесе было цёмна, як у вялікім збане, толькі часам у прасветах вершалінь праслізгваў млечны шлях, паказваючы конніку дарогу. Лясная маўклівасць часам парушалася цяжкім храпам каня, і чутно было, як падалі кроплі з абсыхаўшых лістоў.

Пакуль уцякач блытаўся, лес непрыкметна парадзеў. Міхась выехаў на ўскрай лесу. І тут гэтулькі свету і цяпла пайшло яму насустрач, што Міхась здагадаўся,—даўно ўжо віднела. Вакол чарнела тарфяная пустэча, зарослая дзе-ні-дзе нізкім кустарнікам. У воддалі клубіўся лёгкі туман—вяшчун пагоды. Конь стаў вязнуць у дрыгве і на кожным кроку сударгава і доўга дрыгаў нагою, нібы вырываючыся з капкана. Так рухаліся яны, покуль конь не ўпаў на пярэднія ногі. І ён замёр перад злавесным бездарожжам.

Як не спяшаўся Міхась, „Санітару“ трэба было адпачыць. І Міхась парашыў трохі прайсці пешкам.

Густы смярдлівы пах ішоў ад клячы. Цяпер толькі заўважыў Міхась, што яна засекла ногі. Пярэднія бабкі былі акрываўлены. Міхась тужэй прыкруціў абмоткі і, глыбока кульгаючы, павёў каня за повад. Не вёў, а нібы лямку цягнуў, праз сілу цвярдзей ступаючы хворай нагой. Рухло стагнаў на кожным кроку, і на твары яго ўсё выразней выступалі маршчыны.

Нізіліся тарфяныя кусты. І толькі адзінокі, маланкай разбіты, абуглены клен тырчаў праз туман. Такой-жа маланкай разбітае дрэва было ў Рухло на двары, вельмі падобнае на млыновы жолаб. І зелянець забылася і голле абламалася. Але Міхась пашкадаваў яго, не ссек таму, што на клёне бусел звіў сабе гняздо, і радаваўся тады малады Рухло, што такая вялікая птушка гняздзілася ў яго.

Міхась, пагражаючы, узлез на каня, і толькі ўзняў хварасціну, як з парадзеўшага туману выплыў „цар-дуб“, векавы волат, агарожаны цяжкімі ланцугамі.

Небяспека не пагражала ўжо Рухло.

— Дык ты цяпер мой „Санітар“—горача шапнуў ён каню, які чакаў удара, упершыню за ноч назваўшы яго па імені.

Кінуўшы хварасціну, ён злез з каня і так клапатліва аглядаў яго, нібы на ворыва збіраўся. Дастаў з ранца старую рубашку, падраў папалам і туга перавязаў яму бабкі. Расцугляўшы яго ён адпусціў папругу і тут-жа парашыў, як вернецца ў вёску, перамяніць каню клічку.

Да вёскі была яшчэ далёка. А твар салдата корчыўся ад пякучай раны, але ён не садзіўся на знясіленага ўжо свайго каня. Часамі ён спыняў „Санітара“, пахлопваў яго па баку і ласкавай рабілася тады гаспадарская рука. І потым яны зноў цягнуліся, абодвы кульгавыя, абодвы патрэбныя неўзораным палям дзеда Рухло



Няўтульна сустрэла Міхася вёска. Хаты нібы пачарнелі і струхлелі. Непрыветліва глядзела даўно непафарбаваная ашылёўка вакон. Старая фарба патрэскалася, нібы перхаццю пакрываючы рэзьбу. І дарожкі каля варот не радавалі вачэй рознакаляровымі каменьчыкамі. І на гумнах не стаялі магутныя стагі.

І толькі скошаныя лугі распасцерліся, як і раней ціха і спакойна пад цёплым паўдзённым сонцам. І таксама гудзела карчма п'янаю стомленаю песняй вазакоў.

Міхась звярнуў да возера, завялыя куўшынкі панiклі да самай вады. На прычале, каля берагавой порасці было некалькі лодак. Міхась адразу пазнаў сваю пласкадонку. Яна амаль затанула, па бартах паўзлі водарасці, уключыны абломаны, відаць, даўно не была ў рабоце.

„Зноў усё пачынаць нанава давядзецца“,—падумаў Міхась, і ад таго, што дома чакала гэтулькі работы, стаў больш бадзёрым.

Міхась любіў работу. Калі свята альбо непагода звязвалі яму рукі, ён як разгублены, хадзіў па двару. У такія дні яму здавалася, што дошкі на плоце коса прыбіты, альбо вароты пакрывіліся.

Ен без работы, нібы ручай без русла. Цяпер яго незвычайна хвалявала, што дома ўсё патрабуе яго рук. І пачуццё гэта рабіла яго моцным. Яму нецярпелася парадаваць бацьку канём. Увесь ён быў апанаваны гэтай чужой радасцю.

І толькі адно, і то ненадоўга расхвалявала его. Гэта было ўжо за гумнамі, Насустрач яму паказалася грудастая салдатка Алена (яе мужа Міхась пакінуў у лазарэце) і рыбак Піскун першы скрыпач і весяльчак на вёсцы.

А ці не гуляла мая жонка ў гэтыя гады адлучкі?—гэта падазрэнне не на жарт закранула Міхася. Яно застала яго знянацку. Міхась раптам спыніўся, нібы згубіў дарогу. І яго міжвольна пацягнула ў карчму, паслухаць: што кажа народ, якія чуткі ходзяць. Ен павярнуў назад, накінуў павады на кол, як раптам конь заіржаў, пачуўшы нарэшце блізкі адпачынак і спакой. Міхась ласкава глянуў на яго. „Санітар“ стаяў спакойна, да таго знясілены, што нават не чапаў травы, якая густа лезла з канавы. Худая, даўгая шыя панікла ў здрантвенні, як калодзежны журавель. І ўвесь ён так схудаў, што рэбры за вярсту пералічыш, але яго бадзёрае іржанне невымоўна абрадавала Міхася. Яно адразу нагадала яму, што блізка даўно пакінуты родны кут. У такой блізасці яму цяжка было затрымацца на раўнівым падазрэнні. Невыразна шавяльнуўшыся ў грудзях, яно адразу патанула ў яго бязмежным шчасці.

Атросшы пыл, Міхась выцер травою чаравікі і асвяжыўшы запылены твар вазёрнай вадою, завярнуў на сваю вуліцу.

Яшчэ здалёку заўважыў бацьку. Стары корпаўся на страсе, недабудаванай часткі хаты. Пастукваў малаток. Сэрца застукала мацней і Міхась замарудзіў крок. Ен бачыў, як стары прыладжваў кроквы. Справа ў яго не ладзілася: не хапала, ні сілы, ні спрыт-

насці. Ледзь-ледзь прыб'е ніжні канец, а верх ужо выскачыў. Стары забурчыць, заплюе на рукі і зноў за тую-ж маруду.

— Лезь сюды, прытрымай на хвілінку, замучыла праклятая,— паклікаў ён кагосьці знізу. І Міхась толькі цяпер заўважыў сваю жонку, якая прысела на прызьбе. Яна мяшала макуху. Штосьці адказаўшы, цяжка ўзнялася і паставіла вядро карове. У кожным яе руху, ва ўсіх яе зваротах можна было заўважыць страшэнную стому. Была яна ў нейкіх лахманох. На аголеных руках блішчалі вотрубі. Сумна і стомлена апусціліся куты яе рота, відаць, даўно махнула на ўсё рукой.

„Дзе ўжо такой гуляць“,—падумаў Міхась, саромячыся свайго нядаўнага падазрэння.

Ён адчыняў браму. Яго ўжо заўважылі. У скронях яго застукала.— Вось-вось жонка ўскрыкне і на злом галавы, кінецца яму насустрач. Але яна толькі здзіўлена глядзела ў яго бок. Яна не пазнала мужа і гэта дало яму палёгку. Пусціўшы каня наперад, Міхась шчыльна прычыніў за сабою вароты і сказаў проста, нібы вярнуўся з поля.

— Ну, вось і я, і конь са мною.

— Божа!—успляснула Уладдзя рукамі і адразу апусціла падол, і адкасваючы рукавы кінулася насустрач. Але недабегшы і, адразу абяссілеўшы ад радасці, асела на поўдарозе і расплакалася. Міхась падхапіў яе.

— Вярнуўся значыць?!—замітусіўся стары на страсе, але баючыся, выпусціць крокву, застаўся на месцы.—Вярнуўся такі,— ажыўлена пераказаў бацька.—А яна, дык усё плача. І зараз раве. Нічога, бабам слёз не шкода. Захапі сякеру, ды лезь сюды на хвілінку; замучыла праклятая...

Некаторы час яны маўкліва працавалі. Забіўшы апошні цвік бацька падышоў да сына, быў ён маленькі, зморшчаны, як вінная ягада, згорблены, нібы саха. Ён стараўся выпрастацца, стаць вышэйшым, каб маладцавата пахлопаць сына па плячу, але рука не даставала.

— Добра, сынок, добра,—шапялявіў стары, пахлопваючы сына па плячу.

Міхась усё яшчэ трымаў сякеру. Моцна ўзмахнуўшы рукою, ён усадзіў сякеру ў бэльку.

Ён быў дома.

---

*П. Раманішка*

# ПУШКІН У МІХАЙЛАЎСКІМ

Павольна ноч плыве,
Гадзіннік лічыць хвілі.
Том вершаў на стале
Ў бакі раскінуў крыллі.

Сяджу я перад ім,
Радкамі прабягаю,
Ў другія берагі
У марах адплываю.

З прадоння устае
Паэта дом апальны,
Ў Міхайлаўскім сяле
Асенні ранак хмарны.

Шуміць тужлівы сад,
Лятуць у вырай птушкі.
Накінуўшы халат
На ганак вышаў Пушкін.

Ўзіраецца у высь...
Пару любіў ён гэту.
І пляскаюць дубы
Далонямі паэту.

Вось садам ён ідзе,—
Рухавы, крыху хмуры.
А лістапад мяце,
Пажоўклаю віхурай.

З Міхайлаўскіх гаёў
Вандруе адзінока,
Няволяю сваёй
Пакрыўджаны глыбока.

Ўяўляюцца сябры
Масква... ліцэй... друг Пушчын...
І паўстае руднік,
Звіняць сяброў наручні.

І сэрца зноў шчыміць,
Напоенае злосцю.
А лес кругом шуміць,—
Пяе ўладарка—восень.

Спяшаецца дамоў
Ён змрочнымі палямі.
Чакае ўжо даўно
Яго к абеду няня...

Сяджу, а ноч плыве,
Гадзіннік лічыць хвілі.
Том вершаў на стале
У бакі раскінуў крыллі.

Вёска Сухавічы.

*Тодар Курбацкі*

## СЯБРОЎСТВА

Зноў ты вабіш цёплым словам,
З кіпай кніжак, з скруткамі папер,
Добры друг, хлапец вясковы,
А цяпер, данбаскі інжынер.
Выйду ў поле,
Выйду ў далячыні,
Дзе з табой мы марылі заўжды,
Як па нашай маладой краіне
Зацвітуць вясновыя сады.
Зацвітуць людзям зямныя зоры,
Ўпрогшы сілу стромкае ракі.
Праз лясы, праз дальнія прасторы
Праграмяць у даляч цягнікі.
Дзе багна, дзе нетры і разлогі,
Узрастуць для шчасця гарады.
Жыць вялікай страснасцю эпохі
Пакляліся мы з табой тады...
Выйду ў поле,
Выйду ў далячыні—
Неба даль... бяскрайнія палі...
Дзесьці там далёка на Украіне
Здабываеш вугаль ты з зямлі.
Дзесяць год, як рознымі шляхамі
Разышліся мы у свет з табой,
Праляцелі птушкамі над намі,
Пяючы аб дружбе дарагой.
Па вясне, калі бушуюць воды,
Прыязджай і сам убачыш ты,
Як па Сожу трубяць параходы,
Як ідуць па Прыпяці плыты;
Як ад Менску скрозь да Магілева
Наліваюць нівы ды сады,
Прыязджай—і ты пачуеш спевы,
Што спяваюць нашы гарады.

Хойнікі, 1938 г.

*В. Зуб.*

# НОЧ У ЛЕСЕ

Апавяданне

## I

Н абліжаўся вечар. Сонца схілялася да захаду. Свежае лясное паветра, напоенае тонкім араматам раслін, утварала бадзёрае і прыемнае адчуванне. Высокія і стройныя сосны густа перамешваліся з кудлатымі елкамі, утвараючы непраходны гушчар. Гэты вябікі лес, які рэдка наведваўся чалавекам, захаваў усю сваю велічную прыгажосць.

Але вось і тут, рассоўваючы пругкія галіны, быстрымі крокамі, са з'ехаўшай на бок памятай шапкай і потным, колеру цэглы, тварам, прабіраецца нейкі чалавек. Яго шырокія „галіфэ“, чапляючыся за суччо, махаюць, нібы крылы кажана. Выліняўшы ад сонца і доўгай носкі пінжак туга абцягвае плечы. На твары яго напісана адна думка. Асабліва ясна адлюстроўваецца яна ў яго шэрых суровых вачах, неспакойна бегаючых ва ўсе бакі.

Гэта думка—хутчэй дабрацца да сваіх. Ён праходзіць таксама шпарка яшчэ каля двух кілометраў, забіраючыся ўсё глыбей у гушчар і кіруючыся нейкімі непрыкметнымі адзнакамі. Урэшце, ён спыніўся перад надзвычайна густымі хмызнякамі і, спрытна рассунуўшы суччо, за якімі хаваўся невялікі праход, як вужака прашмыгнуў у яго. Тут быў вялікі роў, па краях густа заросшы кустамі. Яны настолькі разрасліся, што зусім хавалі дно рову.

На шум з рову ў адзін момант высунулася рука з наганам, накіраваным як раз яму ў грудзі. Але адно слова прышэльца змяніла ўвесь малюнак. Рука, толькі што гатовая забіць, па-сяброўску дапамагла спусціцца. Апрача таго, з дна рову пачуліся радасныя галасы:

— А?

— Урэшце.

— Аркаша прышоў.

Аркаша, крыва ўсміхнуўшыся, падышоў да нізенькага чалавека з надзвычайна шырокімі плячамі. Ногі яго былі нібы прышчэмлены адна да другой; гэтым толькі падкрэслівалася шырыня плячэй. Здалёку ён быў падобны на неабчэсаны клін. Гэты нізенькі чалавек уважліва выслухаў Аркадзія, у некаторых месцах яго расказа бліскаючы маленькімі хітрымі вачыма.

Калі той скончыў, важак груба адхіліў яго цяжкай, вузлаватай рукой і вышаў сам на сярэдзіну рова.

Некаторы час ён маўчаў, потым, таксама моўчкі, паглядзеў на ўсіх прысутных калючым поглядам. Усіх было чатыры чалавекі. Яны ляжалі кругом невялікага кастра і нешта смажылі. Склад іх быў вельмі рознаколерны: тут былі і маладыя хлапцы і пажылыя мужчыны. Але на ўсіх рознастайных тварах ляжала адна агульная рыса—лютасць і прагнасць помсты.

Першыя словы атамана, сказаныя скрыпучым голасам, прымусілі ўважліва прыслухацца.

Ён гаварыў:

— Сябры! Аркадзь толькі што прышоў з вёскі Л., адтуль ён прынёс добрыя весткі. Гэтыя весткі я сам зараз перадам. Вы-ж ведаеце, што мы ўсе звязаны агульнай мэтай. Калгасы адабралі ў нас усё! Так, усё—зямлю, жывёлу, дамы, а саміх нас назвалі кулакамі. Пакуль цёпла, мы будзем лавіць і забіваць усіх зачыншчыкаў, усіх арганізатараў ва ўсіх зручных месцах. Увосень, калі стане немагчымым жыць у лесе, мы разыдземся па асобных калгасах і будзем разбураць іх знутры. Вось як!

І ён фігурна калупнуў кручкаватым пальцам у паветры. Слухачы зарагаталі злосным, непрыемным смехам.

— А зараз—бліжэй да справы. Сёння ўвечары будзе ехаць актывіст, комсамолец, сакратар ячэйкі. Як бачыце, фігура даволі каштоўная. Ён паедзе па дарозе з вёскі Л. у горад. Будзе везці важныя паперы і грошы. Што трэба зрабіць—вы разумееце. Толькі на гэты раз—не забівайце, а дастаўце да месца яго жывым, мы трохі пазабаўляемся. Ну, цямнее. Ідзіце, хлопцы! Паляванне павінна быць удалым. Толькі дакладна выконвайце мае ўказанні.

## II

— Ляксей, вось якая справа,—звярнуўся Сямён Даніленка да свайго малодшага брата, заўсёды вясёлага дваццацігадовага юнака з круглым тварам.—Мне сёння ўвечары трэба ехаць у горад. Трэба адвезці вельмі важныя, тэрміновыя дакументы і грошы. Калі мы даставім у тэрмін гэтыя дакументы, то наш калгас пападзе на чырвоную дошку і атрымае пераходны сцяг. Ехаць прыдзецца ўначы і праз лес, праз той лес, у якім арудуе нязлоўленая шайка кулакоў.

Трохі счакаўшы ён дадаў:

— Праўда, уначы гэта трохі небяспечна, але іншага выйсця няма. Дакументы павінны быць дастаўлены к раніцы. Таму, калі паехаць мне аднаму і я выпадкова буду затрыман, дык усе паперы апынуцца ў руках кулакоў. Калі-ж паехаць нам разам, то ўсёроўна, сілы вельмі няроўныя, а рызыкаваць не прыходзіцца. Лепш за ўсё зрабіць так: я паеду ўперад без дакументаў, а ты выедзеш на гадзіну пазней з дакументамі. Калі мяне і затрымаюць, дык ты спакойна даедзеш. А калі не, тады я за лесам, каля дарогі буду цябе чакаць, потым паедзем разам. У выпадку небяспекі, я дам тры стрэлы, якія паслужаць перасцярогай табе. Адносна мяне, ты не клапаціся,—я за сябе пастаю!

Ляксей уважліва выслухаў брата, знайшоў яго план вельмі рызыкоўным, але ўсё-ж зрабіў маленькую змену ў тым сэнсе, каб ехаць яму першаму.

Сямён на гэта толькі засмяяўся, пастукаў брата па плячу і дадаў:

— Я і так ведаю, што ты ў нас першы храбрэц, але на гэты раз ты паедзеш другім.

Сонца заходзіла. Яго чырвонае святло, кладучыся на вокны, утварала ўражанне, што недзе пажар.

Доўгія крывыя цені адлюстроўвалі рухі Сямёна, сядлаючага каня.

Праз некалькі мінут топат конскіх ног абвясціў аб ад'ездзе Сямёна.

III

Ляксей нецярпліва паглядаў на гадзіннік. Яго агарнуў нейкі неспакой, а гадзіна цягвулася вельмі марудна.

Маці, якая толькі што вярнулася з поля, здзівілася сур'ёзнасці заўсёды вясёлага сына. Яго прабыванне дома ў час летніх і зімовых канікул ажыўляла ўсю кватэру. Астатні час Ляксей жыў у горадзе. Ён вучыўся на апошнім курсе рабфака. Маці з старэйшым сынам жылі ўдваіх і вельмі задаволены былі яго прыездам.

Сямён быў зусім не такі, як брат. Ён быў старэй на тры гады. Але выгляд у яго быў такі сур'езны, нават суровы. Сціснутыя тонкія губы, разумныя шэрыя вочы з адценнем сталі паказвалі на вялікую сілу волі і настойлівы характар.

Сямён добра памятаў дзень смерці бацькі, калі 15-гадовым хлапцом, ён стаяў каля ўзгалоўя паміраючага дарагога яму чалавека. Бацька гаварыў слабым перарывістым голасам:

— Ты, Сямён, застаешся маім намеснікам. Глядзі добра маці і Ляксея!

Вочы Сямёна напоўніліся слязмі і на некаторы час засланілі жоўты завостраны твар. Калі ён зноў мог глядзець, усё было кончана. Твар бацькі быў спакойны, а губы слаба ўсміхаліся.

З таго часу прайшло восем год. Усе гэтыя гады прайшлі спачатку за ўпартай працай па ўтрыманню сям'і, потым за ўпартай вучобай у сельскагаспадарчым тэхнікуме і ў апошні час Сямён працаваў у буйным калгасе па спецыяльнасці. Адначасна ён быў сакратаром комсамольскай ячэйкі калгаса,—актыўна дапамагаў органам совецкай улады ў барацьбе з рэшткай кулацтва, арганізоўваючы для гэтай мэты комсамольскую моладзь. І гэта некаторым не падабалася. Адзін раз, калі ён праходзіў увечары па вуліцы, з тонкім гудзеннем праляцела куля каля самага вуха. Сямён насупіў густыя чорныя бровы і пашоў у напрамку стрэла. Страляўшага знайсці не давялося. Другі раз, калі ён ішоў увечары з сходу, два чалавекі, узброеныя нажамі, кінуліся на яго, але, на шчасце, падаспелі таварышы і абодвы нападаўшыя былі затрыманы.

Усё яго кароткае, але напружанае працоўнае жыццё выкавала з яго стойкага большэвіка. І недарма Сямён карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод калгаснікаў. На сходах усе ўважліва слухалі

яго разумную прамову і аднагалосна прымалі заўсёды абдуманыя і карысныя прапановы.

Партыйная ячэйка даручала менавіта яму даставіць у горад дакументы.

Маці, заўважыўшы адсутнасць Сямёна, звычайна быўшага ў гэты час дома, спытала:

— А дзе-ж Сямён?

— Ён паехаў у горад.

— Нанач?—жахнулася матка.—А ты куды?

— Я таксама, заўтра ўвечары вернемся абодвы.

IV

Пачынала цямнець. Мошкі густой хмарай насіліся ў паветры, абвяшчаючы добрае надвор'е. Да самага леса яны гналіся за Ляксеем, то адстаючы, то пераганяючы яго.

У лесе было ціха і цёмна. Толькі выплыўшы месяц кідаў сваё жоўтае святло праз галлё высокіх дрэў. Там і сям святло зусім не пранікала,—настолькі густа сплятаcomcomліся галіны дрэў.

Падковы каня глуха адбівалі рытмічныя гукі, якія рэхам каціліся на далёкую адлегласць.

Ляксей, павольна пагойдваючыся ў сядле, глыбока задумаўся, апусціўшы галаву на грудзі.

Раптам яго думкі былі спынены нечаканым скачком у бок каня. Гэта нечаканасць прымусіла Ляксея быстра настаражыцца. Ён зірнуў на тое месца, адкуль так быстра адскочыў конь, і трывожна прыслухаўся. Мяркуючы па часе, была праехана палова лесу.

На дарозе Ляксей убачыў чорную пляму, якая так напалохала каня. Ляксей, зацікавіўшыся, скокнуў з каня і падышоў паглядзець.

Калі ён нагнуўся, то з яго грудзей вырваўся крык жаху.

Гэта пляма была—шапкай Сямёна, нервовыя дрыжыкі прабеглі па ўсяму целу Ляксея, а сэрца спынілася.

Чаму і якім чынам апынулася шапка на дарозе? Як пад ёй апынуўся вожык?

Няўжо Сямён быў захоплен? Але ў такім разе, дзе ўмоўленыя тры стрэлы і чаму іншых адзнакаў барацьбы нідзе не відаць?

Не маючы магчымасці знайсці якое-небудзь рашэнне, Ляксей рашыў чым хутчэй ехаць да ўмоўленага месца за лесам.

А калі і там няма?

О! Сціснутыя кулакі Ляксея высока падняліся над галавой.

Ён ведаў, што рабіць!

Моцна падагнаны конь паімчаўся далей. Бязупынныя ўдары не давалі яму сцішыць бег.

Сядаку здавалася, што лесу няма канца. У яго галаве нараджаліся страшэнныя малюнкі: то ён бачыў акрываўленага Сямёна з прастрэленай галавой, то вісячага на доўгай вяроўцы, то звязанага, збітага, каля ног узрадаваных нягоднікаў.

Месяц павольна плыў у небе, нібы назіраючы за едучым коннікам.

Лес пачаў радзець. З'явіліся чорныя пні ўперамежку з глад-

кімі высокімі сасонкамі, няроўныя сцежкі, пратаптаныя людзьмі і жывёлай.

Віднелася поля. Яшчэ некалькі скачкоў і лес сціснуў сваю чорную пашчу за спіной Ляксея.

Конь уздыбіўся, высока паднімаючы потныя бакі.

— Сямён, дзе ты?

Але дарэмна шукаў і клікаў Ляксей брата. Толькі рэха, скажаючы словы, гучна адгукалася на кожны вокліч. Наступаўшая цішыня пасля кожнага гука ўзмацняла трывогу.

Адшукаць! Знайсці што-б там ні было жывога ці мёртвага і жорстка адпомсціць нягоднікам. Гэта думка была вырашанай, заставалася. дзейнічаць.

Да горада пры нармальнай яздзе заставалася каля двух гадзін.

Конь, нібы адчуваючы на сабе адказнасць, не чакаў падганяючых удараў і паляцеў стралой.

V

Сямён уехаў у лес. У лесе было ўжо цёмна і позірк напружваўся, каб разгледзець акружаючыя прадметы.

Дарога была вузкая і няроўная. Карані дрэў густа перапляталі яе. Яны месцамі высока выпіралі з зямлі, згіналіся і зноў уходзілі ў глебу, нагадваючы жылістую руку з тоўстымі ад напружання венамі. Конь бадзёра бег, весела памахваючы галавой. Яго стройна стаяўшыя вушы ўлаўлівалі малейшыя гукі, якія даносіліся з ляснога гушчара.

Часамі чуўся прарэзлівы жалобны крык няшчаснай ахвяры, трапіўшай у цэпкія кіпцюры ястраба або савы.

Сямён час-ад-часу аглядаўся трывожным позіркам і прыслухоўваўся да кожнага гуку і шораху. Конь таксама беспакойна пырскаў, скоса паглядаючы на чарнеючыя кусты. У тых месцах рука мімаволі цягнулася да нагана і моцна сціскала рукаятку.

Успаміналіся чамусьці розныя страшныя гісторыі. А зараз думкі нібы мурашкі палахліва разляталіся ва ўсе бакі!

Паступова сэрца пачынала стукаць усё часцей і часцей і хвалянанне ад уласных думак узрастала.

Ён паспрабаваў накіраваць думкі па іншаму шляху, але нічога не выходзіла. Мозг працягваў працаваць у тым-жа напрамку, а вуха працягвала ўлаўліваць малейшыя гукі.

Недзе трэснула сухая галінка. Конь моцна застрыг вушамі, высока падняўшы галаву.

Рука машынальна пацягнулася да нагана. Некаторы час было ціха і Сямён, трохі супакоіўшыся, пачаў закурваць. Але толькі паспеў паднесці запалены сярнік, як пачуўся над ім нейкі шорах, а далей усё паляцела з невыказнай быстрынёй.

Нехта скочыў зверху да яго на каня, і рукі, не глядзячы на супраціўленне, апынуліся заломленымі назад.

Ён зразумеў, што злоўлен і што мала, праўдзівей няма ніякіх надзей, на ратунак.

Адчуваючы за сабой гарачае дыханне, Сямён, адвёўшы галаву ўперад, моцна ўдарыў свайго няпрошанага госця. Пачулася, як

хруснуў яго нос, пры гэтым шапка зляцела ў Сямёна і абодвы яны, страціўшы раўнавагу, скаціліся з каня.

Але і тут вораг не выпусціў рук, хаця і апынуўся ўнізу. З-за дрэў выскачыла яшчэ некалькі чалавек, абкружаючы іх. Двое падскочылі да Сямёна і моцна звязалі рукі. Усё рабілася хутка і спрытна.

У цемры Сямён бачыў сілуэт нізенькага чалавека з непрапарцыянальна шырокімі плячмі, па знаку якога яго пацягнулі ў глыбіню лесу.

Становішча рабілася крытычным. Клікаць на дапамогу было некага і дарэмна. Адна толькі маленькая надзея была ў мазгу: ці нельга уцячы па дарозе ад стаянкі бандытаў? Але погляд па баках патушыў гэту надзею. Бандыты ішлі шчыльным кругам, трымаючы напагатове наганы. Уперадзе ішло два чалавекі.

## VI

У горадзе было ціха і пустынна. Рэдка сустракаліся прахожыя, спяшаючыся на прыемны адпачынак пасля стамляючага летняга дня.

На скрыжаваннях вуліц у белых рукавіцах хадзілі міліцыянеры.

Стукат капытоў аб каменне бруку далёка разносіўся на пустых вуліцах. Гэта Ляксей набліжаўся да галоўнага кіраўніцтва міліцыі. Хутка прывязаўшы каня, ён узбег па ўсходцах, пераскокваючы праз некалькі ступенек. Дзяжурны міліцыянер, адкінуўшыся на спінку крэсла, праглядаў газету. Гук быстра набліжаючыхся крокаў прымусіў яго настаражыцца.

Праз хвіліну шырока расчыніліся дзверы, у якія не ўвайшоў, а ўбег малады чалавек. Ён быў увесь у пылу і толькі на круглым твары гарэлі два чыстых, галубых вокі.

Міліцыянер з вялікай увагай выслухаў усхваляваную прамову наведвальніка.

Запрацаваў тэлефон. Быў выклікан начальнік міліцыі. А праз поўгадзіны па вуліцах горада праімчалася група коннікаў, частым топатам конскіх капытоў парушаючы начную цішыню. Атрад вёў начальнік, а побач з ім на свежым кані ехаў Ляксей.

Яны ехалі на выручку Сямёну.

## VII

Звязаны па руках і нагах, увесь збіты Сямён быў узвален на дзве палкі, сукі якіх глыбока ўядаліся ў цела. Ад моцнага болю Сямён страціў прытомнасць.

Моўчкі рухаліся цёмныя фігуры, хаваючыся між дрэвамі. Часамі яны змянялі адзін аднаго, злосна лаючы нерухомага нявольніка. Урэшце, усе спыніліся на невялікай палянцы, абкружаныя шчыльнай сцяной лесу.

Праз некалькі хвілін святло кастра асвяціла потныя твары бандытаў.

Калі ўсе паселі, зноў падняўся нізенькі з прышчэмленымі адна да адной нагамі і сваім скрыпучым голасам загаварыў.

— Сябры, як бачыце, наш план удаўся і ахвяра папала ў растаўленыя намі сеці. Мы, так сказаць, сталі пераможцамі. А зараз нам засталося дапытаць і прыдумаць спосаб накіравання яго на той свет. Але гэты спосаб павінен быць, так сказаць, асаблівым, каб ён даў нам усім добрае відовішча. Таму ўсім даю права добра прадумаць і даць сваю прапанову. Допытам займуся я сам.

Адну прапанову ўнёс Аркадзь, той самы, што хадзіў на разведку ў вёску. Ен прапанаваў зрабіць „калыску“.

Было пастаноўлена зараз-жа прыступіць да справы.

Былі сагнуты два маладых дрэўцы, якія стаялі на адлегласці трох метраў адно ад другога, а два бандыты пайшлі па Сямёна. На дрэвах думалі павесіць Сямёна.

Калі бандыты падышлі да месца, дзе ляжаў нявольнік, то адначасова усе крыкнулі ад здзіўлення. Яго там не было.

— Знайсці!—зароў дзікім голасам нізенькі важак. І ўсе кінуліся на пошукі.

## VIII

Сямён ачнуўся як раз у той момант, калі яму падбіралі „вясёлае“ катаванне. Сэрца ў яго моцна застукала, калі ён пачуў выказваемыя думкі. Ён паспрабаваў вызваліць рукі або ногі,—але— дарэмна, вяроўка была вельмі моцнай. Тады, упіраючыся адным локцем у зямлю, потым другім, Сямён адсоўваўся ўсё далей і далей. Хутчэй-бы закаціцца куды-небудзь пад кусты ды перарваць вяроўкі, а там ўжо можна будзе ўцячы! Схаваўшыся за тоўстым дрэвам, Сямён адчуў, як аслаблі вяроўкі, ён напружыў усе сілы, і яму, урэшце, удалося вызваліць рукі; засталося толькі вызваліць ногі.

Але ў гэты момант ён убачыў бандытаў, якія беглі з галавешкамі ў руках. Адзін з іх накіраваўся проста да дрэва, за якім ляжаў Сямён.

Рукі ліхаманкава развязвалі вяроўкі, у галаве мільгацела думка. „Паспею ці не?“

А святло ад галавешкі ўсё набліжалася. Вось яно слізганула па дрэву і асвятліла яшчэ нераспутаныя ногі.

— Сюды, сюды!—закрычаў бандыт, б‘ючы Сямёна па твары. У момант збегліся ўсе з раз‘юшанымі тварамі, не шкадуючы пагроз і лаянкі.

Два бандыты падцягнулі нявольніка да важака. На заданыя пытанні адказаў не было. Не дапамаглі і цяжкія кулакі. Бачучы, што ад нявольніка нічога не даб‘ешся, важак махнуў сваёй вузлаватай, даўгой рукой і гэта паслужыла сігналам да пачатку расправы.

Да сагнутага маладога дрэўца пачалі дасціпна прывязваць нагу нявольніка.

Гэту адказную аперацыю рабіў Аркадзь. Ён, не спяшаючыся, накладваў шчыльныя кругі вяроўкі, час-ад-часу спыняючыся і нібы любуючыся сваёй работай.

Вось ужо сагнута другое дрэўца. Ужо кроў прылівае да галавы. Бандыты, акружыўшы Аркадзія і нявольніка, з нецярплівасцю ча-

калі той хвіліны, калі яны ўбачаць высока ўзлятаючага на паветра Сямёна і пачуюць яго прадсмяротны крык.

Але ім так і не давялося ўбачыць на „калысцы“ нявольніка і пачуць яго апошні стогн.

У гэты момант адначасна з усіх бакоў затрашчэлі галінкі і грознае „рукі ўгору“ прымусіла перапалоханых зладзеяў здацца. Толькі нізенькі важак, як тыгра, скокнуў у кусты, спадзяючыся ўцячы. Але меткая куля дагнала яго і ён, злосна лаючыся, паваліўся.

У адзін момант Ляксей падскочыў да брата і перарэзаў вяроўкі.

Сямён хрыплым голасам спытаў пра дакументы і тут-жа страціў прытомнасць.

---

*Янка Непачаловіч*

## ЧАКАННЕ

Развіталіся з табою
Помню, любы мой, тады,
Як спавітыя смугою,
Асыпаліся сады.

Як туманнай павалокай
Засцілаліся палі,
І павольна ў край далёкі
Адплывалі жураўлі...

Ты ўсміхаўся, чорнабровы,
Быў вясёлы, як заўжды,
Мне сказаў: „Бывай здарова!
Сыйдземся праз два гады...“

З той пары усё чакала,
Сніла многа ўсякіх сноў.
Ўрэшце, вестка ўсхвалявала
Цяплынёй жаданых слоў.

Як вясна ўбярэцца ў сілу,
Расхіне дуброў шацёр,—
Прыляціць у госці мілы,
Каб сыйсціся на жыццё...

Знаю я, ой, добра знаю,
Чую сэрцам напярод:
Ветліва яго спаткае
Усёй ваколіцы народ!

Стрэнуць радасна, як брата,
Ўсе сяброўкі, і сябры.
Будзе ён, жыццём багаты,
Пацалункі мне дарыць.

Кожны мне зайдросціць стане
І стары, малады:
Наша шчырае каханне
Ашчасліўіцца тады.

І зайграюць нам музыкі,
Пойдзе шум аж з краю ў край;
Сабярэцца гурт вялікі
На багаты каравай.

А цяпер адно чаканне—
Хай расквецяцца сады—
Прыбяруся, выйду рана
На сустрэчу з маладым.

1937 г.



В. МАЯКОЎСКІ.

*Уладзімір Маякоўскі*

## ЛЕВЫ МАРШ

Разгортвайцеся ў маршы!
Слоўнай не месца абразе.
Ціха прамоўцы!
Ваша
Слова
Таварыш маўзэр.
Досыць жыць законам,—
Спадчынай Адама і Евы.
Клячу гісторыі загонім,
Левай!
Левай!
Левай!
Гэй, сінеблузыя,
Узвейце
За акіяны
Крыллі!
Ці ў браняносцаў на рэйдзе
Ступлены вострыя кілі?!
Хай шчэрыць
Кароны зубы,
Узнімае брытанскі леў вой.
Комуне не быць у згубе.
Левай!
Левай!
Левай!
Там
За гарамі гора
Сонечны край далёка,
За голад,
За мору мора
Кроч мільённым крокам.
Хай бандай абкружаць нанятай
І льюцца сталёваю лявай,—
Расіі не быць пад Антантай!
Левай!
Левай!
Левай!
Ці-ж змеркне вока арляе?

Ці-ж нам да старога схіляцца?
Бярэце
Сусвет за горла,
Пролетарыята пальцы!
Грудзі наперад брава!
Сцягамі неба абклейвай!
Хто там закрочыў правай?
Левай!
Левай!
Левай!

*Пераклад М. ХВЕДАРОВІЧА*

*Г. Бярозкін*

# ВЕРШЫ МАЯКОЎСКАГА АБ ЗАГРАНІЦЫ

Я славлю отечество, которое есть,
Но трижды, которое будет.

*Вл. Маяковский.*

З імем Маякоўскага звязана зачынанне новай патрыятычнай традыцыі ў нашай савецкай паэзіі. Ён першы сярод савецкіх паэтаў узнавіў сапраўды народную паэзію Пушкіна і Некрасава, узнавіў і ўзняў яе на новую, больш высокую ступень. Для Маякоўскага зусім знікла неабходнасць падвойнага вытлумачэння разумення „радзіма“ ў сэнсе неабходнасці размяжавання радзімы, як жывой, несупыняючайся гісторыі народа ад „афіцыйнага“ яе іменавання, паколькі соцыялістычная рэвалюцыя ачысціла ідэю радзімы ад спроб своекарыснага яе выкарыстання і звярнула ёй першапачатковы чысты сэнс. І калі Пушкіну часамі даводзілася ў моц вядомых жыццёвых акалічнасцяў, акружаючай яго рэчаіснасці выказваць трагічныя жаданні:

Под небом Африки моей
Вздыхать о сумрачной России,

то для Маякоўскага магчымасць узнікнення падобных прызнанняў была зусім выключана. Тая радзіма, якую апяваў у сваіх вершах Маякоўскі, была не змрочная Расія, а маладая, уздыбленая працай савецкая рэспубліка. „Уздыхаць“ аб ёй не было за чым. Аднойчы сутыкнуўшыся ў сваім жыцці з „пушкінскай“ Афрыкай, з чужымі краямі, з далёкімі краінамі, Маякоўскі адчуў такую цягу „да дому“, такое жаданне звярнуцца на радзіму, што вершы, у якіх ён гэтыя пачуцці выказаў, засталіся ў рускай і сусветнай паэзіі незабыўным помнікам патрыятычнай традыцыі рэвалюцыйнага рабочага класа.

Все равно—
　　сослался сам я
　　　　или послан к маме—
Слов ржавеет сталь,
　　　　чернеет баса медь.
Почему
　　под иностранными дождями
вымокать мне,
　　гнить мне
　　　и ржаветь?

Вот лежу,
уехавший за воды,
ленью
еле двигаю
моей машины части.
Я себя
советским чувствую
заводом,
вырабатывающим счастье.

У вершах Маякоўскага аб заграніцы, адкуль узяты гэтыя радкі, патрыятычная тэма паэта атрымала сваё найярчэйшае ўвасабленне. Тэматычнае адзінства гэтых вершаў, як і адзінства накіроўваючай іх палітычнай думкі, уяўляюць магчымасць вылучыць вершы Маякоўскага аб Парыжы і Амерыцы ў адно закончанае цэлае з устаноўленнем цэлага рада ўласцівых ім рыс, характарызуючых далейшае выспяванне палітычнай думкі паэта і яго ўпэўненага рэалістычнага майстэрства.

Нельга сказаць, што закранутая і распрацаваная ў вершах аб заграніцы тэма капіталізма з'яўлялася для Маякоўскага новай паэтычнай тэмай. І задоўга да свайго знаходжання ва Францыі і Амерыцы Маякоўскі пісаў аб капітале—„его препохабие". Мы не памылімся, калі скажам, што першае ўжо з'яўленне Маякоўскага ў літаратуры, першыя надрукаваныя яго вершы азначаны тэмай капіталізма, вярней тэмай лютуючага і негадуючага адмаўлення капіталізма. Аднак існуе велізарнейшая розніца між тым, як Маякоўскі распрацаваў гэту тэму ў „Облаке в штанах" і тым, як ён тую-ж тэму вырашыў у вершах, прысвечаных капіталізму 1922—28 г. г. Розніца тут глыбока-істотная і распаўсюджваецца не толькі на знешне-вершавыя адзнакі, але і перш за ўсё, на прынцыповы падыход паэта да вырашэння тэмы капітала.

Калі ў дарэволюцыйных вершах Маякоўскага адносіны паэта да буржуазнага грамадства выражаліся выключна пратэстам, негадуючым, не цалкам усвядомленым пратэстам адзіночкі, то ў пазнейшых яго вершах аб капіталізме той-жа пратэст і тая-ж спапяляючая страсцю нянавісць падмацавалася вельмі салідным аргументам свядомай калектыўнай барацьбы і дзесяцігадовым вопытам будаўніцтва новага чалавечага жыцця.

Калі ў першых вершах Маякоўскага пакутуючы адзінокі чалавек у хвіліны горкага ўсведамлення незбыўшагася кахання і скалечанага жыцця кідаў сваю гнеўную отпаведзь „крохотному божику" куплі-про́дажу, дык зараз у вершах аб Парыжы, аб засечаных неграх, аб „рэспубліцы дэмакратычнай" свядомы перадавы змагар, „палпрэд верша і комуны" з вышыні новых, перамагаючых свет чалавечых узаемаадносін, смела і рашуча выкрывае капіталізм.

У цэлым радзе майстэрскіх вершаў Маякоўскі раскрыў антычалавечую і антыгуманістычную сутнасць капіталізма. Іменна, капіталізм, як сіла, парабачаючая натуральныя чалавечыя пачуцці, а зусім не як адцягненая соцыяльна-эканамічная катэгорыя, ненавідзець якую трэба „заведама і папярэдне", паўстае з вершаў Маякоўскага аб заграніцы. У гэтым можа быць, адна з найкаш-

тоўнейшых якасцяў Маякоўскага, як сапраўды вялікага мастака, што вывад, да якога ён прыходзіць у выніку свайго азнаямлення з жыццём, падаецца не ў выглядзе „наўмысна“ складзенай схемы, а як вывад з самой рэчаіснасці. Адсюль і такая канкрэтная асаблівасць вершаў аб заграніцы, як іх наглядная, цалкам адчувальная сувязь з рэчаіснасцю і нават з асобнымі яе з‘явамі.

Прыгадаем, што ні ў „Облаке в штанах“, ні ў іншых блізкіх да „Облака“ творах дарэволюцыйнага Маякоўскага, гэтай бачнай і непасрэднай сувязі не было. Там Маякоўскі выступаў паэтам чыста лірычнага складу, ад таго і вобразы, народжаныя ім апраўдваліся і станавіліся зразумелымі толькі ў парадку асабістай асацыяцыі паэта. І калі ранія вершы Маякоўскага здзіўляюць чытача звышнатуральнай сваёй гіпербалічнасцю, награмаджэннем гросаўскіх вобразаў калек і лабазнікаў, інтанацыяй сапраўднага адчайнага крыка, то гэта таму, што раннія вершы Маякоўскага народжаны папоўбрэдавым усведамленнем хваравіта-пакутуючага чалавека.

Не тое ў вершах аб заграніцы. Пераважаючай рысай гэтых вершаў з‘яўляецца „черта естественности той“, якая ёсць у вершах „нармальнейшага“ з паэтаў, у вершах Пушкіна. Захаваўшы ўсю першазданную сілу сваёй эмацыянальнасці, Маякоўскі набыў не менш каштоўную якасць „эпічнага“ паэта з яснай і зусім пэўнай цягай да аб‘ектывізаванага паказу. У вершах аб заграніцы гэта новая „эпічная“ якасць Маякоўскага сказалася ў тым, што тварымая паэтам рэчаіснасць набыла рысы „самастойнасці“, „незалежнасці“, аб‘ектыўнага існавання, што і пацягнула за сабой цэлы рад змен вузка-жанравых. У вершах аб Парыжы і Амерыцы Маякоўскі ажыццявіў свой пераход ад лірычнага маналога, як адзінага жанравага віда да скарыстання рада сродкаў эпічнага сюжэтнага верша пры захаванні і далейшым развіцці маналагічнай формы. У „праграмнай рэчы“ Маякоўскага—кастрычніцкай паэмы „Хорошо“, у якой высокі лірычны пафас паэта ажыццёўлены пры дапамозе цэлага раду сродкаў эпічнай, „апісальнай“ паэзіі (сцэна ўзяцця Зімовага палаца, бегства Врангеля), аказаліся абагуленымі і падсумаванымі аналагічныя вопыты Маякоўскага ў парыжскіх і амерыканскіх цыклах.

Большасць вершаў з гэтых цыклаў напісана на канкрэтны выпадак ці канкрэтнае здарэнне соцыяльнай рэчаіснасці, часам дасягаючы партрэтнага падабенства да свайго соцыяльнага прататыпу. Людзі, рэчы, з‘явы адначасова трапляюць у вершы і ў падарожныя нарысы. Так, напрыклад, у апісанні Ведадо—багаты квартал Гаваны (з нарысаў „Мое открытие Америки“) сустракаюцца дэталі, якія пазней аказаліся перанесенымі ў вершы. „Па ўсёй Ведадо, перад асабнякамі, увітымі ружовымі каларыо, стаіць на ножцы фламінго...“ Гэта з нарыса. А вось з вершаў:

Под пальмой
    на ножке
        стоят фламинго.
Цветет
  колларио
    по всей Ведадо

У гэтым-жа нарысу мы сустракаем i знаёмы па вершах параход „Эспань", i першы клас, у якiм „купцы, фабрыканты капялюшаў i каўнераў, тузы мастацтваў i манашанькi", i нават дакучлiвы джазавы матыўчык: „Маркита, Маркита, Маркита моя!"

Сувязь памiж вершам i нарысам—г. зн. памiж вершам i парадзiўшым яго „спецыяльным здарэннем" самая шчыльная i адчувальная. Прыкладаў i доказаў гэтай сувязi можна-б было прывесцi шмат. Абмяжуемся гэтым апошнiм. У сваiм апiсаннi Варшавы Маякоўскi спамiнае пра помнiк нейкаму Панятоўскаму. „Панятоўскi на канi, без штаноў, тыкае мечам у бок Украiны". У вершы „Чугунные штаны" мы зноў сустракаем гэтага не паседлiвага пана, якi так i тыкае мечам, накiраваным на ўсход.

Восток—это мы.
Восток—Украина
Деревни
и хаты наши,—
и вот
обратить
Украину
в руины
грозятся
меч и маршал.

Iтак, адной з адметных рыс „загранiчных" вершаў Маякоўскага з'яўляецца iх блiжэйшая сувязь з канкрэтным жыццёвым фактам, што i надае гэтым вершам пераканальнасць неадвержнага жыццёвага дакумента.

Ствараючы свае вершы на падставе „прыватных" жыццёвых з'яў, Маякоўскi дасягае ў iх шырокага соцыяльнага абагульнення. Вось, напрыклад у вершы „6 монахинь" Маякоўскi перадае сапраўднае здарэнне—сустрэчу на параходзе з шасцю „благочестивейшими" i лiцамернейшымi „каталiчкамi". Здавалася-б, верш напiсаны на „канкрэтны выпадак" i гэтым выпадкам павiнен абмяжавацца. Аднак, гэта толькi „тэорыя", памылковая Лефаўская тэорыя фактаграфiчнага мастацтва, якая адвяргалася самой практыкай паэтаў Лефа i ў першую чаргу—творчай практыкай Вл. Маякоўскага. У сапраўднасцi-ж сiла такiх вершаў, як „6 монахинь", абсалютна не змяншаецца iх „выпадковым" паходжаннем, паколькi яны дасягаюць ступенi вялiкага абагульнення, а ў гэтым выпадку вырастаюць да памераў тыповай з'явы. Шэсць манашак, шэсць нудных i дакучлiвых „дур господних" увасабляюць фальшывую i ханжаскую буржуазную мараль. За „прыватнай" з'явай заўважаецца агульная законамернасць, за выпадковым здарэннем—асноўная сутнасць тысячы iншых падобных здарэнняў. Большасць вершаў з амерыканскага i парыжскага цыклаў можа быць прыведзена ў якасцi доказу таго, якiм чынам у творчасцi Маякоўскага перамагалi рэалiстычныя тэндэнцыi, што патрабавалi ў якасцi сваёй неабходнай умовы—перавагу мыслi над гукапiсам, перавагу сэнсавай значымасцi верша над рознымi паэтычнымi хiтрыкамi—алiтэрацыйнымi, рытмiчнымi i ўсякiмi iншымi. Вершы Маякоўскага аб загранiцы—вершы страснай партыйнай думкi, прычым думкi не

адцягненай, не ператварыўшайся ў хімічны экстракт нейкай сухой рацыяналістычнай „паэзіі розуму“, а думкі жывой, творчай, падмацаванай вялікім чалавечым пачуццём.

Гаворачы аб перавазе думкі ў вершах аб заграніцы, мы хацелі падкрэсліць іх страсную партыйную мэтаімкнёнасць, якая выражаецца ў пякучай ненавісці паэта да капіталістычнага свету і ў супроцьстаўленні яму другога свету—свету будуючагася соцыялізма.

За знадворным бляскам і веліччу капіталістычнай тэхнікі, за „гордымі відамі свету“ і магутным узлётам паверхаў, Маякоўскі ўбачыў унутраную сутнасць буржуазнага грамадства, і ўбачыўшы, адхіснуўся. Настолькі рэзка выступалі ў ім соцыяльныя супярэчнасці, настолькі ярка выяўлялася чужасць і варожасць пануючага ў ім хцівага інтарэсу да натуральных чалавечых праў, настолькі не зайздросным аказаўся ў ім лёс шырокіх народных мас, што Маякоўскі з першых-жа радкоў, прысвечаных тэме капіталізма, пракляў гэты свет: „плюнуў рыфмамі“ ў ажырэўшую рожу „богадалара“.

„Бог-далар, далар-бацька, далар-дух святы. Амерыканец вызначыць дакладна:—Гэты чалавек каштуе 1230000 даляраў...“ Гэта таксама з нарысаў. А вось падобнае з вершаў:

Но пока
доллар
всех поэм родовей.
Обирая,
лапя
и хапая,
выступает,
порфирой надев Бродвей,
капитал—
его препохабие.

Кожны радок, прысвечаны капіталізму, змяшчае ў сабе „палітычны ідэйны зарад“ і пэўнае адчуванне „злабадзённасці і сёнешнясці“. Маякоўскі лепш, чым хто-небудзь іншы з нашых паэтаў, разумеў, што „паэзія пачынаецца там, дзе пачынаецца тэндэнцыя“ („Как делать стихи“). Ён стварыў паэзію, у якой падкрэсленая тэндэнцыйнасць (у лепшым разуменні гэтага слова) зрабілася асноўнай характэрнай рысай. Тэндэнцыйнасць Маякоўскага выражалася ў сцвярджэнні паэтам рэальнага зямнога шчасця людзей і адмаўленні ўсяго, што перашкаджае гэтаму шчасцю. Увесь цыкл вершаў аб заграніцы па-сапраўднаму тэндэнцыйны.

Маякоўскі не ампіст, прасякнуты бязмэтным пафасам тэхнікі. Ён вельмі далёкі ад абстрактнага апявання і ідэалізацыі „урбаністычных пейзажаў“, бо ён ніколі не выпускае з галавы думкі аб класавай, калі так можна выразіцца, прыродзе капіталістычнай тэхнікі. Небаскробы, стрыты, масты, паверхі—усе гэтыя рэчы, перанесеныя ў вершы, будуць у корні дыскрэдытаваны, калі прыпомніць адну „дробязь“:

Здесь
жизнь
была
одним—беззаботная,

другим—
голодный
протяжный вой.
Отсюда
безработные
в Гудзон
кидались
вниз головой.

Нават шырока вяшчаная пышнасць Парыжа значна памеркне i не зробiць належнага ўражання, калi задаць сабе „карэктнае" пытанне:

Мусье Париж,
на скольких костях
твоя
покоится роскошь?

У адным з сваiх вершаў пра Парыж Маякоўскi зварачваецца да Эйфелевай вежы, угаварваючы яе пайсцi разам з iм у Маскву: „... Идем в Москву! У нас в Москве простор... Мы встретим вас нежней, чем первые любимые любимых..." Калi абстрагавацца ад iранiчнага адцэння, якое бясспрэчна маецца ў гэтым вершы, лёгка ўлавiць у iм цiкавую i глыбокую палiтычную думку. Думка гэта пераклiкаецца са славутым выказваннем Маркса аб супярэчнасцi памiж вытворчымi сiламi капiталiзма i яго грамадска-вытворчымi адносiнамi, супярэчнасць, якая знамянуе i падрыхтоўвае падыход соцыялiстычнай рэволюцыi. Памылкова было-б думаць, што Маякоўскi ў гэтым вершы пад назвай „Парыж" (з падзагалаўкам „Разговорчики с Эйфелевой башней") папрасту вырашыў праiлюстраваць тэарэтычныя выказваннi Маркса. На самай справе-ж тое, аб чым Маякоўскi гаворыць у гэтым вершы—г. зн. думка аб „рэльсавым бунце", аб тайным спатканнi „Маскоўскага большэвiка" з цудам 20-га стагоддзя—з Эйфелевай вежай, думка аб паўстаннi рэчаў—усё гэта Маякоўскiм было знойдзена на сваiм уласным вопыце сутычкi з капiталiстычнай рэчаiснасцю i своеасаблiва паэтычна выражана. Верш у цэлым з'яўляецца найбольш яркiм увасабленнем паэтычнай думкi Маякоўскага аб поўнай несумяшчальнасцi магутнейшай тэхнiкi капiталiзма, якая ўвасабляе чалавечы розум з самой антычалавечнай сутнасцю капiталiстычнага свету. Не дзiўна, што ў Маякоўскага рэйкi Парыжа бунтуюць; iм не да твару „место гниения—Париж проституток, поэтов, бирж". „Гордыя виды свету" Маякоўскi звязвае не з капiталiзмам, як сiстэмай чалавечых узаемаадносiн, а хутчэй, з соцыялiстычнай перабудовай свету, з устанаўленнем сапраўды чалавечага грамадства, з рэчаiснасцю будучынi.

Заўсёды раўняючыся на гэтую будучыню, прымаючы з'яе вуснаў розныя загады,—адчуваючы за кожным рухам верша яго вялiкае дыханне—

До того, что кажется:
вот с этой рифмой развяжись—
И вбежишь по строчке в изумительную жизнь.—

Маякоўскі з справядлівым гневам чалавека будучыні адгукнуўся на тэму капіталізма. У сваіх вершах ён узяў яго пад суровую і знішчальную крытыку, прычым пад такую крытыку, пры якой сам крытык-выкрывальнік упэўнена адчувае сябе пераможцай, перакрочыўшым усю гэту мразь і горды ўсведамленнем іншага існавання, а па другое, крытыкуючы, пакідае месца для станоўчых адносін да тых народных мас капіталістычнага свету, у інтарэсах якіх гэты свет крытыкуецца. У сваіх вершах аб заграніцы Маякоўскі раскрыў ідэю соцыялістычнага патрыятызма, як ідэю актыўнага класавага супрацоўніцтва совецкага народа з прыгнечанымі народнымі масамі капіталістычных краін. З выключнай сілай ён выразіў матыў пераймальнасці рэволюцыйных традыцый народа, у адраджэнні якіх ён бачыў найвялікшую пагрозу існаванню капіталізма. Як рэальны вобраз надыходзячай катастрофы, як найлепшае сведчанне набліжэння соцыялістычнай рэволюцыі, Маякоўскі выклікае вобразы рэволюцыйных санкюлотаў Парыжа і гераічных комунараў 71-го году.

Снова
    в дыму
        пушкари
Идут
    к парижским фортам.

З усяго, што Маякоўскі бачыў у Версалі, у палацах „бесчисленных Людовиков“ яму найбольш спадабалася

        трещина
на столике Антуанетты.
В него
    штыка революции
            клин
вогнали,
    пляша под распевку,
когда
    санкюлоты
        поволокли
на эшафот
        королевку.

Усе вершы Маякоўскага аб заграніцы напоўнены болем за лёс народных мас. З выключнай вастрынёй і чуллівасцю ўспрыймаў Маякоўскі праяўленні нацыянальнага прыгнёту, з якім яму давялося сутыкнуцца ў Амерыцы. У сваіх падарожных нарысах ён запісаў наступнае: „Права называць сябе Амерыкай Злучаныя Штаты узялі сілай, дрэдноўтамі і даларамі, наганяючы жах на суседнія рэспублікі і калоніі“. Адзначаючы цікавы факт залічэння неграмі вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна ў лік „работнікаў сваёй культуры“, Маякоўскі аднак заўважае, што „Пушкіна і зараз не пусцілі-б ні ў адну „прыстойную гасцініцу і гасціны пакой Нью-Іорка. Гэта-ж у Пушкіна былі кучаравыя валасы і негрыцянская сінь пад нагцямі“ („Мое открытие Америки“).

З вялікай сілай рэалістычнага майстэрства Маякоўскі адлюстраваў жыццё амерыканскіх неграў у вершах „Блэк энд уайт“ і

„Сіфіліс“. У гэтых вершах была ў поўнай меры ажыццяўлена ўстаноўка Маякоўскага на аб‘ектывізаваны паказ і вершавы сюжэт.

У вершы „Сіфіліс“ адбіта жыццё цэлай негрыцянскай сям‘і, у якую „белы“ „свіны кароль“ сіфілітык Свіфт унёс цяжкую хваробу...

Пока по работам Том болтается
Жену его
пригнали с плантаций
за неотработку натурой..
А мистеру Свифту
последнюю страсть
раздула
эта экзотика.

„Он тыкал доллары в руку, в лицо“—„подгнивший мистер Свифт“, а потом:

Дети
у матерей в животе
Онемевали
и слепли.

Гэта і называецца „нацыянальная палітыка“ па-амерыканску. Маякоўскі яе „змаляваў для відзіка“ ў вершы, у якім „прыватны“ выпадак з амерыканскай рэчаіснасці тыпізаван і абагулен да памераў шырокага ахопу агульнай з‘явы антыгуманістычнай сутнасці капіталізма. Не дзіва, што падобныя „відзікі“ выклікалі ў Маякоўскага прызнанні такога роду:

Я стремился
за 7000 верст вперед,
А приехал
на 7 лет назад.

альбо другое:

если ты
отвык ненавидеть,—
приезжай
сюда,
в Нью-Йорк.

Сыноўняя адданасць сваёй савецкай радзіме і прыналежнасць да вялікага пралетарскага калектыва прымушалі па новаму гучэць пачуццё нянавісці да ворага,—да буржуазнага грамадства. Іменна гэта акалічнасць непарыўнай сувязі з „неодолимым, стальноруким классом“ і пачуццё „собственной гордости“ за сваю краіну надае „апісальным“ вершам Маякоўскага, па-першае, цвёрды і бясспрэчны „пункт гледжання“ на з‘явы і рэчы незнаёмых абставін, а па другое, эмацыянальнае напружанне і эмацыянальную сілу верша. Ва ўсіх вершах Маякоўскага аб заграніцы, незалежна ад іх непасрэднага паэтычнага матыва, прысутнічае нязменны савецкі „пункт гледжання“ паэта. Так напрыклад, аглядаючы сабор парыжскай багамацеры—Notre-Dame, ён поўсур‘ёзным тонам прапануе скарыстаць яго ў якасьці клуба, і толькі камічна наракае на некаторую нязручнасць „нябеснай готыкі“ („Под клуб темноват,—об этом не думали классики“). У гэтай іранічнай інтанацыі, якая знадворна маскіруе глыбокую паэтычную эмоцыю Маякоўскага, адчуваецца яго пераможнае ўспрыняцце жыцця, пачуццё гаспадара, наследніка

усёй культуры чалавецтва. Нават прапануючы Notre-Dame аддаць „пад клуб“, Маякоўскі заўважае:

Да надо,
быть
бережливым тут,
Ядром
чего
не попортив.
В особенности,
если пойдут
громить
префектуру
напротив.

Як бачыце, „гаспадарчыя“ адносіны да культуры мінулага зусім не пярэчаць жаданню справы і імкненню актыўна ўмяшацца ў жыццё. Абодвы гэтыя матывы састаўляюць арганічнае адзінства.

Ва ўсіх сваіх вершах аб заграніцы Маякоўскі нязменна заставаўся совецкім паэтам—адданым патрыётам маладой совецкай рэспублікі. Смешна-б было шукаць у гэтых вершах якія-небудзь рэцыдывы ранняга „апостольства“, некалі ўласцівага Маякоўскаму, альбо праяўленні яго старой цяганіны з богам. Усё гэта даўняе і мала пераканаўчае з самага пачатку, зараз у вершах аб Амерыцы абаранялася „кашчунственейшым шаржам“ шасці манашак! Нічога не засталося ў гэтых вершах і ад ранняга індывідуалізма Маякоўскага. Вершы аб заграніцы пісаў свядомы перадавы змагар за комунізм, якому ідэя соцыялістычнай радзімы прадстаўляецца перш за ўсё ідэяй шчыльнай сувязі паміж працоўнымі людзьмі, абумовіўшай сабой больш усвядомленыя, таму і больш непрыязныя адносіны да ворага.

Тое, што Маякоўскі ўбачыў ва Францыі альбо Амерыцы, было зусім чужда яго свядомасці совецкага чалавека, таму што на радзіме ў яго, у СССР усё гэта было даўно змецена Кастрычнікам. Аднак, аналагарызуючыся з фактамі і з'явамі раней накопленага вопыту, гэта капіталістычная рэчаіснасць нарадзіла ў Маякоўскага незабыўныя паэтычныя вобразы чалавечых калецтваў і знявагі... Часова змаўкаўшая „спрэчка“ з буржуазным грамадствам узнавілася зноў. І зноў па аднаму і таму-ж асноўнаму вычарпальнаму „пункту“: аб шчасці чалавека, аб каханні чалавека, аб праве чалавека жыць чалавечым жыццём.

Маякоўскі вельмі многа пісаў аб любві, таму, што для яго ўсё найбольш чалавечае ў жыцці змяшчалася ў любві. З усіх чалавечых трагедый, якія штодзённа творацца ў капіталістычным свеце, Маякоўскі з выключнай вастрынёй адчуў трагедыю невырашанага кахання і прысвячаў ёй вялікую колькасць паэтычных старонак. На працягу доўгага часу любоў была тым асёлкам, на якім адточвалася грамадская свядомасць Маякоўскага. Ужо ў першых яго паэтычных творах матыў рашучага адмаўлення буржуазнага грамадства вырастаў з немагчымасці ў яго ўмовах узнікнення вялікага чалавечага пачуцця. А сум па гэтых пачуццях, у якіх атрымала-б сваё выражэнне чалавечая пяшчотнасць і чуллівасць, у Маякоўскага быў неймаверна вялікі. Такі вялікі, што ў яго вершах

нават параходы, якія ў адным выпадку ўвасаблялі чалавечую доблесць і гераізм, у другім выпадку горка скардзіліся на адзіноцтва

Я устал, один по морю лавая,—
Подойди сюда и рядом стань...

У паэзіі Маякоўскага любоў і рэволюцыя нязменна злучаліся, бо толькі ў рэволюцыі, у соцыялізме Маякоўскі бачыў адзіную сілу, якая здолее вызваліць чалавечыя пачуцці:

Я
с небес поэзии
бросаюсь в коммунизм,
потому что
нет мне
без него любви.

З такім самаадчуваннем сапраўднага чалавека будучыні, для якога каханне не зацішны куточак, а магутнае чалавечае пачуццё, увабраўшае ў сябе побач з адданасцю блізкаму аднаму чалавеку і барацьбу за агульнае чалавечае шчасце, з такім самаадчуваннем прыехаў Маякоўскі загранiцу. Тое, што ён бачыў у Парыжы альбо ў Нью-Іорке, здзіўляюча нагадвала і супадала з тым, што яму аднойчы прышлося выпрабаваць ва ўмовах рускага капіталізма. „Бог-далар, далар-бацька, далар-дух святы“. Усепажыраючаму богу нажывы падпарадкаваны ўсе чалавечыя пачуцці, у тым ліку, і каханне. Як некалі ў ранняй паэме любоў з'яўлялася выключна ў такой сувязі: „деньги, любовь, страсть“, гэтак і зараз у вершах аб капіталістычных краінах вялікае чалавечае пачуццё выступае аб'ектам грашовай здзелкі, прадметам куплі-продажу. У адным з сваіх падарожных нарысаў аб Амерыцы Маякоўскі прыводзіць гісторыю аднаго „кахання“: „Мільянера, агента па продажу нерухомай маёмасці, пад старасць агарнула юнацкая страсць. Так, як шлюб старога з дзяўчынай рэч падазроная, мільянер пайшоў на ўдачарэнне... 120000 прыемных прапаноў з картачкамі прыгажунь пасыпаліся ў адказ. Ужо ў 6 гадзін раніцы чатырнаццаць дзяўчат сядзела ў прыёмным пакоі містэра Браунінга. Браунінг удачарыў першую (надта вялікае нецярпенне)—па-дзіцячы распусціўшую валасы, прыгажуню—чэшку Марыю Спас. На другі дзень газеты сталі захлёбвацца Мар'іным шчасцем. У першы дзень куплена 60 плаццяў. Прывезены жэмчужныя каралі“... З нарысаў гэтая амерыканская „Песня торжествующей любви“ перавандравала ў вершы, настолькі моцна паразіла яна ўяўленне і думку паэта, які даўно адвык ад падобных „ньюіоркска-тэхаскіх“ „любоўных“ сцэн. У Парыжы Маякоўскі сустракаў аднаногую прастытутку, кахаць якую лічыцца „асабліва шыкарна“, таму што—аднаногая. У вершы „Заграничная штучка“ Маякоўскі адлюстраваў яе вобраз, як вобраз духоўна і фізічна скалечанага чалавека. Тая-ж тэма і ў другім вершы,—пад назвай „Парыжанка“, у якім намаляваны вобраз дзяўчыны, служачай ва „уборной ресторана“.

Выпившим бургундского
может захотеться
для облегчения
пойти пройтись

Дело мадмуазель
подавать полотенца;
Она
в этом деле
просто артист.

Вельмі цяжка напісаць больш страшнае аб чалавеку, і напісаць з большым болем за пакуты і знявагу чалавека.

У паэзіі Маякоўскага жыла горкаўская ідэя аб гордым і свабодным званні чалавека. Іменна, яна, гэтая ідэя выклікала ў ім рашучыя антыкапіталістычныя настроі і жаданне рэволюцыйнай справы, накіраванай супроць удушлівага капіталістычнага свету. Вялікі боль прычыняў яму гэты свет; прыбраная папяровымі кветкамі агідная рэчаіснасць, непрыстасаваная да шчасця планета. І ён рашыў не дапасавацца да яе, не урэзаць маштабы сваёй „нямыслімай любві" да маштабікаў гэтай рэчаіснасці, а карэнным чынам яе змяніць, тым больш, што шляхі гэтага змянення яму былі вядомы па вопыту сваёй краіны.

... Русским известно другое средство,
как влезть рабочим
во все этажи
без грез,
без свадеб,
без жданий наследства.

І вось клапатліва схіліўшыся над амерыканскай дзяўчынай у семнаццаць год, якая „сидит для рекламы и точит ножи", Маякоўскі ўнушае ёй „сакрэты" ўжывання гэтых сродкаў:

„Что тебе заботи ться
о чужих усах?
Вот...
посадили...
как дуру еловую".
А у девушки фантазия раздувает паруса,
и слышится девушке:
„Ай лов ю" *
Я злею:
„Выйдь,
окно разломай,—
а бритвы раздай
для жирных горл".
Девушке снится:
„Май,
май горл" **

Над слепаватымі лятуценнямі семнаццацігадовай міс аб драбнюсенькім каханні і „улюбленым клерку", які „на ней жениться приходит с Волстрит", уздымаецца яго, паэта велізарная мара аб чалавечай любві, якая „без грез, без свадеб, без жданий наследства", у якой здаровы выпрастаны чалавек будучага раскрывае сябе поўна і ўсебакова. Не цёплы прыцішак, а выхад у вялікі

* „Ай лов ю"—я люблю вас.
** „Май горл"—мая дзяўчына.

свет жыцця, людзей, актыўнай дзейнасцi, соцыяльнай барацьбы—вось што апявае Маякоўскi ў каханнi.

Любить—
это с простынь,
бессонницей рваных,
срываться, ревнуя к Копернику,
его,
а не мужа Марьи Иванны,
считая
своим соперником.

Самай рэальнай бачнай сувяззю гэты матыў свабоднага кахання звязаны з цэнтральным паэтычным матывам Маякоўскага, з матывам радзiмы. Iменна, у ажыццяўленай iдэi новай соцыялiстычнай радзiмы Маякоўскi знайшоў канчатковае пазбаўленне ад усялякiх перашкод, якiмi буржуазнае грамадства загароджвае шлях свабоднаму развiццю чалавека. Супроцьстаўленне сваёй краiны краiнам капiталiстычнага свету нараджала ў Маякоўскiм пачуццё законнай гордасцi совецкага патрыёта.

Читайте,
завидуйте,
я—
гражданин
Советского Союза.

Лепшым сродкам для паэтычнага ўзвялiчэння акеанскай шыры i магутнасцi Маякоўскi лiчыў сродак прыраўнення акеяна да шыры i магутнасцi „маёй рэволюцыi“. Аграмадзiне—чалавеку, якi суразмерна росту i маштабу самой эпохi „любим и близок“ становiцца акеян:

Волны
будоражить мастера:—
детство выплеснут;
другому—
голос милой.
Ну, а мне б
опять
знамена простирать.
Вон пошло,
затарахтело,
загромило.

У гэтым адметная рыса лiрычнага стылю Маякоўскага, што ён не ствараецца ўжываннем традыцыйна-„лiрычных“ штампаў i складзеных у традыцыi „сурагатаў пачуццяў“, а зроблен па ўласнай мерцы вялiкага чалавечага сэрца. Параўнанне з акеянам тут абсалютна апраўданае, паколькi яно апiраецца на сапраўды блiзкае сваяцтва гэтай выключнай шыры акеяна з падобнай душэўнай шырынёй i дзерзаннем вялiкага чалавека i з той бязмежнай па шырынi творчай сiлай, якая ў гэтым чалавеку ўвасоблена. Большасцю сваiх вершаў аб загранiцы Маякоўскi сцвярджае адчуванне прастору, па кантрасту з якiм яшчэ ярчэй павiнна выступiць вузасць капiталiстычнага свету. Кожным радком сваiх вершаў Маякоўскi рваўся ў будучае, у вялiкае шчасце, канкрэтнае i тварымае.

*М. Смолкін*

# НАРОДНЫ ПЯСНЯР КАЗАХСТАНА ДЖАМБУЛ

„Песня—вялікая сіла. Песня—голас народу, яго праўда, яго думкі, яго пачуцці".

Гэтыя залатыя словы сказаў народны паэт Казахстана—92-х гадовы мудры акын-песняр вызваленага народу. 75 год па казахскіх стэпах, а пасля рэволюцыі і па ўсёй краіне гучэлі і гучаць магутныя песні Джамбула. Гэтыя песні, то суровыя, як гнеў народны, то лірычна задушэўныя, як калыханка, клікалі на барацьбу, радавалі і выклікалі слёзы ў народа.

З неразлучнаю домбрай у руках Джамбул блукаў па стэпу, і дзе-б не з'явіўся гэты цудоўны песняр, ён усюды быў дарагім жаданым госцем. На ўсё жыццё Джамбул захаваў любоў да песні, веру ў сілу яе.

І гэта не выпадкова, бо ў дарэволюцыйным Казахстане, не ведаўшым ні кніг, ні тэатра, ні музея, ні кіно, песня была асноўным відам мастацкай творчасці. Пагэтаму ў песні, у зародышавай форме мы мелі зачаткі ўсіх відаў мастацтва. Казахі не мелі запісанай гісторыі і ў песнях казахскага народа адлюстравана яго гісторыя, яго філасофія, яго працоўная практыка. Песні Джамбула маюць для нас вялікае пазнаваўчае значэнне. Яны жывыя сведкі праклятага мінулага, яны ўдзельнікі барацьбы казахскага народа супроць рускіх імперыялістаў, супроць баеў-кулакоў. Вялікая Кастрычніцкая рэволюцыя адрадзіла прыгнечаныя народы, раскавала народныя таленты, выклікала іх да жыцця. Джамбул і Сулейман Стальскі не адзіны вынік гэтага адраджэння. Гэта толькі самыя высокія горныя вяршыны народнага паэтычнага майстэрства.

Дзесяткі і сотні песняроў, акынаў, ашугаў, якія многа гадоў спявалі нікому невядомыя, толькі пасля рэволюцыі пазналі сябе і разгарнулі свае таленты, стварылі высокамастацкія творы. Убачыўшы вялікае сонца рэволюцыі, па новаму заспяваў Джамбул. Песня Джамбула, маладая і бадзёрая, загучэла ва ўвесь голас, 75 год творчай дзейнасці! Ніхто ў сусветнай літаратуры не прайшоў такога вялікага творчага шляху. Калі-б запісаць усе песні, якія за гэты час праспяваў Джамбул, гэта склала-бы сотню тамоў. Але не ў інтарэсах царскіх катаў было запісваць народныя песні акына. Песні Джамбула абляталі стэп, глыбока западалі ў сэрца народа і губляліся ў бяскрайных прасторах казахскіх стэпаў.

Вялікі майстар па адшуканню народных талентаў Аляксей Ма-

ксімавіч Горкі назваў Сулеймана Стальскага „Гамерам XX века“. Гэтым самым Горкі паказаў, як высока ён цэніць творчасць такіх народных самародкаў. Звяртаючыся да грамадскасці, А. М. Горкі завяшчаў берагчы людзей, здольных стварыць такія жэмчужыны паэзіі, як Сулейман Стальскі. Джамбул—такі чалавек. Пры гэтым Горкі падкрэсліваў, што народныя паэты стаяць непасрэдна ў вытокаў народнай творчасці, у вытокаў фальклора. А фальклор, гэта жыватворчая крыніца мастацкага слова.

Савецкі ўрад акружыў вялікімі клопатамі народнага паэта Казахстана Джамбула. Не гледзячы на вялікі цяжкі шлях, які прайшоў Джамбул, ён узгадаваны народам, моцны і дужы, творыць усё новыя і новыя песні на радасць працоўным.

2

Джамбул нарадзіўся ў 1846 годзе, у Кастэкскім раёне Алма-Ацінскай вобласці каля гор Хан і Джамбул. Ад гары Джамбул ён атрымаў сабе імя. Джамбул рос сярод качэўнікаў і бацька Джамбула быў бедняком качэўнікам. Дзядзька Джамбула быў дамбрыстам. Хлопчык Джамбул заслухоўваўся песнямі дзядзькі, ён бачыў, як дзядзька сваімі песнямі выклікаў у людзей смех і слёзы. Песня хвалявала, узбуджала Джамбула і ён рашыў стаць дамбрыстам. Валодаючы ад прыроды моцным голасам ён у 15 год ходзіць па юртах і спявае песні. Спяваў ён прыгожа і моцна, качэўнікі палюбілі Джамбула і кармілі яго. Не адразу Джамбул стаў майстрам песні. Гэтаму мастацтву ён вучыўся ў самага вядомага ў той час пяўца Казахстана Сююмбая. Убачыўшы, як многа абяцае гэты юнак, Сююмбай перадаў маладому і дужаму Джамбулу сваю домбру, і Джамбул стаў спяваць самастойна. Ён хадзіў па качэўях ля берагоў Чу і спяваў народныя быліны, паэмы—творы другіх акынаў і свае ўласныя песні. Майстэрства акына-імправізатара павінна быць высокім, народ не церпіць фальшы і слабых галасоў. Акын-імправізатар павінен многа ведаць: ён павінен ведаць усе роды і плямёны, усе здарэнні і падзеі. Песні акына павінны быць злабадзеннымі, ён павінен быстра адгукацца на ўсе подзеі, якія хвалююць народ. Менавіта тут мы павінны шукаць карэнні таго, што ў нашыя дні паэзія Джамбула так палітычна актуальна, так хутка рэагуе на ўсе падзеі нашага жыцця. Акын павінен быў улічваць абстаноўку, умець даваць хуткія і разумныя адказы. Джамбул вучыўся гэтаму майстэрству, сустракаючыся з праслаўленымі старымі акынамі кіргізскіх і казахскіх стэпаў. З даўніх часоў і да нашых дзён у Казахстане бытуе „айтыо“—спаборніцтвы пеўцоў. На скачках, на народных святах збіраюцца акыны і пачынаюцца спаборніцтвы. Гэтыя спаборніцтвы напамінаюць алімпійскія спаборніцтвы старажытных грэкаў. Народ быў слухачом сваіх акынаў, ён-жа быў іх суровым крытыкам. Пераможаны ў спаборніцтвах акын вымушаны быў з ганьбой пакінуць месца і надоўга перастаць спяваць, а пераможцу народ з лікаваннем выносіў на руках.

Замучаны царскімі катамі казахскі народ, як і беларускі і грузінскі, як і ўсе другія прыгнечаныя народы, знаходзіўся ў турме,

якая насіла імя „Российская империя“. Казахскі народ быў пад падвойным уціскам: рускіх імперыялістаў і сваіх баеў, манапаў. Казахстан і казахскі народ мае вялікую, поўную класавых баёў гісторыю. Праз землі казахаў прайшоў Чынгіс-хан, полчышчы Тамерлана. Шмат гадоў казахскі народ цярпеў ханскі гнёт. Народ паўставаў супроць сваіх прыгнятальнікаў і песня была своеасаблівай моцнай і грознай зброяй у класавай барацьбе, а акыны былі змагарамі. Так, акын Махамбет быў натхніцелем паўстання супроць хана Джангара ў XIX стагоддзі. Яго песні адлюстроўвалі барацьбу супроць ханскага ладу, у іх адлюстроўвалася гарачая ненавісць рабоў да рабаўласнікаў. Народу патрэбна была песня, як паветра, як стэп, якая яго карміла. Народ хацеў, каб у песнях, якія складаліся акынамі, гучэла іх гора, гучэла іх барацьба і надзеі на лепшае жыццё. Паўтараем, патрабаванні народа да песняроў заўсёды былі і ёсць вялікія. Сын бедняка, сам бядняк, які меў толькі домбру і дужы голас, Джамбул навучыўся спяваць такія песні, якія кранaлі сэрца народа. У сваёй аўтабіяграфіі ён так піша аб гэтым:

„Будучы бедняком я добра разумеў бедны народ. Праўдзіва я мог пець толькі аб сабе і аб сваім народзе. Зразумеўшы ўсім сэрцам, што акыну нельга фальшывіць і ліцамерыць, стаў спяваць толькі праўду. І песні мае паляцелі пад Джатысу, як вольныя птушкі“.

На сваёй маленькай клячы Джамбул аб'ехаў Кіргізстан, Караганду, Усходні Казахстан. Удзельнічаючы аднойчы ў спаборніцтве пяўцоў, Джамбул перамог вядомага акына Кулмагамбета і з таго часу слава аб ім, як аб лепшым песняру, абляцела ўвесь стэп.

У часе сваіх блуканняў Джамбул многа чуў аб мінулым Казахстана, аб тым, як бядняki казахі змагаліся пад сцягамі слаўнага батыра Емельяна Пугачова. Сам Джамбул яшчэ маленькім хлапчуком быў сведкай паўстання казахаў супроць цара, якое працягвалася тры гады. Гэтыя гістарычныя падзеі, а таксама быт працоўных казахаў—вось змест дарэвалюцыйных песень Джамбула. Цікава адзначыць, што не раз песня Джамбула мірыла казахаў і кіргізаў, якіх царскі ўрад стараўся пасварыць, распальваючы ацыянальную рознь. Ужо тады Джамбул выступаў як песняр інтэрнацыяналіст, які разумеў, што інтарэсы працоўных кіргізаў і казахаў аднолькавыя. Цяжка прыходзілася народу, цяжка прыходзілася народным песнярам, бо

Россия была для народа тюрьмой
Дышали народы отравленной тьмой *).

Джамбул успамінае, што здаралася спяваць цэлую ноч і атрымліваць грашы. Народ карміў Джамбула, але што было ў самага народа? Патрэбна была вялікая любоў да народа, да песні, каб не здацца, і не закінуць домбру. Царскія апрычнікі і асабліва баі

*) Усе вершы Джамбула падаюцца ў перакладзе на рускую мову К. Алтайскага.

стараліся задушыць дэмакратычныя песні Джамбула, бо яна злосна высмейвала палітыку паноў і забараняла прыгнечаных казахаў. Багацеі ненавідзелі і баяліся песень Джамбула. Яны прапаноўвалі яму сытае жыццё, узнагароды з тым, каб ён стаў акынам баеў і спяваў аб байскіх „доблесцях“. Але Джамбул рашуча адмаўляўся мяняць сваё жыццё народнага пяўца, няхай галоднага, на сытае жыццё халопа. Баі пагражалі яму смерцю і Джамбул ведаў, што гэтыя пагрозы маюць падставы. Джамбул памятаў, што ў свой час таленавіты народны пясняр Курман-Газы быў закаваны ў кайданы і кінуты ў Орэнбургскую крэпасць, вядомы акын Махамбет быў замучаны катамі, акын Муса быў сасланы ў Сібір. Але нішто не магло спыніць песні, і Джамбул спяваў яе з вялікім і гарачым пачуццём. Так спяваў і жыў Джамбул. Не хапала вольнага паветра для песняра, і ў 55 год—расказвае Джамбул—ён стаў старэць: вочы яго памерклі, стаў слабым голас. Замест домбры ў руках з'явіўся кій, замест шырокіх стэпаў вузкая пасцель—Джамбул перастаў спяваць. Толькі ў 1916 годзе, калі казахскі народ пад кіраўніцтвам большэвікоў Жалбыра і Амангільды паўсталі супроць цара, зноў сілы з'явіліся ў Джамбула і песня яго зазвінела па стэпу. У гэтых песнях ён славіў батыроў Жалбыра і Амангельды, заклікаў народ да мужнасці. Паўстанне казахаў была зверскі прыдушана. Царскі генерал Курапаткін павёў на Казахстан цэлую армію і расстраляў тысячы працоўных казахаў. Гэта паўстанне яркім полымем азарыла жыццё Джамбула. Нездарма ён у сваёй паэме аб Варашылаве параўноўвае Варашылава з героем паўстання 1916 года Жалбырам.

„Калі мне споўнілася 70 год,—расказвае аб сабе Джамбул,—я ўбачыў зару новага жыцця. На зямлю прышла праўда для ўсіх жывых стварэнняў. Я пачуў імя батыра Леніна і быў сведкай пераможнага шэствія Чырвонай Арміі. Вакол мяне закіпела жыццё, аб якім я спяваў у лепшых сваіх песнях, як аб залатым сне. Адчуўшы прыліў новых сіл я ўзяў у рукі домбру. Звярнулася мая маладосць і я заспяваў“.

І ці не ў гэтым вялікая творчая сіла рэволюцыі, што яна звярнула маладосць народам, што яна звярнула маладосць народным талентам! Жудасная дарэволюцыйная рэчаіснасць нараджала ў сапраўды дэмакратычных паэтаў вершы „мести и печали“, такімі былі дарэволюцыйныя песні нашага народнага паэта Янкі Купалы:

Песні мае, песні!
Смуткаў маіх дзеці
Калі-ж вам час прыдзе
Весела запеці.

(„Да песень“)

Аб сваіх дарэволюцыйных песнях Джамбул гаворыць:

Песни рождались в аулах степных,
Песни истерзанной рабством страны,
Песни в столетьях ползли, как пески,
Песни печали, нужды и тоски.

3

Совецкі Саюз стаў радзімай усіх прыгнечаных раней нацыянальнасцей. Сталінская Канстытуцыя замацавала ў вяках заваёванае шчасце народаў. Па новаму сталі гучэць песні нашых паэтаў.

Песняры, акыны, ашугі, джыршы маладымі галасамі сталі спяваць аб перамозе калгаснага ладу, аб Сталінскай Канстытуцыі, аб любімых правадырах народа, аб вялікім Сталіне.

Цвіце совецкі Казахстан, цвіце яго нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу культура. Усе мы памятаем, якім выключным поспехам карыстаўся ў Маскве казахскі тэатр оперы, які стварыў і паказаў такія спектаклі, як „Кыз Жыбек", „Жалбыр" оперу „Ер-тарыган". Казахскі народ, народ—песняр валодае багацейшым фальклорам. Цікава адзначыць, як разам са зменай аблічча Казахстана, змяняецца і змест народных песень.

Дарэволюцыйны Казахстан не меў ніякай прамысловасці, зусім зразумела пагэтаму, чаму ў дарэволюцыйных народных песнях няма індустрыяльных матываў.

А зараз у народзе бытуе песня „Чорнае золата", якая расказвае аб „Чорным золаце" Караганды, аб яе стаханаўцах. Толькі нядаўна на палёх Казахстана асвоена культура зярна і народ у сваіх песнях сёння пяе аб хлебе, вырасшым у Казахстане. („Песня аб зярне"). Атрымліваючы ордэн Працоўнага Чырвонага Сцягу Джамбул сказаў:

Узнагароджан не я, узнагароджана
Народная паэзія Казахстана.

І сапраўды, юбілей Джамбула з'яўляецца юбілеем усёй паэзіі Казахстана. Асабліва ў апошні час у Казахстане пышна расцвіла плеяда народных паэтаў, імёны якіх, разам з перакладамі іх вершаў на мовы народаў СССР, стануць шырокавядомымі. Да гэтай плеяды ў першую чаргу трэба аднесці: Кенена, Утэпа, Сіядзіля, Оспантая, Жэртыбая, Куата, Айманкуля і інш. Сярод іх Джамбул самы таленавіты, самы стары і паважаны песняр. Яго імя і яго песні вядомы ўсім народам Совецкага Саюза. Цяжка сказаць, якая паэма, або які верш Джамбула з'яўляюцца лепшымі, бо яны створаны ўмудроным гадамі і вопытам песняром. Песні Джамбула ўсе аднолькава яркія, змястоўныя. Маючы сваёй крыніцай народную творчасць, народны розум, яны поўныя глыбокай мудрасці жыцця, увасобленых у простую паэтычную форму.

У адным з сваіх выступленняў А. М. Горкі паставіў перад совецкімі пісьменнікамі задачу стварэння эпічнай, рэалістычнай літаратуры, у якой-бы адлюстраваліся перамогі соцыялістычнага будаўніцтва. Сваімі паэмамі „Утэген-батыр", „Мая радзіма", „Паэма аб Варашылаве", „Паэма аб наркоме Ежове", „Паэма аб дружбе народаў" Джамбул уносіць уклад у фонд стварэння сапраўды вялікай эпічнай рэалістычнай совецкай паэзіі.

Але тут мы павінны адразу сказаць, што агульнапрынятый падзел паэзіі на эпічную, адлюстроўваючую знешнюю рэчаіснасць і лірычную, паказваючую суб'ектыўныя перажыванні, думкі паэта,

такі падзел не можа быць прынятым у адносінах паэзіі Джамбула. У яго вершах, у яго паэмах эпічнае жыве не толькі разам, побач, а цесна пераплятаецца з лірычным. Амаль у кожным сваім вершы, у кожнай паэме побач з шырокім сапраўды эпічным паказам рэчаіснасці Джамбул тут-жа дае свае адносіны да гэтай рэчаіснасці, свае перажыванні і імкненні. Так напрыклад, верш „Песня аб вясне народаў“ пачынаецца цудоўнай, поўнай сілы і свежасці, маладосці і задору лірыкай.

Коня мне седлайте! Мне юрта тесна—
Над степью плывет голубая весна.
Запели у юрт черноглазые кыз,
Запенился пеной душистый кумыс.
Над гнёздами вьются веселые птицы
И ржаньем зовут жеребят кобылицы.

Мы адчуваем дыханне вясны, пах стэпу. Але Джамбул у гэтым-жа вершы дае тлумачэнне таму, адкуль у яго такое шчасце, адкуль у сівога песняра з'явілася жаданне скакаць па стэпу.

Гэта ўсё дзякуючы таму спявае Джамбул, што

Над нами
Великого Сталина имя и знамя
И клич большевистской его боевой,
И слово, и воля, и гений его.

Так пачынаецца эпічнае апавяданне аб Сталіну, аб комуністычнай партыі, даўшай шчасце, аб перамогах большэвізма. У паэмах Джамбула пераважае эпічная лінія, у вершах—лірычная, але гаварыць аб двух розных лініях у паэзіі Джамбула нельга. Трэба гаварыць аб адзінай лірыка-эпічнай паэзіі Джамбула. „Калі я пеў аб народзе, я пеў і аб сабе. Калі-ж я пеў і аб сабе, я адначасова пеў аб народзе“—так тлумачыць Джамбул прыроду сваіх песень. Песні Джамбула з'яўляюцца мастацкім водгукам на ўсе падзеі жыцця ў краіне, на ўсе міжнародныя падзеі. Джамбул доўга не шукае тэмы. Тэма яго песень—жыццё. Палітычная актуальнасць, партыйнасць вершаў Джамбула, іх прастата і народнасць радніць яго з лепшым таленавітым паэтам нашай эпохі Уладзімірам Маякоўскім.

Атрымоўваючы ордэн Джамбул праспяваў:

Беру я орден и пою
И клятву верную даю—
Все песни обновленных дней
Отдать родной стране.

Гэтыя строфы сугучны словам Маякоўскага:

Я всю свою звонкую силу поэта
Тебе отдаю, атакующий класс.

Усе вершы Джамбула прасякнуты гарачай любоўю да радзімы, да партыі, да вялікага арганізатара народнага шчасця Сталіна. Савецкую радзіму Джамбул параўноўвае з квітнеючым садам. У „Песні аб Маскве“ Джамбул успамінае, як ён ехаў у Маскву на

прыём да таварыша Сталіна. Перад яго вачыма раскінуліся неабсяжныя прасторы радзімы і з сэрца паэта вырываецца песня.

Ах, как родина хороша,
Ах, как город Москва пригож.

У песнях Джамбула аб радзіме гучаць матывы дружбы народаў пролетарскага інтэрнацыяналізма. Совецкі Саюз,—піша Джамбул,—жыве як вялікі ўсенародны калгас, народы жывуць і здзіўляюць „весь мир, великий Сталин их брыгадир“. Песні Джамбула ні ў якой меры не нясуць на сабе адбітак нацыянальнай абмежаванасці. Інтарэсы ўсіх народаў аднолькава дорагі для Джамбула. У „Паэме аб дружбе народаў“ Джамбул пасылае прывітанне радзіме Сталіна Грузіі, Украіне, Совецкай Беларусі:

Привет, Белоруссия, наша краса!
Растишь ты народам хлеба и леса.
Прекрасные песни стране ты даришь
И зорко границы хранишь.

Джамбул звяртаецца да сонца і просіць яго перадаць, што душою ён у Кіргізіі, у Грузіі, у Мадрыдзе і ў Шанхаі („Песня аб Маскве“).

Масква—цэнтр свету, рускі горад, дзе Джамбул чуе гаворку на мовах усіх народаў. Джамбул гаворыць аб дружбе народаў як аб вялікай сіле. Сталін бацька народаў, іх мудры правадыр і друг.

Сталин сумел народы собрать,
Братство племен и народов сковать.
Всесильна народов великая рать,
Одна у них родина-мать“.

(„Песня о Москве“)

За гэту радзіму,—спявае Джамбул,—казахскі народ будзе з адданасцю біцца ў надыходзячых бойках.

Гордасцю за квітнеючую радзіму, за яе заводы, палі, за яе народ прасякнуты песні Джамбула.

Вершы Джамбула клічуць працоўных на новыя і новыя подвігі ў славу нашай радзімы.

Джамбул пільна сочыць за падзеямі ў Іспаніі і Кітаі. Калі радыё даносіць да яго „удушливый запах железа и крови“, ён „хмурыць суровыя бровы“.

Хотел бы и песню и сердце отдать я
За вас, боевые испанские братья.

(„Испанским братьям“)

Джамбул заклікае іспанскі народ да мужнасці ў барацьбе з ворагамі, да той мужнасці, з якою змагаўся за шчасце наш народ. Джамбул упэўнены, ён клянецца песняй, што перамога будзе за іспанскімі братамі.

Інтэрнацыяналізм, якім прасякнуты ўсе вершы Джамбула з'яўляецца характэрнай асаблівасцю нашай совецкай паэзіі. На вершах Джам-

була савецкі чытач вучыцца любіць сваю радзіму, ненавідзець яе ворагаў. Праз усе свае вершы Джамбул праносіць, высока уздымаючы, вялікі вобраз Сталіна. Сталін для Джамбула крыніца натхнення.

Я Сталина славлю
Во всех моих радостных песнях.

Аб чым бы ні пісаў Джамбул, аб перамогах калгаснага ладу, аб дзецях, аб красе стэпу—усё звязвае ён з імем Сталіна. Джамбулу і Стальскаму належаць лепшыя вершы савецкай паэзіі аб Леніну і аб Сталіну, аб правадырах народу. Лепшымі фарбамі з сваёй паэтычнай палітры малюе Джамбул вобразы Леніна і Сталіна.

Песні Джамбула ад правадырах прасякнуты цёплай лірыкай, яны напісаны ад душы. Адсюль свежасць, яркасць вобразаў, іх магутная сіла.

У вершах Джамбула аб Леніну і Сталіну не трэба шукаць бытавых дэталей, яго песні аб дарагіх правадырах вытрыманы ў плане вялікіх соцыяльных абагульненняў. Каштоўнасць песень Джамбула аб правадырах народаў у тым, што яны перадаюць вобразы Леніна і Сталіна такімі, якімі іх уяўляе народ. Цыкл вершаў аб Леніну і Сталіну, Молатаве, Варашылаве, Ежове, як і ўсе песні Джамбула, вялікай патэтычнай сілы. Гэта гарачая любоў да правадыра народаў вялікага Сталіна і да яго саратнікаў, гэта паэзія блізка і зразумела савецкаму народу.

Ленін і Сталін самыя дарагія, самыя блізкія, самыя любімыя людзі для працоўных. Джамбул у сваіх вершах і перадае любоў савецкага народу і ў прыватнасці казахскага народу да Леніна і Сталіна. Адраджэнне Казахстана, яго шчасце звязваецца песняром з імем вялікага Сталіна.

І сапраўды:

Кто были раньше казахи? Рабы!
В черной нужде мы гнули горбы!
Были жестоки, злы и грубы
Властители нашей судьбы.

(„Песня народу")

Упершыню працоўныя казахі адчулі сабе людзьмі.

И вот возрожденный родной мой народ
Великому Сталину песню поет.
Слова в ней свежи и душисты как мед
Песня от серца идет.

(„Песня народу")

Бессмяротнай памяці Уладзіміра Ільіча Леніна Джамбул прысвяціў такія песні, як „В мавзолее Ленина", „Ленин и Сталин". Гэтыя вершы па сіле, па страсці, па ідэйнасці можна толькі параўнаць з паэмай Маякоўскага „Аб Ленине". У народных песнях, казках аб Леніну, Ленін не памёр, ён жыве і як сонца саграває ўсе народы, Ленін і зараз арганізоўвае, кіруе і творыць. Гэты

народны матыў аб неўміручасці Леніна мы знаходзім і ў паэме Маякоўскага:

Ленин и сейчас живее всех живых—
Наша сила, знамя и оружие.

Такім бессмяротным, вечна жывым паўстае ва ўсю сваю веліч В. І. Ленін з вершаў Джамбула:

Пришел я к тебе из далеких степей,
Пришел к тебе в голубой мавзолей,
Бессмертный, родной, любимый.
Не умер ты! Не лежишь в гробу.
С живым с тобой говорит Джамбул
И в сердце несет твое имя.

(„В мавзолее Ленина")

Ленін вызваліў мільёны народу ад голаду і галечы, Ленін сагрэў галодных і халодных, Ленін даў шчасце народам.

Ленін аднолькава дарагі для ўсіх народаў і к маўзалею— цэнтру зямлі, сцякаюцца, як поўнаводныя рэкі, народы.

Идут и таджик, и ойрот, и казах
С любовью в сердцах и с печалью в глазах.

Ленін у Джамбула „спакойны і мудры, просты і родны".

Ленін жыве ў перамогах соцыялістычнага будаўніцтва, Ленін жыве ў рубінавых зорках Крэмля, сэрца Леніна б'ецца ў Крэмлі— там жыве яго „любімы арол" Сталін. У Сталіне „ленінскі геній гарыць". Сталін і Ленін у вершах Джамбула стаяць побач, неразрыўна. Сталін—вучань Леніна, яго саратнік, яго друг. Сталін пасля смерці Леніна стаў чалавекам, які ўвасабіў ідэю Леніна ў жыццё.

Ім—Сталіну і Леніну—найвялікшым людзям чалавецтва аддае свае лепшыя песні Джамбул. Дзецям, унукам і праўнукам усім хоча паведаць Джамбул аб іх ідэях, аб іх справах.

Казахскі народ злажыў цудоўную легенду аб шукальніку праўды Асане Кайчы. Асан Кайчы—казачны паэт стэпу. Усё сваё жыццё марыў ён аб шчасці і багатым жыцці для свайго народу. Ён гадамі хадзіў па стэпу і шукаў загубленае шчасце. Але Асан Кайчы не знайшоў гэтага шчасця і памёр замучаны баямі. У сваёй песні народ звяртаецца да Асана Кайчы:

Где ты, бедный Асан? Весна
Прибежала в наши края.

Знайшоўся той „батыр-освободитель" аб якім марыў, якога шукаў Асан Кайчы.

Он опора бедных людей.
Он собрал в себе слезы веков,
Он собрал в себе горе веков,
Он собрал в себе радость веков,
Он собрал в себе силу веков,
Он, как утро, над миром встает,
Его Сталиным мир зовет.

Такім чынам, мы бачым, што народ у сваіх песнях звязвае вобраз Сталіна з тэмай аб звернутым шчасці.

У поўнай адпаведнасці з народнай песняй, у песнях Джамбула вобраз Сталіна—гэта лірычная тэма аб звернутай маладосці

Я ходил по степям, я бродил между скал—
Загорелый, обветренный и седой—
Девяносто лет я солнце искал,
И солнце предстало пред мной.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сталин! Солнце весеннее—это ты.
Дважды юности в теле цвести не дано.
Я—старик, у меня серебро в бороде,
Но увидеть тебя я мечтал так давно,
Что, увидев, я сразу помолодел

(„Песня о Сталине")

Гэтыя матывы звернутага шчасця і маладосці ў сталінскую эпоху гучаць у вершы Джамбула „Кляча и конь". У гэтай песні Джамбул расказвае аб тым, як ён усё сваё жыццё праездзіў на клячы, у якой шэрсць паўзла, слязіліся вочы. Джамбул спяваў пра чарнавокіх кыз (дзяўчат), але тыя смяяліся над яго клячай. Ён бачыў, як байскія сыны скачуць на рэзвых скакунах. Што заставалася рабіць яму? Але вось Джамбул пачуў слова „совет". Сам Сталін адзначыў яго ўвагай і за песні яго падарыў Джамбулу каня „лучезарной мечты". Па светлай краіне з аула ў аул паехаў вясёлы, шчаслівы Джамбул.

Пою я о том, кто с кремлевских высот
Великую правду народам несет,
Кто сердцем своим обогрел и меня
Кто юность мне дал и коня.

Стары акын Джамбул гаворыць, што ў яго не хапае слоў „чтоб так прозвенеть, чтоб сталинский гений достойно воспеть".

З кім можа параўнаць Джамбул Сталіна? Дзе тое параўнанне, якое перадасць веліч і мудрасць, прастату і абаяльнасць вялікага правадыра? І Джамбул знаходзіць яго. Сталін—сонца. Яго геній такі-ж яркі як сонца, яго сэрца сонечнымі праменнямі саграване народы. Ён як сонца дае народу шчасце, жыццё. Ён як сонца неабходны народу. Сілу Сталіна Джамбул параўноўвае з магутнай сілай прыроды.

Он розумам выше Памира и звезд
И к людям внимателен, ласков и прост.

Он мощью своей превосходит Арал
И каждый бедняк в нем отца увидал.

Как солнце, он ясен, высок и могуч
И греет народы теплом его луч
Он как океан, необ'ятно велик.

(„Ленин и Сталин")

Джамбул называе сябе запявалай той песні, якую пяе аб Сталіну народ. Мы бачым, што мастацкія сродкі паказу вобраза Сталіна ўзяты Джамбулам непасрэдна з жыцця і гэтым Джамбул падкрэслівае жыццёвасць вобраза Сталіна, яго прастату і абаяльнасць.

Верш „Я слышал Сталина“ перадае той уздым, тое радаснае хваляванне, якое ахапіла ўвесь савецкі народ ў хвіліны, калі ён пачуў голас Сталіна, пачуў яго даклад аб Канстытуцыі на VIII Надзвычайным З'ездзе Советаў. Усхвалявана і з вялікай мастацкай сілай перадае Джамбул прамову Сталіна, яе прастату і сілу логікі.

В ней пламя бушует, в ней мощь налита,
В ней сила, уверенность и красота,
В ней веет отцовская теплота,
Она кристально проста.

Словы Сталіна „теплее луча, светлее зари, яснее звезды, свежее чем в августе плоды“. У гэтыя хвіліны вялікае натхненне прыйшло да Джамбула і верш свой ён канчае эмацыянальным зваротам да чытача:

Ну как мне забыть этот день в ноябре,
Ну как мне не петь, не играть на домбре
И, сердцем к отцу всех народов летя,
Не радоваться как дитя.

Ты первый из гениев всех времён—
Ты дал всем народам счастливый Закон
И я говорю тебе вместе с страной:
Спасибо, Сталин родной.

Імя Сталіна Джамбул звязвае з Канстытуцыяй чалавечага шчасця, творцам якой быў Сталін.

Сталінскай Канстытуцыі Джамбул прысвяціў цэлы рад песень („Великий Сталинский закон“, „Песня с'езду“, паэма „О дружбе народов“).

Нельга не сказаць аб той вялікай ролі, якую адыграў Джамбул у прапагандзе Канстытуцыі. Песні Джамбула былі агітатарамі прапагандыстамі. Калгаснікі Казахстана спявалі песні Джамбула аб Канстытуцыі, совецкі народ з вялікай радасцю чытаў гэтыя песні на старонках „Правды“ и „Известий“. Свой верш „Великий Сталинский закон“ Джамбул пачынае з звароту да песні:

Песня моя, ты лети по аулам,
Слушайте песни акына Джамбула!

І далей Джамбул гаворыць, што ў сваім жыцці ён ведаў шмат законаў: „Законы Аллаха, законы Аблая, законы крывавага Нікалая“.

От этих законов слезы текли,
Глубокие складки на лбу залегли,
По этим законам детей отбирали,
По этим законам людей убивали,
Девушек наших, как скот, продавали,

По этим законам аулы редели,
По этим законам баи жирели,
И крепко на шее народа сидели.
По этим законам гуляли, как смерч
Бесправие, голод и смерть.

Такімі былі дарэволюцыйныя законы і „канстытуцыі“.

Сталінская Канстытуцыя простае працівапастаўленне гэтым „крывавым законам“. Сталінская канстытуцыя—закон, які прыносіць шчасце працоўным. Сталінская Канстытуцыя

Закон, по которому радость приходит,
Закон, по которому степь плодородит,
Закон, по которому сердце поет,
Закон, по которому юность цветет,
Закон, по которому служит природа
Во славу и честь трудового народа,
Закон, по которому все мы равны
В созвездии братских республик страны.

І канчаецца гэты верш зваротам да песняроў:

Пойте, акыны, пусть песни польются!
Пойте о Сталинской Конституции.

Зноў такі, параўнанні Джамбула непасрэдныя, простыя, і высокамастацкія. Канстытуцыю ён параўноўвае з кветкамі. Не ўдаючыся ў падрабязны аналіз асаблівасцей песеннага майстэрства Джамбула (гэта тэма патрабуе асобнага даследвання) укажам на адну характэрную асаблівасць яго песень.

Асаблівасць гэта ўласціва ўсёй народнай паэзіі. Гэта імкненне да народнай пагаворкі, да афарызма, як сродка параўнання канкрэтызацыі, набліжэння тэмы. Вось яркі прыклад гэтаму.

Маленький след—дорогу рождает,
Море—из родника вырастает,
Из камня—упругая сталь выходит,
Из слова—рождается мудрость в народе.

Гэтыя афарызмы патрэбны Джамбулу для таго, каб сказаць, як „маленький след дорогу рождает“, так

От жизни счастливой рождаются дети
Самые радостные на свете,
А с ними в колхозе рождаются песни,
Всех песен красивей, всех песен чудесней.

Песнямі барацьбы са знешнімі і ўнутранымі ворагамі за шчасце радзімы і, у сувязі з гэтым, песнямі аб слаўнай Чырвонай Арміі і яе палкаводцу Варашылаве, аб гераічнай савецкай разведцы і „рыцару сталінскай крэпкай пароды“ Ежове, Джамбул распрацоўвае абаронную тэматыку.

Чырвоная Армія—пяе Джамбул—створана Леніным і Сталіным у час, калі „цьма вяла барацьбу з зарой“. Чырвоная Армія адстаяла зару, адстаяла савецкую краіну. І сёння Чырвоная Армія стаіць напагатове, як грозная зброя народу.

Как сад зацвела наша жизнь, но вокруг
Фашисты и баи сомкнули свой круг,
И ты, не слезая с горячих коней,
Внушаешь врагам испуг.
(„Обращение к Красной Армии“)

Вядомыя словы т. Сталіна аб абароне краіны Джамбул перакладае на мову паэзіі:

Кровавая проклята нами война,
Чужая земля нам совсем не нужна.
Стадами, садами, землей и водой
Богата наша страна.

(„Обращение к Красной Армии")

У вершах аб Чырвонай арміі ў яго гучаць матывы баявой гатоўнасці. Калі ўспыхне „свяшчэнная вайна", калі магутная Чырвоная Армія рынецца ў бой, Джамбул мабілізуе сябе і сваю песню

Когда ты, могучая, ринешься в бой
Я, старый Джамбул, с певуньей-домброй
Во всех наступлениях буду с тобой,
Песней звеня боевой.

(„Обращение к Красной Армии")

Джамбул пяе славу слаўнаму маршалу Чырвонай Арміі Кліму Варашылаву. Вялікая, эпічная „Паэма аб Варашылаве" дае вобраз бясстрашнага палкаводца на вялікім соцыяльным фоне класавай барацьбы. Разам з фарміраваннем партыі рос як бясстрашны рэволюцыянер Клім Варашылаў. Тут у большэвіцкім падполлі выгартаваўся будучы маршал.

Его воспитали нам Ленин и Сталин
Наркомом огня, героизма и стали.

Гэта паэма даецца ў плане перадачы біяграфіі героя. Паказваючы бядняцкую абстаноўку, у якой працякалі дзіцячыя гады К. Е. Варашылава, Джамбул падкрэслівае, што Варашылаў сын народа і гэта абумовіла тое, што ён заўсёды бясстрашна і самааддана, не шкадуючы жыцця, змагаўся з ворагамі народу.

Судьба Ворошилова—наша судьба,
Борьба Ворошилова—наша борьба.

З вялікім майстэрствам малюе Джамбул прастату, любоў т. Варашылава да народных мас.

Глаза его лили тепло как лучи,
А голос звенел, как весною ручьи.

Далей паэма перадае гістарычную канву жыцця Варашылава. Варашылаў арганізатар рабочага рэволюцыйнага руху, барацьба Варашылава ў падполлі. Кастрычніцкая рэволюцыя, грамадзянская вайна. Варашылаў на фронце. Разам з т. Сталіным Варашылаў кіруе абаронай Царыцына. Мастацкі поўнакроўным з'яўляецца малюнак першамайскага параду Чырвонай Арміі.

По площади скачет в боях закаленный
Прославленый маршал,
Нарком обороны.
Добывший свой опыт в дыму и огне.
Батыр Ворошилов на рыжем коне,
Он скачет на площади ветра смелее
Потом появляется на мавзолее,
Оттуда звучит его звонкая речь
О том, как нам Родину нужно беречь.

На подступах да сваёй вялікай эпічнай „Паэмы аб Варашылаве" Джамбул напісаў рад вершаў-эскізаў, прысвечаных т. Варашылаву. Прыёмам гістарычнай аналогіі Джамбул падкрэслівае мужнасць і гераічнасць першага маршала Совецкага Саюза тав. Варашылава. Памяць Джамбула захоўвае імёны многіх палкаводцаў. Але ні з адным з іх не можа Джамбул параўнаць Варашылава.

Не знала история старого мира
Такого, как Клим, полководца—батыра.

Трэба адзначыць выключную кампазіцыйную стройнасць паэмы і прадуманасць у асобных частках. Задача паэмы паказаць гераічны вобраз палкаводца рэволюцыі Варашылава і разам з тым падкрэсліць напружанасць міжнароднай абстаноўкі, паказаць гатоўнасць совецкага народа пад кіраўніцтвам т. Варашылава да апошняй кроплі крыві змагацца за дарагую радзіму. З гэтай задачай Джамбул па майстэрску справіўся. Кампазіцыйна ён так пабудаваў паэму, што адчуваецца нарастанне баявой трывогі. Гэтыя строфы, якія паўтараюцца ў пачатку і ў канцы паэмы, не могуць не хваляваць чытача:

Вселенная снова в крови и в пожаре,
Повеяло запахом стали и гари.
По всей Абиссинии—жалобы вдов,
В Испании льется горячая кровь,
Манчжурские сопки дымятся в боях,
Кровавые схватки в китайских краях,
И ночью дивятся в степи чабаны
Рубиновым Марсом—звездою войны.

Калі Джамбул спявае аб абароне радзімы, аб слаўнай Чырвонай Арміі, у яго голасе гучыць метал, ён знаходзіць суровыя і мужныя словы. Ненавісцю да ворагаў гарыць сэрца Джамбула — патрыёта нашай радзімы. Ён спявае „Песню гневу" пра крывавых трацкісцка-бухарынска-рыкаўскіх шпіёнаў, дыверсантаў і забойцаў. Калі Джамбул гаворыць аб іх подлай здрадзе:

Песня кипит, возмущенье струя,
Гневом наполнена песня моя.

Троцкі, Зіноўеў, Каменеў, Бухарын—крыважадныя псы, шалёныя шакалы фашызма. Яны чакаюць, покуль іх гаспадары крыкнуць „Айт", „Грызі", каб кінуцца на Совецкі Саюз, Джамбул выкрывае іх змяіны, двурушніцкі твар:

Вот они—лгут, продают, предают
Вот они—тихо на брюхе ползут,
Вот они ночью—беззвездной, сырой—
В Сталина целят...
Изменники, стой!

У дні працэса над трацкісцка-бухарынскай бандай фашысцкіх загаворшчыкаў, старэйшы сын совецкага народа Джамбул піша верш „Уничтожить!". Гэта іх, здраднікаў радзімы, фашыстаў „чешуйчато-слизких, серых змей" патрабуе знішчыць Джамбул.

Джамбул славіць совецкую разведку—НКВД і яе слаўнага

кіраўніка Нікалая Іванавіча Ежова. Ад імя ўсяго совецкага народа Джамбул клянецца ў вернасці партыі, у вернасці дарагому Сталіну. Джамбул злажыў вялікую песню, паэму „О рыцаре сталинской крепкой породы Н. И. Ежове“ („Поэма о наркоме Ежове“).

З імем т. Ежова для казахскага народа звязаны радасныя хвіліны вызвалення ад улады ханаў і баяў, бо т. Ежоў непасрэдна ўстанавіў совецкую ўладу ў Казахстане. Джамбул падбірае лепшыя словы, каб выразіць любоў казахскага народа да т. Ежова.

У Джамбула настолькі глыбокае і непасрэднае адчуванне радзімы, што для яго Совецкі Саюз—гэта жывы арганізм:

Советский Союз, где мы с вами живем,
Джамбул представляет живым существом.
В нем слышно дыханье и сердцебиенье,
Горение чувства и мысли кипенье.
В живом организме советской страны
Ежову вождем полномочья даны
Следить, чтобы сердце—всей жизни начале
Спокойно и без перебоев стучало,
Следить, чтобы кровь, согревать не устав,
По жилам текла—горяча и чиста...

(„Поэма о Ежове“)

А вораг хітры, каварны, ён паўзе, як змяя. Паўзуць бандыты „на любое злодейство готовы“, „но зорки орлиные очи Ежова“. Жадаючы падкрэсліць сталёвасць волі наркома Ежова, яго мужнасць, Джамбул падбірае адпаведныя параўнанні:

Ты—меч, обнаженный спокойно и грозно,
Огонь, опаливший змеиные гнезда,
Ты—пуля, для всех скорпионов и змей,
Ты—око страны, что алмаза ясней.

4

Калі гаварыць аб тым, што непасрэдна натхняе песню Джамбула, то перш за ўсё трэба адзначыць, што сілу сваіх песень Джамбул чэрпае з радасці жыцця калгаснага аула. Яго вуснамі гавораць тысячы калгаснікаў Казахстана. Яго мова—гэта мова калгаснага аула.

Джамбул не тольківаспеў заможнае калгаснае жыццё, ён з'яўляўся непасрэдным будаўніком калгасаў, ён першы пайшоў у калгас. У перыяд арганізацыі калгасаў яго песня агітавала, звала ў калгас. Джамбул вядомы ўсяму Совецкаму Саюзу, як выдатны песняр, але ён не менш вядомы ў Казахстане, як вопытны, паважаны жывёлавод.

Джамбул добра ведае жыццё аула. Ён помніць дарэвалюцыйны аул, „праклятую пару“, „разбойныя годы“, калі:

Душили нас беды, томили невзгоды,
Мы пили арычную желтую воду,
А бай—хмельной, золотистый кумыс.

(„Песня о кумысе“)

У тыя часы не мог радавацца, не мог смяяцца аул. І песні народныя, дарэволюцыйных часоў прасякнуты смуткам і боллю галоднага чалавека.

А зараз, калі баі апынуліся ў магіле, у „зхавоннай, напоўненай змеямі, яме“, радасна стаў спяваць казахскі народ. Гэта радасць людзей, якія могуць сказаць:

Все наше: и степи до самой границы,
И воды в арыках, и овцы, и птицы,
И рыжие, словно закат, кобылицы,
И, пахнущий солнечной степью кумыс.

(„Песня о кумысе“).

Два асноўных матыва мы знаходзім у песнях Джамбула аб калгасным жыцці. Гэта матывы—радасці вызваленай працы і заможнага калгаснага жыцця („Ала-Тау“, „Песня о зерне“, „Песня о кумысе“).

З вялікім уздымам сустрэлі калгаснікі Казахстана Сталінскі дэкрэт аб асваенні зернавой культуры ў Казахстане:

Мы землю взрыхляли, кипела в нас кровь...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Работа была весела и бурна
Земля наша стала мягка и черна.
Мы хлынули щедрым, сверкающим ливнем
Янтарного, словно литого зерна.

(„Песня о зерне“).

Багата калгасная зямля! Як сонца іскрыцца на ім залатое зерне.

Сакавітымі фламандскімі краскамі малюе Джамбул заможнасць калгасаў і калгаснікаў.

В садах под плодами ломается сук,
В них сочные яблоки, сладкий урюк.
В горах созревают пурпурные вишни.
Ковры земляники алеют вокруг.

Палатно настолькі яркае, што чытач як-бы бачыць гэтыя прыгожыя калгасныя сады, ён адчувае смак сочных яблык. Малюнак настолькі рэльефны, што хочацца ўзяць рукой „пурпурные вишни“ і „сочныя яблыкі“.

Густы, пахучы і моцны кумыс п'юць калгасныя батыры. За гэта заможнае жыццё калгасны Казахстан шле свае „дзякуй“ вялікаму Сталіну. Радаснае заможнае жыццё Савецкага Казахстана Джамбул супроцьстаўляе жыццю па той бок вяршыны Ала-таў у эмірскім Афганістане.

Где горе гуляет по глиняным фанзам
И теплою кровью дымится война.

5

Джамбул уладае цудоўным песенным дарам. Ён чутка прыслухоўваецца да жыцця сваёй любімай Радзімы. Кожная падзея знаходзіць водгук у яго маладым сэрцы, з вуснаў яго вылятае поўная сілы і страсці песня. Ён валодае вялікім прыродным талентам,

які дае яму магчымасць з вялікай хуткасцю адгукацца на жыццё нашай савецкай краіны.

Ён прывык гаварыць мовай песні, за 75 год ён так зжыўся з ёю, што мысліць песняю. Перакладчык вершаў Джамбула на рускую мову К. Алтайскі расказвае, як стварыў Джамбул сваю песню аб Н. І. Ежове.

„На травах—раса, дзесьці бармоча горная рэчка, у бяскрайнім небе парыць арол. Мільгаціць жэмчугам снег вяршын. Мы пераказваем Джамбулу газетную інфармацыю. Джамбул слухае і пакачвае ў такт галавою. Ён падобны на старога, сутулага беркута. Яго жоўта-карыя вочы то закрываюцца, то ўспыхваюць увагай. Мы гаворым аб Нікалае Іванавічу Ежове, аб узнагародзе яго ордэнам Леніна. Джамбул ківае галавою, усміхаецца. Потым ідуць другія навіны, многа навін. Але Джамбул некалькі разоў звяртаецца да Ежова. Ён просіць расказаць яму аб першым чэкісце і адданым другу Сталіна. Яму расказваюць. Праз гадзіну Джамбул цягнецца да домбры. Старыя рукі перабіраюць струны. Струны звіняць, пяюць. Джамбул раскачваецца ў такт музыкі, паўтарае губамі мелодыю, імігірує домбру. Потым запявае: строфы льюцца гатовымі, адшліфованымі.“

Так лёгка і свабодна пяе Джамбул. Джамбул песняр-інтэрнацыяналіст, актыўны змагар за вялікую савецкую літаратуру. Удзельнікі руставелеўскага пленума ССП СССР былі вельмі здзіўлены і абрадаваны, калі ўбачылі на пленуме сівога акына. Ён пакрыў тысячы кілометраў і прыехаў у Тбілісі, у квітнеючую Грузію—радзіму Сталіна. Джамбул пабываў на радзіме Сталіна ў Горы і склаў цудоўную песню „На радзіме Сталіна“.

Свежасць і своеасаблівасць думак, вобразаў, красак у песнях Джамбула робіць іх любімымі песнямі народаў СССР. Паэзія Джамбула, напоеная сокамі народнай творчасці, не ведае нацыянальнай абмежаванасці, яна па сваёй прыродзе інтэрнацыянальна. Наколькі савецкаму народу неабходны песні Джамбула, наколькі ён іх любіць і цэніць, сведчыць ліст курсанта артылерыйскай школы г. Томска В. А. Дземідава да Джамбула.

„Не магу не выразіць, бацька Джамбул, незвычайнай радасці, якою перапаўняецца маё сэрца пасля кожнага з'яўлення вашага верша ў „Правде“ і „Известиях“. Ніхто так прыгожа, ніхто так праўдзіва не выражаў думкі, песні радасці аб вялікім батыры настаўніку і правадыру тав. Сталіну, як вы, дарагі Джамбул, акын казахскі.

Верце, дарагі папаша Джамбул, песні вашы празвіняць у вяках, на ўсіх чалавечых мовах. Ні на хвіліну не кладзеце домбры, любімы акын! Біце званчэй па струнах! Песня ваша грэе ў марозную ноч, песня і да бою прымушае лепш рыхтавацца.“

Якім шчаслівым павінен адчуваць сябе песняр, атрымоўваючы такія гарачыя пісьмы, поўныя любві і падзякі! А гэта не адзінае пісьмо. Шмат пісем атрымлівае з розных канцоў рэспублікі Джамбул—старэйшы песняр Савецкага Саюза.

6

Не паспелі гераічныя папанінцы ступіць на зямлю савецкай радзімы, як Джамбул прыслаў ім сваю песню-прывітанне. „Батырам полюса"—так назваў ён сваю песню. У гэтай песні Джамбул, між іншым, гаворыць аб тэматыцы сваіх вершаў, аб крыніцы іх натхнення:

Любимому Сталину песню пою,
Героям—папанинцам песню пою.
Источнику подвигов и вдохновенья—
Народу бессмертному песню пою.

Папанинцы с нами! С лазурных высот
Приветствует солнце их славный поход.
Родная отчизна цветы им несет,
На всех языках и наречьях поет:

— Живи, вдохновитель всех подвигов, Сталин,
Вперед, к коммунизму, ведущий народ!

## БІБЛІЯГРАФІЯ

**„Чырвоная Армія і абарона радзімы ў беларускай народнай творчасці“**
(Выдавецтва Акадэміі навук 1938 г., ст. 94. 2 р. 75 к.)

Пад паняццем „народная творчасць“ звычайна прынята разумець выключна мастацкую творчасць народа. Іншага значэння гэтаму паняццю мы не надаем. Між тым у Леніна, у цэлым радзе твораў паняцце „народная творчасць“ прыводзіцца ў сэнсе абазначэння ўсёй актыўнай грамадскай практыкі народных мас. У адным месцы Ленін піша: „... Калі-б народная творчасць рэволюцыйных класаў не стварыла Советаў, то пролетарская рэволюцыя была-б у Расіі справай безнадзейнай“ (зб. тв. т. XXI, стар. 258—259).

Невычарпальная рэволюцыйная творчасць народа, якая вызвалілася ад бесчалавечай эксплаатацыі і прыгнёту, стварыла шчаслівае соцыялістычнае жыццё. Зразумела, што ў бясконцай колькасці створаных ім песень, казак і легенд, народ выражае сваё глыбокае захапленне ўсім тым, чаго ён дасягнуў у сваёй барацьбе за чалавечае жыццё. За 20 год пролетарскай рэволюцыі наш народ устанавіў соцыялістычны лад, у якім ён набыў задавальчэнне ўсіх сваіх матэрыяльных патрэб і канчатковае духоўнае сваё разняволенне. Не дзіўна, што за гэтыя 20 год асабліва расквітнела мастацкая творчасць народаў, у якой знайшлі сваё самабытнае выражэнне дасягненні народа, яго гатоўнасць любой цаной адстойваць маладую совецкую зямлю, яго гарачую ўдзячнасць і любоў да вялікіх правадыроў Леніна і Сталіна. Народ стварыў Советы, як дзяржаўную форму дыктатуры пролетарыята, народ уславіў у песнях советы, як адзіна справядлівую, адзіна чалавечую ўладу—і ў адным і ў другім выпадку мы маем два розных праяўленні адной і той-жа народнай творчасці.

Мастацкая творчасць народа (у тым ліку і літаратурная творчасць) з'яўляецца верным злепкам усёй яго грамадскай штодзённай практыкі. „Народная песня—твор масы—узнікае з самага быту народных мас“ (Мерынг).

Актыўная соцыялістычная дзейнасць народа атрымала адно з сваіх найбольш яркіх выразаў у стварэнні нашай непераможнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Створаная рукамі Леніна і Сталіна наша Чырвоная Армія расла і мацнела ў бясконцых схватках з ворагамі ўсіх колераў. Чырвоная Армія забяспечыла народу мірную соцыялістычную працу, таму любіць яе наш народ, які ў сваёй вуснай мастацкай творчасці аддае выключную ўвагу „Чырнай Арміі і тэме абароны радзімы.

Выдадзены фальклорнай секцыяй Акадэміі Навук зборнік „Чырвоная Армія і абарона радзімы ў беларускай народнай творчасці“ (пад рэдакцыяй Якуба Коласа) можа паслужыць у гэтым сэнсе лепшым доказам. Сабраныя ў кнізе песні, частушкі, сказы, пагаворкі і загадкі, прысвечаныя Чырвонай Арміі, з усёй поўнасцю выражаюць любоў соцыялістычнага народа да сваёй арміі.

Можна паставіць у дакор складальнікам зборніка (тав. Грынблату), тое, што кіруючыся тэматычным прынцыпам пры падборы фальклорных матэрыялаў кнігі, яны незаўсёды ўдала здолелі сумясціць патрабаванні ідэйнага і тэматычнага парадку з пытаннем аб мастацкай вартасці змешчаных твораў.

Усемагчымымі метадамі мастацка-літаратурнай творчасці выказвае наш народ сваё пачуццё непарыўнай сувязі з Чырвонай Арміяй, сваю любоў да яе і сваю адданасць тым, хто яе гадаваў і ўмацоўваў—геніяльным правадырам Леніну і Сталіну. Нездарма такое вялікае месца ў песнях і вершах аб Чырвонай Арміі займаюць Ленін і Сталін. Зборнік пачынаецца выключна выразным вершам „У Маскве, у ноч гэту, Ленін будзе“, у якім паказваецца прыбыццё Леніна ў Маскву.

У Маскве на вуліцах
Кроў ліецца,
У маладога конніка
Сэрца б'ецца.
Ён вязе вялікія
Весці людзям,
Што ў Маскве ў ноч гэту
Ленін будзе.

Гэты верш не мае непасрэднага дачынення да тэмы Чырвонай Арміі, але ён зусім дарэчы ў зборніку, прысвечаным Чырвонай Арміі, паколькі паказаныя ў ім падзеі і вобраз Леніна тэматычна прымыкаюць да ўсяго зборніка. У гэтым вершы асабліва ярка выступае неаддзялімая рыса фальклора—семантычная двухпланавасць слова, сімволіка, якая не губляе сваёй адчувальнай сувязі з канкрэтнай жывой рэчаіснасцю.

У зборніку змешчаны вершы і песні, прысвечаныя таварышу Сталіну, у якіх вобраз вялікага правадыра народа паказан вельмі цёпла і чалавечна:

За жыццё, жыццё краіны
Сталін усміхаецца.

Ва ўсіх песнях, прысвечаных правадырам і кіраўнікам Чырвонай Арміі, яе герaічным палкаводцам, атрымала сваё канкрэтна творчае ўвасабленне цяга народа да геpaічнага, да апявання моцнай чалавечай асобы. Фігуры Леніна і Сталіна, як і фігуры чырвоных палкаводцаў Варашылава, Будзённага, Чапаева, як нельга лепш адказваюць гэтаму рамантычнаму заданню. Да прыкладу можна прывесці змешчаную ў кнізе „Быліну аб мудрым воіне Кліме і яго таварышах“. У гэтай быліне асабліва наглядна выступае сувязь народнай вуснай творчасці з рамантыкай рускіх былін, у якіх найбольш поўна выражана геpaічнае мінулае нашага народа.

Выключна цікавымі з'яўляюцца тыя песні, у якіх гераічная тэма абароны радзімы выражана цэлым шэрагам бытавых паэтычных дэталяў.

Як у кузні, у калгаснай
Ды каваль працуе
І з найлепшай сталі штых
Ён сабе гартуе.

Альбо вось „Падарунак Варашылаву":

Ты жарэбчык наш вараны,
Ты красавец наш малады,
Ты не бі нашых новенькіх карыт,
Пашкадуй сваіх беленькіх капыт.

Верш гэты па-сапраўднаму паэтычны, у сэнсе сваёй унутранай свабоды, і як не дзіўна, больш далёкі ад „традыцыйнага" ўяўлення аб фальклоры, чым вершы і песні многіх нашых паэтаў, якія займаюцца бясплодным капіраваннем вонкавых вершавых форм фальклора.

Трэба адзначыць і ўплыў лепшых твораў совецкай паэзіі на вусную народную творчасць. У прыватнасці такія радкі

Выхадзіла моладасць
У шабельны паход,—
На палі Украіны,
На кранштацкі лёд.

напісаны пад яўным уплывам рамантычна-пафасных радкоў Багрыцкага аб гераічнай маладосці: „Нас водила молодость в сабельный поход..."

Значнае месца ў зборніку займаюць вершы, прысвечаныя матыву супроцьстаўлення нашай Чырвонай Арміі старой „царскай службе". У супроцьвагу старым рэкруцкім салдацкім песням, якія аплаквалі навабранцаў, у вершах, прысвечаных Чырвонай Арміі, пераважае радаснае, светлае, аптымістычнае ўспрыйманне рэчаіснасці.

Ідуць з радасцю рэбяты
У Чырвоную Армію служыць.

Па ўсіх вершах, песнях і частушках, прысвечаных гераічным будням нашай Чырвонай Арміі, можна ўстанавіць агульны малюнак жыцця ў нашай арміі з той-жа дакладнасцю, як Ленін устанаўліваў малюнак царскай арміі па „заваенным плачам", сабраным у 50-х гадах XIX стагоддзя.

Чырвоная Армія з'ўляецца непарыўнай часткай усяго совецкага народа. Беларускі народ апявае ў сваіх песнях доблесць і гераізм нашай арміі, якая вызваліла совецкую радзіму ад інтэрвенцкіх полчышч:

Як паны да нас ішлі
З песнямі вясёлымі,
Мы сустрэлі іх з „пашанай"—
Кулямі свінцовымі.

Шмат песень зборніка прысвечаны тэме абароны радзімы. Ствараючы свае песні, народ знаходзіць вялікую колькасць востра сатырычных слоў, якія ганьбяць здраднікаў-трацкістаў.

Хай паткне свіное рыла
Хто ў савецкі агарод—
Пушка стукне лепш, чым біла
У семнаццаты той год.

Гэтым-жа зместам прасякнуты амаль усе сабраныя ў кнізе прыказкі, пагаворкі і загадкі.

**Г. Б.**

# ХРОНІКА

## ПАМЯЦІ В. В. МАЯКОЎСКАГА

■ Бібліятэкі, школы і іншыя культурныя ўстановы, фабрыкі і заводы, воінскія часці сталіцы Беларусі адзначылі восьмую гадавіну з дня смерці вялікага паэта Уладзіміра Уладзіміравіча Маякоўскага масавымі сходамі, гутаркамі і літаратурнымі вечарамі.

Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна наладзіла выстаўку, на якой паказаны творы Маякоўскага, выданыя ў многатысячных тыражах і якія надзвычай папулярныя ў масах, артыкулы аб яго творчасці і іншыя матэрыялы, якія малююць воблік паэта-трыбуна.

Творы Маякоўскага перакладаюцца на беларускую мову. П. Броўка пераклаў паэму „Уладзімір Ільіч Ленін". Шэраг іншых яго твораў пераклалі паэты К. Крапіва, М. Хведаровіч, П. Глебка, А. Куляшоў і інш. Паасобныя зборнікі выдаюцца на беларускай і яўрэйскай мовах.

■ **15 красавіка ва ўсіх цэхах завода Варашылава былі праведзены мітынгі і гутаркі,** у якіх беларускія пісьменнікі тт. Хведаровіч, Агняцвет расказалі рабочым аб жыцці і творчасці Уладзіміра Уладзіміравіча Маякоўскага, а таксама прачыталі яго творы, перакладзеныя на беларускую мову.

Такія-ж мітынгі былі праведзены па ўсіх цэхах завода імя Кірава 16 красавіка групай пісьменнікаў тт. Хведаровічам, Шарапавым, Грубіянам. Рабочыя заводаў імя Варашылава і імя Кірава надзвычай цікавіліся творчасцю Маякоўскага і задавалі самыя рознастайныя пытанні.

Рабочыя абавязаліся прачытаць у бліжэйшы час лепшыя творы Уладзіміра Уладзіміравіча Маякоўскага.

■ **Саюз Савецкіх Пісьменнікаў БССР 14 красавіка наладзіў вечар,** прысвечаны памяці Уладзіміра Уладзіміравіча Маякоўскага.

З чыткай перакладаў твораў В. В. Маякоўскага на беларускую мову выступілі тт. Крапіва, Куляшоў, Хведаровіч, Глебка, Мальцінскі, Якімовіч, Р. Лынькоў. З чыткай твораў Маякоўскага выступілі тт. Шапавалаў і Шварц.

■ **У адзнаку восьмай гадавіны з дня смерці таленавітага паэта нашай эпохі В. В. Маякоўскага,** менскі педагагічны інстытут імя Горкага правёў вялікі вечар. Пасля даклада аб жыцці і творчасці Маякоўскага выступілі студэнты з чыткай твораў Маякоўскага.

## БІБЛІЯТЭКА-МУЗЕЙ В. В. МАЯКОЎСКАГА

У невялічкім двухпавярховым доміку ў Маскве, дзе жыў Маякоўскі з 1926 па 1930 г. створана бібліятэка-музей. Зараз завулак названы імем паэта. Кватэра Маякоўскага захавана ў такім выглядзе, у якім была пры жыцці паэта.

У бібліятэцы - музеі сабраны ўсе выданні твораў паэта, пачынаючы ад літаграфіраванага зборніка вершаў, выдадзенага ў 1913 г. пад назвай „Я" і канчаючы самым апошнім выданнем 1938 года.

Тут збіраецца таксама ўся крытычная літаратура аб Маякоўскім, якая выходзіць у нашай краіне і загранінай, а таксама ўспаміны пра паэта.

У спецыяльныя альбомы падбіраюцца ўсе першадрукаваныя тэксты яго твораў, сярод іх ёсць такія, якія не ўвайшлі ў поўны збор твораў. Як вядома, Маякоўскі прымаў удзел як паэт не толькі ў цэнтральнай прэсе, але ў перыферыйнай.

У музеі захоўваюцца карэспандэнцкія білеты Маякоўскага, якія выдадзены рознымі рэдакцыямі газет СССР. Акрамя таго тут сабрана багатая калекцыя фотакопій рукапісаў і яго фатаграфій.

У домік Маякоўскага штодзень прыходзіць вялікая колькасць тых, хто вывучае творчасць паэта. Пры бібліятэцы-музеі працуе даведачна-кансультацыйны габінет, які дае кансультацыі па пытанням жыцця і творчасці Маякоўскага.

## „СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЕ" НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Народны паэт Янка Купала пераклаў на беларускую мову выдатны твор старажытнай рускай літаратуры „Слова аб палку Ігараве". Дзяржаўнае выдавецтва

БССР выпусціць да 1 мая кнігу, якая ўключае дрэўна-рускі тэкст „Слова", паэтычны і празаічны пераклады яго на беларускую мову. „Слова аб палку Ігараве" ў перакладзе Янкі Купалы таксама друкуецца ў нумары 5 часопіса „Полымя Рэвалюцыі".

## НОВЫЯ П'ЕСЫ УКРАІНСКІХ ДРАМАТУРГАЎ

Да новага тэатральнага сезона драматургі Украіны напісалі 15 новых п'ес, якія паказваюць гераічную барацьбу украінскага народа з ворагамі, квітнеючае калгаснае жыццё, нараджэнне і фармаванне новага чалавека сталінскай эпохі. Драматург І. Качарга закончыў п'есы „Імя", „Чорны вальс", камедыю „Сусана", падрыхтаваў лібрэта оперы „Шчорс"; В. Сухадольскі закончыў п'есу „Юнацтва Тараса" і працуе над п'есай пра сына украінскага народа Арцёма; С. Левіціна напісала п'есу „Любоў" пра пагранічнікаў і канчае другую п'есу „Дачка народа" пра жанчын савецкай краіны. Пісьменнік Е. Кротэвіч закончыў лібрэта оперы „Жакерыя", якое прынята да пастаноўкі ў шэрагу тэатраў, закончыў музкамедыю „Сполах" і працуе над п'есаю „Маці"; малады драматург Несцяроўскі працуе над пе'саю „Трыполле"; І. Хелемскі закончыў п'есу пра сына украінскага народа Александра Горвіца, які гераічна загінуў у 1918 годзе, Ю. Мокрэеў напісаў п'есу „Жыты цвітуць", П. Нечай— п'есу „Залаты скарб".

## У САЮЗЕ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ УКРАІНЫ

У верасні 1939 г. спаўняецца 125 год з дня нараджэння вялікага паэта дэмакрата Т. Г. Шэўчэнка. Дзяржлітвыдат СССР выпускае да юбілея аднатомнік выбраных твораў паэта на рускай мове. Па просьбе „дзяржлітвыдата" прэзідыум схода савецкіх пісьменнікаў Украіны вылучыў групу паэтаў — Рыльскага М., Л. Первамайскага і М. Ушакова, якія прымуць удзел у складанні і рэдагаванні гэтага зборніка.

■ **Пры Саюзе Савецкіх Пісьменнікаў Украіны створана юбілейная камісія** па падрыхтоўцы да 125-годдзя з дня нараджэння класіка армянскай літаратуры Ованеса Туманяна. Камісія ў складзе тт. Бажана, Д. Гофштэйна, А. Галоўка і П. Усенка, на чале з акадэмікам паэтам Паўло Тычынай, намячае выдаць да юбілея кнігу выбраных твораў Туманяна на украінскай мове.

■ **Марыя Міранець**—аўтар кнігі „Цвіце жынка як каліна", працуе цяпер у будынку творчасці савецкіх пісьменнікаў Украіны над новаю кнігаю паэзіі.

## ДА 25-ГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ М. М. КАЦЮБІНСКАГА

Саюз савецкіх пісьменнікаў і Акадэмія навук УССР арганізаваў 25 красавіка вечар, прысвечаны класіку украінскай літаратуры М. М. Kацюбінскаму. Даклад пра жыццё і творчасць пісьменніка зрабіў навуковы супрацоўнік інстытута Літаратуры Акадэміі навук І. Стэбун. З успамінамі пра сустрэчы з М. М. Кацюбінскім выступіў акадэмік П. Г. Тычына. На вечар запрошаны сучаснік пісьменніка—калгаснік А. Дуляк з вёскі Лапаціцы, Вінніцкай вобласці і інш.

Юбілейная камісія пры Саюзе савецкіх пісьменнікаў Украіны атрымала шэраг лістоў ад дзяржаўных выдавецтваў братніх рэспублік Грузіі, Арменіі, Беларусі, Крымскай АССР і іншых пра тое, што ў іх разгарнулася падрыхтоўка да 25-годдзя з дня смерці М. М. Кацюбінскага. Акрамя гэтага выдавецтва Крымскай АССР выпускае з друку „Фата Маргана" ў перакладзе на татарскую мову.

■ Да 25-годдзя з дня смерці М. Кацюбінскага ў Дзяржлітвыдавецтве выходзіць з друку чацверты том збору твораў пісьменніка. Выходзіць з друку таксама зборнік неапублікаваных лістоў Кацюбінскага да свайго блізкага друга—Аплаксінай.

## ПЕРАД ЮБІЛЕЕМ ДЖАМБУЛА

20 мая спаўняецца 75-годдзе творчай дзейнасці народнага песняра Казахстана, 92-гадовага акына Джамбула. У гэты дзень у сталіцы Казахстана Алма-Аце адчыняецца пленум Праўлення Саюза Савецкіх пісьменнікаў Казахстана, на які з'едуцца дэлегацыі пісьменнікаў саюзных рэспублік.

ЦК кампартыі Казахстана і ўрад Казахскай ССР прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да юбілея Джамбула. У дні пленума адбудзецца алімпіяда народных песняроў Казахстана, у якой прымуць удзел усе выдатныя акыны Казахстана— вучні і наследвальнікі Джамбула.

Намечана вялікая праграма святкавання юбілея Джамбула. Будуць запісаны на грамафоннай пласцінцы песні і дэкла-

мацыі Джамбула. „Саюзкінохроніка“ выпусціць спецыяльны кіножурнал, прысвечаны Джамбулу. Саюз пісьменнікаў звярнуўся да саюза кампазітараў з заклікам напісаць музыку на тэксты песень Джамбула. Ізогіз‘ам выпускаюцца партрэты Джамбула.

Шырока намечана выданне твораў Джамбула. Творы Джамбула выпускаюцца да юбілея выдавецтвамі „Савецкі пісьменнік“, „Аганёк“, Профвыдатам і інш.

Акрамя таго на мовах братніх народаў СССР выйдуць зборнікі твораў Джамбула.

## ДОМ ДЛЯ ДЖАМБУЛА

Прэзідыум Алма-Ацінскага абласнога выканаўчага камітэта адпусціў 20 тысяч рублёў на пераабсталяванне дома народнага акына Казахстана Джамбула.

Да 75-годдзя творчай дзейнасці песняра райвыканком і райком КП(б)К рыхтуюць яму падарунак—вялікую юрту.

## ПІСЬМЕННІКІ ВІТАЮЦЬ ДЖАМБУЛА

Кожны дзень Саюз Савецкіх Пісьменнікаў Казахстана і рэдакцыя журнала „Литературный Казахстан“ атрымліваюць дзесяткі тэлеграм і пісем, якія адрасаваны на імя народнага песняра Казахстана ордэнаносца Джамбула. Пісьменнікі, чырвонаармейцы, паэты, геолагі і інш. вітаюць старэйшага акына з набліжэннем 75-годдзя яго літаратурнай дзейнасці.

Джамбулам атрыманы прывітанні ад пісьменнікаў БССР, ад доктара філалагічных навук праф. Ю. Сакалава, паэтаў А. Суркова, М. Сідарэнка, Лахуці, М. Галоднага, В. Інбер, А. Безыменскага, Л. Пенькоўскага, П. Паўленка і інш.

## НЕАПУБЛІКАВАНЫЯ ТВОРЫ Г. ДОДОХЯНА

На працягу доўгіх гадоў імя армянскага паэта Г. Додохяна (1830—1908 гг.) было вядома толькі па яго вершу „Ласточка“.

Малады навуковы супрацоўнік дзяржаўнага універсітэта Грузіі І. І. Бегларан, займаючыся даследваннем творчасці Г. Додохяна знайшоў каля двухсот яго неапублікованых вершаў, паэм, апавяданняў і нерakладаў.

У гэтых творах Г. Додохян, які знаходзіўся пад уплывам рэволюцыйных ідэй Н. Г. Чэрнышэўскага, рэзка высмейвае парадкі буржуазнага грамадства. Дзяржаўны Універсітэт Грузіі падрыхтаваў да друку матэрыялы, складзеныя І. І. Бегларанам. Яны будуць выданы ў двух тамах.

У першым томе, які выпускаецца на грузінскай і армянскай мовах будуць змешчаны матэрыялы, якія адносяцца да жыцця і дзейнасці аўтара „Ластачкі“. У другім—неапублікаваныя рукапісы, паэмы, апавяданні, пераклады Байрана, Гетэ, Гейне, Беранжэ і Крылова, заўвагі, факсіміле, слоўнік і крытычныя артыкулы аб творчасці Г. Додохяна.

## ШЭКСПІР НА ГРУЗІНСКАЙ МОВЕ

Выдавецтва „Сахелгамі“ у бліжэйшы час выпускае двухтомнік трагедый Шэкспіра ў перакладзе І. Мачабелі.

Першы том выходзіць у першых лічбах красавіка. Ён змяшчае трагеды „Отэло“, „Антоній і Клеапатра“, „Рычард III“ і „Юлій Цэзар“.

## АНТАЛОГІЯ АЗЕРБАЙДЖАНСКАЙ ПАЭЗІІ

Друкуецца анталогія азербайджанскай паэзіі на рускай мове. Кніга перакладзена паэтамі В. Лугаўскім, П. Антакольскім і іншымі.

Да анталогіі дададзены гістарычны агляд развіцця паэзіі Азербайджана.

У кнізе змешчаны творы класікаў азербайджанскай літаратуры Нізамі, Хагані, Насімі, Фізулі, Вагіфа, Закіра, Сабіра, Мірза Шафі, М. Ф. Ахундава і іншых.

Далей ідуць паэмы і вершы Джафара Джабарлы, Самеда Вургуна, Сулеймана Рустама, Мамеда Рагіма і іншых сучасных аўтароў.

Народны азербайджанскі эпас прадстаўлены ў анталогіі такімі багатымі мастацкімі творамі, як „Кер-Оглы“, „Ашуг Гарыб“, „Аслі і Керэм“ і іншыя.

Вялікае месца ў кнізе займуць лепшыя узоры творчасці выдатных азербайджанскіх ашугаў.

Да кнігі прыкладзены каментарыі і слоўнік азербайджанскіх слоў. Анталогія мастацкі ілюструецца армянскімі арнаментамі.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 22-792.**

# ЗМЕСТ

